АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ПЕСНІ САВЕЦКАГА ЧАСУ



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1970

П 28
Бел Ф



Складальнік **Г. А. Барташэвіч**
Складальнік музычнай часткі **В. І. Ялатаў**

Рэдактар тома
**К. П. Кабашнікаў**

**П 28** Песні савецкага часу. Рэд. К. П. Кабашнікаў. Мн., «Навука і тэхніка», 1970.

576 с. з іл. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларуская народная творчасць). 1300 экз. 2 р. 02 к. У перапл.

Гэта кніга—адзін з тамоў шматтомнага зводу беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці. У выданні будуць прадстаўлены лепшыя ўзоры ўсіх жанраў беларускага фальклору—песні, казкі, частушкі, легенды і паданні, народная драма, прыказкі, прымаўкі і інш. У даным томе сабраны лепшыя ўзоры савецкай песеннай творчасці беларускага народа. Усяго змяшчаецца 274 тэксты песень, 136 песень даецца з нотамі. Том забяспечан навуковым каментарыем і алфавітным даведнікам.

**7-4-3**
**36-70**

**Бел Ф**

# АД СКЛАДАЛЬНІКАЎ

Беларускай савецкай народнай песні — пяцьдзесят год. У маштабах усёй гісторыі музычна-паэтычнай творчасці беларусаў гэта невялікі тэрмін. Але ён уключае такія падзеі, роўных якім па грандыёзнасці і велічы не было ні ў адзін перыяд у мінулым. Карэнная ломка сацыяльнай структуры грамадства, стварэнне новых эканамічных асноў, нарэшце, перабудова бытавога ўкладу — усё гэта ў той ці іншай ступені знайшло адлюстраванне ў народным мастацтве і ў першую чаргу ў песеннай творчасці. Верная спадарожніца беларускага народа, савецкая песня стала яго актыўнай памочніцай, прайшла разам з ім праз усе нягоды і перамогі, адлюстравала яго цяжкі, але пачэсны шлях да новага жыцця.

Народжаная ў першыя гады Савецкай улады, песня адразу загучала ва унісон з набатнымі радкамі «Інтэрнацыянала»:

Паўстань, праклятцем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!

Умацаванне сувязей народнай песні з рэвалюцыйнымі падзеямі таго часу аказала моцны ўплыў на фарміраванне яе ідэйна-грамадскага зместу, падкрэслівала яе агітацыйна-мабілізуючую ролю. Франтавая і паходная, сурова-паўсядзённая і рамантычна-ўзнёслая, праімчалася яна разам з байцамі Чырвонай Арміі па палях грамадзянскай вайны, заклікаючы да абароны сацыялістычнай радзімы:

Гэй, байцы, вайна настала,
Сабірайцеся ў паход.

Тысячы і тысячы вядомых і невядомых герояў прапелі ў гэтай песні сваю любоў да роднай зямлі і народа.

У наступны, мірны перыяд песня стала ў адзін шэраг з героямі першых пяцігодак. Яе задорны камсамольскі голас загучаў і на ўдарных будоўлях маладой савецкай індустрыі, і на прасторах палёў, дзе разгортвалася вялікае калгаснае будаўніцтва.

Шырокай паводкай у тыя часы разліваецца творчая ініцыятыва мас. Пафас эканамічных і палітычных пераўтварэнняў ахоплівае і духоўную сферу жыцця народа, перад якім раскрываецца невядомы дагэтуль шлях у вялікую

культуру. Самадзейнасць, прынцыпова новая сфера мастацтва народа, народжаная сацыялістычнай рэчаіснасцю, выводзіць песню на арэну масавых маніфестацый і святкаванняў, на клубную і прафесіянальную сцэну, дэманструе яе ўзмацнелы грамадзянскі голас і ўзрошчыя тэхнічныя магчымасці.

У песнях гэтага перыяду яскрава адлюстраваліся поспехі беларускага народа — будаўніка сацыялізма. Вядучай зрабілася тэматыка свабоднай, радаснай працы. Асабліва распаўсюджаным становіцца ў песнях прыём кантрасту — супрацьпастаўленне таго, што было раней і ёсць зараз. Песня тых год паступова вызваляецца ад суровасці і некаторай аскетычнасці, выклікаcных падзеямі ваеннага часу. У яе ўсё больш пранікаюць лірычнасць і сардэчнасць. Яна становіцца ў поўным сэнсе «общительной». Па ўсяму Савецкаму Саюзу як тост у гонар яго шматнацыянальнай і дружнай сям'і народаў гучыць папулярнейшая беларуская песня тых год:

Бывайце здаровы,
Жывіце багата.

Грозны 1941 год, год пачатку суровых выпрабаванняў для беларускага, як і для ўсяго савецкага, народа, паставіў сур'ёзныя задачы і перад яго вернай спадарожніцай — песняй. Яна зноў апранаецца ў паходны шынель і, як у часы грамадзянскай вайны, становіцца песняй-барацьбітом. Ляснымі сцяжынкамі, балотнымі багнамі праз варожыя кардоны, бясстрашная і няўлоўная, прабіраецца яна да народных мсціўцаў, гучыць заклікам да барацьбы з лютым ворагам:

Уставайце, братцы,
Уставайце, людзі,
Няма літасці паганцу,
Люты бой тут будзе!..

У партызанскай зямлянцы і каля паходнага кастра яна выкажа сум аб родных і блізкіх, успомніць «любую і прыгожую», а то разыйдзецца вясёлым і трапным народным словам.

Эпохі вялікіх падзей у народным жыцці заўсёды багаты фактамі чалавечай велічы. Беларуская народная песня перыяду Вялікай Айчыннай вайны — адна з яркіх сведак гэтай велічы. І калі не ўсё ў той перыяд паспела выкрышталізавацца ў выразныя мастацкія формы, то сам эмацыянальны напал гэтай творчасці, яе гуманістычныя ідэі аказалі велізарны ўплыў на ўсё беларускае мастацтва пазнейшага часу.

Сучасны перыяд развіцця песнятворчасці беларусаў разгарнуўся новай маляўнічай старонкай у народным мастацтве. Увабраўшы ўсе лепшыя дасягненні мінулага, сучасная песня расквітнела па-новаму. Уступіўшы ў свой сталы ўзрост, яна па-ранейшаму застаецца маладой, чулай і аб'ектыўнай;

удасканальваючыся і адкідваючы ўсё выпадковае, знаходзячыся ў пастаянных пошуках, яна верна служыць свайму часу.

Беларуская савецкая народная песня не была ізаляванай ад песнятворчасці іншых народаў Савецкай краіны і ў першую чаргу рускай і ўкраінскай песні. Адзіныя ідэйныя імкненні, аднолькавыя працэсы ў культурным жыцці, нарэшце, агульныя хваляванні шмат у чым зблізілі і тэматыку, і вобразныя сродкі выразнасці іх музычнай і паэтычнай творчасці. Але пры ўсім тым беларуская песня заўсёды заставалася кроўным дзецішчам свайго народа, адлюстроўваючы яго духоўнае аблічча і багацце яго нацыянальных традыцый.

*

У гэтым томе публікуецца толькі частка вядомых у цяперашні час узораў сучаснай песеннай творчасці беларусаў. Са шматлікіх запісаў у першую чаргу адбіралася найбольш характэрнае, тое, што выяўляе нацыянальны стыль песнятворчасці ва ўсіх яе тэматычных і вобразных праяўленнях. Пры кампаноўцы кнігі складальнікі ўлічвалі таксама больш шырокі ў сучаснай фалькларыстыцы сэнс паняцця «народная творчасць» як катэгорыі не толькі агульнаэстэтычнай, але і стылістычнай. Таму ў том не былі ўключаны некаторыя песні самадзейных кампазітараў, напісаныя ў стылі прафесіянальнага мастацтва. У той жа час тут змешчаны некаторыя творы прафесіянальных аўтараў, песні, якія наследуюць народныя традыцыі і, што найбольш важна, атрымалі шырокае распаўсюджанне ў масах як фалькларызаваныя ўзоры.

Магчыма, не ўсё, адабранае ў кнігу, цалкам адпавядае тым мастацкім крытэрыям, што прад'яўляюцца зараз да народнага мастацтва. Але прытрымліваючыся гістарычнай справядлівасці, трэба мець на ўвазе той факт, што песні гэтыя каштоўныя як сведкі падзей пэўнай эпохі, у якой яны адыгралі вялікую прапагандысцкую ролю.

Наяўнасць у зборніку гэтых матэрыялаў апраўдана таксама і тым, што параўнанне іх з творчасцю сучаснасці як нельга лепей раскрывае эвалюцыю мастацкіх поглядаў народа.

Значная колькасць твораў раздзела «Песенная творчасць пасляваеннага перыяду» — гэта творчасць самадзейных кампазітараў, г. зн. творчасць, аўтары якой вядомы. Гэта характэрная рыса тлумачыцца ў першую чаргу новымі ўмовамі нараджэння і бытавання народнай песні: хуткай яе публікацыяй, фіксацыяй імя складальніка і інш.

Трэба ўлічваць, што безыменнасць многіх песень, змешчаных у папярэдніх раздзелах,— у першую чаргу вынік адсутнасці ў той час «уліку аўтарства». Дарэчы, і зараз некаторыя песні, якія лічыліся заўсёды безаўтарскімі, паступова набываюць сваіх канкрэтных складальнікаў.

Увогуле ж творчасць самадзейных кампазітараў — гэта ў пэўнай ступені самастойная, але арганічная частка сучаснага народнага музычнага мастацтва, без якой уяўленні аб апошнім былі б далёка не поўнымі.

Адсутнасць запісаў напеваў да многіх тэкстаў тлумачыцца рознымі прычынамі. Шматлікія тэксты былі запісаны без мелодый. Асабліва многа такіх запісаў у першы перыяд развіцця савецкай песні, калі сама фалькларыстыка была яшчэ маладая і многія энтузіясты-аматары не валодалі нотнай граматай. Нямала матэрыялаў, у тым ліку і фанаграфічных, загінула ў час вайны. Нарэшце, трэба ўлічваць, што значная частка песень, асабліва перыяду Вялікай Айчыннай вайны,— гэта падтэкстоўкі. У якасці мелодыі-асновы выкарыстоўваліся або традыцыйныя народныя напевы, або мелодыі вядомых савецкіх масавых песень, прыводзіць якія складальнікі не лічаць патрэбным і адзначаюць гэта ў адпаведных каментарыях. Магчыма, некаторая колькасць песень, створаных у савецкі час, засталася па-за ўвагай складальнікаў, засталася не выяўленай. Далейшыя публікацыі іх, безумоўна, дапамогуць больш поўна адлюстраваць асноўныя асаблівасці беларускай песнятворчасці савецкага часу. Можна спадзявацца, што публікуемы матэрыял дазволіць чытачу ўзнавіць шляхі развіцця беларускага песеннага мастацтва, адчуць у ім гарачы подых эпохі.

# БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

Песенная творчасць кожнага народа — гэта вельмі важная і своеасаблівая частка яго культуры, яго гісторыі, праўдзівае слова народа аб сабе, сваёй радзіме, аб сваіх поглядах на навакольны свет, аб сваіх перажываннях, думках, надзеях. За сваю шматвяковую гісторыю беларускі народ стварыў вялікую колькасць цудоўных песень, якія адлюстравалі розныя бакі яго працоўнага жыцця, адносіны да гістарычных падзей і асоб, яго погляд на важнейшыя сацыяльныя праблемы.

Традыцыйная песня з яе непаўторным паэтычным майстэрствам, глыбінёй думкі і шчырасцю пачуццяў стала адным з важнейшых вытокаў савецкай народнай песні. У савецкі час народная песня захавала і эстэтычную, і пазнавальна-выхаваўчую, і арганізуючую функцыі, хаця, натуральна, канкрэтнае праяўленне гэтых функцый мае свае асаблівасці. Пасля перамогі Кастрычніка хутка з'явіліся новыя песні — жывы водгук на гістарычныя падзеі ў краіне. Аднак яны не адразу звярнулі на сябе ўвагу фалькларыстаў. Збіранне, друкаванне і вывучэнне савецкага фальклору, у тым ліку і песеннай творчасці, пачалося па-сапраўднаму толькі ў 30-я гады, хаця культурнае будаўніцтва ў Беларусі атрымала шырокі размах значна раней, яшчэ ў пачатку 20-х гадоў. Разгортванню фальклорнай работы садзейнічалі многія мерапрыемствы, праведзеныя ў рэспубліцы: адкрыццё ў 1921 г. Беларускага дзяржаўнага універсітэта, названага пазней імем яго стваральніка У. І. Леніна, заснаванне ў 1929 г. Акадэміі навук, арганізацыя па ўсёй рэспубліцы шырокай сеткі Дамоў культуры, бібліятэк. Усе гэтыя падзеі адыгралі вялікую ролю ў навуковым і культурным жыцці рэспублікі, садзейнічалі падрыхтоўцы кадраў збіральнікаў і даследчыкаў беларускай вуснапаэтычнай творчасці.

Наогул ва ўсёй краіне ў канцы 20-х і асабліва пачатку 30-х гадоў шырока разгарнулася работа па збіранню скарбаў народнай мудрасці. Вялікая роля ў арганізацыі збірання і вывучэння фальклору належыць А. М. Горкаму. Горкі неаднаразова падкрэсліваў значэнне вуснапаэтычнай творчасці, звяртаў увагу на вялікія скарбы народнай мудрасці, заклікаў руплівa збіраць і вывучаць яе, асабліва народную творчасць, народжаную новым часам. Па ініцыятыве А. М. Горкага і пад яго рэдакцыяй у 1937 г. выйшаў з друку вядомы зборнік «Творчество народов СССР», дзе сярод іншых былі змешчаны і беларускія матэрыялы.

У рэспубліцы работу па збіранню і публікацыі фальклору савецкай эпохі ўзначальваў народны паэт БССР Якуб Колас. Пачынаючы з 1934 г. сектар этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі АН БССР стаў рэгулярна праводзіць экспедыцыі ў розныя раёны БССР. Была створана шырокая сетка карэспандэнтаў з ліку калгаснікаў, сельскай і гарадской інтэлігенцыі, якія ўключыліся ў збіральніцкую работу. Вялікую дапамогу ў гэтай справе аказвалі таксама Дамы народнай творчасці, калектывы мастацкай самадзейнасці, У выніку быў сабран багаты матэрыял, вялікая колькасць запісаў фальклорных тэкстаў дарэвалюцыйнага і савецкага часу. Каштоўнасць песеннага матэрыялу павялічвалася дзякуючы запісам мелодый (песні запісваліся на фанографе). Гэта дазволіла падрыхтаваць і выдаць у канцы 30-х гадоў шэраг тэматычных фальклорных зборнікаў, у якія былі ўключаны і фальклорныя творы савецкага часу. Але яшчэ да выдання зборнікаў у перыядычным друку час ад часу з'яўляліся публікацыі песень грамадзянскай вайны і перыяду калгаснага будаўніцтва. Так, былі надрукаваны «Марш Будзённага» і «Песня камсамолкі» [1], песні «Калгасная» [2], «Лён» [3], «На далёкаўсходняй граніцы пагранічнік Лагода стаяў» [4], «Ніва калектыўная» [5], «Ой, сокал, мой сокал» [6] і інш. Большасць гэтых песень пазней увайшла ў розныя фальклорныя зборнікі.

Адным з першых фальклорных выданняў, дзе багата прадстаўлена сучасная беларуская народная песня, з'яўляецца зборнік «Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці» (1938). Разам з матэрыяламі дарэвалюцыйнага часу тут змешчаны ўзоры савецкага фальклору, розных яго жанраў. У кароткім уступным артыкуле да зборніка М. Я. Грынблат дае аналіз ідэйна-тэматычнага зместу народнай творчасці. Асноўная ўвага тут удзяляецца творчасці дарэвалюцыйнага часу. Савецкі фальклор разглядаецца ў агульным рэчышчы, песня як жанр асобна не вылучаецца і аналізуецца з боку яе ідэйнага зместу.

У зборніку звыш 50 савецкіх песень. Гэта творы аб любві да Савецкай Радзімы, аб новым жыцці, аб змаганні за шчасце і інш. Многія творы вылучаюцца даволі значным мастацкім узроўнем. Але ў падборы матэрыялу адчуваецца ўплыў культу асобы, што робіць зборнік некалькі аднабаковым.

Трапілі ў зборнік і некаторыя слабыя ў мастацкіх адносінах творы, якія ўспрымаюцца зараз толькі як факты, што сведчаць і аб складанасці новых творчых працэсаў, і ўзроўні тагачаснай фальклары́стыкі.

---

[1] «Малады араты» № 10, 1926.
[2] «Літаратура і мастацтва», 1 мая 1937 г.
[3] «Літаратура і мастацтва», 11 чэрвеня 1936 г.
[4] «Звязда», 18 верасня 1937 г.
[5] «Літаратура і мастацтва», 12 мая 1937 г.
[6] «Звязда», 1 сакавіка 1937 г.

Зборнік «Чырвоная Армія і абарона Радзімы» (1938) уключае 24 песні. Тэматыка іх разнастайная. Песні ўслаўляюць мудры геній Леніна, малююць герояў грамадзянскай вайны Будзённага і Варашылава, услаўляюць магутнасць роднай арміі. Да песень даецца пашпарт (адзначаецца час і месца запісу). На жаль, звестак аб паходжанні той ці іншай песні, яе распаўсюджанасці, часе ўзнікнення ў каментарыях да гэтага зборніка, як і папярэдняга, не даецца.

Зборнік «Беларускія народныя і рэвалюцыйныя песні» (1938) ставіў сваёй мэтай даць лепшыя творы для харавога і сольнага выканання. Першы раздзел зборніка «Песні рэвалюцыі» складаюць творы розных аўтараў. Народных і нават фальклярызаваных твораў у ім няма. Другі раздзел цалкам прысвечаны савецкаму фальклору. У ім 10 песень і цыкл калгасных прыпевак. З песень толькі некалькі тэкстаў новых, іншыя друкаваліся раней у фальклорных зборніках.

У 1939 г. выдан зборнік пад рэд. М. М. Нікольскага «Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі». У зборніку змешчана 15 песень, з іх 8 твораў савецкага часу. Большасць савецкіх песень раней не друкавалася.

Цікавасць уяўляе тэматычны зборнік «Жанчына ў беларускай народнай творчасці» (1940), другая частка якога «Жыццё сучаснае» ўключае значную колькасць песень (41 тэкст). Многія з іх перадрукаваны з ранейшых зборнікаў, але ёсць і новыя. Галоўная тэма песень — адлюстраванне новага жыцця жанчыны. Песні расказваюць аб тым, як бяспраўная раней беларуская жанчына выходзіць на шырокі і светлы шлях.

У тым жа 1940 г. выйшаў з друку першы том зборніка «Песні беларускага народа». Меркавалася выдаць фундаментальны трохтомны збор беларускіх песень з мелодыямі, але вайна перашкодзіла закончыць работу. У томе змешчаны песні аб грамадзянскай вайне, песні перыяду даваенных пяцігодак. Усяго 31 тэкст сучасных песень. Некаторыя творы даюцца з варыянтамі. Асаблівую каштоўнасць прадстаўляюць песні перыяду грамадзянскай вайны. Гэта бадай-што адзіная крыніца, якая дае матэрыялы аб песеннай творчасці першых паслярэвалюцыйных год.

Ва ўсіх даваенных зборніках пераважала песенная творчасць з сялянскай тэматыкай. Песні савецкага часу ствараюць яркую карціну жыцця вёскі, адлюстроўваюць многія важныя падзеі ў краіне — калектывізацыю, культурную рэвалюцыю і інш. З рабочага фальклору ў гэтых зборніках друкаваліся творы іншых жанраў: частушкі, прыказкі і прымаўкі, казкі. На жаль, песень рабочых і аб рабочых у зборніках амаль няма. Магчыма, гэта вынік таго, што збіранне рабочага фальклору ў даваенны перыяд не набыло патрэбнага размаху. У перыядычным друку змяшчаліся асобныя творы, даследчыкі беларускага фальклору звярталі ўвагу на неабходнасць збірання і вывучэння рабочай песні, аднак гэта не дало належных вынікаў.

Вялікая Айчынная вайна выклікала да жыцця новыя творы. У гэты час з'явілася шмат песень, розных па зместу, па форме, розных у жанравых адносінах: песні-заклікі, песні-маршы, балады аб подзвігах і гібелі герояў, лірычныя песні аб каханні і вернасці, сатырычныя песні, песні-памфлеты супраць гітлераўцаў і іх паслугачоў. Гэта і мастацкі летапіс барацьбы народа, і моцная зброя, накіраваная супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і вялікасны помнік народу-змагару.

Адной з важнейшых задач фалькларыстыкі пасляваеннага часу было збіранне і даследаванне багацейшага фальклору Вялікай Айчыннай вайны. Песні Айчыннай вайны друкавалі ў сваіх артыкулах І. В. Гутараў, М. Я. Грынблат, І. В. Зазека і іншыя беларускія фалькларысты.

Адной з самых значных кніг у галіне фальклору Айчыннай вайны з'явіўся зборнік «Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны» (1961).

Раздзел песень уключае 151 тэкст на беларускай і рускай мовах. Песні класіфікаваны па тэматычных групах: Заклікі да барацьбы; Баявыя аперацыі; Песні пра гарады-героі; Песні паланянак і інш.

У каментарыі да песень даюцца цікавыя звесткі аб гісторыі ўзнікнення асобных твораў, іх бытаванні сярод розных груп насельніцтва, папулярнасці ў пасляваенны час, высвятляюцца факты фалькларызацыі аўтарскіх твораў. Тэксты і каментарыі даюць багаты матэрыял для вывадаў аб развіцці песеннай творчасці ў перыяд вайны.

Савецкія песні ўключаліся ў многія фальклорныя зборнікі пасляваеннага часу. М. М. Чуркін запісаў на Магілёўшчыне лірычныя песні, якія ўвайшлі ў яго зборнікі «Беларускія народныя песні і танцы» (1949) і «Беларускія народныя песні» (1959).

Песні аб вызваленні былой Заходняй Беларусі знаходзім у зборніку Р. Р. Шырмы «Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі» (1947).

У 1959 г. выйшла анталогія песеннай творчасці беларусаў зборнік «Песні беларускага народа». Яго складальнік — Г. І. Цітовіч, выдатны знаўца народных песень, які многа займаўся запісам і прапагандай іх. Зборнік складаецца з двух вялікіх раздзелаў: Песні дасавецкага перыяду і Песні савецкай эпохі. Пры класіфікацыі песень савецкай эпохі аўтар прытрымліваецца гісторыка-тэматычнага прынцыпу.

Спецыяльна савецкаму сучаснаму фальклору прысвечаны зборнік «Сучасны беларускі фальклор» (1963). Значная частка песень, якія ўвайшлі ў зборнік, перадрукавана з ранейшых выданняў, у тым ліку і даваенных. Ёсць творы, запісаныя ў час фальклорных экспедыцый, дасланыя шматлікімі карэспандэнтамі, удзельнікамі конкурсаў на лепшага збіральніка вуснапаэтычнай творчасці. Песні ў асобны раздзел не выдзелены, яны размеркаваны з творамі іншых жанраў па тэматычных раздзелах. У зборнік трапілі некаторыя слабыя, прымітыўныя тэксты песень.

Выданне народнай творчасці вядзецца і ў абласцях рэспублікі. Абласныя Дамы народнай творчасці, напрыклад Гомельскі, Віцебскі, займаюцца збіраннем фальклорнага матэрыялу. Імі падрыхтаваны невялікія зборнікі (часцей за ўсё ў якасці дапаможнікаў для мастацкай самадзейнасці), куды ўключаюцца народныя традыцыйныя і савецкія песні, творы самадзейных аўтараў.

У пасляваенны час асабліва шырока разгарнулася дзейнасць самадзейных кампазітараў. Іх творы часта змяшчаюцца ў перыядычным друку, выпускаюцца спецыяльнымі выданнямі або дадаткамі да часопісаў. Найбольш грунтоўнымі з такіх выданняў з'яўляюцца «Песні самадзейных кампазітараў БССР» (1956), «Песні Азершчынскага хору» (1959), зборнікі твораў самадзейных кампазітараў па абласцях (Гомельшчыны, Міншчыны, Гродзеншчыны і г. д.), «Песні самадзейных кампазітараў» (1959) і шмат іншых.

Адначасова са збіраннем сучасных песень пачалося і іх вывучэнне. Першыя назіранні і вывады былі зроблены ў прадмовах да зборнікаў, аўтары якіх разглядаюць пэўныя этапы ў развіцці савецкай песні, аналізуюць тэматыку песень. Тэме абароны Радзімы ў беларускіх песнях прысвяцілі артыкулы М. Грынблат, Э. Горскі і А. Слабадзецкі [1], аб рабочай песні пісаў С. Знаёмы [2], ідэйна-тэматычны змест песні былой Заходняй Беларусі аналізуе У. Калеснік [3]. Шмат артыкулаў прысвечана песеннай творчасці Вялікай Айчыннай вайны [4].

У 1968 годзе выйшла манаграфія Л. С. Мухарынскай «Беларуская народная партызанская песня», у якой асноўная ўвага надаецца творчасці самадзейных партызанскіх аўтараў. Даследчык прыводзіць звесткі з гісторыі некаторых партызанскіх песень, спыняецца на дзейнасці партызанскіх ансамблей і агітбрыгад, гаворыць аб уплыве аўтарскай песні на народную.

На жаль, менш увагі ўдзяляецца самой народнай песні. У працы В. В. Рэвіцкага «Сучасная народная паэтычная творчасць Беларусі — творчасць будаўнікоў камунізма» (1962) разглядаецца творчасць пасляваеннага перыяду. Сярод іншых жанраў аўтар разглядае і песні, аналізуе іх тэматыку, у некаторай ступені мастацкія асаблівасці.

---

[1] М. Гринблат. Оборона Родины в белорусских песнях. «Народное творчество» № 2, 1938; Э. Горский, А. Слободецкий. Песни обороны (Народные песни о Красной Армии). «Рабочий» № 2, 1937.

[2] С. Знаёмы. Рабочая песня. Савецкі фальклор. «Полымя рэвалюцыі» № 8, 1935.

[3] У. Калеснік. Рэвалюцыйныя песні былой Заходняй Беларусі. «Полымя» № 9, 1956.

[4] И. Гуторов. Партизанские песни. «Знамя» № 5—6, 1946; І. Зазека. Песні беларускіх партызан Вялікай Айчыннай вайны. Вучоныя запіскі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, філалагічная серыя, вып. 1, 1950 і інш.

Больш агульныя пытанні развіцця народнай песні ў савецкую эпоху разглядаюцца ў артыкулах Г. І. Цітовіча «Народная песня в современном быту белорусов»[1] і Л. С. Мухарынскай «40 лет истории белорусского народа в народной песне»[2].

У артыкуле Г. І. Цітовіча аналізуецца меладычны бок савецкай песні. Аўтар прыводзіць канкрэтныя прыклады найбольш папулярных беларускіх песень, дае паэтычны аналіз іх, тлумачыць кароткае жыццё некаторых твораў не толькі слабасцю паэтычнай асновы, але і неадпаведнасцю яе мелодыі песні. Закранаюцца ў артыкуле пытанні ўплыву рускай песеннай творчасці, пытанне аб значэнні харавых калектываў у сучаснай песнятворчасці.

У даследаванні Л. С. Мухарынскай даецца аналіз развіцця савецкай песеннай творчасці ад пачатку яе ўзнікнення. Вялікую ўвагу звяртае даследчык на фарміраванне стылявых прыкмет у новай беларускай песні. У працы закранаюцца пытанні суадносін індывідуальнага і калектыўнага ў песнятворчасці, ролі і ўплыву прафесіянальнага мастацтва на народную песню. Цікавасць маюць звесткі аб узнікненні асобных песень, аб фальклярызацыі аўтарскіх твораў. Асноўную ўвагу аўтар удзяляе меладычнай характарыстыцы песні, высвятленню пытання развіцця меладычнага стылю сучаснай песні, пытанням многагалосся і г. д.

Меладычная мова сучаснай народнай песні даследуецца і ў другой працы Л. С. Мухарынскай[3]. Аўтар спыняецца на ладава-інтанацыйным, рытмічным і структурным развіцці беларускіх народных напеваў у нашы дні, падкрэслівае як характэрную рысу іх сувязь з класічнай народна-песеннай традыцыяй і разам з тым вызначае рысы наватарства ў музычнай мове сучаснай песні.

Аналіз песеннай творчасці савецкай эпохі даецца ў працах К. П. Кабашнікава — у артыкуле «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць савецкай эпохі»[4] і манаграфіі «Нарысы па беларускаму фальклору» (1963). У артыкуле аўтар паказвае тэматычную разнастайнасць фальклору савецкай эпохі, аналізуе творы розных жанраў, у тым ліку і песні, не вылучаючы іх асобна.

Больш падрабязна характарыстыка песні савецкай эпохі даецца ў кнізе «Нарысы па беларускаму фальклору». І хаця аўтар не вылучае асобныя жанры сучаснага фальклору, але разам з ідэйна-тэматычным аналізам удзяляе ўвагу некаторым тэарэтычным пытанням — заканамернасці развіцця песні ў асобныя гістарычныя перыяды (асабліва ў гады Айчыннай вайны), захаванні

[1] «Советская музыка» № 7, 11, 1952.
[2] Научно-методические записки Белгосконсерватории, вып. 1, 1958.
[3] Л. С. Мухаринская. Мелодический язык современной беларуской народной песни. Минск, 1966.
[4] Беларускі этнаграфічны зборнік. Мінск, 1958, стар. 159—177.

традыцыі ў песнятворчасці, уплыве прафесіянальнай культуры на фальклор і інш.

Разгляду народнай творчасці савецкага часу прысвечан вялікі раздзел манаграфіі «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць (гісторыка-тэарэтычнае даследаванне)» (1967). Песенная творчасць даследуецца тут разам з іншымі фальклорнымі жанрамі, што абумовіла аналіз песеннага матэрыялу галоўным чынам у плане яго тэматычнай разнастайнасці, развіцця вобразнай сістэмы. Аднак такія пытанні, як лёс сучаснай песні як жанру, перспектывы развіцця яе надалей, мастацкія асаблівасці, у манаграфіі амаль не асветлены.

Савецкай песні прысвечан невялікі раздзел навукова-папулярнага нарыса Н. С. Гілевіча «Наша родная песня» (1968). Тут разглядаюцца тэндэнцыі развіцця сучаснай песні, даецца іх тэматычная і жанравая характарыстыка. Аўтар гаворыць аб збліжэнні народнага мастацтва з прафесіянальным, засяроджвае ўвагу на мастацкай самадзейнасці, творчасці самадзейных паэтаў і кампазітараў.

Кароткі агляд асноўных крыніц і літаратуры паказвае, што ў галіне збірання і вывучэння беларускіх народных песень савецкай эпохі дасягнуты пэўныя поспехі, якія садзейнічаюць далейшаму развіццю працы ў гэтым напрамку. Разам з тым відавочна абмежаванасць запісаных матэрыялаў па асобных перыядах і тэмах, што толькі ў некаторай частцы кампенсуецца запісамі фальклорных экспедыцый апошніх год.

*

Нараджэнне савецкай народнай творчасці звязана з перамогай новага ладу ў нашай краіне. Вялікі Кастрычнік прынёс беларускаму народу вызваленне ад гнёту памешчыкаў і капіталістаў, ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання. У гісторыі народа пачаўся этап, які характарызаваўся ломкай старога і ўзнікненнем новага не толькі ў сацыяльным становішчы працоўных, але ва ўсіх сферах грамадскіх адносін, духоўнай культуры, быту. Гэта фарміраванне новага ў поўнай меры праявілася і ў народнай паэзіі, асабліва ў песеннай творчасці. Рэвалюцыйны ўздым захапіў усе колы насельніцтва, прымусіў кожнага вызначыць сваё месца ў жыцці, у барацьбе, у будаўніцтве новага. Знешнія ворагі і ўнутраная контррэвалюцыя ўжо з пачатку 1918 г. пайшлі паходам на Савецкую Расію. Тэрыторыя Беларусі часова аказалася пад уладай нямецкіх акупантаў, а потым белапольскіх войск. Народ, зведаўшы свабоду, падняўся на барацьбу супраць ворага. Перамога рэвалюцыі, падзеі грамадзянскай вайны былі магутным штуршком для развіцця рэвалюцыйнай свядомасці народа, яны ж з'явіліся стымулам яго духоўнага росту. Настрою мас, якія змагаліся за заваёвы Кастрычніка, адпавядалі рэвалюцыйныя песні і гімны, якія і раней шырока бытавалі ў Беларусі. «Марсельеза», «Інтэрнацыянал», «Варшавянка», «Смела, таварышы, ў ногу» і іншыя

з'ядноўвалі масы ў агульнай барацьбе, адлюстроўвалі іх рашучасць змагацца да перамогі, вызначалі мэты барацьбы. Агітацыйную ролю рэвалюцыйных песень заўсёды падкрэслівала і з поспехам выкарыстоўвала Камуністычная партыя. Тэксты песень друкаваліся ў бальшавіцкіх газетах, у зваротах да народа. Рэвалюцыйныя песні аказвалі вялікі ўплыў на масавую песенную творчасць, якая пачала развіццё з часоў грамадзянскай вайны.

Хаця збіранне песеннай творчасці і наогул фальклору грамадзянскай вайны пачалося значна пазней і таму цяжка ўзнавіць гісторыю песні таго перыяду ў поўным аб'ёме, тым не менш пазнейшыя запісы, успаміны ўдзельнікаў гераічных падзей, сведчанне сучаснікаў дапамагаюць вызначыць месца песні ў жыцці і барацьбе, яе гісторыю і характар. Некаторыя з гэтых твораў звязаны з грамадзянскай вайной тэматычна, а не часам узнікнення.

Агульнасць руху ўсіх народаў Расіі, агульнасць мэты барацьбы — знішчэнне ненавіснага панавання эксплуатататараў — адбілася і на ідэйна-тэматычным змесце народнай паэзіі тых год, і на форме яе. Многія творы набывалі інтэрнацыянальны характар, станавіліся здабыткам рускага, беларускага, украінскага і іншых народаў Расіі. Таму цяжка вылучыць спецыфічна беларускія, творча самастойныя песні, якія ўзніклі ў гады грамадзянскай вайны, хаця яны, безумоўна, існавалі, адлюстроўваючы канкрэтныя мясцовыя падзеі.

Вядомасць і папулярнасць набывалі рускія чырвонаармейскія і партызанскія песні, якія прыносілі атрады байцоў Чырвонай Арміі на Беларусь. З невялікімі зменамі гэтыя песні хутка ўваходзілі ў быт і рэпертуар беларускага народа.

Так, у Беларусі паўсюдна бытавала руская партызанская песня «Па сібірскім тайгам і далінам», вялікай любоўю карысталіся песні пра Чапаева, стала ўвайшла ў рэпертуар песня «Па далінах, па загор'ях» і інш. Тое ж адбывалася і з украінскімі песнямі, напрыклад з песняй пра Шчорса і інш.

Такім чынам, можна гаварыць аб інтэрнацыянальным характары песеннай творчасці гэтага перыяду, аб трывалых узаемасувязях творчасці розных народаў. Гэта асаблівасць станавілася традыцыяй, аказвала ўплыў і на далейшае развіццё песні, пашырала яе тэматычна, пазбаўляла тэрытарыяльнай абмежаванасці.

Першапачаткова развіццё песеннай творчасці ішло па шляху творчага выкарыстання старых песенных форм. Мелодыя, рытмічны склад вядомых і папулярных у дарэвалюцыйны час твораў часта з'яўляліся асновай для ўзнікнення новай песні. Іншы раз заставаўся нават стары сюжэт, змяняліся толькі асобныя страфы або радкі, што надавала песні новае ідэйнае гучанне. Так, старая песня аб вяртанні салдат (бацькі і сына) дадому з вайны бытавала з зусім нязначнымі зменамі некалькіх радкоў, але гэта адразу звязвала яе з пэўнымі падзеямі. На пытанне салдата, з якой пары жанчына засталася ўдавою, яна адказвае:

Ў семнаццатым гадочку
Успыхнула вайна.
Я мужа праважала
І сына сакала [1].

Перапрацоўкай песні пра разбойніка Чуркіна з'яўляецца песня «Сярод лясоў дрымучых», якая расказвае аб гібелі маладога партызана. Тэкст песні амаль поўнасцю захаваўся, у асобных строфах зменены словы, што надае твору новае ідэйнае гучанне, дапамагае падкрэсліць таварыскасць, брацтва людзей, якія вядуць крывавы бой з ворагам. Песня атрымала іншы характар, стала паэтычным помнікам героям-змагарам. Развітальныя словы на магіле партызана гучаць як клятва ў вернасці справе барацьбы, клятва давесці яе да пераможнага канца.

Непасрэднымі перапрацоўкамі старых песень з'яўляюцца і такія, як «Ходзяць па камеры жандармы», «Із-за лесу свеціць копія мячэй» і інш. Зварот да традыцыйнай песні, да класічнай народнай спадчыны ў першыя гады існавання Савецкай дзяржавы тлумачыцца многімі фактарамі і перш за ўсё пераемнасцю ў агульным развіцці культуры. Зварот да спадчыны характэрны для фальклору на розных этапах. Цікавыя з'явы народнай творчасці заўсёды ўзнікаюць на глебе, падрыхтаванай яго папярэднім развіццём, грунтуюцца на блізкіх па духу, тэматыцы вобразах папярэдніх часоў. Дарэвалюцыйная народная творчасць была багатая шматлікімі ўзорамі патрыятычнай песні, баявой паэзіі, якая адлюстроўвала глыбокую любоў да бацькаўшчыны, заклікала на змаганне з іншаземнымі захопнікамі за волю, за шчасце. Такія творы зноў ажывалі, станавіліся глебай для новай песнятворчасці. Стваральнікі новай песні — найбольш здольныя прадстаўнікі народа — добра ведалі і шырока выкарыстоўвалі метады і сродкі мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, выпрацаваныя на працягу папярэдніх часоў. Трэба мець на ўвазе і тую акалічнасць, што новыя ўзоры песеннай творчасці толькі пачыналі з'яўляцца і не заўсёды хутка пранікалі ў самыя шырокія масы.

Жанравы склад, а тым больш тэматыка песеннай творчасці грамадзянскай вайны вызначаліся канкрэтнымі гістарычнымі ўмовамі жыцця і барацьбы народа. Жыццё давала багаты матэрыял для твораў аб змаганні, аб новых людзях, іх марах, аб героях, якія гінулі за новую рэчаіснасць. Увесь народ быў у паходзе за сваю волю і шчасце, ішоў на змаганне з адпаведнымі песнямі. Песенная творчасць, звязаная з земляробчай дзейнасцю, сямейным жыццём, каханнем, у гэты перыяд саступае месца творам сацыяльнага гучання. Узнаўляюцца салдацкія, ваенныя песні, якія і сваім зместам, і выразна

[1] АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 21. Дарэчы, гэта песня ўзнавілася ў гады Вялікай Айчыннай вайны: у ёй гаварылася пра провады мужа і сына ў сорак першым годзе. Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны, стар. 256—257.

арганізаванай формай адпавядаюць баявому настрою мас. Асабліва шырока распаўсюджанымі становяцца паходныя песні «Чырвонаармейская», «Гэй, байцы, вайна настала», «А за лесам сонца ўсходзіць», «Із-за лесу свеціць копія мячэй» і інш.

Некаторыя песні агульнага характару не даюць малюнкаў канкрэтных падзей («Гэй, байцы, вайна настала», «Гэй, па дарожке войска краснае ідзе»), а адлюстроўваюць гераічны ўздым мас. Адносна песні «Гэй, байцы, вайна настала» Л. С. Мухарынская зазначае, што песня «стварае ўражанне цяжкага і ўпэўненага поступу масы народа, арганізаванай, накіраванай, суровастрыманай... Вобраз гераічнага савецкага народа ў гэтай песні цесна звязан з эпічнымі вобразамі мінулага — рускай гераічнай раці, неадольнай рускай сілы» [1].

Развіццё песенных форм у асноўным ідзе ў межах жанраў, якія найбольш вызначыліся і замацаваліся ў XX ст. і сярод гарадскога і сярод сельскага насельніцтва. Баладныя песні з моцным уплывам так званага жорсткага раманса і літаратурнай балады, турэмныя песні, лірычныя творы (асабліва аб разлуцы, аб провадах і вернасці) аказаліся такімі ёмкімі ў мастацкіх адносінах, што ў новай інтэрпрэтацыі, напоўненыя зместам, які адлюстроўваў гістарычную рэчаіснасць, здолелі стаць на службу сучаснасці. Натуральна, што гэтыя жанры некалькі змяняліся дзякуючы новаму рэвалюцыйнаму зместу. Побач з тыпова баладнай песняй аб двух братах, якія апынуліся ў супрацьлеглых лагерах барацьбы («У дзеравушцы ўсе мірна так жылі»), бытавалі песні, сваім тужлівым настроем, трагічнай развязкай блізкія да балад («Шлі байцы дадому», «На высокай зялёнай магіле» і інш.). Але іх сюжэт пазбаўлен паслядоўнага разгортвання дзеяння. Герой гэтых песень — баец або малады камунар — гіне не ад няшчаснага кахання, а ў бойцы ад рук ворага за вялікую справу рэвалюцыі.

Грамадзянскія матывы пранікаюць і ў тыпова лірычныя песні. Цудоўная па сваёй шчырасці, лірызму песня «Ой ты, рэчанька глыбока», якая перадае гора жанчыны, што не дачакалася любага з вайны, непасрэдна выходзіць з традыцыйнай лірыкі [2], але набывае зусім іншае ідэйнае гучанне. У традыцыйнай песні гора маладой жанчыны — у яе няздзейсненых марах аб каханні, аб тым, што яе пакінуў любы. Новая песня, перадаючы асабістыя пачуцці жанчыны, у той жа час набывае характар абагульнення, выяўляе пачуцці многіх, хто не дачакаўся блізкіх.

---

[1] Л. С. Мухаринская. 40 лет истории белорусского народа в народной песне. Научно-методические записки Белгосконсерватории. Минск, 1958, стр. 71—72.

[2] Гл., напрыклад, песню «Волга-рэчушка глыбока — прыхажу к табе з таской» (Е. Романов. Белорусский сборник, вып. 1, т. I. Киев, 1885, стр. 106—107), з якой яна амаль супадае зачынам.

Тэматычна песні грамадзянскай вайны таксама можна аб'яднаць у асобныя групы. Цэлы цыкл твораў складаюць песні партызанскія. Тут перш за ўсё вылучаецца песня «Па сібірскім тайгам і далінам», якая запісана ў шматлікіх варыянтах у розных раёнах краіны. Па свайму паходжанню гэта руская песня. Упершыню яна зафіксавана ў 1935 г. у часцях Паўночна-Каўказскай ваеннай акругі, дзе замест «сібірскіх» упаміналася «седзінскіх». У тым жа годзе песня была запісана ў Беларусі (друкавалася ў «Песнях беларускага народа», т. I, стар. 289). Шырокая папулярнасць песні тлумачыцца яе грамадзянскім зместам, глыбокай рэвалюцыйнай ідэяй. У песні знайшла адлюстраванне гераічная барацьба народа, еднасць рабочых і сялян у гэтай барацьбе, непрымірымасць да ворагаў Савецкай улады. Бытавала песня і ў пазнейшыя гады. У 1938 г. быў запісан больш поўны варыянт з новымі куплетамі, звязанымі з калектывізацыяй у краіне. Гэта яшчэ адно сведчанне жывога бытавання песні.

Вялікую групу складаюць песні аб гібелі воіна на полі бою, а таксама аб легендарных героях грамадзянскай вайны. Папулярнасцю карысталіся на Беларусі і творы аб падзеях у Расіі.

З песень грамадзянскай вайны паўстае вобраз змагара рэвалюцыі, валявога, мужнага, да канца адданага справе народа. Гэта абагульнены вобраз смелага барацьбіта, чалавека, народжанага новай, савецкай эпохай. Салдат рэвалюцыі ахвяруе жыццём за сваю краіну, народ, свабоду. Такім паўстае вобраз качагара ў песні «На прасторы Каспі-мора». На параходзе, які ідзе супраць чырвоных, ён чуе размову афіцэраў пра тое, як яны будуць расправяцца з бальшавікамі порта Аляксандраў. Ён разумее, што нясе працоўным улада белых: зноў засценкі, кроў, слёзы, нагайкі, здзекі над рабочым людам. Просты чалавек з народа, для якога «ўласць савецкая дарожы бела света самаго», узрывае параход і сам гіне ў імя шчасця людзей.

Такім жа мужным змагаром з'яўляецца і герой песні «Не хачу быць рабом акупантаў» [1]. Пасаджаны ў турму за тое, што змагаўся за праўду, герой песні поўны рашучасці працягваць бой. Ні цяжкія ланцугі, у якія закаван змагар, ні адзіночная камера, ні катаванні не могуць прымусіць яго скарыцца.

Адданасць справе рэвалюцыі як адметная рыса безыменных герояў падкрэсліваецца ў многіх песнях аб гібелі воіна на полі бою. У папулярнай чырвонаармейскай песні «Красноармеец паміраў» [2] герой, «сражоны злобнымі

[1] Запісана ў 1936 г. у Чачэрскім р-не. Створана, відаць, у час акупацыі Беларусі інтэрвентамі. АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23.

[2] Гэта руская песня, якая бытавала ў Беларусі з невялікімі зменамі. У тэксце песні засталося шмат рускіх слоў, якія не перакладзены, а даюцца ў беларускім вымаўленні. Рускі варыянт песні ўпершыню апублікаваны ў зборніку «Песни Красной Армии» (1924) з указанием аўтара А. Шынкарэнка, муз. А. Сяргеева. Гл. Русское народно-поэтическое творчество. М., 1953, стр. 205.

ўрагамі», пасылае свайго каня не да бацькі або любімай жонкі, як гэта ў творах ранейшага часу, а просіць яго:

Бяжы на родзіну маю,
На фабрыкі, палі, заводы,
Скажы, што галаву сваю
Аддаў я чэсна за свабоду.

Некаторыя песні аб гібелі героя складзены як успамін. Гэта хутчэй песні на тэму грамадзянскай вайны. Узнікшыя, відаць, пазней, яны расказваюць не столькі аб падзеях грамадзянскай вайны, колькі падкрэсліваюць думку, што шчасце, за якое змагаліся і гінулі героі, настала ў краіне. Гэта мы бачым у песні «На кургане».

Песні грамадзянскай вайны ўслаўляюць не толькі масавы гераізм народа, многія прысвечаны легендарным героям чырвоным камандзірам Чапаеву, Будзённаму, Варашылаву.

Песня пра Чапаева вядома на Беларусі ў рускім і беларускім варыянтах. Беларускі варыянт запісан у 1936 г. на Чэрвеньшчыне. Ён больш поўны. Заключныя строфы даюць традыцыйны для беларускай паэзіі вобраз чырвонай каліны на магіле загінуўшага.

Папулярнасцю карысталіся песні, звязаныя з імем Варашылава. У розных варыянтах бытавала паўсюдна песня «А за лесам сонца ўсходзіць», якая малюе прыезд Варашылава да байцоў, каб праводзіць іх на фронт. Некаторыя варыянты («Із-за лесу сонца ўсходзіць») акцэнтуюць увагу на агульным малюнку праводзін, у час якіх Варашылаў аддае каманду арміі, заклікае рашуча змагацца з ворагам. У іншых варыянтах вобраз больш дэталізаваны. Праслаўлены палкаводзец паўстае як рэвалюцыйны камандзір і як чулы чалавек, які цікавіцца здароўем байцоў, знаходзіць цёплыя словы пры развітанні:

Я прыехаў з вамі распрасціцца
І на фронт вас праводзіць.
Пажадаю назад вараціцца,
Яшчэ дома пабываць.

Сярод песень аб легендарных героях вайны варта адзначыць запісаную ў 1935 г. песню «Знаю дзеда Талаша» (відаць, тэкст не ўвесь). Магчыма, песня ўзнікла не непасрэдна ў перыяд грамадзянскай вайны (расказ вядзецца як успамін аб мінулым):

Партізанам красным быў,
Ваяваў з панамі,
Знаю дзеда Талаша —
Біў паноў з сынамі.

Запісаны ўрывак не дае ўяўлення аб мастацкім развіцці тэмы, не раскрывае вобраза, пачатак песні толькі сцвярджае факт існавання атрада дзеда Талаша. Значэнне песні ў тым, што ў ёй засведчан гістарычны факт.

Пасля грамадзянскай вайны атрымала пашырэнне песня І. Любана на словы П. Броўкі «Цёмнай ночкай партызанаў на расстрэл вялі», прысвечаная памяці дукорскіх партызан.

Магчыма, існавалі і іншыя песні аб нацыянальных героях грамадзянскай вайны. Аднак у свой час яны не былі запісаны.

У гады грамадзянскай вайны, як адзначалася раней, новае песеннае мастацтва ў большасці сваёй яшчэ захоўвала рысы, уласцівыя класічнаму фальклору: ананімнасць, вуснасць перадачы, варыянтнасць. Умовы жыцця, палітычнай барацьбы народа садзейнічалі развіццю пэўных мастацкіх форм у галіне песнятворчасці. Баявыя песні, маршы, гімны ўзнікалі як водгук на падзеі, часта зусім не запісваліся, а перадаваліся вусна, што вяло да варыянтнасці, і бытавалі доўгі ці кароткі час (у залежнасці ад якасці іх і сілы ідэі, заключанай у песні) падобна да таго, як бытавалі фальклорныя творы ў мінулыя часы. Новую песнятворчасць збліжаў са старым фальклорам спосаб бытавання і распаўсюджання, а таксама непасрэдны працяг песеннай традыцыі, выкарыстанне ў новых умовах старых салдацкіх і іншых песень. Па свайму ж ідэйнаму зместу, па вобразах, эмацыянальнаму настрою песні грамадзянскай вайны ўяўлялі сабою зусім новы этап у песеннай творчасці народа.

Новая песнятворчасць, якая нараджалася рэвалюцыйнай рэчаіснасцю, успрымала лепшае з дакастрычніцкай рэвалюцыйнай і рабочай паэзіі, адбірала найбольш сугучнае часу з багацейшай скарбніцы народнай лірыкі. Творчае выкарыстанне формы старой песні (добра знаёмых мелодый, рытмаў, часам зачынаў, прыёмаў мастацкага адлюстравання) сведчыць аб жывучасці і жыццяздольнасці створанай ранейшымі эпохамі творчасці, а не азначае сляпога пераймання яе. Ідэйны і канкрэтны гістарычны змест, які вызначаўся новай рэчаіснасцю, надаваў песням грамадзянскае гучанне.

Добра вядомы песеннай творчасці мінулых часоў вобраз абаронцы Радзімы і народжаны рэвалюцыйнай паэзіяй вобраз змагара за волю народа атрымлівае далейшае паглыбленне і развіццё. Гэта гарачы патрыёт сацыялістычнай Радзімы, рэвалюцыйны баец, які абараняе новы сацыяльны лад, краіну народа, дзе няма месца эксплуатацыі і мяроўнасці, абараняе родную Савецкую ўладу. Песня грамадзянскай вайны сведчыць аб умацаванні інтэрнацыянальных сувязей розных народаў нашай краіны.

*

У наступныя гады ў песнятворчасці адбываюцца працэсы, у выніку якіх паступова выкрышталізавалася новая песенная форма. Перыяд аднаўлення

народнай гаспадаркі і даваенных пяцігодак не быў аднародным як у эканамічным жыцці, так і ў развіцці культуры народа. Ва ўмовах Беларусі гэта праяўлялася асабліва ярка. Беларусь як адна з прыгнечаных ускраін царскай Расіі зусім не мела ў перадрэвалюцыйныя гады школ на роднай мове, і пісьменнасць асобных прадстаўнікоў насельніцтва яе лічылася амаль што асобай прывілеяй. Пасля перамогі Кастрычніка Беларусь пэўны час знаходзілася пад акупацыяй нямецкіх і белапольскіх захопнікаў, што таксама стрымлівала яе культурнае жыццё.

Шырокае бытаванне песень аб падзеях грамадзянскай вайны, якія адбываліся ў розных кутках краіны, засваенне песень аб легендарных героях вайны садзейнічала расшырэнню народнага рэпертуару, узмацненню ўзаемаўплыву песеннай творчасці розных народаў. У выніку павялічваўся арсенал мастацкіх прыёмаў, абнаўляліся і ўзбагачаліся сродкі выразнасці.

Характэрнай рысай фальклорнага працэсу становіцца ўзмацненне ролі і ўплыву на народную творчасць прафесіянальнай паэзіі. Эпоха капіталізму, асабліва перадрэвалюцыйны перыяд, значна пашырыла ўзаемаадносіны народнай і літаратурнай творчасці. Рабочая і рэвалюцыйная паэзія развівалася пад непасрэдным і дабратворным уплывам прафесіянальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі. Перамога сацыялістычнага ладу набліжала народныя масы да прафесіянальнага мастацтва. У гады грамадзянскай вайны шмат твораў рускіх і іншых паэтаў увайшло ў народны рэпертуар. Яны сталі асновай і ўзорам для стварэння мясцовых песень. Песні на вершы Д. Беднага «Провады» і «Нам прыслала Масква падкрапленіе», песня паэта-аматара «Па далінах, па загор'ях» і іншыя з'явіліся першымі ўзорамі новай паэзіі, якая з першых год існавання Савецкай дзяржавы была шырока засвоена масамі і стала неад'емнай часткай яго духоўнай культуры. У далейшым іменна прафесіянальная песенная творчасць, масавая савецкая песня з'яўляецца прыкладам для народнай творчасці і ў значнай ступені вызначае шляхі яе развіцця.

Песенная творчасць па-ранейшаму захоўвае сваё значэнне арганізатара і агітатара мас, яна займае важнае месца ў духоўным быце і культуры народа, а гэта з'яўляецца залогам яе далейшага развіцця.

Патрэбен быў пэўны час для ліквідацыі вынікаў ваеннай інтэрвенцыі і дасягнення ўзроўню, неабходнага для стварэння новай культуры. У народнай творчасці амаль да 30-х гадоў ішло паступовае накапленне новых якасцей, зараджэнне і выспяванне новых мастацкіх форм песеннай творчасці. Такім шляхам была падрыхтавана глеба для істотных змен усяго мастацкага стылю, што выяўлялася ў многіх баках творчасці — у лексіцы, вобразнай сістэме, метрычнай аснове і г. д.

Нягледзячы на карэнную ломку, якая адбывалася ў жыцці народа ў 20-я гады, яго духоўныя запатрабаванні па-ранейшаму ў значнай ступені

задавальняліся традыцыйным фальклорам. Насельніцтва краіны, асабліва сялянства, толькі цяпер атрымала магчымасць вучыцца, ліквідаваць непісьменнасць, па-сапраўднаму пачынала далучацца да прафесіянальнай культуры. Традыцыйны фальклор па-ранейшаму быў для пераважнай большасці народа школай і важным сродкам эстэтычнага выхавання. Але традыцыйная песенная спадчына ў жывым бытаванні не заставалася ў нязменным выглядзе. У розных відах старой песні непазбежна адбываліся змены. Адны творы зніклі зусім з паўсядзённага бытавання, другія жылі ў пэўных умовах і асяроддзі, трэція пераражывалі новы росквіт, станавіліся асабліва папулярнымі. Гэта ў першую чаргу песні яркага сацыяльнага зместу з бунтарскімі матывамі, салдацкія песні, якія часта прыстасоўваліся да новых умоў. Разам з тым у быт трывала ўваходзіла савецкая масавая песня. З развіццём культуры працоўным становіцца даступным прафесіянальнае песеннае мастацтва. Шырокі размах набыла індывідуальная творчасць. Асаблівая інтэнсіўнасць назіраецца ў стварэнні песень і частушак. Тут часцей за ўсё самадзейныя складальнікі наследуюць не фальклорныя традыцыі, не традыцыі народнай песні, а выкарыстоўваюць узоры папулярных масавых песень, новых твораў прафесіянальных майстроў. Гэта зразумела, таму што якраз прафесіянальная творчасць давала найбольш прымальныя ўзоры для выражэння ідэй, думак, вобразаў, выкліканых да жыцця новай рэчаіснасцю.

Самымі шматлікімі ў творчасці даваенных пяцігодак з'яўляюцца песні аб шчаслівым калгасным жыцці, песні аб працаўніках палёў, аб працы на разняволенай зямлі. Аб'яднаныя ў адну вялікую групу агульнай тэмай — тэмай калгаснага жыцця, яны вельмі разнастайныя па зместу, бо кожная з песень адлюстроўвае новы бок жыцця народа. Сюжэтная разнастайнасць абумовіла разнастайнасць мастацкую, разнастайнасць у стылі, рытміцы, своеасаблівасці меладычнага ладу песень. Частка з іх цесна звязана з традыцыйнай песняй і з'яўляецца часам пераробкай абрадавай песні (што можна заўважыць на групе песень жніўных), другія больш паслядоўна наследуюць традыцыі дарэвалюцыйнай лірычнай песні, трэція з'яўляюцца ўзорам зусім новай, характэрнай для данага часу песеннай формы, якая хутчэй прымыкае да масавай савецкай песні, да паэзіі прафесіянальнай, іншыя наследуюць традыцыі беларускай рэвалюцыйнай песні.

Стварэнне калгасаў у краіне суправаджалася класавымі сутыкненнямі, адносіны розных колаў насельніцтва да новай з'явы былі неаднолькавымі. Кулацкае супраціўленне новым формам жыцця ў сельскай гаспадарцы прыводзіла часам да трагічных вынікаў: знішчэння грамадскай маёмасці, забойства сельскіх актывістаў і г. д. Усё гэта ўскладняла працэс калектывізацыі, перашкаджала паспяховаму правядзенню яе.

Ворагі народа стараліся выкарыстаць і мастацкае слова. Сваю нянавісць да новых форм жыцця яны выказвалі ў антысавецкіх частушках, прыказках

і прымаўках. Але з перамогай новага ладу такія праяўленні варожасці ў творчасці хутка знікалі.

У свой час не былі запісаны творы, якія б адлюстравалі гэты напружаны перыяд, барацьбу з варожымі сіламі ў час калектывізацыі, як гэта адбілася ў народных сказах. У песнях бачым толькі водгукі той барацьбы і апісанне яе вынікаў. Такой з'яўляецца песня «І калгасы мы стварылі...», запісаная ў 1937 г. у калгасе «Ударнік» Мазырскага р-на. Песня пачынаецца з канстатацыі факта разгрому кулакоў, якія ставяцца ў адзін рад з панамі, змеценымі з твару нашай зямлі яшчэ рэвалюцыяй:

Кулакоў, паноў з маёнткаў
Рэвалюцыяй змялі.
І калгасы мы стварылі
На дзяржаўнай на зямлі.

Другая страфа песні расказвае аб перадачы зямлі сялянам у вечнае карыстанне, зацверджанае дзяржаўным дэкрэтам.

У сціслай, амаль пратакольнай форме песні адлюстраваны важнейшыя падзеі ў жыцці сялянства, якія з'яўляюцца здзяйсненнем яго спрадвечнай мары — быць гаспадаром сваёй зямлі.

З мастацкага боку песня не вылучаецца прывычнымі кампанентамі: ні паэтычных троп, ні параўнанняў, нават эпітэтаў не знаходзім у ёй. Хутчэй за ўсё гэта адна з першых спроб асвоіць новыя з'явы рэчаіснасці. Але несумненнай з'яўляецца яе сувязь з палітычным жыццём, яе грамадзянскі запал.

Характэрнай рысай многіх песень аб перамозе калгаснага ладу з'яўляецца тое, што новыя дасягненні адцяняюцца паказам беспрасветнага мінулага. Прыём кантрасту, прыём супрацьпастаўлення сучаснага мінуламу ў песнях «Люд наш беларускі», «Як на нашым на Палессі», «А у полі, полі пры зялёным гаі» і іншых дазволіў выразна падкрэсліць думку, што новы лад — адзіна справядлівы і жаданы для народа.

Песня «А у полі, полі пры зялёным гаі» па сваёй форме блізкая да старой лірычнай песні. Пачынаецца яна тыповым для народнай песнятворчасці паралелізмам з традыцыйнымі вобразамі зялёнага гаю, салаўя, крыніцы. На гэтым фоне праўдзіва паказаны лёс жанчыны, якая ўсё жыццё працавала на чужым полі, «серп з рук не кідала, а век галадала». Песня дае рэалістычнае апісанне гаротнага жыцця сялян, іх залежнасці ад пана і папа:

Пагляджу на дзетак, а ім есці трэба,
Пабягу у царкву прасіць ў папа хлеба,
А той дасць паўпуда, кажа — адпрацуеш;
Гнешся зноў на полі, і так век гаруеш.

У песні створан яркі вобраз поля, якое раней несла працаўніцы пакуты, знясільвала цяжкай працай. Адчуванне безвыходнасці становішча сялян да-

сягаецца ўжываннем дзеясловаў з блізкім значэннем, якія паступова нарошчваюцца, згушчаюць фарбы, даводзячы да кульмінацыі агульны малюнак: «...з году ў год гібела, сохла, гаравала... жыла, бедавала». І толькі адзін апошні радок раскрывае сутнасць вялікіх змен.

Падрабязнае апісанне мінулага падпарадкавана пэўнай мэце: ярчэй падкрэсліць, што значыць у жыцці вёскі «воля, праўда», якую спрадвеку і безвынікова шукалі героі казак, да якой імкнуліся прыгнечаныя працоўныя ў сваіх песнях, поўных тугі і надзеі.

Такі ж прыём супрацьпастаўлення выкарыстан і ў песні «Як на нашым на Палессі». Яе ідэйны змест таксама ў паказе шчасця новага жыцця. Гэта дасягаецца вельмі ўдала знойдзеным параўнаннем. У пачатку песні — паказчык ранейшага жыцця:

Нават бульбы з года ў год
Ў нас тут не вялося.

Заключныя радкі гучаць кантрастна да пачатку песні:

Цяпер хлеба з года ў год
Ўдоваль ўсе мы маем.

Традыцыйныя вобразы сонца як сімвала новага жыцця, трона як абаронцы багацеяў, асацыяцыя трона з царызмам дазваляюць у некалькіх радках паказаць сацыяльныя змены ў краіне:

А як знішчылі мы трон,
Багачоў-памешчыкаў,
Засвяціла сонца нам —
Жыхарам Палесся.

Названыя песні сцвярджаюць, што калгасны шлях — адзіна правільны для сялянства. Але яны яшчэ не паказваюць таго, чаго дасягнула вёска, уступіўшы на гэты шлях. Магчыма, гэта былі адны з першых твораў перыяду калектывізацыі. Канчатковая перамога калгаснага ладу дала песеннай творчасці новыя тэмы. Песні «Ніва калектыўная», «З глыбокае крынічанькі», «На калгасных шырокіх палях» і іншыя малююць тыя здабыткі, дасягненні, якія атрымала вёска.

Гэтыя песні вызначаюцца гарачым патрыятызмам. Яны поўны гонару за Савецкую Радзіму, якая стала крыніцай сапраўднага шчасця, светлай долі працоўных. Песні напісаны ў светлых, жыццесцвярджальных танах, прасякнуты пачуццём радасці, шчырасці, глыбокім лірызмам.

Родная зямля стала сапраўднаю маці, якая памнажае багацце людзей, знікла поле-пракляцце, і на яго месцы расквітнела калектыўная ніва:

Ніва, нівачка мая,
Наша ты — нам вечная,
Урадлівая зямля —
Гордасць чалавечая.

Добра апрацаваная машынамі калгасная ніва «на дзіва» пакрываецца рунямі, дорыць людзям рэкордны ўраджай. Упершыню героем твораў становіцца калектыў, якому пад сілу здзяйсненне вялікіх задач.

З песенных жанраў, якія паэтызуюць працу чалавека, паказваюць яго імкненне да свабоднай працоўнай дзейнасці, вылучаюцца жніўныя песні.

У савецкі час абрадавыя жніўныя песні працягваюць сваё бытаванне. Але неадпаведнасць зместу гэтых песень новаму ладу жыцця настойліва патрабавала новых песень, якія б адлюстроўвалі радасць свабоднай працы. Побач са стварэннем зусім новай паэзіі ішоў, як і ў гады грамадзянскай вайны, працэс перапрацоўкі спадчыны, прыстасавання яе да новых умоў.

Так, некаторыя дажынкавыя песні ў выніку нязначнай перапрацоўкі, замены слоў і асобных радкоў атрымалі новае жыццё, загучалі на новы лад. У іх з'явіліся вобразы старшыні, брыгадзіра, паказ багатага калгаснага гумна, калгаснага поля. Жніўныя песні ідэйна ўзбагаціліся. У іх выражаецца не толькі радасць з прычыны новага ўраджаю, але і радасць калектыўнай працы. Яны — сведчанне новых адносін да працы, новых адносін паміж сялянамі ў працэсе працы і г. д.

Новыя жніўныя песні, складзеныя ў савецкі час, ужо адыходзяць ад форм старой працяжнай песні, хаця часткова традыцыі захоўваюць. У некаторых песнях захоўваецца паралелізм у зачыне, напрыклад у жніўнай песні «А над ракою»:

А над ракою сарокі шчакочуць,
А за ракою трактар грукочыць.

Той жа прыём і ў другой песні:

А ў саду вясною ранняй
Вецер голлі стаў гайдаць,
Мы, брыгада маладая,
Выйшлі ў поле працаваць.

Але паралелізм у гэтых творах носіць хутчэй фармальны характар, паралелізм па знешняму прызнаку, які не ўплывае на раскрыццё зместу. У традыцыйнай творчасці паралелізм нёс пэўную ідэйную нагрузку, станавіўся сімвалам і таму ўжываўся ў цэлым радзе песень адной тэматыкі. У новых песнях сустракаюцца асобныя радкі, блізкія да традыцыйных:

Ён гонар маець — ураджай шчытаець.
Куды пахінецца — аж засмяецца.

Наследаванне традыцыям адчуваецца ў захаванні духу песень, у поглядах на працу і працаўнікоў. Адносіны да працы як да святога абавязку чалавека, павага да сумленных працаўнікоў, гонар за іх, любоўнае стаўленне да вынікаў сваёй працы, замілаванне перад роднай зямлёй, яе прыродаю ставяць новыя песні ў адзін шэраг з лепшымі ўзорамі песеннай творчасці мінулага.

Наватарства ж праяўляецца ў паглыбленні тэматыкі, у паказе становішча ў грамадстве чалавека працы. У самім змесце нярэдка жніво толькі ўпамінаецца, з'яўляючыся штуршком для выяўлення лірычных пачуццяў, апісання светлага жыцця. Завершанасць песенных строф, рытмічная выразнасць збліжаюць песні з прафесіянальнымі творамі.

Многія сучасныя працоўныя песні прысвечаны паказу самога працэсу працы на калгасным полі. Гэта глыбока лірычнае апісанне, дзе ўсё даецца ў праламленні праз пачуцці чалавека. Бязмерная радасць, якую прыносіць разняволеная свабодная праца, выліваецца ў паэтычныя радкі. У сведкі гэтай радасці заклікаецца сама прырода:

Буйну радасць прывіталі
Аўсы, жыта на палёх.

Амаль ва ўсіх такіх творах ёсць хоць кароткія ўспаміны аб ранейшым пакутлівым жыцці, што дазваляе ярчэй адцаніць радасць, шчасце сённяшняга дня. Такія экскурсы ў мінулае знаходзім у песнях «За гарою, ля крыніцы», «А у полі, полі мы спяваем», «Эх ты, лён наш, лён кудравы» і інш.

Песня «А у полі, полі мы спяваем» цікава тым, што яна цесна звязана з традыцыяй і ў той жа час нясе новыя элементы. Гэта твор апавядальнага характару, наколькі можна дапасаваць такі тэрмін да песні. У ёй паслядоўна праследжваецца працоўны сялянскі дзень і ў той жа час робяцца вялікія абагульненні, жыццё савецкай вёскі звязваецца з жыццём і інтарэсамі ўсіх працоўных зямлі. Апісанне працы жней, якія ўслед за машынамі вяжуць снапы, уводзіць у атмасферу радаснага жыцця, дзе разняволены чалавек у поўны голас пяе аб сваіх дасягненнях, пяе так, што песню чуюць ва ўсім свеце. У песні гучыць упэўненасць, што ворагам не вярнуць былога панавання, ім застаецца толькі пачэсваць тлустыя каркі. Народ надае вялікую агітацыйную сілу песні аб сваім жыцці, аб роднай краіне. Такая песня здольна абудзіць заняволеных і павесці іх за сабой:

— Гэй ты, песня, кацiся за мора,
Ўскалыхні ўсю зямлю, ўсе прасторы,
Абыйдзі ўсе даліны і горы,
Запалі ты ў свеце ўсе зоры.

У свой час Янка Купала ў вершы «А хто там ідзе?» выказаў гарачае імкненне беларуса дабіцца такога становішча, каб ён мог сябе чалавекам

называць. У народнай песні савецкага часу беларус не толькі ўсведамляе сябе чалавекам, не толькі ганарыцца гэтым, але адчувае сваю моц. Ён стаў сапраўдным і адзіным гаспадаром сваёй зямлі, сваёй краіны, славу якой мацуе згуртаваная сіла мільёнаў:

Мы бадзёрыя людзі і моцны,
Мы адважныя, нас — мільёны;
Мы стаханаўцы,— загартаваны
На зямлі, нам навечна аддана́й.
(*«А у полі, полі мы спяваем»*).

Песня насычана традыцыйнымі вобразамі: «залатыя снапочкі вяжам», «на нас сонца з-за хмар пазірае» і г. д. Разам з новымі з'явамі ў творы прыходзіць новая лексіка, узбагачаецца палітра мастацкіх сродкаў. Для азначэння працы пастаянным становіцца эпітэт *радасная;* у песню стала ўваходзяць эпітэты *бадзёрыя, моцныя* людзі, *загартаваныя* стаханаўцы. У песні знаходзім этнаграфічныя замалёўкі, апісанне адпачынку калгаснікаў пасля працы, якія сведчаць аб вялікіх зменах у быце сялян:

У двор прыйдзем, спачнем, пагуляем,
Патанцуем, газет пачытаем,
А назаўтра з вясёлым настроем
Зноў на працу мы ўсе выйдзем строем.

У 1935 г. была запісана ў Лёзненскім р-не Віцебскай вобл. касарская песня «Эй, рэж, каса, рэж!» Песня складаецца з трох строф, пасля кожнай паўтараецца рэфрэн

Эй, рэж, каса, рэж, рэж,
Мы не ведаем меж, меж!..

І строфы, і рэфрэн пабудаваны ў адпаведнасці з прызначэннем песні.

Хаця песня выконвалася, як і жніўныя, пасля самой касьбы, а не ў час працы, але ў ёй мы знаходзім мастацкую перадачу гэтага працэсу. Кожная рытмічная адзінка як бы адпавядае ўзмаху касы. Гэта абумовіла мернарытмічную форму твора, радкі песні энергічна завяршаюцца, перадаючы дынаміку працы. У песні няма квяцістасці, ідэя выказваецца гранічна ясна і лаканічна і заключаецца ў праслаўленні калектыўнай агульнай працы, у выяўленні пачуццяў сапраўднага гаспадара неабсяжных прастораў. Не выпадкова галоўная думка песні настойліва паўтараецца пасля кожнай страфы як рэфрэн.

Новая тэматыка высунула і новых герояў. Стаханаўцы, механізатары, трактарысты, перадавікі калгаснай вытворчасці становяцца ў цэнтры ўвагі песеннай творчасці. «Песня трактарыста», «Як стаханаўкай я стала», «Дзень

стаіць пагодны» і іншыя творы расказваюць аб тэхнічным пераўзбраенні вёскі, аб людзях новых спецыяльнасцей.

Амаль усе песні аб працы, аб сацыяльных зменах у жыцці, аб рысах гэтага новага жыцця ў той ці іншай ступені раскрываюць лёс жанчыны, апавядаюць аб яе становішчы ў грамадстве, удзеле ў культурным жыцці, аб яе ролі ў сям'і.

У дарэвалюцыйным фальклоры вобраз жанчыны раскрыўся ў песнях, прысвечаных галоўным чынам яе сямейнаму жыццю, і ў сувязі з гэтым тэматыка песень абмяжоўвалася пэўным кругам пытанняў. У савецкай песнятворчасці вобраз жанчыны набывае новыя рысы, і творы, прысвечаныя ёй, адрозніваюцца большай тэматычнай разнастайнасцю і ідэйным адзінствам.

Складальнікаў і выканаўцаў фальклорных твораў хвалюе зараз духоўны рост жанчыны, яе становішча як грамадзяніна, раўнапраўнага будаўніка новага жыцця, удзельніка ўсіх мерапрыемстваў гаспадарчага і палітычнага характару. Можа, таму часцей можна сустрэць у даваенных творах вобраз жанчыны-стаханаўкі, старшыні калгаса, трактарысткі, чым лірычны вобраз каханай, бо гэта дае магчымасць падкрэсліць новае ў лёсе жанчыны.

«Песня калгасніцы», «Расцвіла калгасная зямля», «Голас наш цяпер не за печкаю» і іншыя творы паказваюць жанчыну-калгасніцу, працаўніцу, шчаслівага чалавека.

Цікавая песня «Чаму, вішанька, ты хілая была?» (або проста «Вішанька»), якая з'яўляецца прыкладам вельмі тонкага, умелага выкарыстання традыцый старой, дарэвалюцыйнай песні і прыстасавання іх да новых ідэйных і сюжэтных задач.

Форма дыялогу, у якой напісана песня, характэрна для вясельнай і лірычнай беларускай паэзіі. Таксама не новым з'яўляецца разгорнуты паралелізм у пачатку песні (пачынаецца зваротам да вішанькі, другая частка песні — размова з дзяўчынай). Традыцыя абмяжоўваецца выкарыстаннем прыёмаў мастацкага адлюстравання сапраўднасці. Змест твора, яго тон зусім новага характару, які нічога агульнага не мае са старым, дарэвалюцыйным. У традыцыйных песнях зварот да прыроды, аналогія з ёю ўзмацнялі сумны, элегічны настрой, бо звычайна пасля ўступу расказвалася або аб бязрадасным сямейным жыцці жанчыны, або аб катаржнай салдацкай службе ці ўходзе ў салдаты, або аб расставанні з родным домам, службе ў найме. Неўладкаванасць у сацыяльным і сямейным жыцці не магла даць іншых сюжэтаў. У песеннай творчасці савецкага часу прынцып лагічнага паралелізму выкарыстоўваецца ў іншым плане. На працягу твора адбываецца нарастанне дзеяння, зачын носіць характар не толькі прывычнага традыцыйнага пачатку песні, але і з'яўляецца сродкам раскрыцця ідэі.

Дарэчы, у форме дыялогу пабудавана і цудоўная народная песня «Ці багат ты, зяцюхна» з галоўным героем калгаснікам. Яна сведчыць аб узрослай

свядомасці селяніна, для якога агульнае, калгаснае неаддзяліма ад свайго, асабістага. Малады калгаснік, пералічыўшы багацці калгаса, заключае:

Усё гэта калгаснае,
Усё маё!

Любоўная лірыка таксама цесна звязана з тэмай працы. Жыццярадасная, аптымістычная, яна апявае пачуцці людзей, у якіх на шляху да шчасця больш не стаяць сацыяльная няроўнасць, беднасць, злая воля бацькоў або ўгон міілага ў салдаты. Сум у разлуцы з каханым, перажыванні з-за неразздзеленага пачуцця будуць мець месца ў песнях незалежна ад часу іх узнікнення. Любоўныя песні, як і наогул творы даваеннага перыяду, акцэнтуюць увагу на новых з'явах, на новым становішчы моладзі.

Вабіць сваёй задушэўнасцю лірычная песня «Вечарком за рэчкаю». Гэта паэтычны ўспамін маладой дзяўчыны аб каханым, сум аб ім. Шчырыя, простыя словы песні ствараюць атмасферу чысціні, паказваюць глыбіню кахання дзяўчыны:

Мілага, прыгожага
Успамінаю я,
Пра яго і складзена
Песенька мая.

Дзяўчына ўпэўнена ў пачуцці свайго мілага, ён шле ёй лісты, як і абяцаў пры развітанні, ён вернецца ў вёску, узброены новымі ведамі. Хоць і цяжка быць у разлуцы, у горад ён паехаў, каб вучыцца на рабфаку (у пазнейшым варыянце ў інстытуце).

Песня вельмі задушэўная, цёплая, дасканалая па кампазіцыі. У адрозненне ад іншых яна больш працяжная, напеўная, хутчэй мінорная, хоць і выкарыстоўвае мажорныя інтанацыі.

Такім чынам, песенная творчасць даваеннага часу вельмі разнастайная ў тэматычных адносінах. Гэта разнастайнасць і дала падставы разглядаць яе па тэматычных групах. З боку мастацкіх асаблівасцей песні розных тэматычных груп вельмі блізкія паміж сабой. Можна гаварыць аб узнікненні песеннай творчасці, новай не толькі па зместу, але і па мастацкаму яго ўвасабленню. Выкарыстоўваючы традыцыі дакастрычніцкай песні, новая творчасць развіваецца па шляху збліжэння з масавай савецкай песняй, з песняй аўтарскай.

Працэс збліжэння песеннай творчасці з літаратурай, які быў характэрны ўжо для перыяду грамадзянскай вайны, яшчэ болей вызначыўся ў наступныя гады.

З свайго боку, паэты-песеннікі пастаянна звярталіся да народнай паэзіі, імкнуліся наблізіць сваю творчасць да народнай, зрабіць яе блізкай і зразумелай самым шырокім масам. Песенная творчасць, якая ўзнікала ў на-

родным асяроддзі, знаходзілася пад уплывам новай прафесіянальнай паэзіі. Народная песня ўяўляе сабой новы этап не толькі ў ідэйным змесце і тэматыцы. Змены закранулі настрой твораў, сам паэтычны строй песні. Замест працяжнай песні з павольным разгортваннем дзеяння нараджаюцца жыццярадасныя творы з рухавым рытмам, дзе часта, як і ў аўтарскіх песнях, пасля кожнай страфы даецца энергічны прыпеў. Абавязковай становіцца рыфма.

Савецкая песня стварае вобразы свабоднай, разняволенай Радзімы, свядомага чалавека-працаўніка, які стаў гаспадаром сваёй зямлі, свайго лёсу.

Усё гэта выклікала змяненні паэтычнай мовы твораў, напаўненне песень новай лексікай выклікала ўзбагачэнне і пераасэнсаванне сродкаў выразнасці. Некаторыя традыцыйныя асаблівасці старых песень, галоўным чынам паралелізм, захоўваюць больш фармальнае значэнне, амаль знікае сімволіка. Далучэнне мас да прафесіянальнага мастацтва ішло і шляхам папаўнення іх рэпертуару лепшымі творамі савецкіх паэтаў і кампазітараў.

*

Непаўторнай і своеасаблівай з'яўляецца песенная творчасць Вялікай Айчыннай вайны. У гэты перыяд назіраецца ўздым фальклорнай творчасці ў розных яе жанрах, што тлумачыцца рэальнымі абставінамі, тымі ўмовамі, у якіх жыў народ і змагаўся з ворагам. Савецкая Беларусь адной з першых прыняла ўдар фашысцкіх полчышч. Вераломны напад узброеных сіл нямецка-фашысцкіх захопнікаў беларускі народ сустрэў гераічнай, мужнай барацьбой. Немагчыма было скарыць народ, які зведаў свабоду і шчасце. Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці назаўсёды ўвайшла ў летапіс Вялікай Айчыннай вайны як адна з слаўных старонак гісторыі. Беларусь часова аказалася пад уладай акупантаў. Немцы імкнуліся ўстанавіць на захопленай тэрыторыі «новы парадак», які нёс смерць, няволю, голад, разбурэнне. З першых дзён вайны ў Беларусі пачалі дзейнічаць партызанскія атрады. Яны не давалі ворагу спакою ні днём, ні ноччу, паралізавалі яго дзейнасць. Ляцелі ў паветра нямецкія склады і штабы, узрываліся чыгуначныя шляхі, па савецкіх законах судзілі і каралі партызаны здраднікаў і ворагаў. Нават цэлыя нямецкія падраздзяленні баяліся набліжацца не толькі да лясоў, але і многіх населеных пунктаў.

Партызанскія атрады і злучэнні трымалі сувязь з Масквою, атрымлівалі адтуль звесткі, якія распаўсюджвалі сярод насельніцтва. У многіх атрадах выдаваліся газеты, рукапісныя часопісы, лістоўкі. Верным спадарожнікам партызан былі песня, мастацкае слова, верш, гумарэска і г. д.

Але творчасць ваенных год не абмяжоўвалася толькі партызанскай тэматыкай і партызанскім асяроддзем. На часова акупіраванай ворагам зямлі жылі і змагаліся сотні тысяч сумленных грамадзян. Сярод іх бытавалі і партызанскія творы, і песні аб жахах акупацыі, распаўсюджваліся таксама

творы, якія прыходзілі з «Вялікай зямлі». Цікавую і вельмі важную частку складаюць таксама песні паланянак.

Абставіны жыцця стварылі такія ўмовы, што мастацкая творчасць народа набывала рысы, уласцівыя фальклору. Адарванасць ад усёй краіны, вельмі абмежаваная магчымасць карыстацца здабыткамі прафесіянальнага мастацтва выклікалі адпаведныя формы, у якія вылівалася спрадвечнае імкненне чалавека выказаць у мастацтве свае пачуцці, думкі і надзеі. Не заўсёды новыя творы можна было надрукаваць, ды і ўмовы канспірацыі часта не дазвалялі аўтару абнародаваць сваё імя. Таму творы гэтыя часцей за ўсё бытавалі ананімна, перадаваліся вусна, вар'іраваліся, змяняліся ў працэсе бытавання. Адбываўся тыповы для фальклору працэс. Іншы раз аўтарская першааснова змянялася ў працэсе калектыўнай апрацоўкі настолькі, што атрымліваўся зусім новы твор.

Развіццё песеннай творчасці ішло па розных напрамках. З першых дзён вайны з'явілася шмат аўтарскіх песень (савецкіх паэтаў і кампазітараў), якія хутка абляцелі ўсю краіну і бытавалі ў розных яе кутках. Яны былі вядомы і вельмі папулярны і ў Беларусі, усялялі веру ў перамогу. Гэта «Священная война», «22 июня», «Прощай, любимый город», «Синенький скромный платочек» і шмат іншых. Яны бытавалі і ў сваім першапачатковым варыянце, і ў шматлікіх народных перапрацоўках. Беларусь-партызанка ўзяла на ўзбраенне і творы сваіх родных сыноў—беларускіх паэтаў Я. Купалы, П. Глебкі, М. Танка, А. Астрэйкі і інш. Гэта песні «Не шкадуйце, хлопцы, пораху!» на словы М. Танка, «Каб жыць на свабодзе па-людску» і «У лесе, на імшыстай палянцы» на словы А. Астрэйкі, «Над Бярозай-ракой» на словы П. Глебкі. Песні на словы беларускіх паэтаў часта бытавалі амаль без змен, у другіх выпадках змяняліся асобныя радкі, радзей строфы. Адным словам, песні прыстасоўваліся да канкрэтных мясцовых падзей.

У асобную групу можна аднесці песні, якія складзены ў наследаванне вядомых песень беларускіх і рускіх аўтараў. Яны выкарыстоўваюць часта рытмічную аснову, мелодыю ўжо вядомага твора, строфіку, захоўваюць ідэйную накіраванасць першаасновы. Але сам тэкст песні — гэта новы твор, арыгінальны, які ўзнік як водгук на тагачасныя падзеі. Як на прыклад, можна спаслацца на песню «Праважала сына маці», складзеную на аснове верша Я. Купалы «Выпраўляла маці сына».

Асабліва часта асновай для новых твораў былі масавыя савецкія песні, песні грамадзянскай вайны.

Вядомы многія песні на матыў «Конармейскай», «Па знаёмай дарозе», «Па далінах і па ўзгор'ях», «Кахоўкі», «Партызана Жалезняка», «Кацюшы» ў розных варыянтах і інш.

Вялікай папулярнасцю карысталася таксама народная перапрацоўка верша Я. Купалы «Над ракою ў спакою». Яна запісана ў многіх раёнах Беларусі.

Вялікую групу складаюць старыя песні, якія атрымалі ў час вайны новае жыццё. Многія з іх па свайму зместу былі такія блізкія да тагачасных падзей, што бытавалі сярод партызан і іншых колаў насельніцтва амаль без змен. Старыя салдацкія песні часоў першай сусветнай вайны, усім сваім зместам накіраваныя супраць «урага германца», аказаліся сугучнымі новаму часу, калі ішла барацьба супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Такімі ж сугучнымі часу былі салдацкія і рэкруцкія песні «Ой, з-пад лесу, ой, з-пад гаю», «У полі пшаніца, пшанічанька яра», «Ой, там за гарою» і інш.

Сярод паланянак, вывезеных на нямецкую катаргу беларускіх дзяўчат, часта гучалі сумныя песні аб горкай долі жанчыны на чужыне, традыцыйныя песні аб долі-нядолі. Напрыклад, песня «Каліна-маліна» ўяўляе сабой узор апрацоўкі старой народнай песні. Збліжаецца яна і са старымі рэкруцкімі песнямі (першыя чатыры страфы), і з песнямі аб жаночай долі. Перапрацоўкай старой лірычнай песні з'яўляецца і «Забрукуй, сівы галубочак», якую спявалі жыхары часова акупіраванай тэрыторыі і паланянкі. Сярод паланянак бытавалі апрацоўкі рускіх народных песень, песень катаргі і ссылкі. Як на прыклады, можна спаслацца на песні «Глухой неведомой тайгою», «Что стоишь, качаясь?..», «Раскинулись горы далеко» і інш.

Такім чынам, па свайму паходжанню песні перыяду Вялікай Айчыннай вайны былі самыя разнастайныя: песні прафесіянальных паэтаў; творы, складзеныя ў наследаванне песень савецкіх паэтаў і кампазітараў; народныя перапрацоўкі песень грамадзянскай вайны і масавых савецкіх песень; перапрацоўкі старой традыцыйнай рускай і беларускай песні і, нарэшце, створаныя асобнымі аўтарамі і калектывамі арыгінальныя песні, якія складаліся і бытавалі па ўсіх законах народнай творчасці. Можна зазначыць, што песні ўсіх гэтых груп, як правіла, праходзілі шлях фалькларызацыі, і з поўным правам іх можна лічыць здабыткам народнай творчасці.

У жанравых адносінах песенная творчасць перыяду вайны была таксама вельмі разнастайная. Наўрад ці можна назваць іншы перыяд у жыцці нашага народа, калі б было створана так многа песень самага рознага характару. Тут і маршы атрадаў і партызанскіх брыгад «Ніколі не згіне ад лютых пажараў», «Каля лесу, з-пад ракі», або «Пінская партызанская», «Мы клятву давалі» і інш., і паходныя песні «Па далінах і па ўзгор'ях», «Па знаёмай дарозе», «Над Бабруйскам ходзяць хмары», і лірычныя пра вернасць, каханне «Шчыра дзякую, дзяўчына», «Помню, помню тыя росы», і сатырычныя «Ой, не хадзі, фрыцу», «Было у Сымоніхі семера дачок».

Паходныя песні, маршы, па свайму характару творы агітацыйныя, гераічныя, якія заўсёды выконвалі функцыю арганізатара мас і заклікалі масы на выкананне пэўных задач, мелі вельмі вялікае значэнне з першых дзён вайны. Франтавыя маршы новага зместу, з палымянымі заклікамі і апісаннямі падзей пачалі паяўляцца бадай-што з першых дзён вайны. На службу часу

была пастаўлена савецкая маршавая, паходная песня прафесіянальных кампазітараў. Традыцыя маршавай песні ідзе ў глыбіню гісторыі. Нашаму народу не раз даводзілася паднімацца са зброяй у руках у паход на ворага. Паходная песня не толькі ўсяляла бадзёрасць, дысцыплінавала строй, але і згуртоўвала людзей, заклікала на подзвіг. З рэвалюцыйнымі гімнамі ішоў народ на штурм старога ладу. Часці Чырвонай Арміі мелі на ўзбраенні свае маршы, баявыя паходныя песні. З першых дзён вайны яскрава праявілася патрэба ў паходных песнях новага зместу, якія б адлюстроўвалі сучасныя падзеі і клікалі на барацьбу з канкрэтным ворагам. Узнікалі маршы асобных дывізій, палкоў, батальёнаў, рот. З узнікненнем партызанскіх атрадаў, брыгад паяўляюцца атрадныя і брыгадныя маршы. Партызанскія паходныя песні, якія бытавалі на тэрыторыі Беларусі, цесна звязаны з мясцовымі падзеямі і з'яўляюцца летапісам баявых дзеянняў беларускіх партызан, незалежна ад свайго паходжання і спосабу адлюстравання рэчаіснасці. Многія з іх маюць сваіх аўтараў, другія з'яўляюцца ператэкстоўкамі паходных песень грамадзянскай вайны. Некаторыя песні па свайму зместу выходзяць за рамкі дзейнасці канкрэтнага партызанскага атрада. Гэта творы, якія ў паэтычнай форме выражаюць аданасць савецкіх людзей Радзіме, глыбокую нянавісць да ворагаў, творы, поўныя заклікаў да барацьбы. Песня «Ніколі не згіне ад лютых пажараў», якая шырока бытавала сярод віцебскіх партызан, з'яўляецца заклікам да ўсяго народа, заклікам да кожнага:

У бой за Радзіму збірайся, таварыш,
Ідзі партызаніць у гай.

Герой яе — увесь народ, калектыў, «адважныя хлопцы», «лясныя салдаты», поўныя веры ў сваю перамогу. Побач з канкрэтнымі заклікамі ў песні багатая сімволіка, што збліжае яе з рэвалюцыйнымі гімнамі. Тут і навальніца баёў, што грымяць «у пушчах Палесся, на Нёмане й Сожы», і разгневаны гуд пушчы. Галоўная думка песні ўвасабляецца ў рытмічна акрэсленым прыпеве, дзе кожны радок нясе важную сэнсавую нагрузку:

На прускага ката!
За вёску і хату! —
Кліч помсты народнай заве.
Ідуць у атаку
Лясныя салдаты,
Грукочуць гранаты,
Крычаць аўтаматы:
Жыве Беларусь!
Жыве!

Іншыя паходныя песні, напрыклад ператэкстоўкі твораў «Па знаёмай дарозе», «Па далінах і па ўзгор'ях», «Над Бабруйскам ходзяць хмары», маюць

больш канкрэтны змест і расказваюць аб барацьбе партызанскіх атрадаў за асобныя населеныя пункты. Нягледзячы на мясцовы каларыт, які адбіўся ў песнях, асноўны іх змест — адлюстраванне пачуццяў усяго народа, яго рашучасці змагацца да перамогі. Галоўнае ў такіх творах — агульны парыў, адзінае для ўсіх імкненне разграміць ворага, вызваліць родную зямлю.

Аб подзвігах герояў, іх гібелі расказваюць песні ліра-эпічнага характару з разгорнутым сюжэтам, часам з дэталёвым апісаннем пэўнага бою. Подзвігу легендарных абаронцаў Брэсцкай крэпасці прысвечана песня «На сцены, пад знамя!» Песня мае пэўны сюжэт: у ёй апісваецца апошні бой абаронцаў крэпасці з ворагам, калі трынаццаць салдат, што засталіся жывымі з усяго гарнізона, мужна супрацьстаялі варожым танкам, самалётам. Песню прыслаў С. Смірнову былы ваеннапалонны П. Маркаў, які ўпершыню пачуў яе ў 1943 г. у лагеры ваеннапалонных у Кройцбургу. Песня ўзнімала дух, дапамагала пераносіць жахі фашысцкай катаргі. Вось як піша пра гэта П. Маркаў: «На мяне, тады страціўшага сілы ад цяжкіх ран і голаду, мужныя і простыя словы гэтай песні зрабілі глыбокае ўражанне... Яна гучала як гімн і адкрыццё, усяляла ў сэрцы змучаных нявольнікаў гордасць і надзею. Яе пелі ў цяжкія мінуты выпрабаванняў, не раз яна даносілася з глухіх гранітных шчылін-карцараў, дзе... фашысты мардавалі непакорных савецкіх людзей, якія не жадалі працаваць на ворага» [1].

Многія творы аб гібелі воіна на полі бою набліжаюцца да балад — «Балада аб партызанцы Галіне», шматлікія песні пра Заслонава і інш.

Цяжкія перажыванні, якія выпалі савецкім людзям у гады вайны, часам выліваліся ў песні, блізкія да традыцыйных галашэнняў. Найбольш яркім прыкладам спалучэння новай песні зусім новага сацыяльнага зместу з уласцівымі галашэнням матывамі, формуламі з'яўляецца песня «Партызанская». Цікавая гісторыя ўзнікнення песні. Як паведаміла наш карэспандэнт Т. А. Андрушкевіч [2], песню склала яна сама па расказу сына. Вярнуўшыся дадому, ён з болем паведаміў, як старая маці аплаквала гібель сына Мікалая Данілавіча Тура. За аснову Т. А. Андрушкевіч узяла шырока вядомую на Беларусі песню «На апушцы лесу». Захоўваючы размер, асобныя радкі, агульны змест, яна надала твору зусім іншы характар:

Што пад старым дубам партызан зарыт,
Над яго магілай маць ў слязах стаіць.
Яна горка плача, сыночка заве:
— На каго ж пакінуў на старасць мяне?
Прагоняць фашыстаў, прыдуць ўсіх сыны,
Толькі ты не ўстанеш із сырой зямлі.

---

[1] С. Смирнов. В поисках героев Брестской крепости. М., 1957, стр. 127—128.

[2] АІМЭФ, ф. 13, воп. 3, № 27.

Толькі ветры будуць ў лісцях гаманіць,
Што пад гэтым дубам партызан ляжыць.

Як і ў галашэннях, у творы робіцца экскурс у мінулае, успамінаецца, пры якіх абставінах загінуў баец. Далей песня набывае зусім іншы характар. Аўтар звяртаецца са словамі суцяшэння да забітай горам жанчыны. Апошнія радкі поўныя ўпэўненасці, што імя героя ніколі не забудзе народ, будзе ўспамінаць у сваіх расказах, захоўваць у сэрцы.

Лірычныя песні займаюць вялікае месца ў творчасці ваеннага перыяду. Гэта і песні аб пачуццях маладых людзей («Шчыра дзякую, дзяўчына», «Помню, помню тыя росы»), і песні аб барацьбе з ворагам у імя будучага шчасця («Ой, на лузе пры дубочку», «На камінку палаюць карчы») і інш.

Сярод лірычных песень вылучаюцца творы, дзе цэнтральным вобразам з'яўляецца дзяўчына-партызанка, сувязная, медыцынская сястра. Яна дапамагае воіну ў яго цяжкай барацьбе, змагаецца побач з ім, з'яўляецца актыўным барацьбітом («Шчыра дзякую, дзяўчына», «На камінку палаюць карчы» і інш.).

Песня «Ой, на лузе пры дубочку» стварае вобраз мужнай жанчыны, для якой вызваленне Радзімы даражэй за ўсё. Як і сотні савецкіх жанчын, яна са зброяй у руках ідзе змагацца з ворагам. Пакідаючы старой маці малое дзіця, яна суцяшае матулю, выказвае непахісную ўпэўненасць у перамозе:

Пусці, маці, ты не бойся,
Біці немцаў ўдваіх з мілым
Паклянёмся.
Біці немцаў паклянёмся,
З перамогай к сваім дзеткам
Мы вярнёмся.

Асобае месца займаюць песні паланянак. Яны не толькі малююць цяжкае жыццё і працу заняволеных дзяўчат. Гэта песні аб мужнасці, няскоранасці, чалавечай годнасці жанчыны, якую не можа прымусіць сагнуцца ніякі фашысцкі здзек.

Беларускія песні пра паланянак працягваюць традыцыі дарэвалюцыйнай творчасці, тых твораў, дзе вобраз жанчыны набываў сацыяльнае гучанне. Як і гордая Бандароўна, гераіня песень ваенных год гатова хутчэй памерці, чым скарыцца ворагу:

У няволю гнаці хоча
Ліхадзей закляты,
Ды яму я не скаруся,
Лепей утаплюся.

Аб гэтым жа сведчаць песні — лісты на Радзіму, дзе дзяўчаты звяртаюцца да тых, хто застаўся ў родным краі, з заклікам ісці ў партызаны, каб адпомсціць фашыстам за загінуўшых на чужыне.

У час вайны папулярнымі былі песні — звароты да маці, да каханай, у якіх успаміналася мінулае шчаслівае жыццё і выказвалася надзея на сустрэчу пасля вайны. Мужны воін знаходзіць самыя цёплыя словы, каб суцешыць сваю старэнькую матулю, падтрымаць яе ў цяжкую хвіліну:

Не сумуй, дарагая матуля,
Што сыноў тваіх дома няма,
Нас мінула варожая куля,
І не страшна нам злая зіма.

Шмат твораў пабудавана ў форме звароту да савецкага салдата. Песні «Помню, помню тыя росы», «Ой, як цяжка у няволі» і іншыя прасякнуты жаданнем скорага вызвалення і з'яўляюцца наказам воіну абараніць Радзіму і вызваліць каханую дзяўчыну.

Часам своеасаблівую форму звароту набывалі песні, якія расказвалі аб злачынствах фашыстаў, іх жудасных расправах над мірным насельніцтвам. Гэты прыём дапамагаў ярчэй супрацьпаставіць былое, шчаслівае жыццё з тым, што зрабілі фашысты. Так, у песні «Прыстань, Прыстань, знаёмая вёска» палемічныя звароты да слухачоў, да жыхароў знішчанай ворагам вёскі дапамагаюць больш глыбока перадаць абурэнне, якое выклікалі злачынствы фашыстаў, выказаць нянавісць да ворага:

Дзе іх сэрца, фашысцкія гады,
Дзе душа іх, паганая кроў,
Каб дзяцей вырываць з рук у матак
І паліць на вачах у бацькоў?..

Заканчваецца песня заклікам да братоў-беларусаў паднімацца на адплату.

Аб жыцці на акупіраванай тэрыторыі і ў нямецкім палоне, аб жахах, пакутах людзей, зверствах фашыстаў расказваюць песні, якія маюць разгорнуты сюжэт і набліжаюцца да эпічных твораў. Песня «Ой, як цяжка у няволі» расказвае аб жыцці паланянак, гэтай жа тэме прысвечаны песні «Прайшла вясна, настала лета», «Тучы над лагерам сталі». Песня «А ў Алексінічах горка» (варыянт «Партызаны — мальцы бравыя») апавядае пра разгром партызанамі паліцэйскага гарнізона.

Шырока распаўсюджанымі былі песні сатырычныя, гумарыстычныя, песні-пародыі, якія вострым словам кляймілі здраднікаў-паліцэйскіх, фашысцкіх ваяк, нямецкае вярхоўнае камандаванне. На матыў «У нашым сяле свадзьба будзе» ў партызанскім атрадзе «За Савецкую Радзіму» на Барысаўшчыне была складзена песня «Ой, да, да нас едуць госці з Берліна...» У гэту ж ка-

тэгорыю песень уваходзяць «Ноч і змрок заслонаю садзіцца», «Ой, не хадзі, фрыцу», «Было у Сымоніхі семера дачок» і інш.

Такім чынам, тэматыка песеннай творчасці ваеннага перыяду была вельмі разнастайнай. Усе бакі жыцця партызан знайшлі адбітак у партызанскай песні. Баявыя аперацыі партызан, заклік да барацьбы з ворагам, песні пра мужных герояў, пра гібель героя на полі бою; песні пра жыццё паланянак, песні — заклікі да байцоў Савецкай Арміі аб дапамозе; песні, у якіх выражана вера ў хуткае вызваленне — вось няпоўны пералік песенных тэм таго часу. Усе яны пры сваёй тэматычнай шырыні і разнастайнасці аб'яднаны адной думкай, адной ідэяй. Іх яднае гарачая любоў да сваёй Радзімы, нянавісць да ворага, вера ў перамогу; усе яны былі зброяй у барацьбе за вызваленне роднага краю, роднага народа.

Песенная творчасць перыяду Вялікай Айчыннай вайны надоўга засталася ў сэрцы людзей, яна паказала наш народ у цяжкія дні, паказала яго веліч і непахіснасць, з'явілася адлюстраваннем пачуццяў і дум чалавека-змагара.

*

Для беларускага народа, як і для іншых народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы, фальклор да гэтага часу з'яўляецца адной з састаўных частак яго духоўнай культуры. Але відавочна і тое, што яго роля і значэнне ў жыцці людзей у пасляваенны перыяд значна змяніліся. Духоўнае аблічча нашага сучасніка не можа характарызаваць адзін толькі фальклор. Усеагульная пісьменнасць, адукаванасць прыводзяць да таго, што ўсё больш шырокім масам становяцца даступнымі розныя віды мастацтва, нацыянальная і сусветная літаратура; у быт насельніцтва нават аддаленых ад цэнтраў культуры месц увайшлі радыё, тэлебачанне, кіно, тэатр. Пераўвелічэнне ролі фальклору, думка аб тым, што ён па-ранейшаму з'яўляецца калі не адзінай, то амаль што ўсеахопнай формай праяўлення народнай творчай дзейнасці, прыводзіць да фальсіфікацыі, да таго, што ў вуснапаэтычную творчасць уключаецца ўсё, што створана непрафесіянальнымі аўтарамі і што не мае эстэтычнай каштоўнасці і не становіцца здабыткам шырокіх мас. Між тым народная творчасць, у першую чаргу песня, бытуе і зараз, развіваецца ў розных формах.

Усе з'явы сучаснай паэтычнай творчасці народа можна ўмоўна падзяліць на дзве групы. З'явы ўласна фальклорнага характару, куды можна аднесці асобныя песні, створаныя ў плыні фальклорных традыцый, калі можна так сказаць, па фальклорных канонах. Па сваіх мастацкіх асаблівасцях, па характару паходжання і спосабу бытавання яны мала чым адрозніваюцца ад класічнай фальклорнай спадчыны. У гэту ж групу можна ўключыць і творы традыцыйнага фальклору, якія актыўна бытуюць у народзе.

Гаворачы аб другой групе з'яў, мы маем на ўвазе індывідуальную самадзейную творчасць, якая ў той ці іншай ступені прайшла працэс фальклары-

зацыі. Гэта творчасць харавых калектываў, агітбрыгад, нават асобныя ўзоры прафесіянальнага мастацтва, якія па бытаванню набліжаюцца да фальклору.

Рэзкую мяжу паміж гэтымі групамі правесці нельга. Тут можа быць узаемапранікненне; узнікаюць нейкія прамежкавыя формы. Напрыклад, творчасць адных самадзейных кампазітараў па сутнасці сваёй і бытаванню бліжэй да фальклорных з'яў, чым другіх. Нават творы аднаго аўтара часам цяжка ўцісну ць у рамкі адной групы. Тым больш гэта датычыцца творчасці калектываў, такіх, напрыклад, як Азершчынскі хор.

У пасляваенны перыяд створана не так ужо многа новых песень, якія можна лічыць фальклорнымі. У рэпертуары працоўных па-ранейшаму вялікае месца займаюць песні традыцыйныя, песні перыяду Айчыннай вайны, творы савецкіх кампазітараў.

Народныя песні не абмінулі важнейшых падзей у жыцці краіны. Тэме перамогі нашага народа ў Айчыннай вайне, вяртання воінаў-пераможцаў на Радзіму прысвечана песня «Із далёкіх із краёў». Аднак галоўнымі становяцца тэмы Радзімы, мірнай стваральнай працы, аднаўлення роднай краіны.

Для песеннай творчасці пасляваеннага перыяду характэрна ўзмацненне лірычнай плыні, лірычнага пачатку ў творах рознай тэмы і рознага характару. Песні патрыятычнага характару, песні аб Радзіме, аб поспехах у будаўніцтве таксама набываюць больш задушэўнасці, цеплыні. Агульныя пачуцці перадаюцца праз лірычныя перажыванні аднаго героя, узмацняюцца пейзажнымі замалёўкамі, апісаннем прыгажосці роднага краю. У апошні час з'явілася шмат песень, прысвечаных асобным гарадам, вёскам, асобным мясцінам. У такіх творах родны куток становіцца сімвалам усёй краіны, Савецкай Радзімы.

Амаль усе творы ў той ці іншай ступені адлюстроўваюць працоўную дзейнасць савецкага чалавека. Вялікая група іх прысвечана ўслаўленню чалавека працы, непасрэднаму паказу яго подзвігаў і дасягненняў. Працягваючы традыцыі даваеннага песеннага фальклору, асобныя складальнікі і харавыя калектывы ствараюць песні аб свяце ўборкі ўраджаю, аб асваенні новых зямель. У пасляваеннай творчасці можна выдзеліць цэлы цыкл новых жніўных песень — «Радасць жней», «Ураджайная плясавая», «Ураджайная святочная», «Пара жаць» і інш. Гэта песні радасці, поўныя ўпэўненасці ў заўтрашнім дні:

Зжалі, ўбралі сваю ніву
І ідзём дахаты мы,
Знаем, будзем жыць шчасліва,
Як заўжды, багатымі.

Па-ранейшаму героем народных твораў застаецца працаўнік — трактарыст, камбайнер, спецыяліст-механізатар («Песня камбайнераў», «Трактарыст» і інш.). Нават у любоўнай песнятворчасці, у песнях аб каханні цесна

пераплятаецца лірычны пачатак з грамадзянскімі матывамі. Як прыклад можна прывесці песню «Ой, пайду я, выйду», у якой створан вобраз чараўніцы-калгасніцы, красы-дзяўчыны, пявунні і працаўніцы. Іншыя песні таксама расказваюць аб каханні маладых людзей, якія разам працуюць, мацуюць свой калгас, сваю Радзіму.

Вельмі папулярная сярод народа песня «Пайду, пайду, Ясю мілы» з'яўляецца найбольш удалым узорам любоўнай лірыкі, дзе тэма любві вырашаецца па-новаму. Радасць маладой дзяўчыны не толькі ў любві да харошага хлопца. Іх аб'ядноўвае таксама агульнасць інтарэсаў, праца на карысць калгаса, усяго народа. Гэта людзі аднаго светаўспрымання, светапогляду, выхаваныя савецкім часам. Тут зноў маем непадзельнае спалучэнне агульнага і асабістага. Гэта зусім новыя формы адносін паміж людзьмі, новыя нормы паводзін, заснаваныя на павазе да чалавека, роўнасці паміж людзьмі. Закаханыя абяцаюць адзін другому

Радасць папалам дзяліць,
Гора з хаты выганяць.

Жартоўная песня Азершчынскага хору «Дождж ідзе» высмейвае гультая, які сватаецца да лепшай працаўніцы вёскі, самай прыгожай і галасістай.

У пасляваенны перыяд павышаецца роля харавых калектываў як стваральнікаў новых песень. Хор вёскі Азершчына пад кіраўніцтвам Т. К. Лапацінай, Васілевіцкі хор, хор вёскі Вялікае Падлессе становяцца сапраўднымі асяродкамі песеннага складальніцтва са сваім індывідуальным тварам, творчым абліччам.

У 1948 г. на рэспубліканскім аглядзе ў сувязі з святкаваннем 30-годдзя БССР Васілевіцкі хор выканаў складзеную ў калектыве песню «Гэту песню мы самі складалі», якая прагучала як услаўленне светлага дня, што адстаяў народ «у суровых і цяжкіх баях». Тады ж заявіў аб сабе як аўтар Азершчынскі хор уласнай песняй «Калгаснае поле, як мора».

Песнятворчасць у азершчынцаў пачалася яшчэ ў даваенны перыяд. Хор па-свойму інтэрпрэтаваў бытаваўшыя беларускія песні, стварыў новыя варыянты вядомых мелодый. У пасляваенны перыяд кіраўнік хору Т. Лапаціна арыентуе калектыў на складанне сваіх песень. Кіраўнік хору сама з'яўляецца аўтарам тэксту песні «Нашае сяло», у аснову мелодыі якой лягла беларуская народная песня «Учора было лецейка». Паступова ў хоры склаўся свой творчы калектыў, творчае ядро з найбольш таленавітых яго удзельнікаў. З. Лапаціна, Д. Чычуга, З. Пацеенка, Р. Шумскі і іншыя стваралі паэтычны тэкст і напеў, але гэтым праца над песняй не абмяжоўвалася. У працэсе распеву песні хорам мянялася не толькі мелодыя, шліфаваўся і ўдасканальваўся паэтычны тэкст. Т. Лапаціна падкрэслівае ролю калектыву ў стварэнні песні: «Як словы, так і мелодыя заўсёды апрацоўваюцца ўсім калектывам. Думка кожна-

га ўлічваецца, але прымаецца варыянт, які спадабаўся большасці. Нашы песні мы правяраем на слухачах. Яны заўсёды падкажуць правільную думку»[1]. Штуршком, стымулам творчасці з'яўляецца само жыццё, грамадскія падзеі, жаданне адгукнуцца на іх.

Да 15-годдзя хору ўдзельнікі склалі велічальную песню «Юбілейная застольная». У ёй выказана крэда хору, адносіны калектыву да песні:

Мы вып'ем за творчы
Наш шлях пераможны,
За тое, што жыць мы
Без песні не можам,

Бо песня ад сэрца
Шчаслівага рвецца,
Бо песня самім жа
Жыццём ствараецца.

У рэпертуары хору складзеныя яго ўдзельнікамі песні «Дружна мы сям'-ёй рашылі», песня пра жніво «Кожны дзень, як толькі сонца устае», патрыятычная песня «Мір зямлі шчаслівай» і інш.

Дарэчы, і іншыя харавыя калектывы часцей за ўсё складаюць песні на «патрэбы дня». Там, дзе не паспявае прафесіянальнае мастацтва, творчыя калектывы абыходзяцца сваімі сіламі.

У многіх месцах Беларусі па ўзору прафесіянальных або ўдалых песень самадзейных кампазітараў ствараюцца мясцовыя лірычныя, напрыклад «Капыльская лірычная», «У нас, у Яроміне, свята», «Нясвіжская лірычная» і інш. Усё гэта творы аўтарскія, яны ў асноўным не зусім самастойныя, таму што выкарыстоўваюць вядомую мелодыю, да якой падбіраюцца іншыя словы. Песні такога характару становяцца пашыранымі ў пэўнай мясцовасці і па свайму бытаванню набліжаюцца да фальклорных. З народнымі іх збліжае часцей за ўсё манера выканання, імкненне выканаўцаў прыдаць ім напеўнасць, шырыню. Тут перакрыжоўваюцца традыцыі розных народаў, адчуваецца блізкасць да рускай і ўкраінскай песенных культур. Стаўшая шырока папулярнай у Беларусі «Рэчыцкая лірычная», якая выклікала масу мясцовых лірычных, несумненна, створана пад уплывам такіх рускіх песень, як «Грушыца», «Уральская рабінушка».

Хаця сучасная песенная творчасць, як правіла, індывідуальная, яна ў працэсе бытавання змяняецца, фальклярызуецца. Многія аўтарскія творы бытуюць у народзе безыменна, іх лічаць сваімі, мясцовымі, вядомымі ў пэўных мясцовасцях «здаўна». Часам даводзіцца запісваць песні як фальклорныя, а потым высвятляецца, што гэта твор прафесіянальнага або самадзей-

---

[1] И. Нисневич. Татьяна Лопатина. М., 1962, стр. 19.

нага аўтара. Напрыклад, песні на словы А. Русака «Верасы», «Ой, пайду я, выйду», П. Шыдлоўскага «Жніўная» і іншыя паўсямесна бытуюць як народныя. Нешта падобнае здарылася і з песняй на словы В. Вярбы «Ручнікі». Усе гэтыя творы, па сваёй манеры блізкія да народнай творчасці, шырока выкарыстоўваюць фальклорныя традыцыі. Тут не знешняя перайманьнасць, стылізацыя пад фальклор. Выкарыстанне традыцый праяўляецца ў ідэйным змесце, падборы герояў, паэтычнай структуры, у вернасці выпрацаванай народам мастацкай сістэме мыслення.

У гэтым сэнсе мы можам гаварыць аб уздзеянні калектыўных форм народнай творчасці на індывідуальную творчасць сучасных складальнікаў песень.

Не меншы ўплыў на сучасную песнятворчасць аказвае і літаратурная традыцыя, прафесіянальная песня. Многія песні, створаныя нават калектывамі (прыкладам можа служыць Азершчынскі хор) або асобнымі ўдзельнікамі калектываў і апрацаваныя ў хорах (напрыклад, песні П. Шыдлоўскага, А. Шыдлоўскага і інш.), уяўляюць сабой узоры творчасці вельмі блізкай да прафесіянальнай песні. З літаратурнай прафесіянальнай творчасцю іх збліжаюць абагульненасць мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, эмацыянальная насычанасць, кампазіцыйная пабудова, рытміка, рыфма. Характар сучаснай песнятворчасці і вызначаецца спалучэннем фальклорнай і літаратурнай традыцыі.

Такім чынам, у сучаснай беларускай песнятворчасці ўсё большае значэнне набывае індывідуальны пачатак, песня часцей за ўсё з'яўляецца вынікам дзейнасці асобных майстроў, а не цэлага калектыву безыменных аўтараў. Калектыўнасць праяўляецца ў шліфоўцы песні, яе распаўсюджанні, у выкананні і засваенні масамі, нарэшце, у складанні рэпертуару пэўнага асяроддзя. Новыя ўмовы нараджаюць новыя формы народнай творчасці, якія ўваходзяць у культурны быт народа, адпавядаюць яго сучасным поглядам і эстэтычным запатрабаванням.

*Г. Барташэвіч*

# МУЗЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ПЕСНІ

Адной з найбольш важных асаблівасцей развіцця сучаснай беларускай народнай музычнай творчасці з'яўляецца цесная сувязь яе з прафесіянальным мастацтвам. Узросшая культура працоўных мас, далучэнне іх да перадавых дасягненняў класічнага сусветнага і айчыннага мастацтва, нарэшце, стварэнне ў дзяржаўных маштабах шырокай сеткі разнастайных культурна-асветных установ — усё гэта аказала рашучы ўплыў на стылістычныя асаблівасці сучаснай народнай музыкі.

На змену ранейшай ізаляванасці фальклору, калі ён у пэўным сэнсе быў падобны да натуральнай гаспадаркі (самі стваралі — самі спажывалі), прыйшоў час самых непасрэдных кантактаў з сучаснай прафесіянальнай культурай. Праз шматлікія каналы, у першую чаргу праз выканаўчую самадзейнасць і радыё, хлынулі ў народныя масы новыя музычныя ўражанні, часам вельмі незвычайныя з пункту погляду традыцыйных уяўленняў. Выкарыстанне побач са звыклымі, выпрацаванымі раней прынцыпова новых форм і сродкаў музычнай выразнасці робіць сучаснае развіццё народнай песнятворчасці працэсам надзвычай складаным і шматпланавым.

Наўрад ці можна зараз гаварыць аб нейкім адзіным стылі беларускага музычнага народнага мастацтва. Побач з творамі, якія відавочна арыентуюцца на ўзоры прафесіянальных кампазіцый, з'яўляюцца песні, выкананыя ў традыцыйнай манеры, і манадычная працяжная песня, выкарыстоўваючы сродкі выразнасці старажытнага паходжання, гучыць поруч з чатырохгалосым хорам акордавага складу. Але асабліва характэрны для сучаснага стылю разнастайныя ўзаемапераходныя формы, якія спалучаюць у рознай прапорцыі і традыцыйныя сродкі меладызму, і мастацка-вобразны арсенал савецкай масавай песні.

Другой важнай, далёка не чыста фармальнай рысай сучаснага народнага музычнага мастацтва з'яўляецца пісьмовае бытаванне большасці яго ўзораў і ў сувязі з гэтым замацаванне своеасаблівага аўтарскага права на песню — з'ява, якая не мела прэцэдэнту ў традыцыйным народным мастацтве, у аснове сваёй безаўтарскім і бытаваўшым вусна. Нараджэнне ў сучасную эпоху катэгорыі народных складальнікаў, да якіх пакуль што яшчэ не зусім дыферэнцыявана дапасуюць тэрмін «самадзейныя кампазітары», планамерная работа з імі па павышэнню іх кваліфікацыі, нарэшце, пераход некаторых «са-

мадзейных кампазітараў» у рады прафесіяналаў — усё гэта значна пераакцэнтавала ўнутраную сутнасць народнага музычнага мастацтва. Дастаткова сказаць, што ў сувязі з гэтым зараз некалькі іншыя формы набыў так званы працэс «шліфоўкі» песні. Ён адбываецца больш актыўна, чым раней. Гэтаму ў першую чаргу садзейнічае магчымасць хуткага распаўсюджання новых мелодый (радыё, друк). Такія песні, як «Любы зоры залацістыя» Р. Галавасціка-ва, «Ручнікі» М. Пятрэнкі, літаральна, як вецер, пранесліся па рэспубліцы, загучаўшы ў прафесіянальных і самадзейных калектывах.

Адначасова ва ўмовах такога хуткага распаўсюджання новых народных песень менш стала праяўляцца варыянтнасць іх, г. зн. існаванне адной і той жа песні ў розных мясцовасцях са сваімі меладычнымі асаблівасцямі, таму што да асноўнага варыянта пастаянна вяртае тое ж радыё або зафіксіраваны друкам арыгінал.

Характэрнай асаблівасцю сучаснай беларускай народнай песнятворчасці з'яўляюцца таксама паскораныя тэмпы яе развіцця. Песня стала актыўным сродкам ідэалагічнага выхавання мас, аператыўным каментатарам важнейшых падзей у жыцці беларускага народа. Бадай-што ніколі раней песня не адыгрывала такой агітацыйнай ролі, як у савецкі перыяд. Падзеі ўсенароднага і мясцовага значэння знаходзяць непасрэдны водгук у народным музычным мастацтве. Пэўная частка так званых злабадзённых твораў нясе пераважна інфармацыйную нагрузку і ў гэтых адносінах змыкаецца з такімі аператыўнымі жанрамі, як плакат і нарыс. Натуральна, што і рэпертуарнае жыццё гэтых песень параўнальна невялікае, хаця і дастаткова дзейснае.

З другога боку, шырокае распаўсюджанне атрымалі песні, у аснове якіх ляжыць тэматыка больш агульнага плана, не гаворачы ўжо аб тэматыцы агульналірычнай, якая ахоплівае такія «вечныя» праблемы, як каханне, дружба і да т. п. Гэтыя песні аказаліся больш жывучымі. Характэрна, што своеасаблівай «вечнай» тэмай для сучаснай беларускай народнай творчасці стала тэма раднай працы, свабоднага і шчаслівага жыцця калгаснага сялянства. Апошні момант варта падкрэсліць асабліва, таму што песні, звязаныя з сельскагаспадарчай тэматыкай, і да гэтага часу пераважаюць у Беларусі. Жыццё горада адлюстравана ў народнай песеннай творчасці пакуль што нязначна. Гэтым тлумачыцца і ўся паэтыка сучаснай песні, выкарыстанне багатага арсеналу сродкаў традыцыйнай сялянскай паэзіі з яе ўслаўленнем прыроды. З гэтым звязаны і сродкі музычнай выразнасці, якія таксама грунтуюцца на характэрных прыёмах сялянскага меласу.

Паскораны тэмп развіцця сучаснай народнай песні ў некаторых выпадках выявіў несінхроннасць развіцця яе тэкставай і музычнай частак. Першая, натуральна, з прычыны сваіх магчымасцей непасрэдна адлюстроўваць змены ў жыцці аказалася больш мабільнай. Літаральна з першых дзён Савецкай улады ў Беларусі пачало ствараіца шмат песень, прысвечаных падзеям Каст-

рычніка і грамадзянскай вайны, сацыялістычнаму будаўніцтву і яго гераічным працаўнікам. Канкрэтнасць падзей і дзеючых асоб была найбольш моцным бокам новай песні, якая аператыўна выражала надзённыя настроі мас.

Меладычны бок, па прыродзе сваёй больш апасродкавана, чым слова, адлюстроўваючы падзеі жыцця, не заўсёды паспяваў за бурным развіццём сучаснага песеннага вобраза. Тут адчуваліся больш моцныя сувязі з традыцыямі, больш паступовае асваенне новых інтанацыйных сродкаў. Адсюль характэрная для мелодыкі сучаснай народнай песні рыса — першапачатковая трывалая прыхільнасць да якога-небудзь пэўнага меладычнага вобраза або нават канкрэтнага напеву. Паяўляецца шмат песень з новым тэкстам, але з вядомай ужо мелодыяй. Часам гэта мелодыя не адчувае ніякіх змен. Так, напрыклад, было з шырока вядомай песняй «Ці багат ты, зяцюхна», якая па сутнасці з'яўляецца падтэкстоўкай старадаўняй сіроцкай вясельнай мелодыі. У іншых выпадках пераасэнсаванне старой мелодыі адбываецца ўжо з пункту погляду новых стылістычных норм. У першую чаргу гэта закранае метрарытмічны бок, які набывае большую выразнасць і дынамічнасць.

Асабліва паслядоўна здзяйсняўся метад падобных падтэкстовак у перыяды, калі само жыццё было насычана надзвычайнымі падзеямі. Для Беларусі, як і для ўсёй Савецкай дзяржавы, такімі перыядамі ў першую чаргу былі грамадзянская і Вялікая Айчынная войны. Для падтэкстовак выкарыстоўваліся і рабочая рэвалюцыйная, і савецкая масавая, і, нарэшце, старадаўняя традыцыйная песні, тэматычна звязаныя з падзеямі сучаснага перыяду. Так, многія песні грамадзянскай і асабліва Вялікай Айчыннай вайны ўзніклі на базе старой так званай «ваяцкай» песні, атрымалі новае жыццё шматлікія старыя салдацкія песні, рэкруцкія, баладныя.

Зразумела, не гэтыя песні складалі аснову рэпертуару. Гэта быў як бы першы рэзерв, самы першы крок да новай песнятворчасці. Нават з прыцягненнем вядомых у мінулым напеваў для стварэння новых песень пачаўся неаднакладна працэс іх пераасэнсавання. Тут новае і старое ішло насустрач адно аднаму, ствараючы пры моцным і арганічным спалучэнні ўзоры новага народнага меладычнага тэматызму. Найбольш вострыя вуглы паступова згладжваліся, занадта тэндэнцыйна «наватарскае» або тэндэнцыйна «традыцыйнае» саступала месца сапраўды прагрэсіўнаму і ўстойліваму.

Вялікае значэнне для папаўнення нацыянальнага песеннага рэпертуару меў узаемаабмен меладычным матэрыялам паміж беларускім, рускім і ўкраінскім фальклорам (з'ява, дарэчы, вельмі характэрная для традыцыйнай творчасці). Падчас гэта адбывалася шляхам простых падтэкстовак, часцей жа ажыццяўляўся працэс арганічнай асіміляцыі новага матэрыялу, асэнсаванне яго на аснове норм нацыянальнага народнага мастацтва.

Ідэйнае пераўзбраенне беларускай народнай песні ў першыя гады існавання Савецкай улады знайшло адлюстраванне ў пераваза ў ёй грамадзян-

скай тэматыкі, якая падкрэслівалася таксама і меладычнымі сродкамі. Першы раздзел тома дастаткова ярка адлюстроўвае гэту тэндэнцыю, а таксама нязначнае месца ў агульным рэпертуары чыста лірычнай тэматыкі. Гэта, канешне, не азначае, што лірыка наогул была неўласціва таму перыяду. Але яна яшчэ жывілася традыцыйнымі запасамі, у той час як эпічны змест, непасрэдна звязаны з падзеямі эпохі, адразу ж мог абаперціся на дасягненні новай рэвалюцыйнай песні.

Сапраўдны ж росквіт лірычнай тэматыкі пачаўся ў Беларусі (як і наогул у савецкай песеннай творчасці — народнай і прафесіянальнай) у час Вялікай Айчыннай вайны і асабліва пасля яе. Адбылося ўзаемапранікненне лірычнага і эпічнага, што пайшло на карысць і першаму і другому. І калі многія песні, прысвечаныя канкрэтным падзеям або асобам, да гэтага часу засталіся рэпертуарнымі, напрыклад «Песня пра Заслонава» або «Балада аб партызанцы Галіне», то гэтым яны абавязаны ў першую чаргу таму лірэпічнаму напрамку, які стаў вядучым у сучаснай народнай творчасці і яшчэ раз падкрэсліў тую старую ісціну, што каштоўнасць мастацтва не ў праўдзе факта, а ў праўдзе пачуцця.

Многія сучасныя песні з'явіліся ў выніку калектыўных пошукаў, шляхам распеву ў хоры нейкай першапачатковай песеннай мелодыі-зерня, прапанаванай адным з удзельнікаў хору. Так было створана некалькі песень у вядомым на Беларусі хоры Т. Лапацінай, а таксама ў хоры, якім кіруе П. Шыдлоўскі.

У песнях такога «масавага распеву» больш, чым у песнях, створаных індывідуальна, адчуваецца сувязь з мясцовымі пеўчымі традыцыямі. Гэта датычыцца і інтанацыйнага зместу, і характару падгалоскаў, і самой харавой фактуры.

Сярод «самадзейных кампазітараў» можна выдзеліць групу, якая больш або менш паслядоўна прытрымліваецца прафесіянальнага стылю. Акрамя стылістычных асаблівасцей, для творчасці майстроў гэтай групы характэрна тое, што яны ствараюць музыку не на свае тэксты, а на тэксты іншых аўтараў як «самадзейных», так і прафесіянальных. Да гэтай групы, з тымі ці іншымі агаворкамі, могуць быць аднесены А. Шыдлоўскі, В. Жураўлёў, В. Смірноў, М. Пятрэнка і інш.

Другая група аўтараў-аматараў (іх асабліва многа сярод старэйшага пакалення) прытрымліваецца ў асноўным традыцыйнай манеры складальніцтва: пішуць музыку на словы ўласных твораў. Гэта своеасаблівая «традыцыйная» лінія развіцця ў сучаснай песнятворчасці з яе яркімі прадстаўнікамі П. Шэўко, П. Касачом, Р. Галавасцікавым, П. Шыдлоўскім.

Нарэшце, шмат якія песні і дагэтуль застаюцца безаўтарскімі, выяўляючы найбольш прама і паслядоўна прынцып «фальклорнасці» народнай творчасці.

Як мы ўжо адзначалі, пры ўсёй шматстылёвасці, рознахарактарнасці сучаснай беларускай народнай песнятворчасці асноўная маса яе групуецца вакол двух эмацыянальна-тэматычных цэнтраў — лірычнага і эпічнага (дакладней, урачыста-прыўзнятага), даволі ясна дыферэнцыяваных па сваіх музычна-выразных сродках.

Найбольш моцнай для сучаснай песнятворчасці аказалася лірычная традыцыя. Тут адчуваюцца сувязі сучаснай песні з лірычнай традыцыйнай. Багацце меладызму, пластычная ладавая пераменнасць, такая ж пластычная рытміка, а ў сферы чыста эмацыянальнай шчырасць, глыбіня пачуцця, якая не б'е на эфект, а падаецца мякка, з тонкімі пераходамі мімалётных настрояў,— такія адметныя рысы гэтай песні.

Лірычная тэматыка бадай-што найбольш багатая ў сучаснай народнай песнятворчасці беларусаў як у колькасных, так і якасных адносінах. Іменна ў гэтай сферы музычнай вобразнасці распрацоўваліся «вечныя» калізіі, аб якіх гаварылася вышэй, прычым распрацоўваліся на трывалай базе традыцыйных сродкаў. Пры гэтым асноўны эмацыянальна-вобразны змест у лірычнай песні адлюстраваны ў музыцы і ў першую чаргу ў яе важнейшым элеменце — мелодыі.

Для песні лірычнай, як і наогул для традыцыйнай, характэрна хвалепадобнае развіццё мелодыкі. Гэта значыць, што тут няма рэзкіх, падкрэсленых высотных перападаў паміж заканчэннем адной папеўкі і пачаткам другой. Інтанацыі натуральна і пластычна пераходзяць адна ў другую. Кульмінацыя рэдка выражаецца высотна. Часцей — гэта не самы высокі гук, а гук, на якім адбываецца ладавае асэнсаванне, напрыклад, пераход у сферу яркай субдамінанты ў канцы перыяду. Ды і самі высотныя межы дасягаюцца не ў выніку паступовых пад'ёмаў мелодыі, а даюцца адразу, часам нават з «кульмінацыі-выток».

Асноўная задача пры гэтым — захаваць дасягнуты ўзровень эмацыянальнасці да канца. Важнейшым сродкам пры такім стылі меладычнага развіцця з'яўляецца варыяцыйнасць. Асноўнае інтанацыйнае зерне пераўтвараецца меладычна, рытмічна, ладава, фактурна. Прыкладам такога развіцця можа служыць мелодыя песні «Вечарком за рэчкаю». У ёй вельмі арганічна спалучаюцца ўсе элементы музычнай мовы, ствараючы той вышэйшы сінтэз майстэрства, які пры мінімальных сродках дае максімум выразнасці. Павольнае і плаўнае развіццё меладычнай лініі чаргуецца з усплёскамі эмацыянальных пачуццяў (на словах «Эх»), якія не пераходзяць аднак у знешнюю патэтыку і кантралююцца хутчэй унутранай экспрэсіяй. Тут усё на сваім месцы, усё дастаткова падрабязна, хоць і па-свойму скупа.

Вельмі тыповым як для прыгаданай мелодыі, так і наогул для песень такога лірычнага плана з'яўляецца таксама ладавае развіццё, якое стварае своеасаблівую ігру светацені. Мажорна-мінорныя пералівы без асаблівага ак-

цэнтавання якога-небудзь аднаго з гэтых ладавых накланенняў ствараюць дзіўны эфект мяккасці, самапаглыблення і стрыманасці, які так уласцівы беларускай народнай песні ва ўсе перыяды яе развіцця.

Важнай прыкметай сучаснай лірычнай песні з'яўляецца таксама падгалосачны склад яе шматгалосся. Часта гэта падгалосак тыпу «ўторы», але і ў гэтым выпадку заўважаецца тэндэнцыя ўсяляк пазбегнуць апоры на класічную функцыянальнасць, больш характэрную для прафесіянальнай музыкі. Харавая песня застаецца выразнікам «арцельнага» пачуцця пры чулых адносінах да асобных галасоў.

Песні эпічнага характару ў сваім меладычным развіцці хутчэй напамінаюць ступеньчатасць руху. Кожная больш ці менш самастойная папеўка складае тут пэўны і самастойны высотны пласт. Пераход ад аднаго пласта да другога, як правіла, падкрэсліваецца рашучым меладычным скачком. Вельмі часта само супастаўленне гэтых скачкоў стварае ўражанне пасгупова ўзрастаючага напружання, быццам бы паслядоўныя размахі-разгойдванні з усё ўзрастаючай амплітудай імкнуцца асвоіць вышыню, пакуль не дасягаюць гранічнага значэння яе — кульмінацыі. Вельмі характэрная ў гэтых адносінах песня П. Шыдлоўскага «Прывітальная Маскве».

Песні падобнага плана, у адрозненне ад лірычных, набліжаюцца да адналадавых пабудоў. У асноўным тут пануе мажор. Даволі часта таксама, як і ў песні «Прывітальная Маскве», ладавае развіццё ідзе ад мінора да мажора.

Ступеньчаты характар мелодыкі, перанясенне інтанацыйнага зерня кожны раз на новую вышыню дыктуе і свой метад развіцця — секвенцыйнасць. Праўда, у беларускай мелодыцы ён рэдка сустракаецца ў чыстым выглядзе. Звычайна ён спалучаецца з метадам варыяцыйнасці, радзей з метадам кантрасціравання.

Ладавая мэтанакіраванасць спалучаецца ў песнях гімнічнага складу з рытмічнай акрэсленасцю і пругкасцю. У адрозненне ад лірычнай песні тут рэдка можна сустрэць пераменныя метры, таму што асноўным вобразным пачаткам пераважнай большасці падобных мелодый з'яўляецца маршавасць. Асабліва многа такіх песень у беларускіх «самадзейных кампазітараў». Пры гэтым даволі ясна адчуваецца ўплыў прафесіянальнага мастацтва. Інтанацыі такіх песень яркія, напружаныя, але часам бываюць трафарэтнымі (бяда, скажам, не толькі народнай творчасці).

Звяртае на сябе ўвагу адметная рыса сучаснай песні — імпульсіўнасць, своеасаблівы інтанацыйны дынамізм. Апрача знешніх фактараў (уплывы, запазычанні), вялізную, калі не першарадную ролю тут адыгралі прычыны ўнутранага характару. Самі тэмпы жыцця, тэмпы працы, яе агульныя абставіны не маглі не ўздзейнічаць пэўным чынам на характар музычнага мастацтва, яго эмацыянальны напал, нарэшце, яго чыста тэхнічныя сродкі выразнасці. І калі ў інтанацыі, напрыклад, традыцыйнай жніўнай песні часта чуец-

ца нейкая стрыманасць, то ў песні сучаснай ужо адчуваецца задор, прыўзнятасць настрою. Дынамічная рытміка надае ім пругкасць і рашучасць.

Тыповым прыкладам працоўнай песні з новай інтанацыйнай структурай з'яўляецца песня «На калгасны загон». Дынаміка, танцавальнасць рытма, выразныя яркія інтанацыі, ладавая канкрэтнасць — мажор — робяць музычны вобраз сакавітым і па-сапраўднаму сучасным.

Увогуле, у адрозненне ад адпаведных традыцыйных жанраў, і песням сучасным лірычным, і творам эпічнага складу ўласцівы больш дынамізм. У першых ён толькі ўнутраны, як бы схаваны, у другіх — больш знешне яркі. Натуральна, што першыя імкнуцца да камернай, бытавой манеры выканання, другія да масавай, сцэнічнай.

У ладавым змесце сучаснай народнай музыкі пераважае мажора-мінорная сістэма. Мажор, як правіла, натуральны і міксалідзійскі; мінор у роўнай ступені сустракаецца як натуральны, так і гарманічны (зусім рэдка меладычны).

Міксалідзійскі лад, праўдзівей яго важнейшы элемент — паніжаная VII ступень, служыць найбольш распаўсюджаным сродкам мадуляцыі ў субдамінантавую сферу танальнасці ў мажоры і ў паралельным яму міноры.

Для танальных суадносін сучаснай народнай мелодыкі, апрача пераменнасці і мадуляцыі, даволі характэрным стала супастаўленне двух ладоў або ладатанальнасцей. Гэта звязана з узмацненнем метаду кантрасту ў развіцці музычнага вобраза. У песнях, асабліва блізкіх да норм прафесіянальнай творчасці, гэта супастаўленне ажыццяўляецца на мяжы куплета і прыпева. Прыватны выпадак такога супастаўлення: куплет — мінор, прыпеў — паралельны мажор. Гэта яшчэ адно адрозненне ад традыцыйных сродкаў змены паралельных танальнасцей, дзе больш тыповы адваротны пераход: ад мажора да паралельнага мінора.

Форма куплет — прыпеў таксама з'яўляецца даволі новай структурай для беларускай народнай музыкі. Уласна, суадносіны запева з падхопам былі выяўлены ў шматгалосай музыцы даўно. Ужо ў самых ранніх узорах калядна-абрадавай паэзіі, нават з унісонным шматгалоссем, прысутнічае гэта харавая фактура. Але запеў там быў параўнальна кароткім. Гэта быў сапраўды зачын, вызначэнне тону, тэмпу песні для астатняй «арцелі», якая падхоплівала гэты запеў, як толькі дазваляла мелодыка-рытмічная фактура, часам нават з сярэдзіны слова. Такім чынам, тут не адчувалася структура куплет — прыпеў. Гэта было паслядоўнае чаргаванне куплетаў, толькі ўнутры сябе размеркаваных паміж салістам і хорам.

У песні сучаснай структурная самастойнасць куплета і прыпева выяўляецца больш рашуча, даходзячы да структур двухчасткавай будовы, хаця такая форма яшчэ даволі рэдкая; асновай песеннай формы застаецца пакуль адначасткавая структура: квадратны або расшыраны перыяд.

Мы ўжо гаварылі, што ў песнях эпічнага, святочна-прыўзнятага характару вялікае значэнне маюць маршападобныя рытмы. Вялікая роля ў гэтых песнях і рытмаў танцавальных. Трэба сказаць, што танцавальнасць увогуле стала важным фактарам у фарміраванні сучаснай народнай мелодыкі. Многія песні — гэта па сутнасці песні-танцы, якія выконваюць у розных сцэнічных кампазіцыях. Танцавальнасць вызначае жыццярадасны настрой песні, напружвае яе меладычную мускулатуру.

Увогуле, аднаўленне традыцыйнай песеннай формы, звязанае ў першую чаргу з выкарыстаннем новых тэкстаў, куплетная пабудова і сілабатанічная структура якіх сталі вядучай фармальна-стылістычнай рысай сучаснай народнай паэзіі,— вельмі характэрная з'ява, асабліва для эпічнай песні. Замена свабоднаметрычнай распеўнасці актыўнымі і добра запамінальнымі інтанацыямі, выразнасць і прапарцыянальнасць музычнай формы садзейнічаюць параўнальна хуткаму засваенню песні вялікай колькасцю удзельнікаў. Гэта важнае патрабаванне, якое прад'яўляецца да масавай песні, з'явілася ў многіх выпадках (і ў партызанскім фальклоры асабліва) вядучым фактарам у фарміраванні некаторых асаблівасцей гэтага песеннага стылю.

Некалькі большую ўдзельную вагу, чым у традыцыйнай творчасці, мае ў сучасным беларускім песенным мастацтве шматгалосны стыль, стымулам для далейшага развіцця якога стала шырокае распаўсюджанне ў рэспубліцы самадзейных харавых калектываў.

Вядома, што спяванне ў дарэвалюцыйнай Беларусі было пераважна жаночым. Ва ўсякім разе ўстойлівых змешаных харавых груп не замацавалася. У сучасных умовах ужо і сярод самадзейных аўтараў робяцца спробы ствараць песні для хораў пэўнага складу, у тым ліку і змешанага або нават цалкам мужчынскага, дыферэнцыяванага па галасах. Асновай шматгалосся з'яўляецца двухгалосная фактура, якая разрастаецца ў асобныя моманты да трохгалоснай. Ствараюцца харавыя песні і для чатырохгалоснага складу.

Прынцыповай навізной з'яўляецца таксама стварэнне народных песень з акампанементам. Арыентацыя некаторых складальнікаў, асабліва з асяроддзя самадзейных кампазітараў, на прафесіянальныя ўзоры масавай песні азначала ў сучаснай народнай творчасці імкненне да гамафонна-гарманічнага стылю. Гэтаму нямала спрыяла шырокае ўкараненне ў масавы быт інструментаў з ярка выражанымі магчымасцямі гэтага стылю — гармоніка і баяна.

Гамафонна-гарманічны стыль у сваю чаргу выклікаў больш частую функцыянальную змену ўнутры формы. Выкарыстоўваюцца больш разнастайныя танальна-мадуляцыйныя планы. Ярчэйшай становіцца сама мадуляцыя, якая прыйшла на змену ладавай пераменнасці. Мелодыка пачынае адрознівацца асаблівай дынамічнасцю, рашучасцю сваіх міжінтанацыйных пераходаў. Сучасная народная песня, у лепшых сваіх узорах, канцэнтруе найбольш харак-

тэрныя і спецыфічныя сродкі традыцыйнай песеннасці, пераўтварае іх на аснове дасягненняў масавай савецкай песні.

У самой харавой фактуры таксама адбыліся змяненні. Галоўным вядучым голасам становіцца верхні, у той час як у традыцыйным двухгалоссі вядучым часта быў голас ніжні, а верхні выконваў ролю падгалоска.

Усе гэтыя характэрныя рысы новай музычнай мовы несумненна садзейнічалі ўдасканальванню мастацка-тэхнічнага боку песеннай творчасці, хаця і не заўсёды выліваліся ў закончаныя формы, асабліва ў галіне самадзейнага мастацтва. Гэта натуральна. Ва ўмовах розных творчых уплываў, галоўным чынам пры аб'яднанні характэрных асаблівасцей прафесіянальнай і народнай музыкі, не заўсёды яшчэ ясна выяўляецца стылістычная чысціня і арыгінальнасць. У гэтых адносінах прыярытэт застаецца пакуль яшчэ за традыцыйнай творчасцю. Па некаторых музычных якасцях яна і да сённяшняга дня застаецца неперагзыйдзеным узорам. Асабліва гэта датычыцца адзінства зместу і формы, якое можа быць дасягнута ў выніку даволі працяглай эвалюцыі.

Але наша задача ў даным выпадку не супастаўляць і тым больш не супрацьпастаўляць традыцыйную і сучасную творчасць, а паказаць, якімі шляхамі ішло развіццё апошняй, як у шматдзённых пошуках фарміраваўся новы музычны стыль народнай песні, як яна, нягледзячы на натуральныя «выдаткі вытворчасці», паступова знаходзіла сваё арыгінальнае аблічча.

Пры гэтым трэба адзначыць, што найбольш плённыя вынікі з'яўляліся тады, калі творцы новай песні пры ўсіх сваіх імкненнях аднавіць музычную мову трывала абапіраліся на нацыянальныя традыцыі народнага мастацтва. Іменна працэс развіцця гэтых традыцый, набліжэнне іх да патрабаванняў сучаснасці найбольш поўна і living разнабакова садзейнічаў выяўленню творчых магчымасцей сённяшніх беларускіх народных песняроў.

*

Многія песенныя мелодыі, змешчаныя ў томе, былі ўжо апублікаваны раней. Зразумела, не ўсё ў гэтых публікацыях адпавядае сучаснай нотнай арфаграфіі. Галоўным чынам гэта датычыць парушэння эквірытмічнасці паміж тэкстам і напевам. Тут мелі месца і раздзельны запіс мелодыі ад тэксту, калі многія строфы апошняга не спяваліся, а перагазваліся, і ўзнаўленне тэксту (ці мелодыі) па памяці, і, нарэшце, няўвага да прыёмаў народнага выканння, якія садзейнічаюць рытмічнай перыядычнасці: выкарыстанне паўгалосных, дыфтонгавая сугучнасць, «праглытванне» апошніх складоў слова і інш. У такіх выпадках рытміка напеву, як правіла, супадала ў запісу толькі з першай страфой тэксту, астатнія маглі супадаць, а маглі і не супадаць. Усе гэтыя асаблівасці запісу песень вельмі характэрны для пачатковага перыяду развіцця сучаснай песнятворчасці, сустракаюцца яны і ў пазнейшы перыяд.

У сувязі з немагчымасцю ўзнавіць першапачатковы від песень, у якіх назіраюцца рытмічныя несупадзенні, яны пакідаюцца ў томе без змен і толькі ў асобных выпадках нязначна карэктыруюцца.

Больш прынцыповым момантам з'явілася адмаўленне складальнікаў ад інструментальнага акампанементу ў песнях самадзейных кампазітараў. Пры гэтым мелася на ўвазе тая акалічнасць, што, як правіла, акампанемент з'явіўся вынікам апрацоўкі або рэдактуры песні з мэтай давядзення яе да прафесійных норм.

Выкарыстанне да некаторых тэкстаў мелодый з іншых песень агаворана ў каментарыях. У апошніх таксама даецца кароткая характарыстыка ўсіх прыведзеных у гэтым томе напеваў.

*В. Ялатаў*

# МІЖНАРОДНЫ ГІМН

*(«Інтэрнацыянал»)*

У ТЭМПЕ МАРША



Паў_стань, пра_кляц_цем ка_та_ва_ ны! Паў_



_стань, хто з го_ла_ду век пух! Бур_



_ліць наш ро_зум ўзбун_та_ва_ ны, ня_ во_ лі



клі_ ча рваць лан_ цуг! Ста_



_ры па_ра_дак мы зруй_ ну_ ем ма_гут_ным



вы_ бу_хам сва_ім і свет на но_вы лад збу_



_ду_ ем: хто быў ні_чым _той бу_ дзе ўсім! Гэ_ та




Паўстань, пракляццем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум ўзбунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг!

Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І свет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым — той будзе ўсім!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасці братняй
Узняўся людскі род.
} 2 разы

Ніхто не дасць самохаць волі —
Ні бог, ні цар, ні багатыр,
Даб'ёмся самі лепшай долі...
Дабро для ўсіх — наш правадыр!

Каб не згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас,—
Адважна плаўма сталь у горнах,
Пакуль у кузні жар не згас!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасці братняй
Узняўся людскі род. } 2 разы

Мы ўсе работнікі, сяляне —
Сусветны рой працаўнікоў —
Мець будзем на зямлі ўладанне —
А дармаеды прэч! Далоў!

Жывіцца целам нашым годзе,
Усім трутнём і груганом!
Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,
Свяціць нам будзе век вяком!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасці братняй
Узняўся людскі род! } 2 разы

# ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН БЕЛАРУСКАЙ ССР

УРАЧЫСТА, ВЕЛІЧНА

*mf*

Мы — бе – ла – ру – сы з брат – ня – ю Рус – сю

ра – зам шу – ка – лі к шча – сцю да – рог,

*f*

ў біт – вах за во – лю, ў біт – вах за

до – лю з ёй зда – бы – лі мы

сцяг пе – ра – мог! Нас аб'– яд –

– на – ла Ле – ні – на і – мя, Пар – ты – я

к шча – сцю вя – дзе нас ў па – ход.

*f*

Пар _ ты _ і сла _ ва! Сла _ ва Ра_дзі _ ме!

1\.

Сла _ ва та _ бе, бе _ ла _ рус — кі на _ род!

2\.

Сла _ ва та _ бе, бе_ла_ рус _ кі на _ род!

Для заканчэння

*ff*

//Сла _ ва та _ бе, наш са_вод_ кі на _ род!

Мы — беларусы з братняю Руссю
Разам шукалі к шчасцю дарог,
Ў бітвах за волю, ў бітвах за долю
З ёй здабылі мы сцяг перамог!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, беларускі народ! } 2 разы

Сілы гартуе люд Беларусі
Ў братнім саюзе, ў мужнай сям'і.
Вечна мы будзем, вольныя людзі,
Жыць на шчаслівай, вольнай зямлі.

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, наш свабодны народ! } 2 разы

Дружба народаў — сіла народаў,
К шчасцю працоўных сонечны шлях.
Горда ж узвіся ў светлыя высі,
Сцяг камунізма — радасці сцяг!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме! } 2 разы
Слава табе, наш савецкі народ! }



## У МАСКВЕ СЯЕ НОЧЫ ЛЕНІН БУДЗЕ...

Над Масквою-горадам
Воран крача,
А ў Маскву дарогаю
Коннік скача.

Бяду воран кліча
Людзям багатым,
Бяду воран кліча
Людзям праклятым.

Над Масквою хмары,—
Не відна свету,
Там ваююць людзі
За Саветы.

Над Масквою-горадам
Воран крача,
А ў Маскву дарогаю
Коннік скача.

У Маскве на вуліцах
Кроў ліецца,
У маладога конніка
Сэрца б'ецца.

Ён вязе вялікія
Весці людзям,
Што ў Маскве сяе ночы
Ленін будзе.

# ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

Эй, па дарожцы, ды эй, па дарожцы,
Па дарожцы войска краснае ідзе. } 2 разы

Эй, яно ідзе, ды эй, яно ідзе,
Яно ідзе, песню звонкую пяе. } 2 разы

Эй, паглядаюць, ды эй, паглядаюць,
Як праходзяць нашы красныя палкі. } 2 разы

Эй, гэта сіла, ды эй, гэта сіла,
Гэта сіла, сіла красная ідзе. } 2 разы

Эй, ўласць Саветаў, ды эй, ўласць Саветаў,
Ўласць Саветаў к перамогам павядзе. } 2 разы



*У. І. Ленін. Інкрустацыя І. Хацкова з г. Бабруйска*

# СЯСТРА БРАТУ КАНЯ АСЯДЛАЛА

Сястра брату каня асядлала,
Выпраўляла народу служыць:
— Сваю родную, братка, краіну
Ты умей ад паноў бараніць.

Годзе ім на зямлі нашай роднай
Пот і кроў нашу піць і смактаць
І на шыі рабоча-сялянскай
Дзень і з ноччу дапозна гуляць.

А аб працы, браток, будзь спакойны,—
За цябе я змагу працаваць,
Сваёй працай жаночай, упартай
У баях вам змагу памагаць.

# ІЗ-ЗА ЛЕСУ СВЕЦІЦЬ КОПІЯ МЯЧЭЙ

♪ = 80

Із – за ле – су све – ціць ко – – пі – я мя –
– чэй, е – дзе сот – ня бу – дзё – наў – цаў лі – ха –
– чэй. Эй, эй, жмі да вы – жы – май, е – дзе
сот – ня бу – дзё – наў – цаў лі – ха – чэй.

Із-за лесу свеціць копія мячэй,
Едзе сотня будзёнаўцаў ліхачэй.

Прыпеў:

Эй, эй, жмі да выжымай,
Едзе сотня будзёнаўцаў ліхачэй.

Будзёнаўцы да ліхачы,
Шашкі ў рукі, ў бой імчы!

Прыпеў:

Эй, эй, жмі да вырубай,
Шашкі ў рукі, ў бой імчы!

Ляці, лошадзь, па палянках,
Крый, мілая, па паляках.

Прыпеў:

Эй, эй, жмі да вырубай,
Крый, мілая, па паляках.

Будзёнавец, друг і брат,
Разаб'ём мы ўвесь пятлюраўскі атрад.

Прыпеў:

Эй, эй, жмі да выжымай,
Разаб'ём мы ўвесь пятлюраўскі атрад,

Разаб'ём мы ўвесь пятлюраўскі атрад,
І вярнёмся мы на родзіну апяць.

Прыпеў:

Эй, эй, жмі да вырубай,
І вярнёмся мы на родзіну апяць.

Па дарогах, на разорваны масты
Красны дзевушкі брасалі нам цвяты.

Прыпеў:

Эй, эй, жмі да вырубай,
Красны дзевушкі брасалі нам цвяты.

Пад Аршавай занімалі гарада,
Месны жыцелі крычалі нам «Ура!»

Прыпеў:

Эй, эй, жмі да вырубай,
Месны жыцелі крычалі нам «Ура!»

# ГЭЙ, БАЙЦЫ, ВАЙНА НАСТАЛА

♩ = 100

*Запеў:*

Гэй, бай – цы, вай – на на – ста – ла,

са – бі – рай – це – ся ў па – ход,

*Хор:*

гэй, бай – цы, вай – на на –

– ста – ла, на – ста – ла, са – бі –

– рай – це – ся ў па – ход. 1. 2. //– ход.

Гэй, байцы, вайна настала,
Сабірайцеся ў паход,
Гэй, байцы, вайна настала, настала, } 2 разы
Сабірайцеся ў паход.

Руж'і, шашкі, шчэ й кінжалы
Састаўляйце напярод,
Руж'і, шашкі, шчэ й кінжалы, кінжалы
Састаўляйце напярод. } 2 разы

Красавіца маладая,
Пацалуй ў паследні раз,
Красавіца маладая, маладая,
Пацалуй ў паследні раз. } 2 разы

# ПА СІБІРСКІМ ТАЙГАМ І ДАЛІНАМ

♩ = 69

Па сі - бір - скім тай - гам і да - лі - нам пар - ты -
- зан - скі ат - рад пра - ха - дзіў. Па сі -
- бір - скім тай - гам і да - лі - нам пар - ты -
- зан - скі ат - рад пра - ха - дзіў.

Па сібірскім тайгам і далінам
Партызанскі атрад прахадзіў. } 2 разы

Яны шлі, за свабоду драліся,
Ім на помач рабочыя йшлі. } 2 разы

Захацелась буржуям напіцца
Пралетарскай рабочай крыві. } 2 разы

Ой, наверна, буржуям не ўдасца
У раскошных дварцах піраваць. } 2 разы

А, наверна, буржуям прыдзецца
У падвалах сырых зімаваць. } 2 разы

Угасцілі буржуяў свінцовай,
На закуску дадзім стальны штых. } 2 разы

## ПРА БУДЗЁННАГА

Як успомнім год дваццаты,
Той змагання год,
Калі лез к нам пан пузаты
У наш агарод...

Усёй зграяй на краіну
Рушылі яны.
Помняць грозную хвіліну
Лютыя паны.

Мы на печы не сядзелі —
Коней асядлалі,
Ды з Будзённым-малайцом
На іх паскакалі.

Коней добрых падабралі,
Шаблі навастрылі
І няшчадна паноў білі —
Край свой баранілі.

# СЯМЁН БУДЗЁННЫ

Ой, за лесам, лесам цёмным
З сваімі байцамі
Выязджаў Сямён Будзённы
З коннымі палкамі.

Коні мчацца, не стрымаеш,
Міма курных сёлаў.
Знаюць байцы, знаюць коні
Каманду Сямёна.

— Гэй, люд бедны, люд убогі,
Стань у шэраг з намі!
Ды наперад, ды ў дарогу
Пад чырвона знамя.

Сабраліся бедны людзі,
Народ абыдзённы:
— Прынімай нас, бацька родны,
Прынімай, Будзённы.

Ў нашых сэрцах гнеў ўскіпае
На паноў, падпанкаў,
Бо яны кроў нашу пілі,
Пілі без устанку.

Пойдзем, пойдзем мы, адпомсцім
За усе іх здзекі.
Ім цяпер мы ўсё прыпомнім,
Зруйнуем навекі...

Паглядзеў Сямён Будзённы
Позіркам лагодным,

Гэтак цёпла і ласкава,
Быццам бацька родны.

— Я прашу вас, добры людзі,
Сядайце на коні!
Мы з Савецкае краіны
Ворага прагонім.

Ой, за лесам, лесам цёмным
З сваімі байцамі
Выязджаў Сямён Будзённы
Стройнымі радамі.

А насустрач ім здалёку
Ворагі імчацца,
У пагоны плечы ўбраны,
А крыжамі грудзі.

— А ну, хлопцы, а ну, храбры,
Вынімайце шашкі.
Мы пакажам, як мы любім
Бацькаўшчыну нашу...

Як вынялі байцы шашкі
Ды з сталёвых ножан,
Як махнулі, як шахнулі,
Засвісцелі шашкі.

Наперадзе сам Будзённы
Б'ецца смела, храбра,
Прыпадае конь да долу
Ды варaной масці.

Піка ў піку, шашка ў шашку,
Каманда ў каманду,
Знаюць байцы, знаюць коні
Каманду Сямёна.

Да золаку да самага
У полі, чыстым краі,
Змагаліся будзёнаўцы
Ды з варожай зграяй.

А як сонца паднялося
На лясы, на сёлы —
Дрогнуў вораг, здаўся вораг
У палон Сямёну.

Многа крыві пралілося
На шырокім полі.
Многа байцоў асталося
На сёдлах на конях.

Люты вораг не забудзе
Нашых вострых шашак.
Знае вораг, як мы ўмеем
Адважна змагацца.

Няхай толькі сустрэнецца,—
Пад пікамі зляжа,
Пад шашкамі, пад кулямі,
Пад нагамі ў коней.

# ІЗ-ЗА ЛЕСУ СОНЦА ЎСХОДЗІЦЬ

♩ = 88

Із – за ле – су сон – ца ўсхо – дзіць, Ва – ра –
– шы – лаў е – дзе к нам.
Із – за ле – су сон – ца ўсхо – дзіць, Ва – ра –
– шы – лаў е – дзе к нам.

Із-за лесу сонца ўсходзіць, } 2 разы
Варашылаў едзе к нам.

Ён прыехаў нас паздравіць } 2 разы
І на фронт нас правадзіць.

— Стройся, Армія, ў калоны, } 2 разы
Кавалерыя — ў рады!

Наша Армія гатова, } 2 разы
Шчэ пяхота на штыхі.

Кавалерыя з-за лесу, } 2 разы
А пяхота з-пад гары.

Кавалерыя на шашкі, } 2 разы
А пяхота на штыхі!

# ПРА ШЧОРСА

ПАВОЛЬНА

Па Ўкра- і - не ма - ла - дой
го - ды вал - на - ва - ліся. Па да - ро - гам
і сця - пям гай - да - ма - кі шля - лісь.

Па Ўкраіне маладой
Годы валнаваліся.
Па дарогам і сцяпям
Гайдамакі шлялісь.

Заляталі ў хутара,
Ў хатах бушавалі,
У сялян, у беднякоў
Землю адбіралі.

Гаварыў Мікола рэч
У «Памятых макаў»:
— Айда, хлопцы, на вайну
Проці гайдамакаў.

Йшоў Мікола на чале
Красных партызанаў,
Ён рубіў і дзень і ноч
Гайдамакаў-панаў.

На Украіне маладой
Годы адшумелі,
Спіць Мікола пад халмом
Ў баявой шынелі.

Па калхозам цаліну
Хлопцы паднімаюць,
А у сіняга Дняпра
Шчорса ўспамінаюць.

## ЎПЕРАДЗІ НАШ КАМАНДЗІР ЧАПАЕЎ

Ўперадзі наш камандзір Чапаеў,
Камандзірык маладой.

Ён камандаваў сваім атрадам,
Весяліў сваіх рабят.

Ўсе рабяты едуць, весяляцца,
Ўсе спяшаюцца дамоў.

Адзін парэнь, парэнь не вясёлы,
Ён ўсё ходзіць сіратой.

Буйну-буйну голаву ён звесіў
На буланага каня.

Што б я знаў бы, знаў бы,— не паехаў
Жыць на родзіну сваю.

Лучша б была, штоб мяне убілі
Да ў чапаеўскім баю.

Харанілі б мяне камандзіры,
Праважалі б ўсе вайска.

Пасадзілі б яны на магілу
Красную каліначку.

Ой, расці, расці, мая каліна,
Цвяці, розавы цвяток.

# НА ПРАСТОРЫ КАСПІ-МОРА

♩=66

На пра_ сто _ ры Кас _ пі _ мо _ ра па іс_

_кра _ шчый_ся вал _ не па _ ра _ ход і _дзець ва_

_ен _ ны з фла_гам бе _ лым на кар _ ме. Па _ ра _

_ход і _дзець ва_ ен _ ны з фла_гам бе _лым на кар_ ме.

На прасторы Каспі-мора
Па іскрашчыйся валне
Параход ідзець ваенны
З флагам белым на карме. } 2 разы

Навярху штаб, афіцэры,
Й афіцэры ў ардзенах,
На нагах свяркаюць шпоры,
Іпалеты на плячах. } 2 разы

П'юць віно, крычаць, смяюцца,
— На вяроўку ўздзёрнем ўсех,
І Савет разгонім ліха,
Без прэпяцтвій і памех. } 2 разы

Ля катла жа паравога
Чорны, грозны і угрум
Качагар сядзіць, схіліўшысь
Ад наплыва цяжкіх дум. } 2 разы

Скора будзе Аляксандраў,
Там не ждуць такіх гасцей,
Ўласць савецкая лішыцца
Ізноў лепшых сынавей. } 2 разы

Йзноў паўстане люд рабочы
Пад нагайкай палачэй,
І паллюцца із засценкаў
Слёзы крыві гарачэй. } 2 разы

Ўдруг ён слышыць: рупар звоніць,
Горад відзен — цішэй ход.
— Ой, прашчайце, жана, дзеці,
Ой, прашчайце, людскі род. } 2 разы

Быстра клапан закрывае,
Ў топку вугаль сыпле ўвесь
І на палубу ўзлятае,
Быццам грознай смерці весць. } 2 разы

Ўслед за ім нясецца грохат,
Пар ўзрываецца сталбом,
Параход ўзляцеў на воздух,
Тоне ў моры галубом. } 2 разы

Волны ў пене, сонца блешча,
На прасторы нікаго,
Ўласць савецкая дарожы
Бела света самаго. } 2 разы

# ЦЕМНАЙ НОЧКАЙ ПАРТЫЗАНАЎ НА РАССТРЭЛ ВЯЛІ

Белапольскія уланы
Ганарова йшлі...
Цёмнай ночкай партызанаў
На расстрэл вялі.

Пад штыхамі, бізунамі,
Па чатыры ў рад,
Закаваны кайданамі
Прахадзіў атрад.

Перамучаныя ногі
Па пяску брылі,
Над Дукорскаю дарогай
Хмары слёз плылі.

Партызанам кусцік кожны
Пеў пра тыя дні,
Як па гэтай па дарозе
Бегалі паны.

На світанні рана-рана
Час апошні стрэў,
Цалавалі атамана:
— Ну, бывай, Андрэй.

Мы з табой жыццё аддалі
За свабоду, брат.
Развіталіся і сталі
З атаманам ў рад.

І калі не стала смелых,
Аж заплакаў бор,
З неба сіняга зляцела
Многа яркіх зор.

## НА КУРГАНЕ

Гонкая сасонка ў полі на кургане,
Раскажы праўдзіва, шчыра, ад душы,
Пра каго ты песні сумныя спяваеш,
З кім гамоніш позна у начной цішы?

Гаманю заўсёды я з байцом свабоды,
Пада мной ляжыць ён у зямлі сырой.
Ён заснуў навекі за правы народа,
Жыццём за свабоду заплаціў сваім.

Я яму спяваю аб жыцці вясёлым,
Што квітнее сонцам, дыхае вясной,
Што з Крамля ліецца ў гарады і сёлы
Неабсяжнай моцнай Радзімы маёй.

Пра людскую радасць
Песні я спяваю,
Праквяцісты, вольны
Край наш залаты.

# ОЙ ТЫ, РЭЧАНЬКА ГЛЫБОКА

Andante

Ой ты, рэ – чань – ка глы – бо – ка,
пры – ха – джу к та – бе з тас – кой.
Ой ты, рэ – чань – ка глы – бо – ка,
пры – ха – джу к та – бе з тас – кой.

Ой ты, рэчанька глыбока,
Прыхаджу к табе з таской. } 2 разы

Сяду я на бераг дальні,
Буду плакаць і рыдаць. } 2 разы

Ой, пайшоў дружок далёка
На гражданскую вайну. } 2 разы

Ўсе дружкі дамоў вярнуліся,
Васіля майго няма. } 2 разы

Ой ты, рэчанька глыбока,
Прыхаджу к табе з таской. } 2 разы

# ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

♩= 84

Кра_сна_ ар_ ме - ец па - мі - раў, сра_жо_ны

злоб - ны_ мі ўра - га - мі, сла - ва пра -

_шчаль - ны - я шап - таў ён а_ хла -

_дзеў_ шы_ мі гу - ба - мі. Сла - ва пра -

_шчаль - ны - я шап - таў ён а - хла_

_дзеў - шы - мі гу - ба - мі.

Краснаармеец паміраў,
Сражоны злобнымі ўрагамі,
Слава прашчальныя шаптаў
Ён ахладзеўшымі губамі. } 2 разы

А конь, таварыш баявой,
Стаяў з панікшай галавою,
Сваёю кованай нагой
Крануўся ён грудзей героя. } 2 разы

Ўставай, ўставай, таварыш мой,
Прамчаліся нашы эскадроны.
Ўставай, ўставай, пара ужо,—
Яму ў адказ раздаліся стоны: } 2 разы

— Бяжы на родзіну маю,
На фабрыкі, палі, заводы,
Скажы, што голаву сваю
Аддаў я чэсна за свабоду. } 2 разы

# НА ПАСТУ СТАЯЎ ТАВАРЫШ

♩ = 80

На пас - ту ста - яў та - ва - рыш,
наш за - шчыт - нік ба - я - вой.
На па - сту ста - яў та - ва...
наш за - шчыт - нік ба - я - вой.

На пасту стаяў таварыш, } 2 разы
Наш зашчытнік баявой.

Первай ноччу ўраг пракраўся } 2 разы
Шчэ й асенняю парой.

Первы выстрал даў ён ў грудзі, } 2 разы
І зашчытнік наш упаў.

Падбяжалі двое дзетак, } 2 разы
Піянеры-малайцы.

Падхапілі на насілкі } 2 разы
І ў бальніцу адняслі.

Доктар здзелаў перавязку
І сказаў: «Не будзе жыў». } 2 разы

Адно слова ён прамовіў,
І зашчытнік наш умёр. } 2 разы

Схаранілі возле рошчы,
Возле рошчанькі густой. } 2 разы

Дзеці спросяць у мамашы:
— Дзе наш папенька радной? } 2 разы

— Наш папаша пуляй ўбіты
На гражданскай на вайне. } 2 разы

# НАМ ПРЫСЛАЛА МАСКВА ПАДКРАПЛЕНІЕ

Нам прыслала Масква падкрапленіе,
Мы ўсім фронтам пайдзём ў наступленіе.

Нашы пушачкі як загрохалі,
Дак ў акопах паны толькі охалі.

— Ісус Хрыстос,— крычаць,— паражэніе,
Пабрасалі паны снаражэніе.

— Матка боска,— крычаць, іспугаліся,
Да й з акопаў паны разбягаліся.

Хто падраў наўспрамкі, хто ў старонушку,
Нашы кулі свісцяць ім ўздагонушку.

Ваш Пілсуцкі, змяя падкалодная,
Скора будзе у вас ўласць народная,

Ўласць народная, а не панская,
Ўласць рабочая і крэсцьянская.

# УЗЫШОЎ СВЕЦЕЛ МЕСЯЧЫК

♩=78-90

Ўзы _ шоў све _цел ме - ся _ чык, яс - на _ я за -

_ ра, а_ свя _ціў да_ро _ жань_ку цём_ на_ га ся _

_ ла. // цём_ на _ га ся _ла.

Ўзышоў свецел месячык,
Ясная зара,
Асвяціў дарожаньку
Цёмнага сяла. } 2 разы

Была ж ты, дарожанька,
Непрыгляднаю,
Стала ж ты, дарожанька,
Ненаглядною. } 2 разы

Шыроку дарожаньку
Ленін пратарыў,
Пракладку дарожанькі
Наш народ зварыў. } 2 разы

Цяпер нам дарожанька
Вольная дана.
Працаваць машынамі,
Вадзіць трактара. } 2 разы

# ЯК КРЫНІЦА ЦЯЧЭ

Moderato

Як кры-ні - ца цячэ, на-ша ўла-да рас-це — ўла-да

на - ша- я ды са- вец - ка - я. Ўла-да // - я.

Як крыніца цячэ,
Наша ўлада расце —
Ўлада нашая
Ды савецкая. } 2 разы

І расце, і цвіце,
І жыццё нам дае —
Ды вясёлае,
Ды шчаслівае. } 2 разы

А хто шчасце нам даў,
Хто жыццё збудаваў?
Ўлада нашая
Ды савецкая. } 2 разы

# КРАЙ РОДНЫ

♩ = 100

Кра – і – на Са – ве – таў у – сіх шча – слі – вей і

пес – ні спя – ва – е у – сіх пры – га – жэй. А

пес – ні пра то – е, што ве – се – ла жыць, і

пар – ты – і дзя – куй у пес – ні гу – чыць.

Краіна Саветаў
Усіх шчаслівей
І песні спявае
Усіх прыгажэй.

А песні пра тое,
Што весела жыць,
І партыі дзякуй
У песні гучыць.

Нас партыя родная
К шчасцю вядзе,

Пад ленінскім сцягам
Краіна ідзе.

Каб ворагам нашым
Патачкі не даць,
Сцяг Леніна будзем
Мацней мы трымаць.

Квітней жа, Радзіма,
Цвятамі вясны.
Мы — Леніна племя,
Радзімы сыны.

# ЛЕНІНСКІ СЦЯГ У МОЦНЫХ РУКАХ

Мы песню пра шчасце сваё ўсе пяём,
Мы Леніна імя калгасам даём,
Мы ленінскі вобраз у сэрцы нясём,
Мы шчырую памяць аб ім беражом.

Нашродны мілейшы айцец,
Ты цемры сялянскай паскорыў канец,
Вялікі і светлы найлепшы вучыцель,
Ад вечнага рабства і бед вызваліцель.

За летняе сонца яснейшы твой розум,
Ў навуку шлях ты адкрыў нам шырокі,
І вочы навекі ад слёз асушыў,
Свабодай назаўжды й зямлёй надзяліў.

Вучэннем сваім ты сялянам памог,
Да шчасця адкрыў ты дарогу дарог,
За праўду наш бацька змагаўся ўвесь век,
Па ленінскім шляху ідзе чалавек...

## СВЕЦІЦЬ ЯСНА СОНЦА Ў НЕБЕ

Свеціць ясна сонца ў небе,
Лучы свецяць на ўвесь свет,
Ўзвіўся ў небе сцяг чырвоны
Сацыялістычных пабед.

Прыпеў:

Бацька родны, наш ты Ленін,
Ты сусветны правадыр,
Ты даў волю голым і раздзетым,
Смерць фашыстам, гадам злым!

Мудры Ленін, наш настаўнік,
Ты не умер, а жывеш.
К светлай радасці і шчасцю
Ты заўсёды нас вядзеш.

Прыпеў.

Твой завет мы выпаўняем;
І клянецца кожны з нас,
Што самкнёмся мы сцяною
За пралетарскую ўласць.

Прыпеў.



7. Зак. 696



*Хор калгаса «Маяк камунізма» Лунінецкага раёна*

## АБ ЖЫЦЦІ І ШЧАСЦІ НАШАГА НАРОДА

Аб жыцці і шчасці нашага народа,
Аб бурлівай, гордай юнасці маей
Прапяём мы песню радасці свабоды,
Хай нясецца песня ўсё шырэй, шырэй!

Надае нам песня радасці і сілы,
Маладое сэрца весела стучыць.
Хай жа нашу песню вецер лёгкакрылы
Па прасторах нашых весела імчыць.

Хай яна мінае і лясы, і далі,
І ў Маскву нясецца як мага хутчэй,
Адкуль плыве шчасце, як марскія хвалі,
Адкуль свеціць сонца што ні дзень — ярчэй.

# ЛЮД НАШ БЕЛАРУСКІ

♩ = 84

Люд наш бе – ла – рус – кі, шмат ты зве – даў
го – ра, на за – го – нах вуз – кіх
по – ту вы – ліў мо – ра. // мо – ра.

Люд наш беларускі,
Шмат ты зведаў гора,
На загонах вузкіх } 2 разы
Поту выліў мора.

На лютага пана
Мусіў працаваці,
А дзеці без хлеба } 2 разы
Сядзелі у хаце.

Ты цяпер свабодны,
Ты цяпер шчаслівы —
Твой лес, тваё поле, } 2 разы
Твае рэкі, нівы.

Ты цяпер свабодны,
Табе дана воля,
Дзеці мове роднай
Вучацца у школе. } 2 разы

Раннем светлым, ясным
Ты йдзеш к перамозе
Па шляху калгасным,
Па вернай дарозе. } 2 разы

# А РАНЕЙ ЖА МЫ ЖЫЛІ

А раней жа мы жылі,
Век волі не зналі,
На пана ўсё жыццё,
Хлеб ўвесь аддавалі.

А цяпер мы жывём,—
Горушка не знаем,
За заможнае жыццё
Партыю ўсхваляем.

А раней жа нас паны
Больна катавалі,
І на працы за плячмі
Каты ў нас стаялі.

А цяпер мы жывём
І паноў не знаем,
У калгасе мы сабе
Хлябец здабываем.

# ЯК НА НАШЫМ НА ПАЛЕССІ

Як на нашым на Палессі
Дрэнна нам жылося,
Нават бульбы з года ў год
Ў нас тут не вялося.

А як знішчылі мы трон,
Багачоў-памешчыкаў,
Засвяціла сонца нам —
Жыхарам Палесся.

Цяпер шчасліва нам жывецца,
Гора мы не знаем,
Цяпер хлеба з года ў год
Ўдоваль ўсе мы маем.

# МЫ ЗАМОЖНА ЗАЖЫЛІ ЎСЕ

Раней была вёска наша
Усё цёмнай і гнілой,
Ўсе лугі, лясы і пашы
Пазаняў кулацкі рой.

Не было нідзе раздолля
Для працоўных беднякоў,
Вокам кінеш на прыволле,—
Ўсюды енк ад кулакоў.

Нас на вёсцы было многа
Міліёнаў жабракоў,
І ніхто не меў нічога,—
Ўсё было у кулакоў.

Мы жылі ў бядзе і горы,
Нас сціскалі ланцугі,—
Рэвалюцыя прыйшла,
Нам расчысціла шляхі.

Няма цяпер таго старога
Абнішчалага жыцця.
Партыя вядзе дарогай
К светлай радасці наўсцяж.

На пpасторах, дзе калісьці
Пралівалі панам пот,
Мы заможна зажылі ўсе
І мацнеем з года ў год.

Знікла гора і галеча,
Знік, як быльнік, іхні след.
Мы жывём па-чалавечы,—
Жыць так будзе увесь свет.

# А У ПОЛІ, ПОЛІ, ПРЫ ЗЯЛЁНЫМ ГАІ

А у полі, полі, пры зялёным гаі,
Дзе цячэ крыніца, салавей спявае,
А я з той крыніцы ды ваду насіла
І на чужым полі жала і касіла.

Не сабе касіла, не сабе я жала,
На полі-пракляцці цяжка працавала.
З поля позна прыдзеш, дзеткі дома плачуць,
Кажуць: «Дай нам есці, дай нам есці, маці».

Пагляджу на дзетак, а ім есці трэба,
Пабягу у царкву прасіць ў папа хлеба,
А той дасць паўпуда, кажа — адпрацуеш;
Гнешся зноў на полі, і так век гаруеш.

І вось так жыла я, жыла, бедавала.
Серп з рук не кідала, а век галадала.
З года ў год гібела, сохла, гаравала,
Пакуль сонца волі, праўды не заззяла.

## ПЕСНІ ЗВОНКІЯ ПЯЁМ

Колькі мы жылі на свеце,
Ўсё дабра не бачылі,
На памешчыкаў пузатых
Дзень і ноч батрачылі.

Зараз мы ў сваім калгасе
Будзем добра працаваць,
Каб ва што бы та ні стала
Нам стаханаўцамі стаць.

Мы з калгасніцай вясёлай
Песні звонкія пяём —
Пра шчаслівую радзіму,
Пра шчаслівае жыццё.

# НЕ ВЕЦЕР БЯРОЗКУ ГАЙДАЕ

Не вецер бярозку гайдае,
Не спіць над ракой асака,
Выходзіць мая дарагая,
Выходзіць мяне сустракаць.

Не сонца выходзіць над лесам,
З балотаў туманы ўстаюць.
Ты чуеш гамонку Палесся
І гутарку чуеш маю.

Зірні — маладою красою
Сады навакол расцвілі,
Шчаслівыя людзі з табою —
Мы людзі Савецкай зямлі.

# ОЙ, СПЯВАЙЦЕ

Ой, спявайце, вы спявайце
Песні галасістыя,
Каб цвілі і красавалі
Нівачкі квяцістыя.

Зацвіла бярозанька,
Ой, зацвіла рана.
Цяпер мы усе спяваем,
Бо жыць добра стала.

Расла, расла, вырасла,
Паспела пшаніца.
Дае многа ураджаю
Нашая зямліца.

А на рэчцы вада
Аб каменні б'ецца,
А чаму ж цяпер не пець —
Добра ўсім жывецца.

# НІВА КАЛЕКТЫЎНАЯ

Ах ты, ніва, мая ніва,
Як жа ты змянілася!
Ніва, ніва, ты на дзіва
Рунямі пакрылася.

Ты, бязмежная раўніна,
Нам дала дастатак,
Бо цябе цяпер машыны
Прывялі ў парадак.

Ты на дзіва так шчасліва
Збожжам красавалася,
Ты для славы калектыва
Зернем налівалася.

На цябе Сцяпан з Ісакам
Кроў і пот лілі паном,
На табе араты плакаў,
Збіты панскім бізуном.

Ніва, нівачка мая,
Наша ты — нам вечная.
Урадлівая зямля —
Гордасць чалавечая.

Сталі весела мы жыць,
Сталі жыць заможна.
Наша нівачка шуміць,
Красуецца збожжам.

Ах ты, нівачка мая,
Як жа ты змянілася!
Калектыўная зямля
Рунямі пакрылася.

# АДЦВІЛІ ПРАЛЕСКІ

♩ = 102

Ад _ цві _ лі пра _ лес _ кі пры да _ ро _ зе ў по _ лі,

са _ лаў _ і за _ пе _ лі го _ лас _ на ў ба _ ры.

У кал _ гас _ ным са _ дзе ру _ жа _ ве _ юць дрэ _ вы

і га _ мо _ няць пчо _ лы ад ран _ няй па _ ры.

Адцвілі пралескі
Пры дарозе ў полі,
Салаўі запелі голасна ў бары.
У калгасным садзе
Ружавеюць дрэвы
І гамоняць пчолы ад ранняй пары.

На калгасным полі
Зеленеюць руні,
Прынясе багаты ураджай зямля:

Хлеба поўны скрыні,
Сена поўны пуні...
Нам і весяліцца, нам і пагуляць.

Мы жывём шчасліва,
Весела спяваем,
Нам не ведаць болей смутку і тугі.
Льецца наша песня
Ад края да края —
Пра Радзіму нашу, край наш дарагі!

# БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Allegretto

Бы – вай – це зда – ро – вы, жы – ві – це ба –
– га – та, у – жо ж мы па – е – дзем
да сва – ёй ха – ты. Ў зя – лё – най дуб –
– ро – ве мы на – ча – ваць бу – дзем. Эх!
Ва – ша – е лас – кі ва – век не за – бу – дзем.

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Да сваёй хаты.
Ў зялёнай дуброве
Мы начаваць будзем.
Эх! Вашае ласкі
Вавек не забудзем.

У вашым калгасе
Шырокае поле.
Няхай жа на шчасце
Цвіце ваша доля.
На рэчках на вашых
Бурлілі бы воды,
Каб плавалі з крыкам
Гусей карагоды.

Каб жыта у полі
Трубою вілося,
Каб сала у хаце
Кублямі вялося.
Штодзень у капусце
Каб плавала скварка,
А к скварцы часінай
Вялася б і чарка.

Яшчэ вам жадаем
Прыбытку у хаце —
Не мала, не многа —
Штогод па дзіцяці.
Не будзе вам крыўды
Яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе
На год і па двое.

# ВЕЧАРЫНКА

Вечарынка у калгасе,
У «Чырвоным аратаю».
Прыйшлі Сцёпкі, Пецькі, Васі,
Прыйшлі Зосі, Стасі, Касі,
І гармонік грае, грае,
І гармонік грае, грае.
Прыйшлі Сцёпкі, Пецькі, Васі,
Прыйшлі Зосі, Стасі, Касі.
Ля-ля ля-ля-ля-ля...

Прыйшлі з поля, з гаспадаркі,
Клуб запоўніўшы да краю,
Брыгадзіры і даяркі,
Брыгадзіркі і свінаркі,
А гармонік грае, грае,
А гармонік грае, грае.
Брыгадзіры і даяркі,
Брыгадзіркі і свінаркі.
Ля-ля ля-ля-ля-ля...

Ходам ходзяць гаспадыні —
Маладая і старая.
Зіна шэпча штосьць Мальвіне,
А Мальвіна шэпча Зіне,
А гармонік грае, грае,
А гармонік грае, грае.
Зіна шэпча штосьць Мальвіне,
А Мальвіна шэпча Зіне.
Ля-ля ля-ля-ля-ля...

Захапіўшы ў першай пары
Янка Маньку, Юрка Раю,
Даюць дыхту, даюць жару,
«Сербіянку», «Польку» шпараць,
А гармонік грае, грае,
А гармонік грае, грае.
Даюць дыхту, даюць жару,
«Сербіянку», «Польку» шпараць.
Ля-ля ля-ля-ля-ля...

За сталом ідзе бяседа
Аб жыцці, аб ураджаі,
П'е суседка да суседа,
Хто не снедаў — тут паснедаў,
А гармонік грае, грае,
А гармонік грае, грае.
П'е суседка да суседа,
Хто не снедаў — тут паснедаў.
Ля-ля ля-ля-ля-ля...

Ночка сходзіць, сонца ўсходзіць,
І дамоў было б пара ім,
А скакаць яшчэ не годзе,
Яшчэ танец на расходзе,
А гармонік грае, грае,
А гармонік грае, грае.
А скакаць яшчэ не годзе,
Яшчэ танец на расходзе.
Ля-ля ля-ля-ля-ля...

# ВІШАНЬКА

♩= 102

Ча – му, ві – шань-ка, ты хі – ла – я бы – ла, што, ча –
– рэ – шань – ка, у – го – ру не рас –
– ла, эх! А сё – ле – та буй – ным
1. 2.
цве – там за – цві – ла. А сё – // – ла?

Чаму, вішанька, ты хілая была,
Што, чарэшанька, угору не расла, эх!
А сёлета буйным цветам зацвіла? } 2 разы

Як мне, вішаньцы, цвятамі не цвісці,
Як чарэшаньцы угору не расці? Эх!
Мне садоўнік палівае карані. } 2 разы

Чаму, дзевіца, не весела была,
Чаму, красная, на гульні не ішла, эх!
А сёлета ўсю брыгаду весяліш? } 2 разы

Як жа мне не быць вясёлай, маладой,
У калгасе я не знаюся з бядой. Эх!
Зарабіла я пяць соцень працадзён. } 2 разы

Я купіла плацці новенькія
Ды баціначкі шаўровенькія, эх!
Ёсць ў чым выйсці пагуляць, паплясаць. } 2 разы

# ЦІ БАГАТ ТЫ, ЗЯЦЮХНА

♩ = 96

*Для 1,3 куплетаў*

– Ці ба – гат ты, зя – цюх – на,

ці ба – гат? Коль–кі ма –еш ко – ні –

–каў, жа – ра – бят?

*Для 2,4,5 куплетаў*

– Ой, ба – гат я, цё – шчух – на, ой, ба – гат.

Мно–га ма – ю ко – ні – каў, жа–ра – бят.

— Ці багат ты, зяцюхна,
Ці багат?
Колькі маеш конікаў,
Жарабят?

— Ой, багат я, цёшчухна,
Ой, багат.
Многа маю конікаў,
Жарабят.

— Колькі маеш, зяцюхна,
Мер аўса?
Ці шырока, зяцюхна,
Паласа?

— Многа маю, цёшчухна,
Мер аўса,
Шырока на ўсё поле
Паласа.

І збажына ў гумнах
І ў палёх —
Ўсё гэта калгаснае,
Ўсё маё!

## ВЕСНАВАЯ

♩ = 84

А ў са - ду вяс - но - ю ран - няй ве - цер

гол - лі стаў гай - даць. Мы, бры - га - да ма - ла - да - я, вый - шлі

ў по - ле пра - ца - ваць. Мы, бры - га - да ма - ла -

- да - я, вый - шлі ў по - ле пра - ца - ваць.

А ў саду вясною ранняй
Вецер голлі стаў гайдаць.
Мы, брыгада маладая,
Выйшлі ў поле працаваць.

Раніцою да усходу
Абуджаемся ад сну,
Камсамольскай грамадою
Сустракаць ідзём вясну.

Вечарамі над лугамі
Пачане туман ўставаць,

Мы ж, стаханаўцы калгасаў,
Не канчаем працаваць.

Над ракою шумяць лозы.
Вада ў рэчцы ўдаль бяжыць.
Наш калгас стаў бальшавіцкім,
Мы заможна сталі жыць.



*Т. К. Лапаціна з групай удзельніц хору*

## ДЫ НЕ ВЫЙШЛА ЦЁМНАЯ ТУЧА

Ды не выйшла цёмная туча з зялёнага лесу,
Ды не выйшла.
Ды не выслала дробнага дажджу, буйнага ветру,
Ды не выслала.
Ды не выйшаў наш прадсядацель з намі на ніўку,
Ды не выйшаў.
Ды выслаў брыгадзіра:
— Ідзі, ідзі, брыгадзір, у полі прагуляйся,
жнеек прыглядайся.
Ідзі, ідзі.
Ці многа сажалі, ці многа нажалі,
Ці многа нажалі.

## ДА КАЦІЎСЯ ВЯНОК З ПОЛЯ

Да каціўся вянок з поля
Да прасіўся ў брыгадзіра пад пакоі,
Бо я ў полі настаяўся,
Ветру нажадаўся.
Пусці, пусці, брыгадзір, мяне ў пакоі.
— Яшчэ рана табе ў пакоі,
Яшчэ ў пакоі настаішся,
Зімы нашдзешся.

## ЧЫЁ ГЭТА ПОЛЕ ЗАЗВІНЕЛА СКОРА

Чыё ж гэта поле зазвінела скора?
Калгаснае поле зазвінела скора.

Жнеі маладыя, сярпы залатыя.
Пры месяцу спалі, па сонейку жалі.

А ці поўна арэхава чашка ядром налітая?
А ці поўна калгаснае гумно, дабра навязёна?

А ці можна арэх раскусіць, ядра паглядзець?
А ці можна на гумно ўз'ехаць, дабра паглядзець?

Ой, не можна ні ўзысці, ні ўз'ехаць,
Дабра паглядзець.

Толькі можна сокалу ўзляцеці,
Дабра паглядзеці.

# МЫ СВАЙГО СТАРШЫНЮ ЎЦЕШЫМ

♩ = 108

Мы свай – го стар – шы – ню ўце – шым,

за – ла – ты – я коль – цы ве – шым.

Эх, ду – бі – нуш – ка, ух – нем,

эх, зя – лё – на – я, са – ма ўга – ру.

Мы свайго старшыню ўцешым,
Залатыя кольцы вешым.

Прыпеў:

Эх, дубінушка, ухнем,
Эх, зялёная, сама ўгару.

Брыгадзір наш, не скупуй жа,
Дай па чарцы, па другой жа.

Прыпеў:

Эх, дубінушка, ухнем,
Эх, зялёная, сама ўгару.

# ДА ЎЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Да ўжо вечар вечарэе,
Наш брыгадзір весялее.
Па палетку пахаджае,
Сваіх жнейкаў напрашае:
— Жніце, жніце, мае жнейкі,
Самі сябе не пазніце,
Каня майго не таміце,
Мой конь вараненькі,
Я ваш брыгадзір маладзенькі.

# ДА ЗЯЛЁН ХМЕЛЮ, ЗЯЛЁН

♩ = 56

Да зя_лён хме_ лю, зя... (э)
_лён, ой, да зя_лён хме_лю, (і)
зя_ лён над у_сі_ 3 мі хме_
_ля_ мі. // 2.Стар_шы_ноч_ ку...

Да зялён хмелю, зялён, ой,
Да зялён хмелю, зялён
Над усімі хмелямі.
Да вясёл старшыня, вясёл, ой,
Да вясёл старшыня, вясёл
Над усімі старшынямі.

Старшыночку, галубочку, ой,
Старшыночку, галубочку,
Да выкаці віна бочку.
А другую гарэлкі, ой,
А другую гарэлкі.
Да напой свае жнейкі.

9. Зак. 696

# А НАД РАКОЮ

А над ракою сарокі шчакочуць,
А за ракою трактар стракочыць.

Трактар стракочыць, ды галасісты,
А ў нашым калгасе лён валакністы,

Лён галавісты, авёс вяцісты,
А наш старшыня ды ганарысты.

Ён гонар маець — ураджай шчытаець,
Куды пахінецца — аж засмяецца,

Усюды вяліка, ўсюды багата,—
Расце ў калгасе і клуб і хата.

## РАСЦВІЛА КАЛГАСНАЯ ЗЯМЛЯ

Ішла з вёскі на палоскі
Маладых жнеяў раць,
Пан пузаты, гад пракляты
Наймаў жыта сваё жаць.

І сястрыцы-маладзіцы
Жалі збожжа, што чарот,
Пры рабоце плылі ў поце,
Не было вадзіцы ў рот.

Час мінулы, нібы куля,
Праляцеў, ды ўжо няма,
Кожны кажа: цяпер наша
Ўся калгасная зямля.

Зноў у поле ды на волю
Маладая выйшла раць,
Калгасна жніва не тужліва,
Узялася з песняй жаць.

# ЯК САБРАЎ БРЫГАДЗІР ЖНЕЕК

Як сабраў брыгадзір жнеек —
Усё маладзенькіх дзевак.
А жнуць жнейкі, пажынаюць,
Яны жыта дажынаюць.

Яны жыта дажынаюць —
Партыі дзякуй пасылаюць
За вялікае поле,
За шырокую ніву.

Партыі дзякуй пасылаюць:
— Наша жыта ўраджайна,
Каласом каласіста
І зярном ядраніста.

Яны жыта дажынаюць
І на вянок завіваюць,—
Не для пана багатага,
Для калгаса вялікага.

## ЗА ГАРОЮ, ЛЯ КРЫНІЦЫ

За гарою, ля крыніцы,
Дзе халодная вада,
За жняяркай там вязала
Снапы дзеўка малада.

Ой, вязала ды спявала,
Што на свеце добра жыць;
Толькі трэ па-гаспадарску,
Па-сумленнаму рабіць.

Буйну радасць прывіталі
Аўсы, жыта на палёх.
К нам заможнасць уступіла
На калгасніцкі парог.

Як была я малада,
Ды не знала радасці тады я,
Працавала раніцай і ўначы
І хвіліны не ведала адпачыць.

А цяпер сустрэла я
Новы час, новы час,
Стала чалавекам я,
Як пайшла ў калгас.

Я цяпер заможная,
Усё ў мяне ёсць,
Расцвіла прыгожасцю
Мая маладосць.

# А У ПОЛІ, ПОЛІ МЫ СПЯВАЕМ

А у полі, полі мы спяваем,
Залатыя снапочкі вяжам.
На нас сонца з-за хмар пазірае,
Наша поле святлом залівае.

Поле, поле красой апавіта,
А мы радасна жнём, працавіта,
І не хочацца стаць ані разу,—
Не заморышся, весела разам.

За ракою машыны грукочуць,
Трактарысты жартуюць, рагочуць
І дзяўчатам спяваюць частушкі,
Аж зайздросцяць ім рыбы і птушкі.

Аж гамоняць гаі і прысады,
Ажно валяцца яблыкі ў садах;
Як пяём мы аб радаснай працы,
Ажно чуюць паны у палацах.

Аж пачэсваюць тлустыя каркі —
Больш не выпіць ужо ім ні чаркі
За цяжкую за нашу работу,
За пабоі, за нашу згрызоту...

Сонца нізка над лесам ўжо ходзіць,
Нам не хочацца з поля сыходзіць,
Брыгадзіра к сабе заклікаем,
Ён зацягне, а мы падтрымаем:

— Гэй ты, песня, каціся за мора,
Ўскалыхні ўсю зямлю, ўсе прасторы,

Абыйдзі ўсе даліны і горы,
Запалі ты у свеце ўсе зоры.

Мы бадзёрыя людзі і моцны,
Мы адважныя, нас — мілёны;
Мы стаханаўцы,— загартаваны
На зямлі, нам навечна адданай.

У двор прыдзем, спачнем, пагуляем,
Патанцуем, газет пачытаем,
А назаўтра з вясёлым настроем
Зноў на працу мы ўсе выйдзем строем.

# ДЗЕНЬ СТАІЦЬ ПАГОДНЫ

Дзень стаіць пагодны,
Аніводнай хмаркі,
Па калгаснай ніве
Коцяцца жняяркі.

Роўнаю палоскай
Следам высцілае,
Жыта ім пакорна
Галаву схіляе.

Коні вараныя
Ідуць дружна, шпарка,
Весела, ахвотна,—
Аж гудзе жняярка.

Вяжуць дзеўкі жыта —
Спелае, буйное,
Працаваць так лёгка
Дружнай грамадою.

Не баляць ім плечы
І не ломіць спіны.
Памагаюць ў працы
Ім цяпер машыны.

# ПЕСНЯ ТРАКТАРЫСТА

Гэй, зайграй, зайграй, гармонік,
Весялі маю душу.
Я на трактары загоны
Калектыўныя пашу.

Трактар — госцік небывалы,
Ах, люблю я ім араць.
Ён у полі запявалам
Суткі цэлыя чуваць.

Спешна еду я у поле
Сваім трактарам вясной,
І не трачу я ніколі
Ні хвілінкі на прастой.

Не расце асот на нівах,
Як раней ён густа рос,
Бо шуміць залатагрывы
Даспяваючы авёс.

Шумі, збожжа каласіста,
Я цябе абмалачу,
А на вечары з дзяўчынай
Пад гармонік паскачу.

Сонца яснае штодзённа
Усміхаецца над лістам,
Я шчаслівы стаў, бо сёння
Я завуся трактарыстам.

Гэй, зайграй, зайграй, гармонік,
Весялі маю душу.
Я на трактары загоны
Калектыўныя пашу.

## ЯК СТАХАНАЎКАЙ Я СТАЛА

Як стаханаўкай я стала,
Стала добра я ўжо жыць,
Эх, стала добра,
Стала добра.

Эх ты, сонейка мілое,
Выглядай ты, залатое,
Эх, залатое,
Залатое.

Не бываць ўжо той пары,
Калі жалі да зары,
Да паўночы,
Эх, да паўночы.

Не патрэбны мне іконы,
Не патрэбны мне трызвоны,
Да трызвоны,
Эх, трызвоны.

Цяпер заможнымі мы сталі,
Не як раней сахой аралі,
Мы аралі,
Эх, аралі.

## ВЕСЯЛЕЙ ІГРАЙ, ГАРМОНЬ

Весялей іграй гармонь,
Дапамагай, гітара,
Узараў жалезны конь
Тысячу гектараў.

Жыта вырасла сцяной,
Пэўна на сам — дваццаць,
Можна, любая, з табой
Ў полі цалавацца.

Ўзнялісь хваляй ячмяні,
Сустракай заможнасць,
Дзе яшчэ такія дні
Ў свеце бачыць можна!

Я дзяржаве збожжа здам,
Столькі, колькі трэба,
Каб усім хапіла нам
І машын, і хлеба.

Каб любімая мая
Ўсё, што хоча, мела,
Каб спявала, як і я,
Радасна і смела.

Весялей грымі, гармонь,
Каб усе пазналі,
Што шчаслівымі людзьмі
Мы ў калгасе сталі.

# НА КАЛГАСНЫ ЗАГОН МЫ ПАСЕЯЛІ ЛЁН

♩ = 116

На кал - гас - ны за - гон мы па -
- се - я - лі лён. На кал - гас - ны за - гон мы па -
- се - я - лі лён. Шаў - ка - віс - ты, ва - лак - ніс - ты,
чыс ты лен. Шаў - ка - // лён.

На калгасны загон
Мы пасеялі лён. } 2 разы

Прыпеў:

Шаўкавісты, валакністы,
Чысты лён. } 2 разы

Каб найлепшы сабраць,
Трэ палоць, даглядаць. } 2 разы

Прыпеў.

Трэба брэць, трэба слаць, } 2 разы
Трэба мяць і трапаць.

Прыпеў.

Добрай пражы запас } 2 разы
Нашым фабрыкам даць.

Прыпеў.

# ЭХ ТЫ, ЛЁН НАШ, ЛЁН КУДРАВЫ

♩=69

Эх ты, лён наш, лён куд – ра – вы,

лён куд – ра – вы, даў – гу – нец.

Ты рас – ці, рас – ці на сла – ву,

сі – ня – во – кі ма – ла – дзец. Эх, ма – ла – дзец!

Ты рас – ці, рас – ці на сла – ву,

сі – ня – во – кі ма – ла – дзец!

Эх ты, лён наш, лён кудравы,
Лён кудравы, даўгунец.
Ты расці, расці на славу,
Сінявокі маладзец.
Эх, маладзец!
Ты расці, расці на славу,
Сінявокі маладзец!

Для цябе у нас машыны,
Не старэнькі ўжо станок,
Калі бабкі пры лучыне
Пралі цёмны, худ лянок,
Эх, худ лянок...
Калі бабкі пры лучыне
Пралі цёмны, худ лянок.

Мы цябе і мнём, і трэплем,
Каб дзяржаве добрым здаць
І ў рэспубліцы Саветаў
Першынство заваяваць,
Заваяваць...
І ў рэспубліцы Саветаў
Першынство заваяваць.

Мы цябе так апрацуем,—
Любата будзе глядзець,
Ты расці, расці на славу,
Сінявокі маладзец,
Эх, маладзец!..
Ты расці, расці на славу,
Сінявокі маладзец!

# ЭЙ, РЭЖ, КАСА, РЭЖ!

Не выходзь з-за лесу, сонца,
Не сушы расу.
Натачылі мы бясконца
Вострую касу.

Эй, рэж, каса, рэж, рэж,
Мы не ведаем меж, меж!..

Эй вы, росы, мае росы —
Чыстая вада.
Роўна сцелюцца пракосы —
Косіць грамада.

Эй, рэж, каса, рэж, рэж,
Мы не ведаем меж, меж!..

Смела песню запяём мы
Пад касы узмах.
Добра, весела жывём мы
Дома, на палях.

Эй, рэж, каса, рэж, рэж,
Мы не ведаем меж, меж!..

## З ГЛЫБОКАЕ КРЫНІЧАНЬКІ

З глыбокае крынічанькі
Ручайкі ліліся,
Там сястрыцы-маладзіцы
Пагуляць сышліся.

Яны ў лесе пагулялі,
Ягад панабралі,
Паміж сабой дзве сястрыцы,
Ідучы, маўлялі.

Адна кажа: «Мае дзеці
Сыты і адзеты,
Ой, каб жа ім ды на свеце
Пражыць доўгі леты».

А другая гаварыла:
«Я не знаю гора,
Жыць мне сёння весялей,
Як жылося ўчора».

10. Зак. 696



*Група старэйшых удзельніц хору в. Азершчына Рэчыцкага раёна за абмеркаваннем новых песень*

# НАША ЖАНЧЫНА

Да Кастрычніка жанчынам
Жыццё дрэннае было,
А цяпер, вы паглядзіце,—
Ў кветках, красках расцвіло.

Ў нас цяпер жанчына
Цемру разагнала,
Мае права, як мужчына,
Пісьменнаю стала.

Ў нас жанчына — трактарыст,
Старшыня калгаса,
Знамяніты машыніст
На заводах нашых.

Лётчыкам адважным
Лятае ў паветры,
І адважная танкістка,
І старшыня савета.

# ГОЛАС НАШ ЦЯПЕР НЕ ЗА ПЕЧКАЮ

Allegretto

Ой, бы – ла ж, бы – ла ноч – ка
цём – на – я, ноч – ка цём – на –
– я, што без ме – ся – ца.

Ой, была ж, была
Ночка цёмная,
Ночка цёмная,
Што без месяца.

Ой, не зналі ж мы
Свету белага,
Свету белага,
Жыцця вольнага.

Ў дзеўках седзячы,—
Гараваліся,
Замуж ідучы,—
Бедаваліся.

Ой, жыццём сваім
Не пахвалішся —
П'яны муж паб'е,
Не пажалішся.

Доля жэнская —
Проціпечная,
Гарамычная,
Паднявольная.

Ты за печкаю
Гадавалася,
На запоінах
Прадавалася.

Падхапіліся
Ветры грозныя,
Разарваліся
Хмары цёмныя.

Расступіліся
Хмары цёмныя,
Перад раніцай
Свету белага.

Разыгралася
Сонца яснае,
Прынясло з сабой
Жыццё новае.

Голас наш цяпер
Не за печкаю,
У Савет ідзём
Раўнапраўнымі.

# Я СТАРЭНЬКАЯ

Я старэнькая, дзетачкі мае,
І жыла я семдзесят зім і лет.

Ой, вялікі, дзетачкі, белы свет,
Я ж думала, у свеце праўды нет.

Як была я, дзетачкі, малада,
Мае грудзі ціснула нішчата.

Мае вочы слёзамі заплылі,
Людзі сэрца выелі, як звяры.

Не ідзі, не ідзі ў маю хату, смерць,
Ў маёй хаце некуда цябе дзець.

Ой ты села б ў клець маю, ў закрама,
Ды там жыта буйнае і мука.

А ты б села ў хату маю, у куце,
Ды цябе мой венічак змяце.

А ты б села ў поплаве на пакос,
Ды цябе мы стопчам ў сенакос.

А ты б села ў полі ў баразну,
Ды цябе там трактары разнясуць.

Убірайся, лютая, са двара,
Мне, старой, не хочацца паміраць.

Са сваімі дзеткамі хачу быць,
Са сваімі роднымі хачу жыць.

## КРАЙ ЛЮБІМЫ НАШ КВІТНЕЕ

Прамінула тое гора,
Што калісьці ў нас было.
Новай радасцю гаворыць
Сёння нашае сяло.

Край любімы наш квітнее,
У ім мы весела жывём.
Жыццё наша шчаслівее
З кожным годам, з кожным днём.

Канстытуцыя прынесла
Многа радасці, красы,
Самым лепшым кандыдатам
Аддалі мы галасы.

# Я ДЗЯЎЧЫНА МАЛАДАЯ

Я дзяўчына маладая,
Камсамолкай мяне звацъ.
Мне дарогі ўсе адкрыты,
Вольна жыць і працаваць.

Паны ў школу не пускалі,
Нам вучыцца не давалі,
Толькі той ім быў харошы,
Хто даваў ім многа грошай.

Нам у вочы гаварылі —
Дзеці вы жабрацкія.
Толькі панскія вучылісь
І дзеці кулацкія.

Грошы нам цяпер не трэба
Плаціць за навукі,
Ўласць Савецкая дала
Права бедным ў рукі.

# ВЕЧАРКОМ ЗА РЭЧКАЮ

♩ = 90

Ве – чар – ком за рэч – ка – ю...

Эх! Ве – чар – ком за рэч – ка – ю

пе – сень – ка гу – чыць. Вый – ду я на га – на – чак,

вый – ду я на га – на – чак, ма – ці, не кры –

– чы, эх, ды, ма – ці, не кры – чы!

Вечарком за рэчкаю... Эх!
Вечарком за рэчкаю
Песенька гучыць.
Выйду я на ганачак, } 2 разы
Маці, не крычы,
Эх, ды, маці, не крычы!

Мілага, прыгожага... Эх!
Мілага, прыгожага
Ўспамінаю я,
Пра яго і складзена } 2 разы
Песенька мая,
Эх, ды песенька мая.

Дзяўчыну не кіне ён... Эх!
Дзяўчыну не кіне ён,
Хоць і сам не тут:
Ён паехаў восенню } 2 разы
Ў горад, ў інстытут,
Эх, ды ў горад, ў інстытут.

А учора з горада... Эх!
А учора з горада
Ліст ён мне прыслаў,
Што пры развітанні } 2 разы
Мілай абяцаў,
Эх, ды мілай абяцаў.

# СОНЦА ЯСНАЕ НАМ СВЕЦІЦЬ

Moderato

Сон – ца яс – на – е нам
све_ціць, пес – ня раз – лі – ва – ец –
–ца. Мой мі – лень – кі, да – ра – жэнь – кі
ў ар – мі – ю збі – ра – ец – ца. А... Мой мі – лень – кі,
да – ра – жэнь – кі ў ар – мі – ю збі – ра – ец – ца. А...

Сонца яснае нам свеціць,
Песня разліваецца.
Мой міленькі, даражэнькі
Ў армію збіраецца. } 2 разы

Заспявалі навабранцы
Песню маладзецкую:
Едуць, едуць не ў рэкруты,
Ў Армію Савецкую. } 2 разы

Рада маці, рад і татка;
На граніцу сын ідзе:
— Ды глядзі ж, сынок наш родны, } 2 разы
Стой там моцна, як нідзе.

Сонца яснае свяціла,
Песня разлівалася:
Са сваім мілым дружочкам } 2 разы
Ў той дзень развіталася.

# ДЗЕЎКІ НАШАЙ ВЁСКІ

♪ = 176

Дзеў _ кі на _ шай вёс _ кі

Гры _ шу пра _ ва _ жа _ лі.

фа _ р(ы) _ туш _ ка _ мі.

Са _ мі фар _ туш _ ка _ мі

слез _ кі вы _ ці _ ра _ лі.

Са _ мі фар _ туш _ ка _ мі

слез _ кі вы _ ці _ ра _ лі.

Дзеўкі нашай вёскі
Грышу праважалі.
Самі фартушкамі } 2 разы
Слёзкі выціралі.

— Ой ты, Грыша, Грыша,
Чырвоны казача,
А па табе, Грыша, } 2 разы
Усе дзеўкі плачуць.

Хто ў лузе ля рэчкі
Нам цяпер пайграе,
Хто ў калгасным полі } 2 разы
Песні паспявае?

— Не журыцесь, дзеўкі,
Я скора вярнуся,
Ў Арміі Чырвонай } 2 разы
Многаму наўчуся.

І вярнуўся ў вёску
Не такім, як быў ён,
І на кожным сходзе } 2 разы
Смела гаварыў ён:

— Годзе па старынцы
Нам усім тут жыці,
Па-новаму трэба } 2 разы
Цяпер працаваці.

Па-новаму трэба
Цяпер працаваці,
Давайце, браточкі, } 2 разы
Калгас будаваці.

# ОЙ, СОКАЛ, МОЙ СОКАЛ

Moderato

— Ой, со – кал, мой со – кал,
Як со – ней – ка, яс – ны. Ста – іш на гра –
– ні – цы ра – бо – ча – кал – гас – най.

— Ой, сокал, мой сокал,
Як сонейка, ясны.
Стаіш на граніцы
Рабоча-калгаснай,—

Спявала дзяўчына
У садзе зялёным,
А вусны гарэлі
Ды макам чырвоным.

— Будзь горды, мой сокал,
І ў сцюжу, і ў вецер
На варце краіны
Найлепшай у свеце,—

Спявала дзяўчына
У садзе зялёным,
Што мілы на варце
Граніцы чырвонай.

# НА МЯЖЫ САВЕЦКАЙ СТАІЦЬ ВАРТАВЫ

Пакрыла ночка цёмная
Шырокія палі.
На мяжы савецкай
Стаіць вартавы.

З Усходу і Заходу
Рыхтуецца паход
На вольную краіну,
На мірны наш народ.

Нас гэта не палохае,
Гатовы мы у бой
За наша жыццё светлае,
За край шчаслівы свой.

Радзіма наша мірная,
Вайны мы не хацім.
Чужой зямлі не трэба нам,
Сваёй не аддадзім.

## ПАГРАНІЧНІК ЛАГОДА

На далёкай усходняй граніцы
Пагранічнік Лагода стаяў,
Ён япона-манчжурскія банды
У Савецкі Саюз не пушчаў.

Ён загінуў ад ворага кулі —
Радзімы нашай верны салдат.
Але месца яго не пустуе —
Стаў на варту граніц яго брат.

Калі трэба, дык стануць мільёны
Радзіме верных адважных сыноў,
Бараніць наша шчасце — краіну
Ў любы момант з нас кожны гатоў.

Хай не думаюць ворагі злыя
Нам у працы вялікай мяшаць.
Нашы межы свяшчэнны і моцны,
Ёсць каму і чым іх абараняць.

Мы зямлю нашай роднай краіны
Не дазволім фашыстам таптаць,
І над гробам тваім, пагранічнік,
Мы клянёмся наш край вартаваць.

11. Зак. 696

# ДА АБАРОНЫ КОЖНЫ З НАС ГАТОЎ

Нашы ворагі-фашысты
Злыя, як ваўкі,
Скаляць на радзіму нашу
Хцівыя клыкі.

Але не баімся
Гэтых мы ваўкоў,
І да абароны
Кожны з нас гатоў.

# НАВУЧЫЎ НАС ВАРАШЫЛАЎ

Як у кузні у калгаснай
Ды каваль працуе,
І з найлепшай сталі штых
Ён сабе гартуе.

— Хай пасмее вораг крануць,—
Каваль смелы кажа,—
Не дайшоўшы да граніцы,
Ён у яму ляжа,

Бо вучыў нас Варашылаў,
Як з ворагам біцца,
Каб той вораг не дайшоў
Да нашай зямліцы.

# ПЕСНЯ ПРА ВАРАШЫЛАВА

Праз лугі, лясы, балоты,
Дзе не мог прабрацца звер,
Цераз рэчкі, цераз плоты —
Ўсюды бралі мы бар'ер.

Ты, нарком, маршал магучы,
Нашы сілы гартаваў,
Вёў ты нас у бой рашучы,
Сіл сваіх не шкадаваў.

Разагнаў ты калчакоўцаў,
Беглі, хто куды глядзеў,
Бег Дзянікін і Юдзеніч,
І Карнілаў не ўсядзеў.

Доўга ж, доўга помніць будзе
І Юдзеніч, і Калчак
І ніколі не забудзе
Варашылаўскіх ваяк.

І калі на нас пасмее
Злы фашыст падняць тапор,—
З Варашылавым сумеем
Яшчэ лепшы даць адпор.

# КАЛЫХАНКА

Маці сына палажыла,
Стала песеньку спяваць:
— Люлі, люлі, мой маленькі,
Закрый вочкі, пара спаць.

Вырасцеш, сынок, вялікі,
Пойдзеш ў Армію служыць,
Сам таварыш Варашылаў
Будзе там цябе вучыць.

Злосны вораг за мяжою
Хоча зноў вайну адкрыць.
І ты будзеш, мой сыночак,
Гэтых гадаў трапна біць.

Маці села над калыскай,
Стала сына калыхаць,—
Надышла ужо і ночка,
Люлі, люлі, пара спаць...

# ОЙ, Ў ЛУЗЕ, Ў ЛУЗЕ

♪ = 132

Ой, ў лу_зе, ў лу_зе рас_це два ду_боч_ка.

*p*

Пры_е_ха_ла к ма_ці два род_ных сы_ноч_ка.

Пры_е_ха_ла к ма_ці два род_ных сы_ноч_ка.

Ой, ў лузе, ў лузе
Расце два дубочка.
Прыехала к маці
Два родных сыночка. } 2 разы

Рада была маці,
Седзячы ў святліцы,
Старэйшы сын кажа:
— Стаю на граніцы. } 2 разы

Стаю на граніцы
З вінтоўкай ў руках я,
За адвагу ордэн
Нашу на грудзях я. } 2 разы

Другі сын, малодшы,
Што быў брыгадзірам,
Ён ў Арміі Чырвонай
Цяпер камандзірам. } 2 разы

Сыноў маць частуе
Пірагом смачненькім.
Чаркі налівае
Віном саладзенькім. } 2 разы

## АБ ВОЛЬНЫМ НАРОДЗЕ МНЕ МІЛЫ РАСКАЖА

Завіруха свішча,
То гудзіць сярдзіта,
Стукае ў вакенца,
Як кагосьці кліча.

А ў хатцы дзяўчынка
Сядзіць з калаўроткай,
Песеньку спявае
Аб долі сірочай:

— Цяжка сіраціне,
Цяжка беднай жыці,
За кавалак хлеба
Злым людзям служыці.

Ноч прадзеш кудзельку
Для дачок кулацкіх,
Дзень задарма робіш
У маёнтку панскім.

Агарне абіда —
Нехаця заплачаш...
Але хто учуе?
Але хто убачыць?..

Хіба толькі Янка,
Што жыве насупраць.
Ён дахаты прыйдзе,
Мяне прыгалубіць.

Сядзе са мной радам,
За плечы абнімець,

Ласкава галоўку
Да мяне нахіліць.

— Нашто плачаш, Зося?
Слязьмі не паможаш,
Крыўду сваю й гора
У слязах не ўложаш.

І зачне гутoрыць
Аб вольным народзе,
Аб суседзях нашых,
Што жывуць на Ўсходзе.

Кніжку прачытае,
Вершык мне раскажа,
Толкам растлумачыць,
Што ўсё гэта значыць.

Лёгенька на сэрцы
Ад гэтай размовы.
Люба Янку слухаць,
Ай, які талковы!

З хаты адыходзіць,
Сціcне руку моцна:
— Чакай,— кажа,— заўтра
Па заходзе сонца.

Завіруха свішча,
То гудзіць сярдзіта,
Стукае ў акенца,
Як кагосьці кліча.

А ў хатцы дзяўчынка
Прадзе пры лучынцы
Для дачок кулацкіх,—
Цяжка сіроцінцы...

# ВЕРАСЕНЬ МЕСЯЦ, СЕМНАЦЦАТЫ ДЗЕНЬ

З падзякай лажуся,
З падзякай ўстаю,
Бо сонца ўжо свеціць
У нашым краю.

Братоў-беларусаў,
Што ў Польшчы жылі,
Чуць пан не замучыў,
Ўсю кроў папілі.

Народ быў зацяты
Панскай рукой,
Бралі ў салдаты
Ў адзежы сваёй.

Гінула многа
На фронце людзей,
Родна краіна
Стагнала ў бядзе...

Верасень месяц,
Семнаццаты дзень
Зняў з нас навекі
Смутак і цень.

Славамі не ў сілах
Мне апісаць,
Як нам цяпер міла
«Таварыш» сказаць.

За гэтае слова
Нядаўна каралі,
За родную мову
Жандары збівалі.

# СПЯВАЙЦЕ, СТАРЫЯ, СПЯВАЙЦЕ, МАЛЫЯ!

Спявайце, старыя,
Спявайце, малыя,
Ідуць к нам з Усходу
Хлапцы удалыя.

Нарком Варашылаў
Дае ім кірунак,
Ад польскае шляхты
Нясе нам ратунак.

# ВЯСЁЛАЯ СТАРОНКА




Вясёлая старонка,
Дзе сонейка ўсходзіць,—
Народ беларускі
Вачэй стуль не зводзіць.

Хоць сёння нам вочы
Раса выядае,
Мы верым, што скора
Нам сонца заззяе.

Сагрэе зямельку,
Засвеціць у хаты,
Растопіць ў астрогах
Жалезныя краты.

І станем мы дружна
На шлях на калгасны,
Як прыйдзе з Усходу
Да нас той дзень ясны.

# ПАДЗЯКА

Allegretto

Вя – сё – лы ла – жу – ся, вя – сё – лы ўста –
– ю, ўжо со – ней – ка све – ціць у на – шым кра –
– ю. Мы Пар – ты – і дзя – куй сар – дэч – на –
шлём за то – е, што сён – ня сва – бод – на жы – вём!

Вясёлы лажуся, вясёлы ўстаю,
Ўжо сонейка свеціць у нашым краю.

Прыпеў:

Мы Партыі дзякуй сардэчнае шлём
За тое, што сёння свабодна жывём!

Бо Верасень месяц, семнаццаты дзень,
Ён зняў з нас навекі і смутак і цень.

Прыпеў.

Славамі не ў сілах я то апісаць,
Як нам цяпер міла «таварыш» сказаць!

Прыпеў.

# УСПАМІНЫ

♩= 90

На кал – гас – ным род – ным по – лі,

пры ба – га – тай шчас – най до – лі

ўспа – мі – на – ем сён – ня дні бы –

– лы – я, як жы – лі мы у ня – во – лі.

На калгасным родным полі,
Пры багатай шчаснай долі
Ўспамінаем сёння дні былыя,
Як жылі мы у няволі.

Як жылі мы, гаравалі,
Злую долю праклiналi:
Дзень і ноч на пана працуючы,
Горкі слёзы пралівалі.

Расступіліся цёмны хмары,
Ды збыліся нашы мары:
Падаў руку нам Саюз Савецкі,
Пан дачакаўся сваёй кары.

# ЗОРКІ СВЕТЛЫЯ ГАРАЦЬ

♩= 66

Зор – кі свет – лы – я га – рацъ, зор – кі

яс – ны – я, на – вя – ва – юць я – ны

нам дум – кі шчас – ны – я. Шчас – лі –

–вей–шы–мі з у – сіх людзь–мі ста – лі мы, вы – зва –

– лі – це–ляў сва – іх да – ча – ка – лі мы.

Зоркі светлыя гарацьь,
Зоркі ясныя,
Навяваюць яны нам
Думкі шчасныя.

Шчаслівейшымі з усіх
Людзьмі сталі мы,
Вызваліцеляў сваіх
Дачакалі мы.

Чаго зоркі так на нас
Узіраюцца,
З неба гэтак праз ўвесь час
Усміхаюцца?

Бо калісьці мы былі
Паднявольныя,
А сягоння мы усе
Людзі вольныя.

Жыццё светлае прыйшло
К нам, савецкае,—
Песні новыя пяём,
Маладзецкія.

Шчаслівейшымі з усіх
Людзьмі сталі мы,
Вызваліцеляў сваіх
Дачакалі мы.

# ЛЯВОНІХА

Ой, Лявоніха, Лявоніха мая,
Будзем сёння весяліцца ты і я,
Бо мінула нас усякая бяда.
Вот іграець беларуская дуда.
Сабірае Беларусь усіх сыноў,
Што рабілі, працавалі на паноў,
Сабірае у калгасную сям'ю
Дарагую і радзімую маю.
Нас пракляты пан на часці падзяліў.
І панамі нашу землю насяліў.
Доўга, доўга мы так мусілі цярпець,
Роднай песні нам не можна было пець.
Вось прыйшоў даўно чаканы ужо час,
З Краснай Арміяй Саветы шлі да нас,
Паны з роспаху ад страху і бяды
Уцякалі за граніцу хто куды.
А Масціцкі, рыжы Смыглы і пан Бэк
Мяшок золата на плечы і пабег.
Уцяклі ад нас паны наўсягды,
Няхай віхры замятаюць іх сляды.
Ах, Лявоніха, Лявоніха мая,
Будзем сёння весяліцца ты і я.

## Ў БОГА ВЕРЫЦЬ ПЕРАСТАЛІ

Папа злосць апанавала,—
Яго жыцце дрэнна стала.
Поп наш плача, лемантуе,
Слоў яго ніхто не чуе.

Хоць ты ў сценку лобам біся,
Людзі бога адракліся.
Поп да ручкі аж дабіўся,
Ў пустой цэркві не маліўся.

Поп наш лаецца, крычыць,
Судом божым пагражае:
— На тым свеце,— кажа,— вас
Шатан ў пекла пакідае.

А мы бога не баімся,
Бо яго мы адракліся.
Мы навуку ўсю пазналі,
Ў бога верыць перасталі.

# МЫ ЗАБЫЛІСЯ НА БОГА

♩=152

Мы за-бы- лі - ся на бо - га (ды)

і не ўспом - нім (да) пра я - го.

Пе - рад на - шы - мі ва - чы - ма

ста - ла но - ва - е жыц - цё.

Пе - рад на - шы - мі ва - чы - ма

ста - ла но - ва - е жыц - цё.

Мы забыліся на бога
(Ды) і не ўспомнім (да) пра яго.
Перад нашымі вачыма
Стала новае жыццё. } 2 разы

Я хадзіла па садочку,
(Ды) ў садочку (да) зелена.
Не патрэбна да нам царква —
Вучаць кнігі Леніна. } 2 разы

Каля рэчкі, за палямі
(Ды) распусціўся (да) стары дуб,
Дзе царква была гадамі, | 2 разы
Там цяпер красуе клуб. |

Ой, апошнімі гадамі,
Ой, да стаў наш поп пануры,
Ой, да мінуліся яму | 2 разы
Масла, яйкі, куры. |

Колькі бога ні маліла,—
А ўсё бедная была.
У калгас як уступіла, | 2 разы
Дык заможна зажыла. |

Апрану сукенку белу,
(Ды) прычаплю (да) чырвоны цвет,
Не пайду к папу вянчацца — | 2 разы
Абвянчае сельсавет. |

# СПАДЗЯВАЎСЯ ДЗЕД НА БОГА

Зямлю сошкай касабокай
Калупаў стары Ігнат,
Конік той ледзь цягне бокам —
Крок уперад, два назад.

Спадзяваўся дзед на бога
І маліўся крэпка:
Дзе пасеяў ён авёс —
Вырасла свірэпка.

## У КАЛГАСЕ ГУСТА РУНЬ ЗАЗЕЛЯНЕЛА

У калгасе густа
Рунь зазелянела,
А ў Данілы пуста:
Што ўзышло — сапрэла.

Ледзьве дзед набожны
Назбіраў асміну,
А калгас бязбожны —
Тону з дзесяціны.

Сумны дзед Даніла,
Вочы — у падлогу:
Вось што нарабіла
Вера ў сілу бога.

Плюнуў дзед на расу
І ў праўленне куляй:
— Братка, да калгаса
Прыпішы дзядулю.

## НЕ МАЛІСЯ БОГУ

Дзед узяў за порткі бога,
Выкінуў за дзверы:
— Не мазольце мне вачэй,
Не псуйце шпалеры.

З богам былі, слёзы лілі,
Век жылі мы з плачам,
А без бога — хлеба, сала,
Ёсць усё з астачай.

Не клюй носам у падлогу,
Не маліся богу.
Няхай ён, бяздоліца,
Сам сабе памоліцца.

# МІНУЛАСЯ ПАПАМ СВЯТА

Поп па вуліцы ідзе,
Крыж вялікі ён нясе,
Усю вёску ён прайшоў,
Ўсіх сялян ён абышоў.

З каго куру, з каго яйкі.
Сам жа людзям кажа байкі,
Каб увесь свой век пасцілі,
А яму бы ўсё насілі.

Людзі бедны папа просяць,
Апошні грош яму прыносяць,
Каб ён бога больш маліў,
Каб град жыта іх не збіў.

Але поп так жыў не доўга,
Народ кінуў верыць ў бога.
Мінулася папам свята,
Апусцела у іх хата.

# ТО НЕ ХМАРА НАВІСЛА НАД КРАЕМ

То не хмара навісла над краем,
Не маланка агнём зіхаціць,
То фашыстаў драпежная зграя
Край наш родны прыйшла паланіць.

Топчуць край наш ліхія падонкі,
Паляць вёскі, бамбяць гарады,
Мірным людзям радзімай старонкі
Смерць прынеслі і многа бяды.

Не злічыць тых раз'юшаных катаў,
Не сцярпець беларусам іх здзек,
І падняўся знішчаць акупантаў
Наш народ, як адзін чалавек.

Хай баляць нам крывавыя раны,
Што ўчыніў злы фашысцкі дракон,
Сёння ў бітву ідуць партызаны,
І мы ворага выганім вон.

Б'ём мы іх па жалезных дарогах,
Па шасейках, па вёсках, як мух,
Хай спазнае раз'юшаны вораг
Нашу мужнасць, адвагу і дух.

Гітлер, знай, што пажар на Усходзе
Запаліў ты на гібель сабе!
Той пажар адгукнецца ў народзе
Рэхам помсты за здзекі за ўсе.

Не ўсядзіш ты, падлец, у Берліне,
Згуба прыйдзе, фашысты, на вас,
Вас павесяць на першай асіне,
Ужо блізкі, ой, блізкі той час.

# ПАРТЫЗАНЫ, ПАРТЫЗАНКІ

ТЭМП МАРША

Пар_ты – за – ны, пар_ты – зан – кі, бе –ла_
_рус –кі – я сы – ны, бі – це во – ра_гаў па_
_га – ных, сво_ ру чор – ных псоў вай – ны.

Партызаны, партызанкі,
Беларускія сыны,
Біце ворагаў паганых,
Свору чорных псоў вайны.

Няхай ў Гітлера-урода
Сэрца вораны клююць,
Няхай знае гнеў народа,
Партызан, будзь помстай лют.

Выразаў ён маткам вочы,
Рэзаў старых і дзяцей
І закрыў крывавай ночай
Дзень наш ясны ад людзей.

Чуцен плач дзяцей ў няволі,
Стогны дзедаў і бацькоў,
І крывавы колас ў полі
Не глядзіць на подлых псоў.

За сясцёр, за брацьеў мілых
І за спалены наш дом
Рвіце вы з праклятых жылы —
Смерць за смерць і кроў за кроў!

Вас мы клічам да пабеды,
Хай вам свецяць шчасцем дні!
Перабіце катам ногі,
Каб не ўскрэслі век яны!

Мы ад нечысці ачысцім
Зямлю, воды, неба сінь,
Не убачыць злым фашыстам
Нашы нівы і лясы.

Партызаны, партызанкі,
Беларускія сыны.
Біце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

# НЕ ШКАДУЙЦЕ, ХЛОПЦЫ, ПОРАХУ!..

Не шкадуйце, хлопцы, пораху,
Куль гарачых і гранатаў.
Каму воля наша дорага,
Падымайцеся на ворагаў,
На катаў!

Пушчы змрочныя, высокія,
Недаступныя паляны,
Станьце могілкамі ворагам,
Будзьце сховішчам для сокалаў —
Партызанаў.

Век жывым звяр'ю не вырвацца
І ад помсты не схавацца,
Нашы сілы растуць, шырацца:
Над Дняпром стаім, над Прыпяццю
На варце.

Ўдзень — мы, як вятры крылатыя,
Быццам здань, праходзім ноччу,
Сонным лагерам між хатамі,
Зніштажаючы гранатамі
Банду воўчу.

Чуюць гады ў кожным шолаху,
Што ўжо блізіцца расплата.
Хай дрыжаць, пачуўшы, ворагі
Песню — «Не шкадуйце пораху
На катаў!»

## НАД БЯРОЗАЙ-РАКОЙ

Над Бярозай-ракой, над далінаю
Заігралі гарністы паход:
Узнімайся, сям'я сакалінная,
Уставай на змаганне, народ!

І сышліся пад зоркай чырвонаю
Ад заводаў, палёў малайцы,
Пояць коні вадою сцюдзёнаю
Ля крыніцы ўдалыя байцы.

Ў сэрцы кожнага думка упартая —
Баявы ажыццёвіць загад;
І па закліку роднае партыі
За атрадам спяшае атрад.

І па волі вялікага Леніна
Рушаць атрады на бой,
Каб жыццё квяціста і зелена
Зацвіло над Бярозай-ракой.



*Партызаны ў паходзе. Часопіс «Удар з тылу» № 2, 1944*

## ВЕЕ Ў ЛЕСЕ ВЕЦЕР

Вее ў лесе вецер,
Гойдае галіны,
Кліча ўсіх нас партыя
Бараніць краіну:

— Ненавісны вораг,
Гітлер — гад паганы,
Перашкодзіў жыць нам мірна,
Хоча быць тут панам.

Уставайце, братцы,
Уставайце, людзі,
Няма літасці паганцу,
Люты бой тут будзе!..

Загулі балоты,
Застагнала поле,—
Выйшлі людзі ўсе са зброяй
Бараніці долю.

Ворага-фашыста,
Паганага фрыца —
Проста ў логава бандыта,
Да яго сталіцы!

І ідуць героі
Сэрца гаду выняць,
Ўзняць сцяг перамогі
У самім Берліне.



13. Зак. 696

# ПРЫЕХАЛІ Ў ВЁСКУ ФАШЫСЦКІЯ КАТЫ

Прыехалі ў вёску фашысцкія каты,
Крывавыя бачыш сляды:
Усё тут, ад хаты да хаты,
Бандытамі пушчана ў дым.

Усё тут спаліў кат і знішчыў,
Старых і дзяцей — у агонь;
Ты бачыш кругом папялішчы —
Крывавая справа яго.

Людзей расстраляў ён багата,
Уводзячы «новы закон»,
А колькі хлапцоў і дзяўчатаў
Угнаў у фашысцкі палон.

Помста нас кліча, заве да расплаты,
За мукі, за здзекі, за кроў:
— Біце моцна фашысцкага ката,
Знішчайце фашысцкіх звяроў!

## ПАВАРОЧВАЕ СОНЦА НА ПОЎДЗЕНЬ

Паварочвае сонца на поўдзень,
Зеленеюць травой паплавы,
Па баях, па атаках мы пройдзем,
Не схіліўшы сваёй галавы.

Будзе цяжка — мы цяжкасць асілім,
Будзе трэба памерці — памром,
За Радзіму, што нас узрасціла,
За бацькоў і за родны свой дом.

Калі раны глыбокія будуць,
Боль пякучы заціснем рукой,
Іх ажывіць і ласкай астудзіць
Беларусь — край няскораны мой.

І жыцця шкадаваць мы не будзем,
Каб не цешыўся бэшчаны кат,
Мы ў баях перамогу здабудзем,
Праз баі мы праб'ёмся назад.

І матуліны светлыя рысы,
Смех і песні вясёлых дзяўчат
Пранясём мы праз попел і прысак,
Але вернемся, прыйдзем назад.

# ПРАВАЖАЛА СЫНА МАЦІ

Moderato

*mf*

Пра – ва –жа – ла сы – на ма – ці

ў бой вя – лі – кі, важ – ны, пра –ва– жа – ла

*f*

і ка–за – ла: —Будзь, сы–нок, ад – важ – ным!

Праважала сына маці
Ў бой вялікі, важны,
Праважала і казала:
— Будзь, сынок, адважным! } 2 разы

Немцы лютыя напалі
На радную землю,
Залатых калоссяў хвалі
Памялі і сцерлі. } 2 разы

Падпалілі нашы вёскі,
Гарады разбілі,
Над народам нашым вольным
Здзекі учынілі. } 2 разы

А за гэта гадам лютым
Заплаціць патрэбна,
Каб ніколі больш пакуты
Наш народ не ведаў. } 2 разы

За Савецкую Радзіму
З яе громкай славай
Байцы Арміі Чырвонай } 2 разы
Сталі дружнай лавай.

У радах адважных, мужных
Будзь і ты, мой родны!
Ў бой за родную краіну } 2 разы
За спакой народны!

# КАБ ЖЫЦЬ НА СВАБОДЗЕ ПА-ЛЮДСКУ

Каб жыць на свабодзе па-людску,
Каб гора ніколі не мець,
Нясуць партызаны са Слуцку
Праклятаму ворагу смерць.

Выходзяць на бітву аршанцы,
Суровы ідзе Магілёў,
Каб помсціць фашысцкім паганцам
За гвалты, за здзек і за кроў.

Штыхамі шчацініцца Мозыр,
У гневе гудзе Белавеж,
І помста бязлітасна, грозна
Паўстала з сялянскіх застрэш.

Бушуе народным паўстаннем
І Гомель, і Віцебск, і Пінск,
І ворагу помсціць за раны
Наш родны разбураны Мінск.

І людзі выпростваюць плечы,
Скідаюць нявольніцтва груз,
Чырвонае войска наўстрэчу
Ідзе да цябе, Беларусь.




*Вокладка часопіса «Уперад»*

# НА КАНІ ВАРАНЫМ

На кані вараным
Выязджаў партызан. Эй!
Шабля вострая з ім
Шчэ й гранаты, наган. } 2 разы

Ён каня задзяржаў,
Пацягнуўся рукой. Эй!
Конь бадзёры іржаў,
Біў зямлю ён нагой. } 2 разы

Дзве рукі, як замок,
Крэпка зжаліся на міг. Эй!
— Да чакання, сынок! —
Яму кажа стары. } 2 разы

Сын крануў павады,
Сам фуражкай ўзмахнуў. Эй!
І паехаў туды,
Адкуль чуцен быў гул. } 2 разы

Конь памчаўся стралой,
Толькі вецер свісцеў. Эй!
Гэта красны баец
К партызанам ляцеў. } 2 разы

# У БАРЫ ЗЯЛЁНЫМ

У бары зялёным,
У бары сасновым
Раскінуўся лагер слаўных партызан,
Ўсе яны гатовы
(Сведкамі дубровы)
У баях зацятых біць фашысцкі стан...

Сведкай бор зялёны,
Што іх тут мільёны,
У тылу варожым акупантаў б'юць.
Шмат фашыстаў-катаў
Палі ад гранатаў,
Трупы іх штодзённа вораны клююць.

Добра знае вораг
Партызанскі порах,
Лоўкасць у змаганні, стойкасць у баях.
Знішчыць нас не можна,
І непераможна
Робім мы паўсюдна для фашыстаў страх.

# НОЧКА, НОЧКА-ЧАРАЎНІЦА

Ночка, ночка-чараўніца,
Партызанская сястра,
Нам прыйшлося парадніцца
У лясах каля кастра.

Мы цябе пазналі строгай
Спадарожніцай вайны,
Нас звяла адна дарога —
Гора нашай стараны.

Давялося часта брату
Не змыкаць сваіх вачэй,
Як хадзіла з ім адплата
Цемнатой сваіх начэй.

У паходзе ў дождж, нянасце
За каўнер цякла вада,
Быў загад — кастроў не класці,
Гаварылі: «Не бяда».

Не бяда, што часта холад
Прабіраў нас да касцей,
Што ў снягу пад небам голым
Ты сцяліла нам пасцель.

І ў баях прайшла нядарам
Ноч такая не адна,
Разгаралася пажарам
Партызанская вайна.

## ВЕЯЎ ВЕЦЕР БУЙНЫ

Веяў вецер буйны
З поля на даліну...
Выязджалі партызаны
Бараніць краіну.

Выязджалі партызаны
Бараніць краіну,
Ды спаткалі каля лесу
Пекную дзяўчыну.

На дзяўчыну хлопцы
Скоса пазіралі:
— Скуль, куды ідзеш ты? —
Важна запыталі.

— Не пытайце, хлопцы,
Куды шлях трымаю,
А лепш запытайце,
Што сказаць вам маю.

— Што, скажы, дзяўчына,
Слухаць будзем рады.
— Хлопцы-партызаны,
Вас пільнуюць гады.

Там, за гэтым лесам,
Ля дарогі ў жыце
У засадзе тайнай
Вас чакаюць фрыцы.

Паляцелі хлопцы,
Як віхор няўпынны,

Эх, і секлі гадаў
Шаблямі па спінах!

Веяў вецер буйны
З поля на даліну,
Дзякавалі хлопцы
Пекнай той дзяўчыне.

# ШУМІЦЬ, ГУДЗЕ ЗАВЕЯ ЗЛАЯ

Шуміць, гудзе, завея злая,
Навокал нібыта туман,
Сядзіць і ворага чакае
Ў снягу засада партызан.

Хоць абсыпае снег галовы
І вецер свішча ля вушэй.
А сэрца шэпча: рваць аковы
І знішчыць ворага хутчэй.

І заскрыпеў чагось снег белы,
Пачуўся раптам шорах, стук,
Каманда ціха праляцела,
І выстралаў раздаўся гук.

А той гук з ветрам разам зліўся
Падобны музыцы баянаў,
І вораг вобземлю зваліўся
Ад трапных стрэлаў партызанаў.

## БЫЦЦАМ ЧОРНАЯ НАВАЛА

Быццам чорная навала,
Вораг рваўся ў родны край,
І краіна застагнала
Ад бандыцкіх чорных зграй.

Быццам змей дваццаціглавы,
Поўз фашысцкі чорны зброд,
Стаў таптаць палі і травы,
Стаў паліць ён наш народ.

Наша вёска невялічка,
Называюць Астравок.
Партызанаў сувязныя
Ўсе пасаджаны ў астрог.

Але мукі ім не страшны,
Смелы, храбры наш народ.
Фрыц стараецца дарэмна
Ў іх дабіцца, дзе атрад.

Збеснаваўся вораг люты,
Ідзе ў вёску Астравок,
Ўсіх людзей сагнаў у хаты
І не выпусціў, паджог.

Крыкі жалю, злобы, помсты
Па акрузе разняслісь,
І да вёскі к партызанам,
Як прызывы, данясліcь.

Сіла гневу, жалю, помсты
Іх ў атаку падняла.

І на ворага-паганца
Мсціць за вёску павяла.

За пакуты ўсёй краіны
Кожны помсціў партызан,
Не адзін фашыст загінуў,
Пакаціўся у бур'ян.

Хай запомніць вораг дзікі,
Што не знішчыць наш народ,
Хай не ткне свіное рыла
Ў наш савецкі агарод.

## ГРОЗНАЯ АДПЛАТА

Гітлер аднавокі
У паход сабраўся,
Знішчыць лад савецкі
Падлюга збіраўся.

Ды народ наш вольны
Зламаў чорту рогі,
Не знойдзе дадому
Акупант дарогі.

Кожнага фашыста
Наша куля зловіць,
Сваім воўчым мясам
Ён зямлю угноіць.

За кроў, за няволю
Мы адпомсцім кату,
Каб навек запомніў
Грозную адплату.

Край жа наш савецкі
Будзе красавацца,
Будуць людзі нашы
Весела ўсміхацца.

## ПА ПОЛІ, ПАКРЫТЫМ ТУМАНАМ

Па полі, пакрытым туманам,
Туды, дзе дыміўся цягнік,
Ішлі змагары-партызаны,
Іх вёў камандзір-падрыўнік.

Жаданнем іх сэрцы гарэлі
Пусціць эшалон пад адкос.
Ім вецер дуў ў полы шынеляў,
Мароз красіў шчокі і нос.

Праходзілі смела, бадзёра,
Намер іх няможна спыніць!
За крыўду народа, за гора
Фашыстам ішлі адамсціць.

І шмат узляцела ў паветра
Ад рук іх варожых машын.
Ім сведкай становяцца ветры
Ды шум стогадовых хваін...



14. Зак. 696

# НІКОЛІ НЕ ЗГІНЕ АД ЛЮТЫХ ПАЖАРАЎ

Ніколі не згіне ад лютых пажараў
Вялікі і слаўны наш край.
У бой за Радзіму збірайся, таварыш,
Ідзі партызаніць у гай.

Прыпеў:

На прускага ката!
За вёску і хату! —
Кліч помсты народнай заве.
Ідуць у атаку
Лясныя салдаты,
Грукочуць гранаты,
Крычаць аўтаматы:
Жыве Беларусь!
Жыве!

Змагайся без страху з навалай варожай
За шчасце калгасных палёў;
У пушчах Палесся, на Нёмане й Сожы
Грыміць навальніца баёў.

Прыпеў.

Адважныя хлопцы сядзяць у засадах,
Разгневана пушча гудзе:
— Ад куль не схавацца вам, лютыя гады,
Расплаты не ўнікнуць нідзе!

Прыпеў.

Ніколі не згіне ад лютых пажараў
Вялікі і слаўны наш край.
У бой за Радзіму збірайся, таварыш,
Ідзі партызаніць у гай.

Прыпеў.

## Любимая партизанская



Мы шли на дело ночкой темной
Громить коварного врага,
Кипели злобой неустанной
Нам жизнь была не дорога /2 раза

Подкравшись к вражескому тылу
Команда подана — Вперед! —
Залился песней неустанной
Наш друг „Максимка"— пулемет /2 раза.

В смертельном страхе враг отпрянул
Бежал куда глаза глядят
Ответный залп нестройно грянул
Влетел в деревню наш отряд /2 раза

Свистели пули ветер злился,
Метели снежные крутя,
Товарищ-друг наш повалился
Подкошен пулею врага. /2 раза.

Прощай товарищ, храбрый воин
Пусть пронесется злой буран
Высоких почестей достоин
Наш славный красный партизан. /2 раза.

*Любімая партызанская песня. Часопіс «Быт рагачоўскіх партызан», 1944*

# ПІНСКАЯ ПАРТЫЗАНСКАЯ

♩= 92-104

Ка – ля ле – су, з-пад ра – кі, па па –
–лях га –ры – стых йшлі да на – ша – га ся –
–ла во– ра – гі – фа–шыс– ты. Йшлі да //–сты.

Варыянт запеву:

Ка– ля ле – су, з-пад ра – кі, па па – і г.д.

Каля лесу, з-пад ракі,
Па палях гарыстых
Йшлі да нашага сяла } 2 разы
Ворагі-фашысты.

Захацелася у нас
Хлебам накарміцца,
Захацелася дабром } 2 разы
Нашым пажывіцца.

І фашысты не дайшлі
Да лясной паляны,—
Там сустрэлі іх агнём } 2 разы
Нашы партызаны.

Не далі мы у жыцці
Збыцца іх надзеям,
Па савецкай па зямлі } 2 разы
Не хадзіць зладзеям!

# ПА ЗНАЁМАЙ ДАРОЗЕ

Па знаёмай дарозе
Выступаў па трывозе
Партызанскі атрад баявой.
Коні ўпрэжаны ў санкі,
Баявыя тачанкі
Вылятаілі гатовыя ў бой.

К нам у сені і хаты
Лезуць лютыя каты,
Палыхае ў агні далягляд.
І таму партызаны
Так выходзілі рана —
Па трывозе збіраўся атрад.

Вось і лесу палоска,
А за лесам і вёска,
Чутны стогны і крыкі людзей,
Тут фашысцкія зверы
Кроў людзей льюць без меры,
Паляць, рэжуць старых і дзяцей.

Разгарнулі мы роты
Баявым разваротам,
На фашыстаў пайшлі мы ў паход,
Рвалі гадаў на часці
За разбітае шчасце
І за гора, што церпіць народ.

Памятаюць хай каты —
Іх чакае расплата,
Будзе смерць і магіла ім ўсім,
А ці ў лесе, ці ў полі
Мы прыпомнім Заполле
І Бацэвіч забыць не дадзім.

# НАД БАБРУЙСКАМ ХОДЗЯЦЬ ХМАРЫ

Над Бабруйскам ходзяць хмары,
Над Мазырам чорны дым,
Й ох, прашчаліся парцізаны
З камандзірам маладым.

Густы ельнік і курганы —
Беларуская тайга;
Шлі з пабедай парцізаны,
Апракінуўшы ўрага.

І не раз ўставала сонца,
Пагражаў нам акіян,
Ох, ляцелі прэч германцы
Ад udараў парцізан.

# МЫ КЛЯТВУ ДАВАЛІ

Мы клятву давалі
Граміць без пашчады
Фашысцкую свору ў тылу,
За кроў, слёзы, стогны,
За сёлы спалёны,
За родную нашу страну.

Прыпеў:

Бывай, мая дзяўчына,
Іду ў бой за Айчыну.
І ў бітве з ўрагом
Пабеду знайдзём
І шчасце народу вярнём.

Трашчаць аўтаматы,
Вораг злобай аб'яты,
Прабуе ўсё нас абыйсці,
А мы незаметна
Сумелі бясследна
У фрыцаў з-пад носа уйсці.

Прыпеў.

# ПА ДАРОЖКАХ ПА ЛЯСНЫХ

Па дарожках па лясных
Голас раздаецца.
Група пінскіх партызан
Эй! Едзе да й смяецца.

У дзярэўню за скатом
Немцы прыязджалі.
Партызанам падвязло:
Эй! Фрыцаў пастралялі.

Ой, дарожка каратка,
Што каля Бастыня:
Жыццё скончылі сваё
Эй! Немцы із Берліна.

Не хацелась паміраць
Злодзеям нямецкім,
Ім хацелась пагуляць,
Эй! Па зямлі савецкай.

# ПЕСНЯ ПРА ЗАСЛОНАВА

♩=96

На ма - гі - ле ру_ жы рас _ цві _та _ юць,
шэп _ ча бэз над квет_ ка _ мі вяр _ гінь, а ў ма _
_гі _ ле спіць ге_ рой са _ вец _ кі — пар _ ты _
_зан За _ сло_наў Кан_стан_цін. А ў ма _ //_цін.

На магіле ружы расцвітаюць,
Шэпча бэз над кветкамі вяргінь,
А ў магіле спіць герой савецкі — } 2 разы
Партызан Заслонаў Канстанцін.

Не салоўка голасам пявучым
Над ракой калыша ціхі гай,
Гэта мы яму спяваем песню } 2 разы
Пра любімы, родны, вольны край.

У дрымучых у лясах аршанскіх
Гэтай песні ён не даспяваў.
Ад смяротнай кулі ад фашысцкай
За радзіму вольную ён паў. } 2 разы

Беларусь, ты бацькаўшчына наша,
Ўдаль і ўшыр прасторам ты лягла,
Кветкай яркай, кветкаю прыгожай
Між рэспублік вольных расцвіла. } 2 разы

Ой, з-за лесу-бору, па-над хатай
Ясна свеціць сонца цераз тын,
Мы табе пяём сягоння славу,
Наш герой — Заслонаў Канстанцін. } 2 разы

## НЕ ЗЯЗЮЛЬКА ПЛАЧА І КУКУЕ

На мяжы, дзе зломак кукурузы
Перавесіў пер'е цераз тын,
Спіць Герой Савецкага Саюза
Партызан Заслонаў Канстанцін.

Не зязюлька плача і кукуе
У дрымучых віцебскіх лясах,
Гэта песню мы пяём такую,
Што любіў насвістываць ты сам.

Мы яе пад кулямі спявалі,
Прабіваліся па пахі у вадзе.
Колькі ворагаў — ніколі не злічалі,
А пыталіся адразу толькі: «Дзе?»

Над зямлёй руінаў і пажарышч
Ўстане сонца, гляне цераз тын.
Спі спакойна, доблесны таварыш,
Спі, герой, Заслонаў Канстанцін.

## ТАМ, ДЗЕ РЭЧКА СЛУЧ ГАМОНІЦЬ

Там, дзе рэчка Случ гамоніць
З ветрам шумным ля Пагоста,
Аб Чуклаі слава ходзіць,
Камсамольцы нашым простым.

Мы героя не забудзем,
Край ад ворагаў ачысцім,
Да канца фашыстаў будзем
Біць, пакуль усіх не знішчым.

Хай яны не топчуць болей
Нашы родныя палеткі!
Мы нясём праз бітвы волю
Ўсёй зямлі і міру кветкі.

З кожным днём у байцы жорсткай
Партызанскі ўдар мацнее.
Над радзімаю старонкай
Сцяг наш ярка палымнее.

## ОЙ, ТУМАНЫ

То не воран чорным крыллем маша,
Не дубровушка зялёная шуміць,
То герой Ісачанка наш Саша
Пад кустом ракітавым ляжыць.

Ой, туманы, шэрыя туманы,
Дзе тады лcraталі, дзе былі?
Дый чаму ж, туманы, растуманы,
Земляка ад мін не збераглі?

Ён закрыў навекі свае вочкі,
Дзе бяжыць Дняпро, наша рака,
Ой туманы, што ж вы, туманочкі,
Не зберaглі Сашу-земляка.

Падарваўся на варожай міне
За свабоду, шчасце, за людзей,
Аб адважным беларускім сыне
Несціхана лес усё гудзе.

Ой, туманы, шэрыя туманы,
Ой, калгасныя шырокія палі,
Ой, чаму ж вы Сашу-партызана
Не схавалі, нам не зберaглі...

І не раз стагнала Хоўхла-вёска,
Ой, не раз дрыжэлі землякі.
Выбухаў хаваў лес адгалоскі,
Пад адхон ляцелі цягнікі.

Ой, туманы, шэрыя туманы,
Дзе тады ляталі, дзе былі?

Дый чаму ж, туманы, растуманы,
Земляка ад мін не збераглі?

Будуць помніць негадзяі-фрыцы
Беларускіх мужных партызан,
Нам цябе ніколі не забыцца,
Беларускі волат і тытан.

# НАД АБРЫВАМ ВЕЦЕР ВЫЕ

Moderato

Над аб_ ры _ вам ве_ цер вы _е, шле пра _
_клё _ ны, а аб_ рыў ў за _ ду _ ме,
гроз_ ны і вы _ сок, га _ла_ ву _ схі _
_лі _ лі за _ ла _ ты _ я клё _ ны
і ра _ня_ юць слё _ зы на сы_ ры пя _ сок.

Над абрывам вецер вые, шле праклёны,
А абрыў ў задуме, грозны і высок,
Галаву схілілі залатыя клёны
І раняюць слёзы на сыры пясок.

Ў роспачы аб бераг злосна хвалі б'юцца,
Быццам бераг жоўты хочуць праламаць,
Ціха яны стогнуць, плачуць і смяюцца,
Кропелькі слязінак угару ляцяць.

І туман касматы вісне над ракою,
Пеніцца сягоння бурная рака,

Хвалі «падарунак» вынеслі з сабою,—
Кінулі на бераг цела хлапчука.

Ён зусім спакойны, нерухомы вочы,
На ягоным целе пяць смяротных ран,
Хто б то мог падумаць, што мінулай ноччу
Зверскі быў замучан Марціновіч Ян.

З пачкай пракламацый Янука злавілі,
Усміхнуўся толькі на пытанне — «Скуль?»
Доўга катавалі, здзекваліся, білі;
Ўрэзалісь ля рэчкі пяць фашысцкіх куль.

Над абрывам вецер вые, шле праклёны,
А абрыў ў задуме, грозны і высок,
Галаву схілілі залатыя клёны
І раняюць слёзы на сыры пясок.

15. Зак. 696.

## ТАМ, ДЗЕ СЁННЯ ШУМЯЦЬ СМУТНА ЕЛІ

Там, дзе сёння шумяць смутна елі,
Дзе праходзіць вада ручаём,
Там стаіць адзінока магіла,
Асыпана асеннім лістом.

Там пахован Хартановіч Валодзя,
Васемнаццаць год была яму,
І скасіла яго смерць ліхая
У вялікім і страшным баю.

Завывалі чаргі аўтаматаў,
Дождж свінцовы на немцаў ўсё ліў,
Так стралялі байцы-партызаны,
Гэтак страшна народ немцам мсціў.

Пуля ліхая ў Валодзю папала
І пранзіла яго белую грудзь,
Баявыя друзья пахавалі
І далі партызанскі салют.

# НА АПУШЦЫ ЛЕСУ

На апушцы лесу
Стары дуб стаіць,
А пад гэтым дубам
Партызан ляжыць...

А над ім старая
Маць яго стаіць,
Слёзы выцірае,
Сыну гаварыць:
— Я цябе ўзрасціла,
А не зберагла,
А цяпер магіла
Будзе тут твая.

Калі ты радзіўся,
Бацька немцаў біў,
Недзе пад Адэсай
Галаву злажыў.
Я ўдавой засталась—
Пяцёра дзяцей,
Ты быў самы меншы,
Мілы мой Андрэй.

За яе плячамі
Стаяў камандзір,
Ласкава старэнькай
Ён так гаварыў:
— Ты не плач, старая,
Ён героем паў.
І з зямлі старую
Сам ён прыпадняў.—

А яшчэ з апушкі
З гэтай немцаў гнаў
І ў гарачай бітве
Сам героем паў.

# ПАРТЫЗАНСКАЯ

Што пад старым дубам партызан зарыт,
Над яго магілай маць ў слязах стаіць.
Яна горка плача, сыночка заве,
— На каго ж пакінуў на старасць мяне?

Прагоняць фашыстаў, прыдуць ўсіх сыны,
Толькі ты не ўстанеш із сырой зямлі.
Толькі ветры будуць ў лісцях гаманіць,
Што пад гэтым дубам партызан ляжыць.

Ён па-партызанску ворага спаткаў
І жывым у рукі катам не папаў.
Ой, не плач, матуля, перастань тужыць,
Твой сын ў сэрцах нашых вечна будзе жыць.

# Ў ЧЫСТЫМ ПОЛІ, Ў ПОЛІ ПАД РАКІТАЙ

Ў чыстым полі, ў полі пад ракітай,
Дзе клубіўся па начы туман,
Там ляжыць ў сырой зямлі зарыты,
Там схаваны юны партызан.

Я сама героя праважала
Ў дальні пуць, на слаўныя дзяла,
Баявую шаблю падавала,
Варанога коніка вяла.

На траву, на травушку сцяпную
Ён упаў, прастрэлены ў баю,
За Савецкую зямлю радную
Ён аддаў геройску жызнь сваю.

# ЛЯ ДАРОГІ ДУБ КУДРАВЫ

Ля дарогі дуб кудравы,
Снег кружыўся над зямлёй,
Там ў баю пагіб са славай
Кулямётчык маладой.

Кулямёт работаў чыста,
Кулямётчык — за траіх,
Падыходзілі фашысты,
Вельмі многа было іх.

Кулямётчык на тым дубе
Ранен куляй разрыўной,
На зямлю ён апусціўся,
Кулямётчык маладой.

Пад тым самым большым дубам
Герой ранены ляжыць,
І з грудзей яго геройскіх
Кроў гарачая бяжыць.

Кулямётчык памірае
За любімую страну
І на помач прызывае
Маць-старушку і жану.

— Маць-старушка дарагая
І любімая жана,
Я сражаўся, не адступаў я,
Як вялела мне страна.

У дарогі дуб кудравы,
Снег кружыцца над зямлёй,
Так ў баю пагіб са славай
Кулямётчык маладой.

## ТАМ ЎДАЛІ, ДЗЕ БЯРОЗА ШЫРОКА

Там ўдалі, дзе Бяроза шырока,
Дзе таполі тужліва шумяць,
Там магіла стаіць адзінока,
Ў ёй чатыры героі ляжаць.

А скрозь сосны і елі высокі,
Скрозь зацягнуты дымкай туман,
Патануўшы ў сугробах глыбокіх.
Прабіраўся атрад партызан.

А насустрач — фашысцкая свора,
Нашу радасць ў баі хоча ўзяць,
Завязаўся там бой, бой суровы,
А ніхто не пасмеў адступаць.

Не ўпярвыя мы тут пабядзілі,
Праяснілась лясістая шыр,
Толькі ў строй не вярнулась чатыры,
Сярод іх — Леанід-камандзір.

Мацьь з атцом не рыдалі над імі,
З кожным днём будуць іх ажыдаць,
Баявыя друзья схаранілі
Ля ракі, дзе таполі шумяць.

# БАЛАДА АБ ПАРТЫЗАНЦЫ ГАЛІНЕ

♩=102
*Адна*
*Хор:*

Над ра - ко - ю ў спа - ко - ю рас - цві - та - ла ка - лі - на, а ў ся - ле за ра - ко - ю вы - рас - та - ла дзяў - чы - на. А ў ся - //- чы - на.

Над ракою ў спакою
Расцвітала каліна,
А ў сяле за ракою
Вырастала дзяўчына. } 2 разы

На каліну-маліну
Прылятала зязюля,
Да дзяўчыны Галіны
Прыглядаўся Януля. } 2 разы

За ракой, дзе Галіна,
Сенажаці касілі,
А ў сяле, дзе Януля,
У паход затрубілі. } 2 разы

Перастала каліна
У цвяточкі ўбірацца,
Перастала Галіна
З сваім мілым відацца. } 2 разы

Бедавала зязюля,
Што цвяточкаў не стала.
Бедавала матуля,
Што дзяўчына прапала. } 2 разы

Падняла восень хвалі
У рацэ пад калінай,
Пайшлі ў бой партызаны —
Там была і Галіна. } 2 разы

## КРУЖЫЦЬ ЛІСЦЕ ВЕЦЕР...

Кружыць лісце вецер,
Рве салому з хаты;
У мяне на свеце —
Ні сястры, ні брата.

Ні дачкі, ні сына
Я цяпер не маю,
Дзе малых пакінуў,
Я і сам не знаю.

Недзе бацька, маці,
Калі толькі жывы,
Не адно пракляцце
Ворагу злажылі.

Выйду, загукаю,
Ветру пакланюся;
Можа, вецер мае
Вестку з Беларусі?

Але вецер ціха
Гоніць лісце далей,
Дзе ж падзець мне ліха,
Што мне навязалі?

Раны я ўстрывожыў,
Стала сэрцу горай,—
У крыві варожай
Утаплю я гора.

# ТРАВА ПАЛЯГАЕ

ПАВОЛЬНА

*mf*

Тра – ва па – ля – га – е, ві – ху – ры га –

– ло – сяць, на све – жы – я ра – ны пя – соч – ку на –

1. – но – сяць. 2. На // – но – сяць.

Трава палягае,
Віхуры галосяць,
На свежыя раны
Пясочку наносяць. } 2 разы

Нясіце вы, ветры,
Жалобу матулі,
Скасілі сыночка
Нямецкія кулі. } 2 разы

І ночка праходзіць,
Другая мінае,
Матуля над сынам
Нямцоў праклінае: } 2 разы

— Бадай вам, нямцове,
Пазнацца з труною,
Як вы разлучылі
Сыночка са мною. } 2 разы

## ПРЫСТАНЬ, ПРЫСТАНЬ, ЗНАЁМАЯ ВЁСКА

Прыстань, Прыстань, знаёмая вёска,
Ці даўно ты садамі цвіла,
Ці даўно вечарамі гармошка
Сабірала на танцы дзяўчат?

Ты скажы мне, дзе дзеліся хаты
І куды твае людзі пайшлі?
Папалілі ўсё ворагі, каты,
І людзей папалілі жывых.

Напіліся крыві чалавечай
І зямлю напаілі слязой,
Гэта тыгры у скуры авечай
Па краіне гуляюць з касой.

Дзе іх сэрца, фашысцкія гады,
Дзе душа іх, паганая кроў,
Каб дзяцей вырываць з рук у матак
І паліць на вачах у бацькоў?..

На адплату, браты-беларусы,
На адплату за нашых дзяцей,
За жанчын, за сірот на адплату,
Браты, падымайцесь жывей!



*Партызаны 8-й рагачоўскай брыгады спяваюць любімую партызанскую песню.*
*З часопіса «Быт рагачоўскіх партызан», 1944*

# У БАРЫ КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЯ

У бары кукавала зязюля,
Яе песню я слухаў не раз,
Гэта ты, дарагая матуля,
Залівалася плачам па нас...

Не сумуй, дарагая матуля,
Што сыноў тваіх дома няма,
Нас мінула варожая куля,
І не страшна нам злая зіма.

І не страшны нам вораг пракляты,
Б'ём яго мы удзень і ўначы,
Скора, скора падмажа ён пяты,
Ды не ўдасца, бадай, уцячы...

Калі ж заўтра варожая куля
Прынясе мне смяротны канец,—
Не сумуй, дарагая матуля,
Што за край наш загіне баец.

## ОЙ, НА ЛУЗЕ ПРЫ ДУБОЧКУ

Ой, на лузе пры дубочку
Калыхала Марусенька
Сваю дочку.

Калыхала і казала:
— Пасеяла руту, мяту,
Мята звяла.

Мята звяла, рута ссохла,
Ці я ў цябе, мая маці,
Не дарасла?

Не дарасла — расці буду,
Палюбіла партызана —
Не забуду.

Партызаны часта ходзяць,
Яны немцам-людаедам
Ноччу шкодзяць.

Ой ты, маці, мая маці,
Пакалышы ты маленькае
Дзіцяці.

Пакалышы ты дзіцяці,
А я пайду супраць немцаў
Ваяваці.

А я пайду ваяваці —
Там мілому ў партызанах
Памагаці.

Пусці, маці, ты не бойся,
Біці немцаў ўдваіх з мілым
Паклянёмся.

Біці немцаў паклянёмся,
З перамогай к сваім дзеткам
Мы вярнёмся.

# НА КАМІНКУ ПАЛАЮЦЬ КАРЧЫ

На камінку палаюць карчы,
Свецяць вокны знаёмай хаціны,
За вакном вецер вые, крычыць,
Снегам крые дарогі-пуціны.

Спрытна шые красуня-дачка
На хусцінцы з зялёненькім кантам
Шоўкам чорным узоры радка:
«Смерць нямецкім ваўкам-акупантам!»

Многа хустачак, памятак тых,
Хлопцы носяць з сабой у кішэнях,
На дарогах, узгорках крутых
Ўрагоў з чорнай магілаю жэняць.

У крывавых баях агнявых
Помняць словы на хустачцы з кантам
І нясуць на штыках баявых
Смерць нямецкім ваўкам-акупантам.

## ПОМНЮ, ПОМНЮ ТЫЯ РОСЫ

Помню, помню тыя росы,
Сад той над ракою,
Расплятаў мне мілы косы
Ласкавай рукою.

Дзе ж цяпер мой мілы дружа,
Дзе ж ты, мой саколік?
Можа ў лузе, можа ў лесе,
Можа ў чыстым полі.

Б'ешся з ворагам паганым
За сваю айчыну.
Ой, успомні, мой каханы,
Русую дзяўчыну.

Помню, помню тыя росы,
Сад той над ракою,
Расплятаў мне мілы косы
Ласкавай рукою.

# ПРАЙШЛА ВЯСНА, НАСТАЛА ЛЕТА

Прайшла вясна, настала лета,
Ў саду цвяточкі расцвілі,
А нас, дзяўчатак маладзенькіх,
Ў фашысцкі лагер адвязлі.

Гараць агні дрыжачым светам,
Ў бараках ўсе трывожна спяць,
Кругом баракаў паліцаі
Ціхонька ходзяць, сцеражаць.

Адна дзяўчонка маладая
Схіліла галаву на грудзь,
Яна пра дом свой ўспамінала
І не магла ніяк заснуць.

— Ой, мама, мама дарагая,
Зачым на свет ты радзіла,
Няшчаснай доляй нарадзіла,
Ў страну фашыстаў аддала.

Нас ўсіх фашысты зневажаюць,
Нідзе нам ходу не даюць
І турмы намі запаўняюць,
І рускіх «свіннямі» завуць.

Калодкі ногі нам пацёрлі,
«Асты» на грудзі налеглі,
Кругом рашоткі й паліцаі,
У нас свабоду аднялі.

## РАСКІНУЛІСЬ РЭЛЬСЫ ШЫРОКА

Раскінулісь рэльсы шырока,
Па іх эшалоны ляцяць,
Яны з Беларусі вывозяць
Ў Германію нашых дзяўчат.

Як ўспомніш мінуту прашчання,
Дык льецца сляза за слязой.
— Прашчайце, бацькі і радныя,
Я больш не вярнуся дамой.

Як ўспомніш мінуту прашчання,
І хмурыя бровы бацькоў,
Яны нас туды праважалі,
Як быццам жывых мерцвякоў.

Прашчайце, зялёныя паркі,
Мне болей па вас не гуляць,
Я буду ў Германіі чорнай
Свой век маладым дажываць.

Але б'ецца з ўрагом за пабеду
Брат-капітан, наш герой,
Няхай адамсціць людаеду
За мукі сястрыцы радной.

# ОЙ, ЖУРАЎКА, ЖУРАЎКА

Ой, жураўка, жураўка,
Чаго грачаш так жалка?

Ой, як жа мне не гракаць,
Трэба высака лятаць.

Ой, высока, высако,
Ад радзімы даляко.

Адбілася ад роду,
Як камень у воду.

Упаў камень да й ляжыць,
На чужбіне гора жыць.

Не дай божа забалець,
Няма каму й пажалець.

Не дай божа паміраць,
Няма каму й пахаваць.

Пахавае чужына,
Знаць не будзе радзіма.

Толькі тагда спамянуць,
Як вячэраць пасядуць.

Лішняй будзе ложачка,—
На чужбіне дочачка.

# НАС ЗАГНАЛІ, ЗАКУПОРЫЛІ

Нас загналі, закупорылі
У вагоне, бы ў турме.
І вязуць, дзе мо за горамі
Смерць праклята не міне.

Ля станка стаю жалезнага
Без спачыначку і сна,
Ад біча таго нямецкага
Ныюць ручанькі, спіна.

Цёмна, цёмна. Нават зорачкі
Тут не свецяць, як у нас,
Ой, ты гора, маё горачка,
Не мінула гэты раз.

Беларусь, мая староначка,
Лазнякі твае шумяць,
Ох ты, гора, маё горачка,
Як жа слёзы мне суняць?

Не звіні, крыніца звонкая,
Не муці сваёй вады.
Я з любімаю старонкаю
Буду сэрцам заўсягды.

# НОЧКА ЦЁМНАЯ, НОЧ КРЫЛАТАЯ

Ночка цёмная, ноч крылатая
Апусцілася над дальняй стараной,
А я, дзяўчына разняшчасная,
Ўсё не сплю за астрожнай сцяной.

А я змучылась і галодная,
І жадаю хоць трошкі заснуць.
Чужастраніца я бяздомная,
І пакутай напоўнена грудзь.

І не спіцца мне за рашоткаю,
Мае думкі лятаюць кругом,
Маці родная і з сястронкаю
І радны ўспамінаецца дом.

На Усходзе там, за Варшаваю,
Ой, далёка краіна мая,
Памярці не жаль, ды са славаю,
Каб пазнала радная страна.

## КАЛІНА-МАЛІНА

Каліна-маліна
Над ярам стаяла,
Ой, там маці з дочкай
Навек расставалась.

А ў пятніцу рана,
Яшчэ сонца не ўсходзіць,
Маладую дзеўку
Із сяла выводзяць.

Выйшла за вароты,
Нізенька скланілась:
— Прашчайце, суседанькі,
Можа, з кім сварылась.

Прашчайце, суседанькі,
Шчэ родна матуля.
З далёкай Нямеччыны
Ці жыва вярнуся?

Пасадзілі ў поезд,
Падзівілася ў акно,
Асталась мая Радзіма
Ўжо мне даляко.

Прывезлі ў Германію,
Асталася я адна,
Няма маёй Радзімы,
Цяпер я сірата.

Даждалась нядзелькі,
Сумна, невясёла:

Няма есці, піці,
Не з кім гаварыці.

Гады маладыя
Марна прападаюць.
Сяджу у бараках,
Так горка рыдаю.

Разлучалась з мамай,
Быў хмуры дзянёчак,
Мама йшла, плакала
За мной цэлы часочак.

А ты, мая мама,
Ўжо даўно плачаш,
Не журыся, даражэнька,
Мо калі убачыш.

Ранняю парою,
Толькі снег растаў,
А для Беларусі
Цяжкі час настаў.

У саду цвяточкі
Пышна распусціліся,
Маладыя дзяўчаты
Дужа засмуціліся.

Не давялось пажыці,
На роднай Беларусі,
Прыйдзе лета, выйдуць жаці
Ў далёкую чужыну.

Каму расказаці,
У каго спытаці,
Да каго прыхіліцца,—
Немцы усе ка́ты.

Няма бацькі, маці...
Хоць і захвараеш,

То ляжы смутная,
Пакуль не сатлееш.

І ніхто не спросіць,
Што з табою, доня,
Ляжым толькі, плачам,
Праклінаем долю.

А у Беларусі
Кветкі распусціліся,
А мы з Беларуссю
Навек разлучыліся.

А мы тут гаруем,
Слёзы праліваем,
Гады маладыя
Марна прападаюць.

Бо не маю долі
І крыллі не маю,
Паляцела б на Радзіму...

Пісаці канчаю.

# ОЙ, ЯК ЦЯЖКА У НЯВОЛІ

УМЕРАНА

Ой, як цяж – ка у ня – во – лі,
ка – лі во – лю зна – ла, як згу – бі – ла
жыц – ця квет – ку ды ра – бы – няй ста – ла.

Ой, як цяжка у няволі,
Калі волю знала,
Як згубіла жыцця кветку
Ды рабыняй стала.

Калі радасць і вяселле
Дзесь далёка веюць,
А ў няволі здзекі, кпіны
Цябе адалеюць.

Я жыла у родным краі,
Як птушачка ў полі,
Я гуляла, я спявала,
Я жыла на волі.

Я цвіла, як тая кветка
Ранняю вясною,
Эх, жыццё ты маладое,
Цешылась табою!

Наляцелі тут фашысты,
Вёску зруйнавалі
І мяне з Радзімы мілай
У рабства загналі.

На плячо нашылі лату...
Чым я не такая?
Кажуць, што з зямлі савецкай,—
Кроў у нас другая.

Над спіною кнут падняты,
Цягнеш — жылы рвуцца,
Возьме жаль і сцісне сэрца,
Слёзы самі льюцца.

Днём і ноччу бачу катаў,
Фашысцкія рылы,
Як катуюць, як рабуюць,
Гоняць у магілы.

Ды ці можна расказаць ўсё?
Эх, мой лёс дзявочы!
Чаму ж я у роднай хаце
Не закрыла вочы?

Не, не прыйдзецца убачыць
Родную краіну,
Ой, як цяжка у няволі,
Не знясу, загіну.

Дзе ж ты, мілы салавейка?
Заспявай, любімы,
Можа я пачую голас
Са сваёй Радзімы.

Ой, дзяўчаткі, ой, сястрычкі,
Ой, мае падружкі.
Дзе ж уборы, вечарынкі,
Дзе чырвоны стужкі?

Пазбіваліся мае косы,
Высахла ў былінку,
Не пазналі бы, сястрычкі,
Вы сваю Галінку.

Паўпадалі мае вочы,
Пачарнелі губкі,
А пакуль магу сказаці,
Слухайце, галубкі!

Край наш родны і магутны,
Лес шуміць прыбраны,
Ўзяўшы вілы і вінтоўкі,
Рушце ў партызаны!

Вы адпомсціце фашыстам
За тых, што загінуць,
На далёкай на чужбіне
Жыццейка пакінуць.

Хай паспробуюць шакалы
З вамі паспрачацца,
Дайце ім, каб кожны з гадаў
Мог з зямлёй абняцца.

## ГЛЯДЖУ Я НА ЎСХОД І СУМУЮ

Гляджу я на Ўсход і сумую,
Там тата і мама мае,
Там родная вёска, якую
Я бачу так часта у сне.

Гляджу на Усход і шапчу я
Тым птушкам, што вольна ляцяць:
— Ляціце вы ў вёску радную
Прывет ад мяне перадаць.

Скажыце, што я у няволі
За дротам калючым сяджу,
І пэўна ўжо болей ніколі
Не ўбачу я вёску сваю.

Сілы мяне пакідаюць,
А гоняць рабіць і рабіць:
А копы капаць прымушаюць,
А я ледзь магу ўжо хадзіць.

Ляціце у край мой любімы,
Скажыце ў старонцы маей,
Што будуць пра дом і Радзіму
Апошнія думкі мае.

# ЗАБРУКУЙ, СІВЫ ГАЛУБОЧАК

Забрукуй, сівы галубочак,
На чырвонай каліне, —
Няхай плача малады малойчык
Па харошай дзяўчыне.

Няхай плача, няхай тужыць,
Галоўку клапоча:
Высахла я на былінку,
Скарыцца ж не хочу.

Выганяе люты вораг
З роднае хаты,
У няволю гнаці хоча
Ліхадзей закляты.

У няволю гнаці хоча,
Ліхадзей закляты,
Ды яму я не скаруся,
Лепей утаплюся.

Баліць галоўка, баліць макоўка,
Нечым завязаці,
Няма мілага, чарнабровага,
Некім наказаці.

Завяжу галоўку, завяжу макоўку
Шоўкавым платочкам,
Пашлю да мілага, чарнабровага
Сівога галубочка.

— Ляці, сівы галубочак,
Ляці, не садзіся,

Прыляціш да майго мілога,
Нізенька скланіся.

Ляцеў сівы галубочак,
Ляцеў, не садзіўся,
Прыляцеў да майго мілога,
Нізенька скланіўся.

Ой, ідзе мой міленькі
З Арміяй Чырвонай,
Вызваляці, бараніці
Край наш любы, родны.

17. Зак. 696

## У СУБОТУ РАНЕНЬКА

У суботу раненька,
У нядзелю пазненька
Кукавала зязюля
У гаю зеляненькім.

Ой, то не зязюля,
То родная маці,
Што выпраўляла
Сына ваяваці.

— Я думала, сынку,
Нявесткі дождаці,
А ты едзеш, сынку,
Ўрага дабіваці.

Я думала, сынку,
Што скрыпачка грае,
А па табе, сынку,
Дзяўчына рыдае.

— Каб ты, мама, знала,
Якое мне гора,
То ты б пераплыла
Цераз сіне мора.

Каб ты, мама, знала,
Якая мне беда,
Ты передала б
Галубчыкам хлеба.

Галубчыкам хлеба,
Сінічкаю солі,

Ой, божа ж мой, божа,
Ў якой я няволі.

Ой, ў полі, у полі
Глыбока магіла.
Там пахаранёна
Ўся мая радзіма.

Схаранёны бацька,
Схаранёна маці,
Што выпраўляла
Сына ваяваці.

# ОХ ТЫ, САД, ТЫ МОЙ САД

Ох ты, сад, ты мой сад,
Сад зялёненькі,
Не парой ты, мой сад,
Расцвітаешся.
А куды ж ты, мой сын,
Сабіраешся.
Ці у ход, ці ў паход,
Ці ў дарожаньку.
Паначуй, мой сынок,
Хоць жа ночаньку.
— Я і рад начаваць
І нядзелечку.
Трэба йсці ваяваць,
Урага выганяць.
А ты, маці, не плач,
Дарагая сястра,
Пажадай мне удач,
Абнімі ля двара.
Ай, ацец мой і маць,
Вы мне дарагі.
Ды краіну таптаць
Сталі ворагі.
За любімы народ,
За айчыну-маць
Я іду у паход
Немчуру выганяць.

# І СОНЦА ЗАКАЦІЛАСЬ ЗА ЦЁМНЫЯ ЛЯСЫ

♩ = 120

І сон – ца за – ка – ці – лась за
цем – ны – я ля – сы, ўсе птуш – кі пры – за –
– ціх – лі, не чут – ны га – ла – сы.

І сонца закацілась
За цёмныя лясы,
Ўсе птушкі прызаціхлі,
Не чутны галасы.

Ўсе птушкі прызаціхлі,
Не чутны галасы;
Тры смелых партызаны
Аставілі лясы.

Прыехалі у вёску,
Заходзяць ў крайні дом:
Там старая хазяйка
Сядзела за сталом.

— Любезная хазяйка,
Пусці нас начаваць.

— Я рада вас прыняці,
Ды нечым частаваць.

Я ў печы не паліла
І хлеба не пякла,—
Сказала ім хаяйка
І плакаць пачала.

— Аб чым, мамаша, плачаш,
Аб чым ты слёзы льеш?
Няўжо свайго сыночка
Між нас не пазнаеш?

Старушка ўстрапянулась,
Устала з-за стала,
Сыночка распазнала
І крэпка абняла.

— Мой міленькі сыночак,
Дзе ж ты дагэтуль быў?
— Матуля дарагая,
Радзіму бараніў.

І сонца паказалась,
Пагнаў вецер туман,
З матуляй расставаўся
Сыночак-партызан.

# ШЧЭ СОНЦА НЕ ЗАХОДЗІЦЬ...

ПАВОЛЬНА

Шчэ сон – ца не за – хо – дзіць за

цём – ны – я ля – сы.

Гэй! Усе птуш – кі шча – бя – та –

– лі на роз – ны га – ла – сы.

Шчэ сонца не заходзіць
За цёмныя лясы.
Гэй! Ўсе птушкі шчабяталі
На розны галасы.

Пад кусцікам бярозавым
Ізбушачка стаіць,
Ў той маленькай ізбушкі
Удовушка жывець.

Аднажды два героі
Прасілісь начаваць:

— Пусці, пусці, хазяюшка,
Нас ночку пераспаць.

— Я ў печкі не паліла,
Гасцей я не ждала,
На полі рабатала,
Дамой позна прыйшла.

— Не нада нам, хазяюшка,
Не нада нічаго,
Мы заўтра на рассвеце
Уходзім даляко.

Хазяйка сагласілась,
Пусціла начаваць,
Пасцельку пасцяліла,
Вячэраць падала.

— Скажы, скажы, хазяюшка,
З якіх ты пор ўдава?
— Я з сорак перва годзіка,
Як началась вайна.

Я з сорак перва годзіка,
Як началась вайна,
Як мужа праважала,
Сыночка аддала.

— Узнай, узнай, хазяюшка,
Ты мужа сваяго,
Яшчэ узнай, хазяюшка,
Сыночка роднага.

— Я мужа не узнала,
Саўсем ён стаў сядой,
Сыночка не узнала,
Ён стаў дважды герой.

Я мужа узнавала
Па ласкавых славах,
Сыночка я узнала
Па русых валасах.

# ОЙ, З-ПАД ГОРКІ ЎСЁ ТУМАН

Ой, з-пад горкі ўсё туман,
Ўсё туман, ўсё туман.

А ў тумане шэрым конік
Вараны, вараны.

На ім едзе камандзірык
Малады, малады.

Вёў ён сотню партызанаў
За сабой, за сабой.

Проціў немцаў ўсе стаялі,
Як сцяна, як сцяна.

Кулі сыпаліся, жужжалі,
Як пчала, як пчала.

З іх нікога не забіла,
З іх, байцоў, з іх, байцоў.

Толькі ўбіла камандзіра
Малайцоў, малайцоў.

## ПАРТЫЗАНСКАЯ ЖАРТОЎНАЯ

Ой-да да нас едуць ды госці з Берліна,
Едуць госці к нам з Берліна,
Узрываюцца на мінах,
На дарозе вельмі траска...
Калі ласка!

Ой-да мы гасцей сустракаем шчыра,
Не шкада для іх нам магільнага жвіру.
Падарункаў ёсць ім шмат:
Куляў, бомбаў і гранат...
Пагублялі госці каскі...
Калі ласка!

Ой-да мы гасцей прывялі ў дубровы,
Павязалі шыі ім гальштукам новым,
Новым гальштукам пяньковым
На суку на тым кляновым...
Бывайце здаровы!

Ой-ды раззлаваліся нашыя госці,
Пагублялі госці галовы і косці.
Без падзякі, без паклона
Уцякаюць ў эшалонах,
Губляюць парточкі...
Чакайце, паночкі!

Ой-ды пачакайце, нашыя госці,
Спаць мы вас паложым на добрым пагосце,
Будуць вам спяваць пашаны
Чарнакрылыя груганы,
Кол вам у грудзі!..
Мы шчодрыя людзі!

# БЫЛО У СЫМОНІХІ СЕМЕРА ДАЧОК

Было у Сымоніхі семера дачок:
Аўгіння, Аксіння,
Прузына, Хрысціна,
Зося, Прося, сёмая — Агата.

Прыйшло да Сымоніхі семера салдат,
Семера салдат — бандыцкі атрад:
Фрыц вашывы, Ганс пляшывы,
Курт галодны, Руд халодны,
Віль зялёны, Карл шалёны
І Герман сіпаты.

Сталі сем бандытаў дачок выбіраць,
Дачок выбіраць, дабро адбіраць:
Фрыц пальто садраў з Аўгінні,
Ганс валёнкі — у Аксінні,
Курт хусціну — у Прузыны,
Руд гадзіннік — у Хрысціны,
Чаравікі Віль — у Зосі,
Карл грабеньчыкі — у Просі,
А Герман сіпаты —
Хвартух у Агаты.

Стала Сымоніха гасцей частаваць,
Сталі дачушкі матцы памагаць:
Аўгіння Фрыца — палкай,
Аксіння Ганса — скалкай,
Прузына Курта — мешалкай,
Хрысціна Руда — вешалкай,
Зося Віля — секачом,
Прося Карла — гладышом,
А Германа Агата —
Бруднаю лапатай.

Стала Сымоніха дачок выпраўляць,
Пасаг сабіраць, даброй надзяляць,
Аўгінні і Аксінні
Па чачоткавай дубіне,
А Прузына і Хрысціна
Атрымалі карабіны,
Зосі і Просі
Маўзеры падносіць,
Сёмая Агата
Узяла гранату.

Крыкнула Сымоніха:
— Стройся, дочкі, ў рад!
Пойдзем партызаніць
Усе ў атрад.

# ГЭЙ ВЫ, ФРЫЦЫ-ЯГАМОСЦІ

Гэй вы, фрыцы-ягамосці,
Завітайце к нам у «госці»,
Мы гасцей як след прымаем
І падносім ім, што маем:
Хто гранату, а хто кулю,
А хто толавую «дулю».
Вельмі ўдалая прылада
Падрыхтована для гада;
Шнур з яечкам на канцы,
Немцу смерць у тым яйцы.

## ФРЫЦ У РЭЧЦЫ РЫБКУ ВУДЗІЦЬ

Фрыц у рэчцы рыбку вудзіць,
Паплавок хістаецца,
А ці ўлоў шчаслівы будзе —
Людзі сумняваюцца. Гэй, гэй!

Бункеры абапал моста,
Але мост развалены,
Паглядае немец скоса
На лясы, прагаліны. Гэй, гэй!

— Эй, рыбача, рыбалове,
Рыбка тут зубастая:
Нават мост глынуць гатова
З рыбаком і снасцямі. Гэй, гэй!

Калі хочаш Эму бачыць,
Хоць калекай будучы,
Лепш у Нёмне кінь рыбачыць,
Хутчэй скручвай вудачкі. Гэй, гэй!




*Вечарынка ў партызанскім атрадзе. З часопіса «Быт рагачоўскіх партызан», 1944*

## ОЙ, НЕ ХАДЗІ, ФРЫЦУ

Ой, не хадзі, фрыцу,
Дый на вечарніцы,
Бо на вечарніцах
Дзеўкі чараўніцы.

Катора дзяўчына
Аб Радзіме дбае,
Такая для фрыца
Злыя чары мае.

У суботу фрыца
Дый прываражыла,
У нядзелю ўночы
«Спаці» палажыла.

Палажыла фрыца,
Каб не ўстаў ніколі,
Каб не зацміў волі
Для дзявочай долі.

## ПАРТЫЗАНІЦЬ БАЦЬКА НІНЫ

Партызаніць бацька Ніны,
Партызаніць і яна,
А за Ніну больш дзяўчыны
Прыгажэйшай тут няма.

Дома ў вёсцы зараз матка
Засталася толькі быць,
Бо ў старой іх роднай хаце
Пасяліўся рыжы фрыц.

Фрыц не просты — обер нейкі,
Тупарылы і руды,
Ён прысланы аж з Вілейкі
Камендантаваць сюды.

Йшла раз Ніна на заданне,
Міну ў кошыку нясла,
Не магла прайсці тут Ніна
Міма роднага сяла.

І зайшла праведаць матку,
Сёе-тое распытаць,
І прыйшлося тут дзяўчыне
Фрыца гэтага спаткаць.

— Ты карош, дзяўчына, ошань,—
Разгаворы фрыц пачаў.
І набок скасіўшы вочы,
На пасцелю паказаў.

— Пачакае хай заданне,—
Ніна думае тайком.—
Пагуляю я ў «каханне»
З гэтым дохлым прусаком.

І пасцелю ў задуменні
Стала Ніна рыхтаваць,
Фрыц стаіць у захапленні:
— Ну, і дзеўка, што казаць!

Адвярнуўся на хвіліну
Фрыц у вокны паглядзець,
Ніна міну пад пярыну
Ціха з кошыка кладзець.

— Распранайся ж, мой каханы,
І ў пасцельку ў добры час,
Я адпраўлю толькі маму,
Каб не бачыла тут нас.

І міргнуўшы фрыцу міла.
Ніна выйшла за парог,
Матку з хаты падхапіла
І за вербы з усіх ног.

Толькі фрыц крануў пярыну,
Захляснула вочы бель,
Аж да неба ўзняла міна
Хату, фрыца і пасцель.

## ДАЙЦЕ Ў РУКІ МНЕ ГАРМОНЬ

Дайце ў рукі мне гармонь,
Залатыя планкі,
Я спяю вам, як дамоў
Фрыц уцёк з Удранкі.
Частавалі іх тады
Нашыя брыгады,
І пабеглі хто куды
Гітлераўцы-гады.

Уцякалі без сапог.
Фрыц параніў ногі,
І сярод глухіх дарог
Збіўся ён з дарогі.
Пазабыў знаёмы пуць
Гітлеравец «бравы» —
Трэба ўлева павярнуць,—
Павярнуў управа.

Дзень і ноч праходзіў ён,
І назаўтра рана
У нашу вёску трапіў ён...
У рукі к партызанам.
Не вярнуўся фрыц дамоў
Ад ракі Удранкі,
Эх, гармонь, мая гармонь,
Залатыя планкі.

## НОЧ І ЗМРОК ЗАСЛОНАЮ САДЗІЦЦА

Ноч і змрок заслонаю садзіцца
На вяршыны змрочныя Карпат,
Толькі фрыцу-гадзіне не спіцца,
Толькі ён жыццю свайму не рад.

Пад карчом прытуліцца, закурыць,
Ох, і зябне брудная рука!
А ў вушах кудахчуць нашы куры,
Пахне шпэк, бялееца мука.

Масла, сыры, копы свежых яек,
Парасяты, костачкі курэй,
І ўсю ноч фашыст не засынае,
Між каменняў поўзае, як змей.

Без пасылак гора сёння й дома,
Поўна злосці Берта ад турбот,
І самому косці немач ломіць,
Падцягнула з голаду жывот.

Ён забыўся на дзяўчат і гульбы,
Не да гульбаў — сёння быў бы рад
Фрыц сажраць хоць беларускай
бульбы,
Згрыз бы хоць старога сухара.

І не верыцца яму самому,
Што ён сёння, гітлераў салдат,
П'е ваду з гразёй заместа рому,
Есць варон заместа парасят.

## ПАЗАРАСТАЛІ СЦЕЖКІ-ДАРОЖКІ

Пазарасталі сцежкі-дарожкі,
Дзе прахадзілі фрыцавы ножкі,
Пазарасталі скрозь яны мохам,
Рыжым, як Гітлер, чортапалохам.

Што ні за ўзгорак, што ні за камень,
Высяцца з горак каскі з крыжамі,
Дня мы спакойна жыці не можам,
Калі ў магілу фрыца не ўложым.

Выганім з хаты чорнае ліха,
Зноў стане люба, зноў стане ціха.
Пусцім на вецер дымам-трубою
Нашу нядолю з горкай бядою.

Пазарасталі сцежкі-дарожкі,
Дзе прахадзілі фрыцавы ножкі,
Пазарасталі скрозь яны мохам,
Рыжым, як Гітлер, чортапалохам.

## БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ!..

Бывайце здаровы,
Багата жывіце
І нашы парады
Ад сэрца прыміце!

У кожным палку каб
Героем быў кожны,
А ваш камандзір каб
Героем быў двойчы.

Каб снайперы білі
Найболей тых фрыцаў,
На кожнага была б
Штук гэтак па трыццаць.

А калі не трыццаць,
А болей іх будзе,
Ніхто не спытае,
Ніхто не асудзіць.

Каб наша пяхота
І танкаў лавіна
Пакінула б фрыцам
Зямлі тры аршыны.

Хай фрыцам ў Берліне
Дастануцца слёзы,
А фрыцам ў Расіі —
Крыжы і бярозы.

Каб вы разагналі
Ўсю зграю пагану,
Каб кожны баец ваш
Хадзіў бы з медалем.

А калі баец ваш
І з ордэнам будзе,
Ніхто не спытае,
Ніхто не асудзіць.

Яшчэ вам жадаем
Вярнуцца дадому,
Убачыць у шчасці
Усіх сваіх родных.

Бывайце здаровы,
Багата жывіце,
Паганых ўсіх фрыцаў
На захад ганіце.

Ганіце вы фрыцаў
На захад, на захад,
Каб жыць вам вясёла,
Каб жыць вам багата.

Каб сонца вам ззяла
На ніве жыцейскай,
Каб ваша дывізія
Стала гвардзейскай.

СМЕРТЬ НЕМЕЦКИМ ОККУПАНТАМ!



# УДАР с ТЫЛА

№ 2

ЯНВАРЬ

---

ОРГАН ПАРТИЙНО-КОМСОМОЛЬСКОЙ ОРГАНИЗАЦИИ ПАРТИЗАНСКОГО ОТРЯДА им. Ф. ЮРЧЕНКО

1 9 4 4

Вокладка часопіса «Удар з тылу»

## ДЫК БУДЗЬ ЖА ПРАКЛЯТЫ!..

Паршывыя гансы,
Вашывыя фрыцы,
Ніхто з партызанаў
Тут вас не баіцца.

І ў лесе, і ў полі,
Ля кожнае хаты —
Усюды чужынцаў
Страчае расплата.

Дык будзь жа праклятым,
Зброд катаў паганы!
Няхай жывуць нашы
Байцы-партызаны!

Фашысты па горла
Залезлі ў балота.
У фюрэра просяць
Прыслаць самалёты:

— Без вашай падмогі
Мы скора загінем,
Кругом партызаны
У гэтай краіне.

Вось Гітлер паспешна
Сцярвятнікаў выслаў.
Бамбілі нас немцы,
Ды фігу — не выйшла.

Бамбілі, бамбілі,
Сароку забілі,

Другі раз бамбілі —
Хвост цюцьку адбілі.

Дык будзь жа пракляты,
Зброд немцаў паганы!
Няхай жывуць нашы
Байцы-партызаны!

# ЛЯВОНІХА

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў,
Лявоніха душа ласкавая,
Чаравічкамі палясківае.

На гармоніку Лявонісе пад тон
Грае, грае, прыўдарае сам Лявон.
Уха-ха! Весяліся душа!
Уха-ха! Лявоніха хараша!

Раптам — вораг! Загрымела ў нас вайна,
Аблілася кроўю наша старана.
Ох, бяда, бяда, вялікая бяда —
Грабіць край наш чорных гітлерцаў арда.

Дзе ж ты, дзе ж, мая Лявоніха, цяпер?
Мо замучыў цябе немец, люты звер?
Не, Лявоніха з Лявонам у лясу,
І Лявоніха абрэзала касу.

Не абцасамі, а стрэламі пастуквае,
Немцаў кулямі з-за кусцікаў прыхлопвае.
Кулямётам жа Лявонісе пад тон
Грае, грае, прыўдарае сам Лявон.

Рэха весела абодвум ім паддаквае,
Біты вораг перад імі аж падскаквае.
Уха-ха! Лезе з немца душа!
Уха-ха! Лявоніха хараша!

# НАМ ПРЫСЛАЛА МАСКВА ПАДКРАПЛЕНІЕ

♩ = 138

Нам пры – сла – ла Ма – сква пад – крап –

– ле – ні – е, у – сім фрон – там пай –

– шлі ў на – ступ – ле – ні – е. 1. У – сім 2. // – е.

Нам прыслала Масква
Падкрапленіе,
Усім фронтам пайшлі
Ў наступленіе. } 2 разы

Красны пушачкі
Як заухалі,
Ўсе фашысты у акопах
Ператрухнулі. } 2 разы

Як касіць пачалі
Кулямётамі,
То фашыстаў палкі
Сталі ротамі. } 2 разы

З перапуду ўрагі
Разбяжаліся,
Недалёка бяглі —
Ў плен папаліся. } 2 разы

# ХУТКА СОНЦА ЗАЗЗЯЕ НАД НАМІ

Хутка сонца заззяе над намі,
Сустракаем мы волі зару,
У чужынцаў ляжаць пад нагамі
Ты не будзеш, мая Беларусь.

На Усходзе грыміць кананада,
Ноччу неба гарыць у агні;
Гэта крышаць фашысцкага гада
Пабрацімы твае і сыны.

Дзень і ноч ўсё мацнеюць раскаты,
Дзень і ноч бой без супынку кіпіць;
Гэта час падыходзіць расплаты,
Гэта гнеў наш пажарам гарыць.

Беларусь, наша маці-краіна,
Гэта дзень вызвалення ідзе!
Узнімі ж ўсю нянавісць і сілу
І удар па варожай брыдзе!

# ОЙ ВЫ, СЕРЫЯ ГУСІ

Ой вы, серыя гусі,
Ой вы, вольныя птіцы,
Даляціце вы, гусі,
Да маёй Беларусі.
Да радзімай старонкі,
Да дзярэўні Сасонкі.

Данясіце вы, гусі,
Дарагую навіну,
Што мы з гэтай вясною
Прыйдземо на Палессе
І радзімай старонцы
Прынясём вызваленне.

Хай нас скора чакаюць,
Хай скарэй нас страчаюць,
А прэдацелям, гадам
Хай магілу капаюць.
Хай капаюць пашырэ,
Хай роюць паглубжэ
За вялікія раны,
За абіды бальшыя.

Яшчэ, серыя гусі,
Адшукайце дзяўчыну,
Што пайшла ў партызаны
За радную краіну.
Ад мяне перадайце
Ей прыветнае слова,
Маё цвёрдае слова,
Што там гэтай вясною
Мы сустрэнемся з ёю.

## ЦЯЧЭ РЭЧКА ЛЯ ПАЛЯНЫ

Цячэ рэчка ля паляны,
Беражкі крутыя,
Там сышліся партызаны,
Хлопцы удалыя.

Толькі камандзір атрада
Штосьці невясёлы,
Бо за лесам фрыцы-гады
Паляць нашы сёлы.

Яны паляць і кідаюць
Наш народ у пекла,
Кроў ружовая густая
Па зямлі пацекла.

— Партызаны, партызанкі,—
Камандзір гаворыць,—
Нашых дзетак давяць танкі,
Вунь шалее вораг.

Пойдзем, хлопцы, пойдзем, братцы,
Край агнём палае.
За цябе ідзём змагацца,
Беларусь лясная.

Дык давайце будзем біцца,
Каб фашыстаў сцерці,
Чым палонным быць пад фрыцам,
Лепш ў баі памерці.

Адказалі партызаны
Бацьку-камандзіру:

— Знішчым ворагаў паганых,
Хопіць куль і жвіру.

І пайшлі у бой лавінай
На фашыстаў-катаў,
Стала вольнай зноў краіна,
Ззяе сцяг крылаты.

Залячылі людзі раны,
Расцвітай, Расія!
Вам спасіба, партызаны,
Хлопцы удалыя.

19. Зак. 696

## СВЯТКУЙ, РАДЗІМА МАЯ!

Святкуй, Радзіма мая,
Дзень свой вызвалення,
Гэты дзень для нас усіх
Ад пакут збавенне.

Ў прошлы год такой парой
Ад нас вораг уцякаў,
Доўга Гітлер прыкідаўся,
Нібы фронт ён «скарачаў».

Ад Дняпра к сваім граніцам
Немец прабяжаў за год,—
І ў магіле гансы, фрыцы
Будуць помніць наш народ.

Пой, Кацюша, весялей,
Каб скарэй ўрага дабіць,
Сцяг наш горды перамогі
Над Берлінам вадрузіць.

Ужо год зара свабоды
Над Азершчынай маёй,
Мы за гэта шлём спасіба
Нашай Арміі радной.

# НАД ЗЯМЕЛЬКАЙ ЗАРА ЙШЛА

♩ = 66

Над зя_ мель_ кай за_ ра

йшла, ча_ ры сы_ па_ ла: зо_ рак

рэ_ ша_ та няс_ ла, ўсе рас_ сы_ па_

_ла. І га_ рацъ я_ ны, га_ рацъ, зор_ кі яс_ ны_

_я, на_ вя_ ва_ юць я_ ны нам дум_ кі шчас_ ны_ я.

Над зямелькай зара йшла,
Чары сыпала:
Зорак рэшата нясла,
Ўсе рассыпала.
І гарадь яны, гарадь,
Зоркі ясныя,
Навяваюць яны нам
Думкі шчасныя.

Чаго зоркі так на нас
Узіраюцца,
З неба гэтак праз ўвесь час
Усміхаюцца?
Бо учора мы былі
Паднявольныя,
А сягоння мы ізноў
Людзі вольныя.

Песні радасці пяём
Маладзецкія,
Не чужацкія, ліхія,
А савецкія.
Шчаслівейшымі з усіх
Людзьмі сталі мы,
Дзякуй шчырае байцам
Пасылалі мы.

# ІЗ ДАЛЁКІХ ІЗ КРАЁЎ

♩ = 96

Із да_ лё _кіх із кра_ ёў шлі сал _ да _ ці _
_кі да _ моў, эй, шлі сал _
_ да _ ці _ кі да _ моў!

Із далёкіх із краёў
Шлі салдацікі дамоў,
Эй, шлі салдацікі дамоў!

Па вузенькай дарожцы
Запыліла вочы ім.
Эй, запыліла вочы ім.

То пясочак, то не дым,
То Радзіма — не Берлін!
Эй, то Радзіма — не Берлін!

Вот і роднае сяло
На прыгорачку відно.
Эй, на прыгорачку відно!

Выхадзіце, сёстры, брацця,
Пераможцаў сустракаці.
Эй, пераможцаў сустракаць!

Із далёкіх із краёў
Шлі салдацікі дамоў.
Эй, шлі салдацікі дамоў!

# ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

Moderato

*p*

Ой, бя_ро_зы ды сос_ны, ма_е род_ны_я

сёст_ры, ой, шум_лі_вы ты, лес ма_ла_

_ды! Толь_кі сэр_цам па_чу_ю тва_ю пес_ню ляс_

_ну_ю і ус_пом_ню бы_лы_я га_ды. // _быць...

1, 2, 3. 4.

Ой, бярозы ды сосны,
Мае родныя сёстры,
Ой, шумлівы ты, лес малады!
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную,
І успомню былыя гады.

Ды успомню пажары,
І варожыя хмары,
І завеі халодных вятроў,
І слату, і нягоды,

І начныя паходы,
І агні партызанскіх кастроў.

Край любімы мой, родны,
Ты навекі свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў,
Каб ніколі, ніколі
Ты не быў у няволі,
Каб прыгожымі кветкамі цвіў.

Адышлі тыя годы,
Адгрымелі паходы,
Толькі пушча за полем шуміць.
Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць...

# ВЕЧАРАМ ПАГОДНЫМ

УМЕРАНА ХУТКА

*mf*

Ве - ча - рам па - год - ным доб - ра у ці -

- шы, за - спя - ва - ем друж - на

пес - ню ад ду - шы, як ка - лісь спя - ва - лі

ў ле - се ля каст - роў, ды ус - пом - нім

сён - ня пар - ты - зан - сяб - роў.

Вечарам пагодным добра у цішы,
Заспяваем дружна песню ад душы,
Як калісь спявалі ў лесе ля кастроў, } 2 разы
Ды успомнім сёння партызан-сяброў.

Помнім, як напалі ворагі на нас,
Гэта быў трывожны і рашучы час,—
У агні палалі вёскі, гарады,
Закрывалі хмары край наш малады. } 2 разы

Падняліся хвалі гневу па зямлі,
За краіну людзі смела ў бой пайшлі,
І прыйшла расплата ворагу за кроў:
Нам жадаў ён смерці — сам яе знайшоў. } 2 разы

Адгрымела бура, скончана вайна,
Над краінай нашай зноў стаіць вясна,
Дзе ні глянеш, праца вольная кіпіць,
І народ наш волат смела ўдаль глядзіць. } 2 разы

## ПРАЛЯЦЕЛІ ВЕТРЫ

ТЭМП МАРША

Пра_ля_ це_лі вет _ ры па - над во _ зе _ рам, ска_лых_

_ну_ лі хва _ лі на _ ра _чан _ скі _ я, за _ шу_

_ме _лі сос _ ны пра ка _ ха _ на _ га, пра я_

_го па _ хо _ ды пар _ты_зан_ скі _ я.

Праляцелі ветры па-над возерам,
Скалыхнулі хвалі нарачанскія,
Зашумелі сосны пра каханага,
Пра яго паходы партызанскія.

Як хадзіў адважна ён на ворага,
Як збіраў атрады ён народныя,
Як загінуў смерцю ён геройскаю
За сваю краіну за свабодную.

Узыходзіць сонца над прасторамі,
І красуе ніва за далінаю.

Прыляціць салоўка рана-раніцай,
Запяе ў садочку майму міламу.

Хай яму прысняцца рэкі шумныя,
Нашае жыццё, жыццё прывольнае,
Залатое поле ураджайнае,
Беларусь — старонка наша вольная.

Праляцелі ветры па-над возерам,
Скалыхнулі хвалі нарачанскія,
Зашумелі сосны пра каханага,
Пра яго паходы партызанскія.

# ОЙ, СТАРОНКА ВОЛЬНАЯ МАЯ!..

УМЕРАНА, З УЗДЫМАМ

Бу – ры ад – гры – ме – лі, хма – ры пра – ля –

– це – лі, мы ў ба – ях су – ро – вых во – ра – га змаг.

– лі. Рук не па – кла – да – лі, га – ра – ды ўзды –

– ма – лі, зноў у нас дзень свет – лы па у – сёй зям –

– лі. Ой, ста – рон – ка воль – на – я ма –

– я! Род – ны край, цу – доў – на – я зям –

— ля, ні — вы за — ла — ты — я, звон — кі — я ба —

Для паўтарэння

— ры, пар — ты — зан — скай сла — вы

край наш ма — ла — ды!

Для заканчэння

// пар — ты — зан — скай

сла — вы край наш ма — ла — ды!

Буры адгрымелі, хмары праляцелі,
Мы ў баях суровых ворага змаглі.
Рук не пакладалі, гарады ўздымалі,
Зноў у нас дзень светлы па усёй зямлі.

Прыпеў:

Ой, старонка вольная мая!
Родны край, цудоўная зямля,
Нівы залатыя, звонкія бары,
Партызанскай славы край наш малады!

Не будзе ніколі край наш у няволі,
Наш народ умее шчасце адстаяць.
Хто хацеў зняволіць, хай усе запомняць,—
У зямлі касцямі назаўжды ляжаць.

Прыпеў.

Сёння ў нашых хатах весялосць і свята,
Пасля добрай працы добра адпачыць.
Хай жа наша слава разам з нашай песняй
З краю і да краю ўсюды праляціць!

Прыпеў:

Ой, старонка вольная мая!
Родны край, цудоўная зямля,
Нівы залатыя, звонкія бары,
Партызанскай славы край наш малады!

20. Зак. 696

# ДУБ МАГУТНЫ

ШЫРОКА

*mf*

Над ра – ко – ю, на пра – сто – ры,

як у по – лі вар – та – вы,

дуб ста – іць ма – гут – най сі – лы,

во – лат ве – ка – вы.

Ён ка – рэн – ня – мі глы –

– бо – ка у зям – лю у –




Над ракою, на прасторы, як у полі вартавы,
Дуб стаіць магутнай сілы, волат векавы.
Ён карэннямі глыбока у зямлю урос
І зялёнаю чупрынай дастае нябёс. } 2 разы

Тут не раз гулялі ветры, завывалі над зямлёй,
Біў пярун, маланкі ззялі ў цемрадзі начной.
Буры гнулі, віхры рвалі дуб той ля ракі —
Ён жа цвёрды, непарушны прастаяў вякі. } 2 разы

Так і наш народ нязломны, як магутны дуб стаіць,
Пасля бураў, непагоды смела ў даль глядзіць.
У яго крыніца сілы — родная зямля,
А над ім свабоды сонца, неба сінява. } 2 разы



*Гродзенскі народны ансамбль песні і танца «Нёман»*

# ГЭТУ ПЕСНЮ МЫ САМІ СКЛАДАЛІ

Гэту песню мы самі складалі
На шырокіх калгасных палях
Пра дзень светлы, што мы адстаялі
У суровых і цяжкіх баях.

Не! Не стаў родны край паланянкай,
Сваё шчасце будуе ён зноў.
І цяпер Беларусь-партызанка
Знае нашых дачок і сыноў.

Электрычнасць у хаце у кожнай,
Табуны на шырокіх лугах,
Мы жывём, як ніколі, заможна,
Перад намі шчаслівы лёг шлях.

# РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

Andante cantabile

Ра – дзі – ма ма – я да – ра – га – я, ты

ўшча – сці жа – да – ным жы – ві! Я

сэр – цам та – бе пры – ся – га – ю у

шчы – рай сы – ноў – няй люб – ві. На

рэ – ках шы – ро – кіх і ні – вах, за–

–во – дах, бу – доў – лях, – маў –




Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві!
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках шырокіх і нівах,
Заводах, будоўлях — наўсцяж
Народ наш працуе руплівы
І край узвышаецца наш.

Навокал жыццё расцвітае —
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба.
Пачуцці ў нас сёння адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!

# БЕЛАРУСЬ САВЕЦКАЯ

Moderato

mf

Бе – ла–русь Са – вец – ка – я, лю – бі – ма–я зям–

–ля, кра – і – на пар – ты – зан – ска– я, ляс –

–на – ты кра – са. Коль– кі рэк, а – зё – раў

се – раб–ром блі– шчыць, коль – кі ці–хім ве –ча – рам

1. 2. 3.

пе – сень тут зві – ніць. //–пе– рад нас вя – дзе.

Беларусь Савецкая, любімая зямля,
Краіна партызанская, лясная ты краса.
Колькі рэк, азёраў серабром блішчыць,
Колькі ціхім вечарам песень тут звініць.

Беларусь Савецкая, шчаслівая зямля,
Цяпер, як сад вясною, ты пышна расцвіла.
Дзе ні глянь — заводы, фабрыкі гудуць,
Нівамі калгаснымі трактары плывуць.

Беларусь Савецкая, ты родная зямля.
Магутная і дружная уся твая сям'я:
Шмат сясцёр-рэспублік слаўных у цябе,
Партыя вялікая наперад іх вядзе.

# ПЕСНЯ АБ БЕЛАРУСІ

ПАВОЛЬНА

Квіт – ней, Бе – ла – русь да – ра – га –

– я, квіт – ней вес – на – во – ю кра –

– сой, ты друж – бай на – ве – кі з'яд –

– на – на з вя – лі – ка – ю

рус – кай сям' – ей. //– ды!

1, 2, 3. 4.

Квітней, Беларусь дарагая,
Квітней веснавою красой,
Ты дружбай навекі з'яднана
З вялікаю рускай сям'ей.

Шумяць каласістаю нівай
Прасторы калгасных палёў,

Не стушаць ні громы, ні хмары,
Тваіх залацістых агнёў.

Нясуцца напевы у далі,
І чутна Радзіме усёй,
Як людзі аб шчасці спяваюць,
Аб партыі роднай сваёй.

У звоне кіпучае працы
Ідуць за гадамі гады,
Квітней, Беларусь дарагая,
Як вёснамі сад малады!

# БЕЛАРУСЬ — КУТОК МОЙ РОДНЫ

♩ = 68

Бе – ла – русь, ку – ток мой род – ны, сінь а –

А...

–зёр і го – ман рэк. З тва – ім по – ды – хам сва –

–бод – ным мы з'яд – на – лі – ся на – век. Мір–ша–

–по – ча жы – та ў по – лі, мір – на–

А...

– звань–ва – юць аў – сы, мі – рам ды – ха – е пры–

–вол – ле, по– ле, рэ – кі і ля – сы.

Беларусь, куток мой родны,
Сінь азёр і гоман рэк.
З тваім подыхам свабодным
Мы з'ядналіся навек.

Прыпеў:

Мір — шапоча жыта ў полі,
Мір — названьваюць аўсы,
Мірам дыхае прыволле,
Поле, рэкі і лясы.

Смех дзяўчат і буслаў крыкі,
Шум развесістых бяроз,
У дубровах сонца блікі —
Ўсё тут роднае да слёз.

Прыпеў.

# ПЕСНЯ АБ ЛЕНІНЕ

УМЕРАНА, ВЕЛІЧНА

Вя – ка – мі жы – лі ў па – ня-
-вер – цы на – ро – ды, у цем – ры ад
го – ра шмат слёз пра- лі – лі.
Ле – нін, як све – тач, ён шлях да сва-
-бо – ды пра – цоў – ным у – сім па – ка-

Для паўтарэння
-заў на зям – лі. Як

Для заканчэння
// на- шай зям- лёй.

Вякамі жылі ў паняверцы народы,
У цемры ад гора шмат слёз пралілі.
І Ленін, як светач, ён шлях да свабоды
Працоўным усім паказаў на зямлі.

Як рэкі вясною, так гнеў разліваўся,
А сілы раслі, нібы мора прыліў.
І з ленінскай праўдай народ наш падняўся,
Ён волю і шчасце ў змаганні здабыў.

І сёння ў красе і у славе Радзіма,
Шчаслівыя песні народы пяюць.
А Леніна мудрасць і велічы сіла
У партыі роднай нязгасна жывуць.

Слоў ленінскіх праўда не знае змяркання,
Лунае па свеце і ўсходзіць зарой.
А слава аб ім, нібы сонейка ззянне,
Свяціць будзе вечна над нашай зямлёй.

# НАС ПАРТЫЯ ВУЧЫЦЬ

УМЕРАНА, З УЗДЫМАМ

Шмат бур пра_няс_ ло_ ся над на_ шай зям_
_лёй, не раз мы ха_ дзі_ лі за во_ лю у
бой. Нам пар_ ты_ я сі_ лу да_
_ла у жыц_ ці і нас на_ву_
1,2. 3.
_чы_ ла, як шча_ сце знай_ сці. Ад.//_род.

Шмат бур праняслося над нашай зямлёй,
Не раз мы хадзілі за волю у бой.
Нам партыя сілу дала у жыцці
І нас навучыла, як шчасце знайсці.

Адны ў нас імкненні і думы адны,
Агні камунізма нам сёння відны.
Жыццё прыгажэе і шчасце расце,
Да мэты вялікай народ наш ідзе.

І Ленін прад намі, як светач, стаіць,
Нас партыя вучыць па-новаму жыць.
Ніпто не стрымае наш мірны паход,
Усё пераможа свабодны народ.

21. Зак. 696.

# ЗОРЫ ЗАЛАЦІСТЫЯ

♩ = 72

*p*

Лю-бы зо-ры за- ла- ціс -ты - я, лю- бы нам лу- гі квя-

-ціс - ты - я. *mf* Эх, ста-рон- ка, до-ляй шча - сна- я,

Для паўтарэння

Для заканчэння

*rit.*

на - ша воль-на-я, кал-гас - на - я! //-гас - на - я!

Любы зоры залацістыя,
Любы нам лугі квяцістыя.
Эх, старонка, доляй шчасная,
Наша вольная, калгасная!

Сонцам колас наліваецца,
Морам жыта калыхаецца.
І працуем мы з ахвотаю,
Добра ў полі за работаю!

Няма краю прыгажэйшага,
Ураджаю багацейшага,
Слаўнай працаю народнаю,
Звонкай песняю свабоднаю.

Любы зоры залацістыя,
Любы нам лугі квяцістыя,
Эх, старонка, доляй шчасная,
Наша вольная, калгасная!

# РОДНАЯ КРАІНА

♩=72–76

Род – на – я кра – і – на, друж – на і няс–
–пын – на у сям' – і са – вец – кай
мы ця – бе рас – цім. Над тва – ім пра –
–сто – рам уз – ля – та – е к зо – рам
пес – ня аб шча – слі – вым
ра – дас – ным жыц – ці. // –ці.

Родная краіна, дружна і няспынна
У сям'і савецкай мы цябе расцім.
Над тваім прасторам узлятае к зорам
Песня аб шчаслівым радасным жыцці. } 2 разы

Мірны і свабодны, любы край наш родны,
Нам такога краю ў свеце не знайсці.
Над тваім прасторам узлятае к зорам
Песня аб шчаслівым радасным жыцці. } 2 разы

Свеціць над табою сонца залатое,
Гарады і сёлы нашы расцвілі,
Буйная пшаніца ў полі каласіцца
І шумяць, як мора, нашыя палі. } 2 разы

Не акінеш вокам твой прастор шырокі,
Дзе былі балоты — выраслі сады,
Сіла чалавека абудзіла рэкі,
Загулі над полем звонка правады. } 2 разы

Мірны і свабодны, любы край наш родны,
Нам такога краю ў свеце не знайсці.
Над тваім прасторам узлятае к зорам
Песня аб шчаслівым радасным жыцці. } 2 разы

# МЫ ВЫХОДЗІМ КАЛГАСНАЙ ДРУЖЫНАЙ

Moderato
mf

Наш раз _ мах воль _ най пес _ ні шы _

_ро _ кі, як шы _ ро _ кі наш со _ неч _ны

шлях, све_цяць нам яр_чэй зо _ раў да_

_лё _ кіх не_ па _ гас _ ны_ я зо _ ры Крам_

_ ля. Све_цяць нам яр_ чэй зо _ раў да_

1 – 4.

_лё_ кіх не _ па _ гас _ ны_ я зо _ ры Крам

5.

_ля. 2. Све_жы // ра _ дас _на, ве _ се_ла жыць!

Наш размах вольнай песні шырокі,
Як шырокі наш сонечны шлях,
Свецяць нам ярчэй зораў далёкіх
Непагасныя зоры Крамля. } 2 разы

Свежы вецер, скупаўшыся ў росах,
Па калгасных разлогах паплыў
І, калышачы сонечны россып,
Лашчыць рунь аксамітную ніў. } 2 разы

Колькі тут хараства і прыволля
На прасторах тваіх, Беларусь!
Добры дзень, наша роднае поле,
Цябе новыя людзі аруць! } 2 разы

Мы выходзім калгаснай дружынай,
Абуджаючы песняй зару,
Для цябе, дарагая Айчына,
Не шкадуем мазолістых рук. } 2 разы

Не прыстануць сталёвыя коні,
Дзень за працаю хутка бяжыць,
На світанку ж раскажа гармонік,
Як нам радасна, весела жыць! } 2 разы

# ВЫЙДУ Я НА ПРАСТОР

УМЕРАНА

*mf*

Вый – ду я на пра – стор, сон – ца

з не – ба гля – дзіць, а ўда – лі на – ва –

– кол край ра – дзі – мы ля – жыць: рас – цві –

*f*

– та – е зям – ля, воль – ны Нё – ман плы –

– ве, дзе ні гля – неш — кра – са сэр – цу

1,2. 3.

род – на – я мне. Там, над // – я.

Выйду я на прастор, сонца з неба глядзіць,
А ўдалі навакол край радзімы ляжыць:
Расцвітае зямля, вольны Нёман плыве,
Дзе ні глянеш — краса сэрцу родная мне.

Там, над светлай ракой, бачу сёлы, палі,
Гул матораў чуваць на калгаснай зямлі.
А дарогі-шляхі к яснай далі вядуць,
І нябачна ў прастор стройна песні плывуць.

Як жа хораша жыць, ўсюды праца кіпіць,
Як жа песні не пець, як свой край не любіць:
Тут асілак-народ, залатая зямля,
І за ўсё мне мілей ты, Радзіма мая.

## НАШАЕ СЯЛО

♩=66

Шча_сцем рас_квіт_не_ла_ся, ўспых_ну_ла свят_лом,

сла_віц_ца кал_гас_на_е

на_ша_е ся_ло.

Шчасцем расквітнелася,
Ўспыхнула святлом,
Славіцца калгаснае
Нашае сяло. } 2 разы

Мы пазналі норавы
Роднае зямлі,—
Кнігі, агратэхніка
Нам дапамаглі. } 2 разы

І прырода поўнасцю
Пакарылась нам,
Простым, гаспадарлівым
Савецкім людзям. } 2 разы

Нам за працу шчырую
Дар нясуць палі.
Нашы справы ведае
Урад у Крамлі. } 2 разы

Над краінай роднаю
У променях вясны
Слова ўсенароднае
Партыі гучыць. } 2 разы

# ОЙ ТЫ, ПОЛЕ

♩= 60

Ой ты, по – ле, кал – гас – на – я ні – ва, як па-

– лет – кі тва – е не лю – біць! Як не

пець нам аб до – лі шча – слі – вай, ка – лі

доб – ра і ра – дас – на жыць. Як не // жыць.

Ой ты, поле, калгасная ніва,
Як палеткі твае не любіць!
Як не пець нам аб долі шчаслівай, } 2 разы
Калі добра і радасна жыць.

Нізка ў пояс схіляецца жыта,
Сінім морам трапечуць ільны.
Беларускі народ працавіты, } 2 разы
Твае поспехі свету відны.

З кожным годам зямля маладзее,
З кожным годам нам жыць весялей.
Ураджай у Наднёманні спее
Дзеля шчасця савецкіх людзей.
} 2 разы

Ой ты, поле, калгасная ніва,
Як палеткі твае не любіць!
Як не пець нам аб долі шчаслівай,
Калі добра і радасна жыць.
} 2 разы

# ОЙ, СТАРОНКА МАЯ ТЫ ЛЯСНАЯ

♩=72-76

mp

Ой, ста_рон_ ка ма_я ты ляс_

_на _ я, ма_ла_да_ я ты на_ ша зям_

_ля, зям_ля. Пар_ты_зан_скай ця_бе на_зы_

_ва _ е ўсіх на_ро_даў са_вец_ кіх сям'_

_я. Пар_ты_зан_ скай ця_бе на_зы_

_ва_ е ўсіх на_ро_даў са_вец_ кіх сям'_

_ я. Ні_ зка // жыць.

Ой, старонка мая ты лясная,
Маладая ты наша зямля.
Партызанскай цябе называе
Ўсіх народаў савецкіх сям'я. } 2 разы

Нізка ў пояс схіляецца жыта,
Сінім морам трапечуць ільны.
Беларускі народ працавіты,
Тваё поспехі свету відны. } 2 разы

З кожным годам зямля маладзее,
З кожным годам нам жыць весялей,
Ураджай у Наднёманні спее
Дзеля шчасця савецкіх людзей. } 2 разы

Ой ты, поле, калгасная ніва,
Як палеткі твае не любіць!
Як не пець нам аб долі шчаслівай,
Калі добра і радасна жыць. } 2 разы

## МОЙ КРАЙ

Майскаю кветкай агніста
Край мой свабодны цвіце,
Свеціць усім прамяніста,
Волю народам нясе.

Скончыў з фашысцкай ардою,
Мірная праца ў руках,
Сільнай сваёю рукою
У заўтра пракладвае шлях.

Новыя шахты, заводы,
Школы, бальніцы ўстаюць,
Служаць пакорна нам воды,
Рэжуць каналы зямлю.

Родны мой край сац(ы)ялізма
Цэглу за цэглай кладзе,
Светлы палац камунізма
З кожным днём вышай расце.

Дружбу народаў мацуе
Прыкладам добрым сваім,
Смела цяпер патрабуе
Міру народам усім.

# ПЕСНЯ ПРА НЁМАН

Andante cantabile

*mf*

Ой, Нё _ ман, і пес _ ня і сла _

*cresc.*

_ва ня _ ро _ да май _ го і зям _лі. Ма_

_гі _ ла _ ю во _ ра_гам цес _ най не

раз тва_ е хва _ лі бы _ лі. Ма_

*ff*

_гі _ ла _ ю во _ ра _гам цес _ най не

1, 2. 3.

раз тва_ е хва _ лі бы_ лі. // _ гі.

22. Зак. 696

Ой, Нёман, і песня і слава
Народа майго і зямлі.
Магілаю ворагам цеснай
Не раз твае хвалі былі. } 2 разы

Рака наша слаўная Нёман
Чысцейшая чэрвеньскіх рос,
Хто мар не ўплятаў у твой гоман,
Табе хто пашаны не нёс. } 2 разы

Ой, Нёман, ой, бацька наш родны,
Як сонца, як дзень дарагі,
Садамі цудоўнай Радзімы
Твае расцвілі берагі. } 2 разы

# ОЙ ТЫ, НЁМАН РОДНЫ

УМЕРАНА

Ой ты, Нё – ман род – ны, сэр – цу да – ра –
– гі, ты плы – веш пры – воль – на
праз па – лі, лу – гі. Над та – бой дуб –
– ро – вы і ля – сы шу – мяць,
у люст – ра – ных во – дах не – ба сінь ві –
– даць. // во – дах не – ба сінь ві – даць.

Ой ты, Нёман родны, сэрцу дарагі,
Ты плывеш прывольна праз палі, лугі,
Над табой дубровы і лясы шумяць, } 2 разы
У люстраных водах неба сінь відаць.

Паглядзіш навокал з берагоў крутых —
Колькі тут прыгожых вобразаў жывых:
Зелянеюць нівы, расцвілі сады } 2 разы
І на сонцы Нёман, быццам залаты.

Ты нясі, наш Нёман, песню на прастор,
Хай ляціць да сонца і далёкіх зор.
Аб Радзіме мілай хочацца спяваць } 2 разы
І ад сэрца дзякуй партыі сказаць.

# ОЙ, НЁМАН НАШ, НЁМАН

ШЫРОКА

Ой, Нё _ ман наш, Нё _ ман, зям _

_лі на _ шай сла _ ва, ты ва _ біш кра _

_со _ ю у _ сіх да ся _ бе. Шу _

_мяць над та _ бо _ ю ля _ сы ве _ лі _

_ча _ ва, ду _ бы ве _ ка _ вы _ я вар _

1,2. 3.

_ту _ юць ця _ бе. Ты // _тор.

Ой, Нёман наш, Нёман, зямлі нашай слава,
Ты вабіш красою усіх да сябе.
Шумяць над табою лясы велічава,
Дубы векавыя вартуюць цябе.

Ты шляхам адвечным плывеш аж да мора,
Народ наш складаў табе песні свае.
Ты бачыў шмат крыўды, народнага гора,
Ад гневу ўздымаліся хвалі твае.

А сёння над краем свет новы лунае
І слава Радзіме ўзлятае да зор.
Аб шчасці вялікім народ наш спявае,
А Нёман плыве на шырокі прастор.

# ТАМ, ДЗЕ ЦІХА, ЦІХА

♩=66

𝄋 *mf*

Там, дзе Нё_ман ці_ ха, ці_ха ўдаль плы_

_ве, строй_на_я ра_бі_на над ва_дой рас_

_це, там шу_міць зя_лё_ ны

я_вар ма_ла_ды *mf* і спя_ва_юць

ноч_ чу пес_ні са_лаў_ і. 1. 2. //_і. 𝄋 Канец //_шу.

Там, дзе Нёман ціха, ціха ўдаль плыве,
Стройная рабіна над вадой расце,
Там шуміць зялёны явар малады
І спяваюць ноччу песні салаўі. } 2 разы

Часта пасля працы з мілым я ішла,
І да той рабіны сцежка нас вяла.
Праплывалі мары з ціхаю вадой,
Расцвітала шчасце кветкай веснавой. } 2 разы

Каб зямля шумела ўсюды збажыной,
Паляцеў далёка сокал мілы мой:
За лясы і рэкі ў сонечны Алтай,
Бо і там Радзіма, наш савецкі край. } 2 разы

Піша мне міленькі вестачкі-лісты,
Мары ўсе збыліся і збыліся сны...
Пайду да рабіны, песняй раскажу,
Як любоў у сэрцы верную нашу. } 2 разы

# ДЗЕ ЛЯЖАЛІ ВЕК БАЛОТЫ

♩=66-72

Дзе ля - жа - лі век ба - ло - ты,
сён - ня там па - лі, лу - гі,
і пад со-ней- кам квіт- не- е лю-бы край наш, да-ра -
-гі, І пад со-ней- кам квіт - не- е
лю- бы край наш, да- ра - гі. 2.Гэ- та // - гас.

Дзе ляжалі век балоты,
Сёння там палі, лугі,
І пад сонейкам квітнее
Любы край наш, дарагі. } 2 разы

Гэта партыі клапоты
Зоркай яркай зацвілі,
Ператвораны балоты
Ва ўраджайныя палі. } 2 разы

Дзе лазнік і багавінне
Аджылі даўно свой час,
Сёння жыта ў той даліне
Сее родны наш калгас. } 2 разы

# ОЙ ТЫ, ПОЛЕ, ПОЛЕ...

♩ = 88

Ой ты, по – ле, по – ле, за – ла – ты – я

пож – ні. І ча – му ж ты, по – ле,

гэт – ка – е пры – го – жа – е?

Ой ты, поле, поле,
Залатыя пожні.
І чаму ж ты, поле,
Гэткае прыгожае?

Мыюся я зранку
Чыстаю расою,
І таму і слаўлюсь
Я сваёй красою.

Ой ты, поле, поле,
Славаю спавіта,
На тваіх прасторах
Ураджаі жыта.

# РОДНАЕ ПАЛЕССЕ

Moderato

Род – ных ніў бяз – меж – жа, Пры – пя – ці бла –
– кіт, ра – дас – цю бяс – кон – цай твой пра – стор спа –
– віт. Над та – бой лу – на – юць
пес – ні без ту – гі, род – на – е Па –
– лес – се, край наш да – ра – гі.

Родных ніў бязмежжа, Прыпяці блакіт,
Радасцю бясконцай твой прастор спавіт.
Над табой лунаюць песні без тугі,
Роднае Палессе, край наш дарагі.

А было калісьці — слёзы на ўсю шыр,
Енчыла жалейка, плакала ў цішы...
Ды былое знесла Прыпяці вада,
І бушуюць вёсны у тваіх садах!

Мы навек з'яднаны з партыяй, Масквой
Сэрцам і душою, мараю адной.
Карпусы заводаў там, дзе і не сніў,
Край ты наш палескі, край ты наш лясны.

## РАСЦВІТАЙ, ПАЛЕССЕ

Над прасторамі Палесся
З ранішняй зары
Гучная лунае песня,
Ёй уторацъ трактары.

Прыпеў:

Прыгажэй, цвіці, мая старонка,
Багацей, палескі родны край.

Шум дубравы ў гэтай песні,
Звон сталёвы кос,
З гэтай песняй касар ложыць
За пракосамі пракос.

Прыпеў.

У ёй і дружба, і каханне,
Шчырасць лепшых слоў,
Радасць першага спаткання
І сыноўняя любоў.

Прыпеў.

З кожным днём цвіце, квітнее
Наш палескі край,
Разам з моладдзю вясёлай
Гэту песню заспявай.

Прыпеў.

# ТАМ, ДЗЕ СВЕТЛЫ НЁМАН

Moderato assai

*mp*

Там, дзе свет_лы Нё _ ман за ля _ сы плы _ ве,

дзе ту _ ман ла _ жыц _ ца гус _ та на тра _ ве,

дзе га _ мо _ ніць я _ вар

ці _ ха над ра _ кой, рас _ цві _ ла ра _ бі _ на

1. квет _ кай вес _ на _ вой. 2. // квет _ кай вес _ на _ вой.

Там, дзе светлы Нёман за лясы плыве,
Дзе туман лажыцца густа на траве,
Дзе гамоніць явар ціха над ракой, } 2 разы
Расцвіла рабіна кветкай веснавой. }

Як ідзём мы з поля з мілым, дарагім,
Каля той рабіны сядзем, пасядзім,
Адплывалі мары з ціхаю вадой, } 2 разы
Расцвітала шчасце нашае вясной. }

Зашумелі далі спелай збажыной,
Паляцеў далёка любы сокал мой,
За лясы, за рэкі у далёкі край, } 2 разы
Дзе цвіце, красуе малады Алтай.

Піша любы, піша вестачкі-лісты,
Мары ўсе збыліся і збыліся сны,
Я пайду к рабіне, песняй раскажу, } 2 разы
Як любоў у сэрцы верную нашу.

# СТАРОНКА РОДНАЯ

♩=88

То не мо – ра сі – ня – е хва – ля – мі ра –
– ве, – па шы – ро – кай Пры – пя – ці
па – ра – ход плы – ве. Да кру – то – га
бе – ра – га, дзе кус – ты шу – мяць,
дзеў – чы – на ка – ха – на – га
1.2. Канец.
вый – шла сус – тра – каць. // край.

То не мора сіняе
Хвалямі раве,—
Па шырокай Прыпяці
Параход плыве.

Да крутога берага,
Дзе кусты шумяць,
Дзеўчына каханага
Выйшла сустракаць.

Параход спыняецца,
Вее вецярок,
Сэрца скалыхнулася,
Нібы той лісток.

І танкіста дзеўчына
Шчыра абняла,
Да сяла да роднага
Сцежкай павяла.

Іх віталі шумныя
Родныя палі,
Кланялася ніва ім
Нізка да зямлі.

І вясенняй песняю
Адгукнуўся гай.
Ой, старонка родная,
Наш палескі край.

# МІНСКІ ВАЛЬС

Tempo di valse

Го – рад наш лю – бі – мы,

го – рад сэр – цу мі – лы,

зноў ты на – ра – дзіў – ся

і, як во – лат, рос.

Пры – га – жэў з га – да – мі,

на – бі – раў – ся сі – лы

і вы – со – ка ўзняў – ся

ў сі – ня – ву ня – бёс.

Горад наш любімы, горад сэрцу мілы,
Зноў ты нарадзіўся і, як волат, рос.
Прыгажэў з гадамі, набіраўся сілы
І высока ўзняўся ў сіняву нябёс. } 2 разы

Славішся далёка ты сваім убраннем,
Маладосцю гордай, казачнай красой.
Любая, ты помніш, нашае каханне
Узышло тут зоркай яснай, залатой. } 2 разы

У садах і скверах, і на плошчах летам
Добра быць з табою у вячэрні час.
Нам даносіць вецер пах ліпнёвых кветак,
Песні загучалі і ляцяць да нас. } 2 разы

Хараша наўкола, сэрца весяліцца,
Тут нам жыць і марыць, праз гады ісці.
Расцвітай жа, наша родная сталіца!
Мінск — любімы горад, слаўся і расці! } 2 разы

# ПРЫВІТАЛЬНАЯ РОДНАМУ МІНСКУ

Дзе ў чыстых водах Нёмана купаецца зара,
Кругом цвіце-красуецца цудоўная зямля.
Глядзіш — не налюбуешся, так шмат жывой красы.
Ліюцца песні звонкія праз нівы і лясы.

Прыпеў:

Хай песні над краем звіняць весялей,
Агні камунізма хай свецяць ярчэй,
Хай слава Радзімы да сонца ляціць,
І радасці, шчасцю не будзе граніц.

Як вучыць наша партыя, працуе ў нас народ,
Шумяць палі калгасныя ўраджаем кожны год.
І кукуруза сочная у нас расце, як гай,
Шмат мяса, масла, кужалю цяпер дае наш край.

Прыпеў.

У нас заводы новыя па ўсёй зямлі гудуць,
У нас дарогі светлыя да перамог вядуць.
Табе, сталіца, родны Мінск, мы сёння прыняслі
Паклон і песні шчырыя з наднёманскай зямлі.

Прыпеў.

# ПРЫВІТАЛЬНАЯ МІНСКУ

ПАВОЛЬНА

Доб _ ры дзень, да _ ра _ га _ я ста _

_лі _ ца бе _ ла _ рус _ кай цу _ доў _ най зям_

_лі. Мы прый_ шлі да ця _ бе па_кла_

_ніц _ ца, пес_ню шча_ сця та_ бе пры_няс_ лі.

Добры дзень, дарагая сталіца
Беларускай цудоўнай зямлі.
Мы прыйшлі да цябе пакланіцца, } 2 разы
Песню шчасця табе прыняслі.

Няхай шчырая песня раскажа
Пра вялікі і радасны час,
Што ў жыццё у заможнае наша } 2 разы
Шлях трымае наш родны калгас.

Свеціць сонца цудоўнага ранне
Ад прастораў калгасных палёў.
Ты прымі, родны Мінск, прывітанне } 2 разы
І гарачую нашу любоў.

# РАЗВІТАННЕ З МІНСКАМ

Шкада, што прыходзяць
Хвіліны расстання.
Вам дзякуем шчыра
За ўвагу, мінчане.

Сягоння пакінем
Сваю мы сталіцу,
Але вашай ласкі
Нам век не забыцца.

Паедзем ізноў мы
Да плённае працы,
Каб з вамі не сорам
Было сустракацца.

На мірных прасторах
Любімага краю
Зару камунізма
Мы хутка спаткаем.

# ДОБРАЙ РАНІЦЫ, ВІЦЕБСК ЛЮБІМЫ

ПАВОЛЬНА

*f*

Доб_рай ра – ні _цы, Ві – цебск лю_

_бі – мы! Як пры_гож ты ў пра_мен – нях за_

_ры. А_ свя_ ці – лі_ ся сон_цам Ра-

_дзі – мы тва_ е пло – шчы, са_ ды і му_

Хор

*f*

_ры. А_ свя_ ці – лі _ ся сон_цам Ра-

_дзі – мы тва_ е пло – шчы, са_ды і му –

Для паўтарэння | Для заканчэння

_ры. // _біт.

Добрай раніцы, Віцебск любімы!
Як прыгож ты ў праменнях зары.
Асвяціліся сонцам Радзімы
Твае плошчы, сады і муры. } 2 разы

Зноў гамоняць твае камяніцы,
І квартал за кварталам расце.
А Дзвіна, нібы срэбрам, іскрыцца,
Ля палацаў ласкава цячэ... } 2 разы

Над Дзвіной, дзе сады маладыя,
Пераклічку заводы вядуць.
І масты твае, нібы літыя,
Іх дыханне у хвалі нясуць. } 2 разы

Рапартуюць твае камбінаты
Дружнай працай дачок і сыноў.
І спяваюць красуні-дзяўчаты
Пра узоры тваіх дываноў. } 2 разы

Па ўзбярэжжах высокіх, зялёных
Ты узнёсся у неба блакіт,
У нашай працы кіпучай, натхнёнай
Ззяй, красуй, горад наш барацьбіт. } 2 разы

# ГРОДЗЕНСКІ ВАЛЬС

На крутых берагах
Горад Гродна стаіць.
Ён, як волат, у даль
На прасторы глядзіць.

І здалёку масты
Дружбы братняй відаць.
А у парках, садах
Песні міру гучаць.

Прыгажэе наш край,
Багацее народ,
Наша слава расце
Кожны дзень, кожны год.

# ДОБРАЙ РАНІЦЫ, ГОМЕЛЬ

Добрай раніцы, Сож мнагаводны,
Зноў я бачу твае берагі,
Добрай раніцы, Гомель наш родны, } 2 разы
Беларускі наш край дарагі.

Вецярок ціха лісце палошча,
Сонца кідае першы прамень.
Добрай раніцы, новая плошча, } 2 разы
Мы вітаем цябе ў новы дзень.

Веру я, і у час развітання
Да цябе, як твой сын, я звярнусь.
Горад любы мой, горад кахання, } 2 разы
Дарагая мая Беларусь.

Паплылі разам з песняю птушак
Завадскія гудкі ў вышыні,
Каб ніколі ніхто не парушыў, } 2 разы
Родны горад, тваёй цішыні.

Расквітнеў, нібы сад той цудоўны,
Хутка вылечыў раны вайны.
Добрай раніцы, Гомель працоўны, } 2 разы
Горад шчасця і горад вясны.

## САЛІГОРСКІ ВАЛЬС

Доблеснай працай і песняй вясёлай
Славіцца горад над Случчу-ракой.
Тут мы будуем заводы і школы,
Марым аб шчасці з табой.

Прыпеў:

Тут усё для шчасця ёсць:
Праца, слава, весялосць,
У гарніле падзей
Тут на подзвіг ідзе
І мая, і твая маладосць.

Слаўна працуюць шахцёры ў забоі,
Колькі ў іх мужнасці — толькі зірні!
Хораша свецяць вячэрняй парою
Шахт салігорскіх агні.

Прыпеў.

З небам цалуюцца гмахі палацаў,
З соллю калійнай бягуць паязды.
Хай жа расце і гартуецца ў працы
Наш Салігорск малады.

Прыпеў.

# НЕБА ЎСЁ У ЗОРАЧКАХ

Неба ўсё у зорачках, свеціць дыванам,
Мы з агітбрыгадаю едзем над Дняпром.
Зоркі ваду чыстую не нап'юцца, п'юць,
Навакол пра Рэчыцу родную пяюць.

Прыпеў:

Ой, як многа радасці
На душы у нас,
Мы з агітбрыгадаю
Едзем у калгас.

Будзем песняй шчыраю славіць маякі,
Хай баяцца крытыкі нашы лайдакі.
У брыгадзе нашай хлопцы хоць куды.
Ў іх запал юнацкі, моцны, малады.

Прыпеў.

Сэрцам мы гарачыя, молады душой.
Ўсіх на подзвіг працаю павядзём з сабой.
Ўсім мы кажам шчыра: подзвігаў шукай.
Даўшы слова партыі, ты яго стрымай.

Прыпеў.

# ПЕСНЯ ПРА НЕСВІЖ

Ой, шумяць дубровы,
Зелянеюць травы
Ды цвітуць у кветках
Нашы гарады.
Несвіж наш свабодны,
Ты навекі родны,
Ты зацвіў у кветках,
Ў шчасці ты зацвіў.

Паглядзім навокал —
Радуецца сэрца:
Вуліцы шырэюць
І удаль растуць,
А на рыштаваннях
Песнямі дзяўчаты
Прывітанне, Несвіж,
Табе, любы, шлюць.

Ўспомні свае хаты,
Нізкія кануры,
Ў іх жыла беднота,
Люд твой кепска жыў.
Ты стагнаў пад ботам
Панскага жаўнера,
Слёзы ты спрадвеку
У нядолі ліў.

Адышло былое,
Ўжо няма больш пана,
Ў пыл усё старое
Твой народ размёў.
Шчасце і свабода
Над табой заззяла.
Дык цвіці ж у шчасці,
Несвіж родны мой.

# ДАРАГАЯ БЕЛАЯ ДУБРОВА...

♩= 96

Я прай - ду па ву - лі - цы вяс - ко - вай,

па - дзіў - лю - ся, як жы - ве на - род.

Да - ра - га - я Бе - ла - я Дуб - ро - ва,

дзіў - на пры - га - жэ - еш ты што - год.

Я прайду па вуліцы вясковай,
Падзіўлюся, як жыве народ.
Дарагая Белая Диброва,
Дзіўна прыгажэеш ты штогод.

Патанулі ў зелені вярбовай
Пяцісценкі роўнаю градой,
Дарагая Белая Дуброва,
Ах, якой ты стала маладой.

Нам на радасць наша маці-мова
У кожнай хаце песнямі гучыць,

Дарагая Белая Дуброва,
Спевакоў тваіх не палічыць.

Прыгажэй няма, як белым цветам
Расцвітае наш саўгасны сад,
І няма нідзе на белым свеце
Лепей нашых песенніц-дзяўчат.

Я прайду па вуліцы вясковай,
Падзіўлюся, як жыве народ.
Дарагая Белая Дуброва,
Расцвітай у шчасці з года ў год.

# У НАС, У ЯРОМІНЕ, СВЯТА

У нас, у Яроміне, свята,
Прывольная песня гучыць
Аб шчасці, аб лёсе багатым, } 2 разы
Аб тым, як нам хораша жыць.

Хвалююцца буйныя нівы,
Дамы-камяніцы растуць,
У нашым калгасе шчасліва } 2 разы
Працоўныя людзі жывуць.

Прайдзіся па фермах прасторных,
Наведай калгасны наш сад,
Усюды убачыш узоры, } 2 разы
Народных багаццяў лад.

У нас, у Яроміне, свята,
Прывольная песня гучыць,
Аб шчасці, аб лёсе багатым, } 2 разы
Аб тым, як нам хораша жыць.

# У НАС, НА СТАЎБЦОЎШЧЫНЕ, СВЯТА

У нас, на Стаўбцоўшчыне, свята,
Над Нёманам песня гучыць.
Аб працы, аб нівах багатых,
Аб тым, як нам радасна жыць.

Квітнеюць калгасныя нівы,
Кругом зелянеюць лугі.
Мы працай цябе праслаўляем,
Стаўбцоўскі наш край дарагі.

Красуйся ты, край наш свабодны,
Цвіці, прыгажэй з кожным днём,
Падзяку мы партыі роднай
Ад шчырага сэрца нясём.

# ПЕСНЯ АБ ВОЗЕРЫ НАРАЧ

Ой ты, слаўнае возера Нарач,
Чаму морам цябе не назваць.
Твае хвалі, што коцяцца ў далеч,
Любяць новыя песні спяваць.

Чуеш ты, як вятры веснавыя
Размаўляюць з табой аб усім,
Як гамоняць бары веснавыя,
Што растуць на ўзбярэжжы тваім.

Не забыцца табе тых вітанняў,
Як у хмарах чарнеў небасхіл,
Як ішлі рыбакі на паўстанне,
Каб разбіць прыгнятальную гніль.

А цяпер пазалотаю ззяе
Праца дружная ў звоне тваім,
І рыбацкая песня ўзлятае
Аб шчаслівым жыцці дарагім.

Ты красуй паўнаводдзем вякамі
Між палёў і лясоў баравых,
Па-сяброўску жыві з рыбакамі
У прасторах сваёй сінявы.

# ПРЫВІТАЛЬНАЯ

Ка_лос_ ся_мі ні_ вы шу_ мяць за_ла_
_ты_ я, і рэ_ кі га_мо_ няць між лоз. Пры_
_мі пры_ві_тан_ не, Маск_ва да_ ра_
1. 2.
_га_ я, што я з Бе_ла_ ру_ сі пры_нёс. Пры_//_нёс.

Калоссямі нівы шумяць залатыя,
І рэкі гамоняць між лоз.
Прымі прывітанне, Масква дарагая, } 2 разы
Што я з Беларусі прынёс.

Як вецер вясёлы гамоніць над гаем,
Так золак праменні кладзе.
Мы нашую мудрую партыю славім, } 2 разы
Што нас к камунізму вядзе.

Вядзі ж нас наперад у светлыя далі,
Хай песнямі поўніцца шыр.
З табою, Масква, мы навекі з'ядданы } 2 разы
Ў змаганні за шчасце, за мір.

# ЕДЗЕ МОЛАДЗЬ БЕЛАРУСІ

Allegro

*mf*

З Мін_ ска, Го _ ме _ ля, Баб_ руй_ ска,

з Ма _ зы _ ра ў да _ лё _ кі край

е _ дзе мо _ ладзь Бе _ ла _ ру _ сі

ў Ка_ зах_ стан і на Ал _ тай.

Е _ дзе мо _ ладзь Бе _ ла _ ру _ сі ў Ка_зах_

_стан і на Ал _ тай. // _ры.

З Мінска, Гомеля, Бабруйска,
З Мазыра ў далёкі край
Едзе моладзь Беларусі
Ў Казахстан і на Алтай. } 2 разы

Адгукнуліся на заклік
Роднай партыі сыны,—
Каб жыццё крыніцай біла
На прасторах цаліны. } 2 разы

Камсамольцы-арляняты,
Пасланцы народных мас,
Едуць працаю заўзятай
Камунізма блізіць час. } 2 разы

Каб на залежных абшарах
Загудзелі трактары
І, як мора, заіграла
Там пшаніца на зары. } 2 разы

# КАМУНІЗМА СОНЦА ЎСХОДЗІЦЬ

♩= 76

Нам ні _ што не пе _ ра _

шко _ дзіць жыць з'яд _ на _ на _ ю сям'_

_ ей. Ка_ му _ ніз _ ма сон _ ца

ўсхо _ дзіць над са _

_ вец _ ка _ ю зям _ лёй.

Нам нішто не перашкодзіць
Жыць з'яднанаю сям'ей.
Камунізма сонца ўсходзіць
Над савецкаю зямлёй.

Закрасуе наша поле,
Заквітнеюць гарады,
І не зведаюць ніколі
Людзі гора і бяды.

Хто радзіму украшае
Залатым святлом навек?
Гэта шчасце сам стварае
Наш савецкі чалавек.

Вольны вецер над зямлёю
І гамоніць і гудзе.
Дзякуй партыі за тое,
Што да шчасця нас вядзе.



*Хор калгаса «Новае жыццё» Карэліцкага раёна на рэспубліканскім аглядзе мастацкай самадзейнасці калгасаў і саўгасаў у 1960 г.*

# МЫ ЛЮДЗІ САВЕЦКАЙ ЗЯМЛІ

Мы людзі савецкай зямлі,
Мы працаю шчасце сабе здабылі,
І ясныя зоры нам свецяць з Крамля,
І вольную песню спявае зямля.

І радасна сонца вітае наш век,
Шчасліва савецкі жыве чалавек.
Пад ясненькім сонцам праходзяць гады,
Квітнеюць прасторы, растуць гарады.

Гамоняць пустыні і рэкі пяюць,
Над Волгай, дзе ясныя зоркі ўстаюць,
Праменні над светам далёка відны,
Святлом камунізма нам ззяюць яны.

# НУ, ЯК НЕ ПЕЦЬ!

АЖЫЎЛЕНА, ВЕСЕЛА

Жыць ста – ла хо – ра – ша сён – ня, сяб –

– ры, сме – ла мы кро – чым да

яс – най за – ры. Пра – цай няс –

– том – най і во – ляй ад – ной мы

сла – ву па – мно – жым Ра – дзі – мы сва –

– ёй. Ну, як не пець, ну, як не дру–




Жыць стала хораша сёння, сябры,
Смела мы крочым да яснай зары.
Працай нястомнай і воляй адной
Мы славу памножым Радзімы сваёй.

Ну, як не пець, ну, як не дружыць,
Калі наша радасць у песнях звініць. } 2 разы

Гляньце на неба ў бязмежны простор,
Сокалы нашы лятаюць між зор.
Голас іх чуем і бачым палёт,
Ад края да края іх славіць народ.

Ну, як не пець, ну, як не дружыць,
Калі наша песня і ў небе звініць. } 2 разы

Хто калі думаў, што з нашай зямлі
К зорам далёкім пашлём караблі.
Сёння збываюцца мары і сны.
І светлыя далі народу відны.

Ну, як не пець, ну, як не дружыць,
Калі наша слава па свеце грыміць. } 2 разы

# СВЯТОЧНАЯ

ВЕСЕЛА, ДАВОЛІ ХУТКА

*mf*

Як жа нам ся – гон – ня свя – та не гу – ляць,

Як жа нам ся – гон – ня пе – сень не спя –

–ваць, ка – лі ў на – шым по – лі

ма – шы – на гу – дзе, ка – лі ў нас ра –

–бо – та друж – на – я і – дзе.

Як жа нам сягоння свята не гуляць,
Як жа нам сягоння песень не спяваць,
Калі ў нашым полі машына гудзе,
Калі ў нас работа дружная ідзе.
} 2 разы

Калі ў нашай хаце радасць і святло,
Калі ў нашай хаце шчасце расцвіло,
Калі ў нашай хаце госцейкі сядзяць,
Залатыя зоркі на грудзях гараць. } 2 разы

За сталом наш бацька — вайны ветэран,
Родны сын у бацькі — слаўны партызан,
За сталом нявеста — дбалы палявод,
Нашых жа герояў знае ўвесь народ. } 2 разы

Як жа нам сягоння свята не гуляць,
Як жа нам сягоння песень не спяваць,
Пражылі на свеце слаўных сорак год,
Многа сустракалі ў жыцці прыгод. } 2 разы

Па-над нашым краем вечна сонцу ззяць,
Каласістым нівам вечна красаваць.
Узлятай ты, песня наша, узлятай,
Мір табе і воля, Беларускі край. } 2 разы

25 Зак. 696.

## ЮБІЛЕЙНАЯ ЗАСТОЛЬНАЯ

Сабраліся мы сёння
На нашае свята
Сям'ёю вялікай
Калгаснай багатай.

За стол юбілейны
Мы ўсіх запрашаем,
За партыю першы
Наш тост падымаем.

Мы з песняй у светлае
Заўтра шагаем,
Мы партыю родную
Ў ёй услаўляем.

Што шлях к камунізму
Шчаслівы нам мецідь,
Што праўду бароніць
І мір ва ўсім свеце.

Мы вып'ем за творчы
Наш шлях пераможны,
За тое, што жыць мы
Без песні не можам,

Бо песня ад сэрца
Шчаслівага рвецца,
Бо песня самім жа
Жыццём саздаецца.

## КАЛГАСНАЯ СВЯТОЧНАЯ

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Жадаем мы шчасця
У кожную хату.

Перш-наперш такое
Жаданне ў нас будзе,—
Каб шчасце ракою
Цякло нашым людзям.

Пшаніцы б шумелі,
Як морскія хвалі,
Каб гралі вяселлі,
Радзіны б гулялі.

Жадаем калгасу
На нівах, на пожнях
Па ўсіх паказальніках
Поспехі множыць.

За гордасць героя
У працываюйце,
На славу Савецкай
Радзімы працуйце.

Жадаем вам працы
Увішнай і спорнай,
Каб цешыўся сябра,
Каб корчыўся вораг.

І гор залатых
Яшчэ вам пажадаем,
Тых гор, што ўсе людзі
Завуць ураджаем.

Яшчэ пажадаць вам
Засталася мала,
Каб сіла калгаса
Штодзень нарастала.

Жадаем мы жыць вам
І весела й сыта
Назло прайдзісветам,
Заморскім бандытам.

Бывайце ж здаровы,
Жывіце багата,
Жадаем мы шчасця
У кожную хату.

# РОДНЫ КРАЙ

Allegro ma non troppo

Ля – са – мі ды а – зё – ра – мі ба –
– га – ты род – ны край, кал – гас – ны – мі прас –
– то – ра – мі, та – бо – ю, у – ра – джай. Гу –
– ля – е ве – цер – воль – ні – ца па по – лі за – ла –
– тым, бяс – шум – на хва – лі ко – цяц – ца па
– мо – ры ар – жа – ным. На // – джай.

Для паўтарэння Для заканчэння

Лясамі ды азёрамі
Багаты родны край,
Калгаснымі прасторамі,
Табою, ураджай.
Гуляе вецер-вольніца
Па полі залатым,

Бясшумна хвалі коцяцца
Па моры аржаным.

На полі бабкі частыя
Пасталі ў чараду.
Жняяркі скрозь зубастыя
І звоняць і гудуць.
Хусцінкамі расквечана,
Як макам, паласа,
Звязаць патрэбна к вечару
Нам многа коп аўса.

Вясёлыя, шчаслівыя
Спяшаюцца жанкі,
Каб працаю рупліваю
Прыбраць свае ганкі.
Смяецца сонца яснае,
Сінее неба край.
Збярэм з зямлі калгаснае
Багаты ураджай.

# ІДУЦЬ ДЗЯЎЧАТЫ Ў ПОЛЕ

♩=96

*mp*

Ця – чэ пад га – ем рэч – ка, кру –

–ты – я бе – ра – гі, за по – лем лес сця – но – ю, за

рэч – ка – ю ста – гі. За по – лем лес сця –

–но – ю, за рэч – ка – ю ста – гі.

Цячэ пад гаем рэчка,
Крутыя берагі,
За полем лес сцяною, } 2 разы
За рэчкаю стагі.

Ідуць дзяўчаты ў поле
Пасевы даглядаць,
А шырыня такая, } 2 разы
Што краю не відаць.

Сінее рунь густая
Шырокім дываном.
І зорка край губляе
За дальнім курганом. } 2 разы

Калі ж паспее ніва
І зашумяць палі,
Ў паход камбайны пойдуць,
Бы ў моры караблі. } 2 разы

І працаю вясёлай
Напоўніцца прастор,
І песняю дзяўчаты
Ўскалышуць звонкі бор. } 2 разы

# УРАДЖАЙНАЯ СВЯТОЧНАЯ

Allegretto

Мы кал - гас - на - ю сям' - ёй песню за - пя-
-ва - ем, сла - вім свя - та мы сва - ё —
свя - та у - ра - джа - ю. Эх, ля - ці ты,
пес - ня, з кра - ю ў край, (ды) пра - слаў -
-ляй кал - гас - ны у - ра - джай!

Мы калгаснаю сям'ёй
Песню запяваем,
Славім свята мы сваё —
Свята ураджаю.

Прыпеў:

Эх, ляці ты, песня, з краю ў край, (ды)
Праслаўляй калгасны ураджай!

Ад прыроды мы спагад
Дома не чакаем,
Ураджай вялікі наш
Самі здабываем.

Прыпеў.

Мы дзяржаве прадалі
Збожжа, колькі трэба,
І насыпалі сабе
У засекі хлеба.

Прыпеў.

Весяліцца наш калгас,
Кожнае нядзелі —
Песні звонкія у нас,
Госці ды вяселлі.

Прыпеў.

# ЗАЛАТЫЯ КАЛАСЫ

УМЕРАНА

Жы – та спе – ла – е жаў –

–це – е, а ва – кол шу – мяць ля –

–сы. Гнуц – ца, хі – ляц – ца да

до – лу (эх!) за – ла – ты – я ка – ла –

1. *mf* 2. Канец

–сы. Гнуц– ца // –сы. 2. Ні – вы // –сы.

Жыта спелае жаўцее,
А вакол шумяць лясы.
Гнуцца, хіляцца да долу (эх!) } 2 разы
Залатыя каласы. }

Нівы мыюцца у кроплях
Чыстай, срэбнае расы,
Нівы між сабой гамоняць, (эх!) } 2 разы
Залатыя каласы.

Погляд нельга адарваць свой
Ад чаруючай красы,
Калыхаюцца пад ветрам (эх!) } 2 разы
Залатыя каласы.

Пралятаюць над палямі
Песень звонкіх галасы —
Жыта спелае ўбіраем, (эх!) } 2 разы
Залатыя каласы.

# ПЕСНЯ АБ КАЛГАСНЫМ ПОЛІ

УМЕРАНА

Сон – ца ўсхо – дзіць над зям –

–лё – ю, рас – ся – ва – ю – чы свят –

–ло. Мы і – дзём сям – ёй у

по – ле сцеж – кай рос – най за ся –

– ло. Ой, кал – гас – на – е ты по – ле, як пры–

–го – жа ты са – бой у пра – мен – нях за – ла–

–ціс – тых 1,2. ледзь ту – ман – най

ра – ні – цой. 3. На – ва –// кож – най во – сень – скай па – рой.

Сонца ўсходзіць над зямлёю,
Рассяваючы святло.
Мы ідзём сям'ёй у поле
Сцежкай роснай за сяло.

Ой, калгаснае ты поле,
Як прыгожа ты сабой
У праменнях залацістых
Ледзь туманнай раніцой.

Навакол, як бачыць вока,
Нівы спелыя стаяць,
Выязджаюць жнейкі ў поле,
Пачынаюць працаваць.

Ой, калгаснае ты поле,
Як шырока ты сабой:
Небасхілу край далёкі
Толькі значыцца мяжой.

Праца спорыцца імкліва,
Спрытна шорхаюць касцы,
І кладуцца на іржышча
Каласістыя снапы.

Ой, калгаснае ты поле,
Як багата ты сабой:
Поўнім збожжам нашы свірны
Кожнай восеньскай парой.

# ДЗЯВОЧАЯ КАЛГАСНАЯ

ВЕСЕЛА, ПЯВУЧА

За _ ра ледзь за _ зі _ ма _ ец _

_ца збу _ джа _ ец _ ца зям _ ля. І

з пес _ няй па _ ды _ ма _ ец _

_я сям' _

_ца кал _ гас _ на _ я сям' _

_я. па _ ды _

_я. І з пес _ няй па _ ды _




Зара ледзь занімаецца,
Збуджаецца зямля.
І з песняй падымаецца
Калгасная сям'я. } 2 разы

І чуюць нівы спелыя,
Зялёныя лясы
Вясёлыя і звонкія
Калгасніц галасы. } 2 разы

Работаю руплівою
Вясну спаткалі мы,
А восень нам багатыя
Аплаціць працаднi. } 2 разы

І не адзін па восені
Да нас загляне сват,
Бо наш калгас нявестамі
Прыгожымі багат. } 2 разы

# ОЙ, ЦІ ЧУЛІ ВЫ ГАМОНКУ

♩ = 126

Ой, ці чу – лі вы га – мон – ку аб бры –
– га – дзе па – ля – вой, дзе пра – цу – е
бры – га – дзі – рам сі – ня – во – кі лю – бы мой.

Ой, ці чулі вы гамонку
Аб брыгадзе палявой,
Дзе працуе брыгадзірам } 2 разы
Сінявокі любы мой. }

Як іду на ферму рана
Я каровачак даіць,
Любы мой мяне сустрэне, } 2 разы
Каб са мной пагаварыць. }

Ён мае пацешыў сэрца,
Слова шчырае стрымаў,
У спаборніцтве брыгадаў } 2 разы
Першынство заваяваў. }

26 Зак. 696.

Шчасце я сваё спаткала,
На мяне ты паглядзі.
Праца зорачкай заззяла
Залатою на грудзі. } 2 разы

Свеціць сонца у ваконца,
Вецер ціхенька гудзе,
А пра нашую работу
Слава велічна ідзе. } 2 разы

# ОЙ ТЫ, ВЁСКА, ВЁСКА НОВАЯ

Andante

Ой ты, вёс – ка, вёс–ка но – ва– я, вёс–ка
но – ва– я, ты кал– гас – на–я.

Ой ты, вёска, вёска новая,
Вёска новая, ты калгасная.

Упрыгожана вёска новая
Не калінаю, не малінаю.

Не калінаю, не малінаю,
А ўсё хлопцамі ды малойцамі.

Усё хлопцамі ды малойцамі,
Ўсё дзяўчатамі, маладзіцамі.

Ах ты, вёска мая родная,
Хаты новыя ды сасновыя.

На лугі, сады на зялёныя
Людзі добрыя ўсе любуюцца.



*Удзельнікі ансамбля песні і танца «Свіцязь» г. Навагрудка Ірына Кузьміч, Людміла Грамыка, Галіна Мамаева і Наталля Шэйпук*

# МІР ЗЯМЛІ ШЧАСЛІВАЙ

БАДЗЁРА

На шы – ро – кім, на шы – ро – кім по – лі,

на кал – гас – най ні – ве

жнуць бры – га – ды жы – та за – ла – то – е

ве – се – ла, руп – лі – ва. //–лі – ва.

На шырокім, на шырокім полі,
На калгаснай ніве
Жнуць брыгады жыта залатое } 2 разы
Весела, рупліва.

Жнуць брыгады, жнуць брыгады дружна,
Песню запяваюць
І ад сэрца партыі падзяку } 2 разы
Ў песні пасылаюць.

І плывуць, плывуць па ім камбайны
Ў залатое мора,—
Зазвінелі радаснаю песняй } 2 разы
Родныя прасторы.

А над тым, над сонечным прасторам
Голуб узлятае,—
Мір для вольнай працы творчай
Песняю вітае. } 2 разы

Мір заводам, мір заводам нашым,
Мір калгасным нівам,
Мір народным велічным будоўлям,
Мір зямлі шчаслівай! } 2 разы

# ДРУЖНА МЫ СЯМ'ЕЙ РАШЫЛІ

РУХАВА




Дружна мы сям'ей рашылі,
Каб калгасы аб'яднаць[1],
Бо на тым шырокім полі
Будзе лепей працаваць.

Выйду, выйду на прыволле,
Пагляджу на свой калгас,—
Ой, шырока наша поле,
Стала шырай ў многа раз.

Паплывуць па ім камбайны,
Пацячэ зярно ракой,
Мы памножым працай дбайнай
Моц радзімы дарагой.

---

[1] Кожныя два радкі паўтараюцца двойчы.

# ЗА АЗЕРШЧЫНАЙ, НА ПОЛІ ЗАЛАТЫМ

БАДЗЁРА



Кож – ны дзень, як толь – кі сон – ца у – ста –



– е, мы на пра – цу з пес – няй воль – на – ю і –

– дзём. А ва – кол шу – мяць кал –

– гас – ны – я па – лі, на – хі –

– ля – ец – ца ка – лос – се да зям–




Кожны дзень, як толькі сонца устае,
Мы на працу з песняй вольнаю ідзём.
А вакол шумяць калгасныя палі,
Нахіляецца калоссе да зямлі. } 2 разы

За Азершчынай, на полі залатым,
Мы вазілі каласістыя снапы,
Пелі песні пра багаты ураджай,
Пра шчаслівы наш калгасны вольны край. } 2 разы

Сонца песціла простор бязмежных ніў,
Лёгка ветрык з каласамі гаманіў.
Весткай радаснай узбуджан быў калгас:
Кандыдаты ёсць на выстаўку у нас. } 2 разы

Ты ляці, імчыся, песня, з краю ў край,
Над краінай неабсяжнай пралятай,
Перадай ты нашай партыі раднoй,
Як працуем мы калгаснаю сям'ёй. } 2 разы

# САБРАЛІСЯ ХЛЕБАРОБЫ

УМЕРАНА

Са_бра_лі_ся хле_ба_ро_бы на кра_

_ю ся_ла: пра вя_лі_кі_я ра_

_бо_ты гу_тар_ка пай_шла.

— Як а_су_шым мы ба_ло_ты,

рас_цві_це наш край, за_шу_міць, за_ка_ла_

_сіц_ца слаў_ны у_ра_джай.

Сабраліся хлебаробы
На краю сяла:
Пра вялікія работы
Гутарка пайшла.

— Як асушым мы балоты,
Расцвіце наш край,
Зашуміць, закаласіцца
Слаўны ураджай.

Грамадой у наступленне
Вёска ўся пайшла.
На балотныя прасторы,
Што вакол сяла.

Там цяпер пшаніцы колас
Буйны, залаты.
На калгасным на Палессі
Зацвітуць сады.

# СЕЕМ МЫ, СЕЕМ

РУХАВА

Се – ем мы, се – ем пша – ні – чань – ку,

се – ем мы, се – ем я – ра – ву – ю.

Рас – ці, рас – ці, пша – ні – чань – ка,

кус – ціс – та – я, ка – ла – сіс – та – я!

Сеем мы, сеем пшанічаньку,
Сеем мы, сеем яравую.
Расці, расці, пшанічанька,
Кусцістая, каласістая!

Сеем мы бульбу за садамі,
Сеем квадратнымі радамі,
Каб расла яна буйная
Ды крахмальная такая.

Сеем мы, сеем лён кудравы,
Сеем мы гонар нам і славу.
Расці, лянок семяністы,
Доўгі, чысты, валакністы!

Сеем мы, сеем ячмень густа,
Каб не было у свірне пуста.
Расці, ячмень, ўсім на дзіва:
З цябе каша, з цябе піва!

Сеем мы, сеем канюшыну,
Сеем мы, сеем чырвоную,
Каб раслі нашы цяляткі,
І каровы, і ягняткі.

Сеем мы, сеем буракі ў полі,
Сеем з кожным годам болей,
Каб цукровыя заводы
Прыбавілі асалоды.

Сеем мы, сеем пшанічаньку,
Сеем мы, сеем яравую.
Будуць булкі добрым людзям,
Караваі дзяліць будзем.

# КАЛГАСНАЯ ДЗЯВОЧАЯ

ПАВОЛЬНА

Вуз – ка – ю сця – жын – кай па – ля –
– во – ю, дзе гус – то – е збож – жа за – цві – ло,
па – над род – ным Нё – ма – нам – ра – ко – ю
я і – ду ў кал – гас – на – е ся – ло.

Вузкаю сцяжынкай палявою,
Дзе густое збожжа зацвіло,
Па-над родным Нёманам-ракою
Я іду ў калгаснае сяло.

Шалясціць пяшчотна цёплы ветрык,
Каласамі мой казыча твар.
Радасцю вялікаю сагрэты,
Я — палёў калгасных гаспадар.

Хвалі яркіх сонечных праменняў
Коцяцца высокай збажынай.
Я бяру калоссяў буйных жменю,
Лашчу іх мазолістай рукой.

Ганаруся працай вольнай, новай,
Да зары на полі — песні, гуд.
Назаўсёды трактарам сталёвым
Зааралі гора мы, тугу.

Я іду. А дзень прыгожы, яркі,
Звонкі смех нясецца з паплавоў.
Хутка, хутка выедуць жняяркі
На уборку залатых жытоў.

# ПАРА ЖАЦЬ

♩=90

Сон – ца ра – на за – свя – ці – ла,

дач – ку ма – ці па – бу – дзі – ла:–Ўста –

*p* ♩=138-150

– вай, да – чу – шань – ка!

*f*

Эй! Ўста – вай, да – чу – шань – ка.

Сонца рана засвяціла,
Дачку маці пабудзіла:
— Ўставай, дачушанька! Эй!
Ўставай, дачушанька.

Позна спаць — ужо даволі,
Бо паспела жыта ў полі.
Пара, пара йсці жаць. Эй!
Пара, пара йсці жаць.

Зазвінелі усе далі,
Як дзяўчаты заспявалі,
Дарожкай ідучы. Эй!
Дарожкай ідучы.

Не прысядуць, не прылягуць,
За жняяркай снапы вяжуць,
У копачкі кладуць. Эй!
У копачкі кладуць.

Свеціць сонца залатое,
Спеліць поле яравое,
Калгаснае дабро. Эй!
Калгаснае дабро.

# ЖНІЎНАЯ

Moderato

Ой, ка_лы_шац_ца жы_та у

по_лі, за_ла_ты_я зві_

_няць ка_ла_сы, льец_ца жніў_на_я

пес_ня ў пры_вол_лі, пес_ня

шча_сця і свет_лай кра_сы. //_сы.

Ой, калышацца жыта у полі,
Залатыя звіняць каласы,
Льецца жніўная песня ў прыволлі, } 2 разы
Песня шчасця і светлай красы. }

Раніцою пад сонейкам ясным,
Дзе хвалюецца жытні прастор,
Там спявае аб шчасці калгасным } 2 разы
Самаходны камбайна матор. }

Адзываецца бор адгалоскам,
Песня вольная ў далі плыве,
Усміхаецца новая вёска, } 2 разы
Бо шчаслівa сягоння жыве.

Эх, любуйцеся, далі, прыволлем,
Дзе кіпіць маладое жніво,
Як пяюць за рулём камбайнёры } 2 разы
Аб Радзіме сваёй дарагой.

# ПРАЦАВАЛІ ДЗЕВАНЬКІ

♩ = 96

Пра – ца – ва – лі дзе – вань – кі поз – на да на –
– чы. Пе – лі пес – ні звон – кі – я,
з по – ля і – ду – чы. Све – ціць ноч – чу
ме – ся – чык, а со – ней – ка днём,
а – свят – ля – юць ра – дас – цю наш кал – гас – ны дом.

Працавалі дзеванькі
Позна да начы.
Пелі песні звонкія,
З поля ідучы.

Свеціць ноччу месячык,
А сонейка днём,
Асвятляюць радасцю
Наш калгасны дом.

Ой, відненька, відненька
Свецяць па начах
На калгасных вуліцах
Зоркі Ільіча.

Ярка па-над хатамі
Лямпачкі гараць,
Прыхадзіце, хлопчыкі,
З намі пагуляць.

Прыхадзіце, хлопчыкі,
З намі пагуляць,
Будзем песні новыя
Разам мы спяваць.

Заспяваем весела
Аб жыцці сваім
І аб нашай радасці,
Шчасці дарагім.

# ВЕРАСЫ

ПАВОЛЬНА

*mf*

Пя – чэ сон – ца спё – ка – там ве – ра – сы,

ве – ра – сы, ды па – спе – лі

ў по – лі ўжо ка – ла – сы, ка – ла – сы.

Пячэ сонца спёкатам верасы, верасы,
Ды паспелі ў полі ўжо каласы, каласы,

Выеду з камбайнам я на зажын, на зажын,
За ракой раскоціцца спеў машын, спеў машын.

Краю поля жніўнага не відаць, не відаць,
А на сэрцы радасці не суняць, не суняць.

Ой, не будзе любы мой ды са мной, ды са мной,
Выедзе з брыгадаю ён з другой, ён з другой.

Я ад лесу жаць буду, ён ад гор, ён ад гор...
Разбуджу я песняю звонкі бор, звонкі бор.



*Вакальны ансамбль калгаса «Новае жыццё» Карэліцкага раёна*

## УРАДЖАЙНАЯ ПЛЯСАВАЯ

Калгаснае поле —
Краю не відно,
Хіліць буйны колас
Золата-зярно.

Прыпеў:

Як нам песень не спяваць,
Як нам танцаў не плясаць:
Хіліць буйны колас
Золата-зярно.

Дзе былі балоты,
Дзе шумеў чарот,
Ураджай збірае
Вольны наш народ.

Прыпеў:

Як нам песень не спяваць,
Як нам танцаў не плясаць:
Ураджай збірае
Вольны наш народ.

Сцеліць збожжа пластам
Лабагрэйкі ўзмах,
Як ластаўкі, ўюцца
Жнеі на палях.

Прыпеў:

Як нам песень не спяваць,
Як нам танцаў не плясаць:
Як ластаўкі, ўюцца
Жнеі на палях.

Там, дзе з жытам зліўся
Неба сіні край,
Косіць і малоціць
Багатыр-камбайн.

Прыпеў:

Як нам песень не спяваць,
Як нам танцаў не плясаць:
Косіць і малоціць
Багатыр-камбайн.

# РАДАСЦЬ ЖНЕЙ

УМЕРАНА

*pp (mf)*

Ой, мы ў по – лі жы – та жа – лі

спе – ла – е, кал – гас – на – е.

*p(f)*

І сна – пы, сна – пы вя – за – лі

ту – га пе – ра – вяс – ла – мі.

Ой, мы ў полі жыта жалі
Спелае, калгаснае.
І снапы, снапы вязалі
Туга перавяслами. } 2 разы

Як снапы, снапы складалі
Ў бабкі залацістыя,
Песні новыя спявалі,
Песні галасістыя. } 2 разы

Жыта буйнае, густое
Долу нахілялася,
Сонца ў небе залатое
Радасна ўсміхалася. } 2 разы

Зжалі, ўбралі сваю ніву
І ідзём да хаты мы;
Знаем, будзем жыць шчасліва,
Як заўжды, багатымі. } 2 разы



*Дні культуры і мастацтва Беларусі ў Маскве ў 1967 г.*

# ВЫЙДУ Ў ПОЛЕ

УМЕРАНА

*p*

Вый – ду ў по – ле пад да –

–ро – гу, вый – ду к ле – су-

– га – ю, там, дзе

ні – вы за – ла – ты – я

ве – цер на – гі – на – е.

Там, дзе ні – вы за – ла – ты – я

ве – цер на – гі – на – е.

Выйду ў поле пад дарогу, выйду к лесу-гаю,
Там, дзе нівы залатыя вецер нагінае. } 2 разы

Дзе сягоння па загонах ўзораны узмежкі,
Хай рассыплюцца па полі радасці усмешкі. } 2 разы

Выйду ў поле пад дарогу, выйду к лесу-гаю,
Дзе жняяркаю дзяўчына жыта дажынае. } 2 разы

Дзе сягоння па загонах ўзораны узмежкі,
Хай рассыплюцца па полі радасці усмешкі. } 2 разы

# ЛЁН

Першы раз з табой спаткаўся
У летні радасны дзянёк,
Майскім небам рассцілаўся
Сінявокі твой лянок.

Ты ішла, нібы па моры,
Вецер кудры варушыў,
Песня неслася ў прасторы
Аж да сонечных вышынь.

Пералівамі баяна
Заліваўся голас твой,
Як участак твой ільняны
Аглядалі мы з табой.

І за клопаты, за працу
Лён аддзякаваў табе,
Ордэн — знак стараннай працы
Грудзі ўкрашвае тваё...

Зноў ракой цячэ гаворка,
Аглядаем зноў мы лён.
Гэты год Залатой Зоркай
Прывітае цябе лён.

# СІНЯВОКІ МАЛАДЗЕЦ

УМЕРАНА

Ра – ні – цой Ігнат Дуб – ра – ва

лён вы – хо – дзіў па – гля – дзець.

—Ты рас – ці, рас – ці на сла –

– ву, сі – ня – во – кі ма – ла –

– дзец. —Ты рас – ці, рас – ці на

сла – ву, сі – ня –

– во – кі ма – ла – дзец.

Раніцой Ігнат Дубрава
Лён выходзіў паглядзець:
— Ты расці, расці на славу,
Сінявокі маладзец. } 2 разы

На яго зірнеш здалёку —
Возера без берагоў.
Як прыгожа, калі злёгку
Вецер гойдае яго! } 2 разы

І гарэзніцы-дзяўчаты,
Ідучы, кідаюць жарт:
— Дзе блакіту пазычаў ты
Для сваіх вачэй, Ігнат! } 2 разы

Не нацешыцца брыгада
Залацістым даўгунцом.
У сяле завуць Ігната
Сінявокім малайцом. } 2 разы

# РАЗАСЛАЎСЯ ЛЁН ВЫСОКІ

РУХАВА

*mp* Адзін

Ра – за – слаў–ся лён вы – со – кі

ка – ля Нё– ма– на – ра – кі,

ку – ча – ра – вы, сі – ня– во – кі

і бяз – меж – ны, як бла – кіт.

Разаслаўся лён высокі
Каля Нёмана-ракі,
Кучаравы, сінявокі
І бязмежны, як блакіт. } 2 разы

Урачысты цёмны ранак
Мые росамі палі,
Залаты усход старанна
Лён праменнямі абліў. } 2 разы

Я стаю бадзёры, шчасны,
Грае радасць на душы.
Расквітае лён калгасны,—
Паглядзі, якая шыр! } 2 разы

# ЗЯЛЁНЫЯ КВАДРАТЫ

♩= 120

Ста – ла буль – ба пад – рас – тапь,

як у са – дзе мя – та. Ой, я – ка – я

пры – га – жосць зя – лё – ны квад – ра – ты.

Стала бульба падрастаць,
Як у садзе мята.
Ой, якая прыгажосць
Зялёны квадраты.

На палетак паглядзіш —
Шырыня без краю,
Едуць бульбу выбіраць
Караблі-камбайны.

Гамані ты бегучы,
Рэчанька, у далі,
Мы багаты ураджай
Бульбы атрымалі.

Чаму песень нам не пець
Вольнаю хвілінай.
Бо шчасліва мы жывём
У сваёй краіне.

# ЧЫРВОНАЯ КАЛІНА

УМЕРАНА

Па – са – джу ка – лі – ну ў по – лі,

па – са – джу ка – лі – ну ў по – лі.

Хай квіт – не – е, зе – ля – не – е у пры – вол –

– лі. Гэй! Хай квіт – не – е,

зе – ля – не – е у пры – вол – лі.

Пасаджу каліну ў полі,
Пасаджу каліну ў полі,
Хай квітнее, зелянее у прыволлі.
Гэй, хай квітнее, зелянее у прыволлі.

Ты расці, мая каліна,
Ты расці, мая каліна,

Хай любуецца табою ўся даліна.
Гэй, хай любуецца табою ўся даліна.

Да каліны да зялёнай,
Да каліны да зялёнай
Прыляталі салаўі ды вясною.
Гэй, прыляталі салаўі ды вясною.

На калінавым лісточку,
На калінавым лісточку
Пелі песні салаўі ўсю ночку.
Гэй, пелі песні салаўі ўсю ночку.

Там дзяўчаты працавалі,
Там дзяўчаты працавалі,
Пад калінай маладой аддыхалі.
Гэй, пад калінай маладой аддыхалі.

Пад калінаю сядзелі,
Пад калінаю сядзелі,
Аб радзіме дарагой песні пелі.
Гэй, аб радзіме дарагой песні пелі.

# ПЕСНЯ ПРА МАЯКІ

УМЕРАНА ВЕЛІЧАВА

Вя – дуць да яс – най мэ – ты шы –
– ро – кі – я шля – хі, паў – сю – ды яр – ка
све – цяць ка – му – ны ма – я – кі. Шля –
– ха – мі ты – мі кро – чуць ў стра – і пе – ра – да –
– вым кал – гас – нік і ра – бо – чы пад
сця – гам ба – я – вым. Ге –
– ро – і сва – і – мі ру – ка – мі аг –




Вядуць да яснай мэты шырокія шляхі,
Паўсюды ярка свецяць камуны маякі.
Шляхамі тымі крочуць ў страі перадавым
Калгаснік і рабочы пад сцягам баявым.

Прыпеў:

Героі сваімі рукамі
Агні запалілі для іх,
І людзі завуць маякамі
Разведчыкаў слаўных сваіх.

Ідуць пад сцягам гэтым вучоны і паэт,
Імчаць вакол планеты вадзіцелі ракет.
Ўгрызаюцца ў пароду здабытчыкі руды,
Саджаюць садаводы пладовыя сады.

Прыпеў.

Ударныя брыгады ўздымаюць цаліну,
І мераць вадалазы марскую глыбіню,
Шляхі атамаходаў на полюс праляглі,
Бягуць электравозы на самы край зямлі.

Прыпеў.

Звіняць на магістралях тугія правады,
Святлом цудоўным свецяць над імі гарады.
І ззяюць шклом празрыстым палацаў этажы,
Штурмуюць камуністы крутыя рубяжы.

Прыпеў.

# ЕСЦЬ У НАШЫМ У КАЛГАСЕ

♩ = 128

Есць у на_шым у кал _ га _ се ды дзяў_чы_ на слаў_на_ я,

пры_га_жэй сва_ іх пад_ру_жак і ў ра_ бо _ це слаў_на_ я. Э_

*mf* *падга.* *лосан*

_х(ы), пры_ га _ жэй сва_ іх пад_ ру _ жак

*p* Хор

і ў ра _ бо _ це спраў _на _ я.

Есць у нашым у калгасе
Ды дзяўчына слаўная. Эх (ы),
Прыгажэй сваіх падружак } 2 разы
І ў рабоце спраўная.

Недарэмна на красуню
Хлопцы заглядаюцца.
А за што наша дзяўчына
Хлопцам падабаецца? } 2 разы

Ці за вочы, ці за бровы,
Ці за косы белыя,
Ці за подзвігі у працы,
Дзелавыя, смелыя. } 2 разы

Ці за ордэн, што на грудзях
Сонцам разгараецца,
Ці за тое, што героем
Яна называецца. } 2 разы

Нашы хлопцы у рабоце
Многа чаго вартыя,
Толькі цяжка параўнацца
З дзеўчынай упартаю. } 2 разы

За вялікую работу,
Шчырую, выдатную,
Выбіраюць дэпутаткай
Ды дзяўчыну значную. } 2 разы

У Вярхоўным у Савеце,
З думамі свабоднымі,
Наша дзеўчына занята
Справамі народнымі. } 2 разы

І працоўным нашым людзям
Ўсё, што пажадаецца,
Па савецкаму закону
У жыцці збываецца. } 2 разы

# ЕДУЦЬ К НАМ СПЕЦЫЯЛІСТЫ

ПАВОЛЬНА

Нам вя- сё - лы сён - ня час,
е - - дуць з го - ра - да ў кал -
-гас. Гэй, гэй, гэй, гэй,
гэй, е - дуць з го - ра - да ў кал - гас.

Нам вясёлы сёння час,
Едуць з горада ў калгас.
Гэй, гэй, едуць з горада ў калгас.

Сваці, сонца, залаціста,
Едуць к нам спецыялісты,
Гэй, гэй, едуць к нам спецыялісты.

Ёсць механікі, шафёры,
Трактарысты, камбайнёры.
Гэй, гэй, трактарысты, камбайнёры.

Весяліцеся, палі,
Аграномы к нам прыйшлі.
Гэй, гэй, аграномы к нам прыйшлі

Нястрымана ноччу й днём
Працу дружна павядзём.
Гэй, гэй, працу дружна павядзём.

Зашумяць палі, лугі
Ураджаем дарагім.
Гэй, гэй, ураджаем дарагім.

Дзякуй, партыя, табе,
Залатых дала людзей.
Гэй, гэй, залатых дала людзей.

# ТРАКТАРЫСТ

УМЕРАНА
*mf* Адзін

Ледзь вя - сен - ня - е не - ба на ўсхо - дзе у - сміх - нец - ца іс - туж - кай за - ры,

Двое

з эм - тэ - эс но - вы трак - тар вы - во - дзіць на па - лі ма - ла - ды трак - та - рыст.

1.2. З эм - тэ - 3. - раць.

Ледзь вясенняе неба на ўсходзе
Усміхнецца істужкай зары,
З МТС новы трактар выводзіць
На палі малады трактарыст. } 2 разы

Конь сталёвы, як волат, ступае,
Аж зямля пад нагамі дрыжыць.
Напявае вадзіцель вясёлы,
Твар ад шчасця, як сонца, гарыць. } 2 разы

А прад ім неабсяжнае поле —
Бесканечная роўная гладзь,
На якім яму выпала доля
Усе апошнія межы ўзараць. } 2 разы

## ПЕСНЯ КАМБАЙНЕРАЎ

Звонкай песняй гармонь раздаваецца,
Жаць у поле камбайнеры сабіраюцца.
Маладыя камбайнеры дружна працу вялі.
Запявай, салавей, над дубраваю,
Маладыя камбайнеры хлопцы бравыя.
Ой, стаю я, гляджу, як на золачку
Едзе мілы камбайнер мой на ўзгорачку.
Весяляцца палі хлебародныя,
Едуць, едуць к нам камбайны самаходныя.
Падзівіся, камбайнер, зоркай яснаю,
Што за нівы залатыя скрозь калгасныя.




*Самадзейны кампазітар, кіраўнік хору калгаса «Вялікі Кастрычнік» Уздзенскага раёна П. Шыдлоўскі сярод удзельнікаў мастацкай самадзейнасці.*

# ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ ДА НАС

БАДЗЁРА

Вый - дзеш ў по - ле, по - ле ды кал -

-гас - на - е, і ця - бе па -

-ло - ніць да - ля - гляд, кож - ны ко - лас

жы - та, жы - та ка - ла - сіс - та - га

га - ва - рыць з та - бой ад сэр - ца рад.

Пры - яз - джай - це да нас,

29. Зак. 696




Выйдзеш ў поле, поле ды калгаснае,
І цябе палоніць далягляд,
Кожны колас жыта, жыта каласістага
Гаварыць з табой ад сэрца рад.

Прыпеў:

Прыязджайце да нас,
Да нас у калгас, эх,
У сям'ю вас прымем,
Прымем ў добры час.

Праца тут вясёлая, шчаслівая,
З намі дружаць трактар і камбайн.
Вечарам у клубе, клубе гаманлівым,
Песняй заліваецца баян.

Прыпеў.

Тут таксама свецяць зоры ясныя,
Умываецца расою дзень,
І дзяўчаты дружныя, калгасныя —
Лепей і не знойдзеце нідзе!

Прыпеў:

Прыязджайце да нас,
Да нас у калгас, эх,
У сям'ю вас прымем,
Прымем ў добры час.

# Я НА ВЫСТАЎЦЫ БЫЛА

УМЕРАНА

У Маск_ ве лю _ бі _ май, свет _ лай ад кал _

_гас _ на_га ся _ ла гэ_тым го _ дам, гэ_тым

ле_ там я на выс _ стаў_ цы бы _ ла. Гэ_тым

го _ дам, гэ _ тым ле _ там я на

1-4. 5.

вы _ стаў_ цы бы _ ла. // _ла.

У Маскве любімай, светлай
Ад калгаснага сяла
Гэтым годам, гэтым летам
Я на выстаўцы была. } 2 разы

Што там бачыла, паверце,
Не забуду я ў жыцці,
Хоць бы дзе на белым свеце
Давядзецца мне прайсці. } 2 разы

Родны край усім багаты,
Бачны вольнай працы плён.
Сярод іншых экспанатаў
Ёсць на выстаўцы мой лён. } 2 разы

І наведвальнікаў многа
Ля яго было штораз.
Лён хвалілі яны доўгі,
Звеннявую і калгас. } 2 разы

Ці ж не ўзнагарода гэта
Для мяне і для звяна?
Гэтым годам, гэтым летам
Я на выстаўцы была. } 2 разы

# ПАЙДУ, ПАЙДУ, ЯСЮ МІЛЫ

♩ = 126

Пай_ду, пай_ ду, Я _ сю мі _ лы, пай _ ду за _ муж
за ця_ бе, бо на све _ це пры _ га_жэ _ е
ня _ ма хлоп_ ца ну ні_ дзе! Бу_ ду я ця _
бе лю _біць, бу - ду ду _ жа ша _ на_ ваць,
ра_дасць па _ па_ лам дзя_ліць, го_ ра з ха_ты вы_га_няць.

Пайду, пайду, Ясю мілы,
Пайду замуж за цябе,
Бо на свеце прыгажэе
Няма хлопца ну нідзе!
Буду я цябе любіць,
Буду дужа шанаваць,
Радасць папалам дзяліць,
Гора з хаты выганяць.

На калгасным нашым полі
Разам будзем працаваць:

Араць, сеяць, жаць, касіці,
Песні радасці спяваць.
Ураджай збяром бязлікі,
Часць дзяржаве аддамо,
Наш народ, народ вялікі,
Дзякуй скажа нам сваё.

Пайду, пайду, Ясю мілы,
Пайду замуж за цябе,
Бо на свеце прыгажэе
Няма хлопца ну нідзе.
Буду я цябе любіць,
Буду дужа шанаваць,
Радасць папалам дзяліць,
Сваё шчасце будаваць!

# ОЙ, ПАЙДУ Я, ВЫЙДУ

ВЕСЕЛА, З ЗАПАЛАМ

Ой, пай – ду я, вый – ду. Вый – ду ў то – е

по – ле, вый – ду ў чыс – та – е

по – ле, дзе кра – са – дзяў – чы – на

лён куд – ра – вы по – ле. Лён куд – ра – вы

по – ле. Дзе кра – са – дзяў –

– чы – на лён куд – ра – вы по – ле.

Лён куд – ра – вы по – ле.

Ой, пайду я, выйду.
Выйду ў тое поле,
Выйду ў чыстае поле,
Дзе краса-дзяўчына
Лён кудравы поле. } 2 разы
Лён кудравы поле.

Лён кудравы поле,
Голасна спявае,
Голасна спявае,
Песняю чароўнай
Сэрца закранае. } 2 разы
Сэрца закранае.

Ой, пайду я, выйду
Ярам на нізіну,
Ярам на нізіну,
Павяду па гонях
Дужую машыну. } 2 разы
Дужую машыну.

Павяду машыну,
За гарою стану,
За гарою стану,
Паслухаю песню,
На дзяўчыну гляну. } 2 разы
На дзяўчыну гляну.

Сонца на заходзе,
Блізка вечарынка,
Блізка вечарынка,
Ой, скажы, кудою
Пойдзеш ты, дзяўчынка? } 2 разы
Пойдзеш ты, дзяўчынка?

Ці каля дубравы,
Ці каля крыніцы,
Ці каля крыніцы.
Павяду дадому
Цябе, чараўніца. } 2 разы
Цябе, чараўніца.

# РУЧНІКІ

Allegretto

У су_ бо _ ту Ян _ ка е _ хаў ля _ ра_

_кі, пад вяр _ бой А _ лё _ на

мы_ ла руч _ ні _ кі. — Па_ ка _ жы, А _

_лё _ на, бро_ду зем _ ля _ ку, дзе тут пе_ ра _

_е _ хаць на ка_ ні ра _ ку.

У суботу Янка ехаў ля ракі,  
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.  
— Пакажы, Алёна,броду земляку,  
Дзе тут пераехаць на кані раку.

— Адчапіся, хлопец, едзь абы куды,  
Не муці мне толькі чыстае вады.  
У маркоце Янка галавой панік,  
Упусціла Лена беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік, памажы хутчэй,  
Бо плывуць, знікаюць ручнікі з вачэй.

— Любая Алёна, я вады баюсь,
Пацалуй спачатку, бо я утаплюсь.

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалавала Лена Янку над вадой.
Стала ціха, ціха на усёй зямлі,
Па рацэ далёка ручнікі плылі.

# ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА...

Andante sostenuto

— Ой, рэ – чань – ка, рэ – чань – ка, —
за – спя – ва – ла дзе – вань – ка.
Ай, лю – лі, лю – лі, лю – лі,
за – спя – ва – ла дзе – вань – ка.

— Ой, рэчанька, рэчанька,—
Заспявала дзеванька.
Ай, люлі, люлі, люлі, } 2 разы
Заспявала дзеванька. }

А таму, што малада,
Вішняй расцвіла ў садах.
Ай, люлі, люлі, люлі, } 2 разы
Вішняй расцвіла ў садах. }

А таму, што ўсюды май,—
Адказаў ёй рэхам гай.
Ай, люлі, люлі, люлі, } 2 разы
Адказаў ёй рэхам гай. }

А таму, што русы косы,
Буйна высыпалі росы.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Буйна высыпалі росы. } 2 разы

А таму, што вочы сіні,
Пакахаў яе хлапчына.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Пакахаў яе хлапчына. } 2 разы

Чарнабровы і прыгожы,
Плытагон на сінім Сожы.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Плытагон на сінім Сожы. } 2 разы

# ДОЖДЖ ІДЗЕ

Allegro







Дождж ідзе, дождж ідзе,
Абмывае вішню.
Кліча дзеўчыну хлапец,
Каб у садзік выйшла.

Ой, хоць кліч, хоць не кліч,
Словам спакушаеш...
Ці багата ж, мой міленькі,
Працадзён ты маеш?

Каб жа быў я у калгасе
Лодыр-гультаіна,
Сорамна было б хадзіць
Да цябе, дзяўчына.

Усе людзі цябе лічаць
Лепшай трактарысткай,
І у клубе вечарамі
Ты спяваць — артыстка.

# ПОМНІШ, ЛЮБЫ

ПАВОЛЬНА

Пом_ніш, лю _ бы, як у вёс _ ну ка _ ля

вёс _ кі, за ра _ кой, не_аб_ сяж _ ны

наш па _ ле _ так за _ ся _

_ва _ лі мы з та _ бой? Не _ аб _ // _ бой?

Помніш, любы, як у вёсну
Каля вёскі, за ракой,
Неабсяжны наш палетак
Засявалі мы з табой?
} 2 разы

А як жыта красавала,
Ззяла кроплямі расы,
Ціха казку веснавую
Нам шапталі каласы.
} 2 разы

Ты прызнаўся мне ў каханні,
І ад гэтых шчырых слоў
У маім дзявочым сэрцы
Разгарэлася любоў. } 2 разы

Вецер лісце абрывае,
Гоніць хвалі ручая...
А ў душы вясна красуе
І цвіце любоў мая. } 2 разы

# БРЫГАДЗІР МОЙ МІЛЕНЬКІ

Andante

Бры_га _ дзір мой мі _ лень _ кі, гар _ ма_ніст у-

_да_лень_кі як зай_ гра_ е ў воль_ны час, са_ бя_

_рэ лю_ дзей у _ раз. Ой ты,

мі_лы, мі_лы мой, га_на_ ру _ ся я та _ бой!

Брыгадзір мой міленькі,
Гарманіст удаленькі
Як зайграе ў вольны час,
Сабярэ людзей ураз.

Ой ты, мілы, мілы мой,
Ганаруся я табой!

Папрыходзіць сюды шмат,
Як маліначак, дзяўчат
На яго усё глядзець,—
Цяжка мне гэта цярпець.

Ой ты, мілы, мілы мой,
Ганаруся я табой...

30. Зак. 696

Пачакай жа, любы мой,
Буду Працы я герой;
Глянуць хлопцы й на мяне,—
Табе раўнаваць, не мне...

Ой ты мілы, мілы мой,
Ганаруся я табой!

# ОЙ, ДЗЕВАНЬКІ, ПАСЛУХАЙЦЕ

Andante

Ой, дзе_ вань _ кі, па _ слу _ хай _ це:

ка_жуць, што я за _ ка _ ха _ ла _ ся, ноч _ кай цём_най ца_ла_

_ва _ ла _ ся... Гэ _ та ўсё ня_ праў _ да,

гэ _ та ўсё ня _ праў _ да, ня _ праў _да!

Ой, дзеванькі, паслухайце:
Кажуць, што я закахалася,
Ночкай цёмнай цалавалася...
Гэта ўсё няпраўда,
Гэта ўсё няпраўда, няпраўда!

Кажуць: дзяўчына высахла,
Вочы сінія засмучаны,
Сэрца любасцю атручана...
Гэта ўсё няпраўда,
Гэта ўсё няпраўда, няпраўда!

Ой, дзеванькі, паслухайце:
Не была бы я калгасніцай,

Каб сядзела век за прасніцай.
А гэта ўсё праўда,
А гэта ўсё праўда, ўсё праўда!

Толькі сэрца у дзяўчыны
Ўсё сумуе ночкай цёмнаю
Па каханню непрытомнаму,
Ой, гэта праўда,
Ой, гэта ўсё праўда, ўсё праўда!

# МОЙ ЖАДАНЫ СІНЯВОКІ

Воблакі плывуць над рэчкаю,
Адбіваюцца ў крыштальнай вадзе,
Дзе ж ты, сінявокі,
Дзе ж ты, мой жаданы,
Сэрца томіцца, цябе заве.

Вечар над зямлёю сцелецца,
Рассыпае жэмчуг рос на траве,
Дзе ж ты, сінявокі,
Дзе ж ты, мой жаданы,
Я ўсё мару, любы, аб табе.

Бачу постаць па-над рэчкаю,
Падыйдзі ты, любы мой, да мяне.
Я ў сваім каханні,
Шчырым, нечаканым,
Не ўтаю, прызнаюся табе.



*Будучыя кіраўнікі мастацкай самадзейнасці, навучэнцы Магілёўскага культасветвучылішча*

# ЧОРНЫЯ ВОЧКІ, ПАРА ЎЖО СПАЦЬ!


















Чорныя вочкі, пара ўжо спаць!
Заўтра з зарою трэба ўставаць.
Ужо гукае вясна ў дубраве,
Выйдзем дружна ўсе працаваць. } 2 разы

Ах, не завіце спаць вы мяне:
Ціха, чароўна так на дварэ...
Мілы Андрэйка і салавейка
Не пускаюць ў хату мяне. } 2 разы

Па-над калгасам ўзышла зара.
Свеціць, іскрыцца ў полі раса.
Людзі выходзяць, песню заводзяць —
Час да працы, час і пара. } 2 разы

Усё расцвітае, вясна шуміць.
Як, чорны вочкі, вас не любіць!
Усюды раздольна, дышацца вольна.
Сэрца б'ецца, хочацца жыць! } 2 разы

# ХОДЗІЦЬ ДЗЕЎЧЫНА ПА ВОДУ

УМЕРАНА

Па-ліць ма-ці ра-на ў пе-чы, у-ха-джа-ец-ца са-

-ма, а дзяў-чы-на во-ду но-сіць, і у-

-пын-ку ей ня-ма. А дзяў-чы-на во-ду

но-сіць, і у-пын-ку ей ня-ма. —Ты ска-

-жы, ма-я да-чуш-ка, што з ва-дой бу-дзеш ра-

-біць? —Трэ-ба ж, мам-ка, мне ся-гон-ня ўсю бя-




Паліць маці рана ў печы,
Ухаджаецца сама,
А дзяўчына воду носіць,
І упынку ёй няма. } 2 разы

— Ты скажы, мая дачушка,
Што з вадой будзеш рабіць?
— Трэба ж, мамка, мне сягоння
Ўсю бялізну перамыць. } 2 разы

— Вось памыла б ты і заўтра,
Лепш паслухай ты мяне.
— Заўтра ў клубе вечарынка,
Ды не будзе часу мне. } 2 разы

— Ці ж то мала ёсць, дачушка,
І другой работы ў нас?
— Трэба ж, мамка, мыць падлогу,
Прынясу яшчэ ў запас. } 2 разы

Ходзіць дзеўчына па воду,
Маці ў толк не дабярэ,
Што калодзеж той з вадою
У мілога на дварэ. } 2 разы

Ой, ты, хлопец сінявокі,
Ці не чуеш ты бяды?
Забяры дзяўчыну замуж,
Бо пакіне без вады. } 2 разы

# ТАМ ПАД ГАЕМ

УМЕРАНА, ВЕСЕЛА

*mf*

Там пад га – ем, ля да – лі – ны,

на кал – гас – ным по – лі дзве па – дру – жань –

– кі – дзяў – чы – ны лён гус – ты па –

1. – ло – лі. 2. Для заканчэння

– ло – лі // – ло – лі. // – чы – не.

Там пад гаем, ля даліны,
На калгасным полі
Дзве падружанькі-дзяўчыны } 2 разы
Лён густы палолі.

Ціха песню запявалі
Аб дзяньках шчаслівых,
Гаварылі і ўздыхалі } 2 разы
Па сваіх любімых.

— А мой мілы, як той сокал,
Смелы лётчык Міша.
— Да мяне лісты штодзённа } 2 разы
Пагранічнік піша.

Па-над лесам, па-над гаем
Сокал закружыўся,
Ён махнуў крылом дзяўчатам
I за хмары ўзвіўся. } 2 разы

Салавейка залівауся
Ў лесе пры даліне,
Пагранічнік адазваўся
Песняю дзяўчыне. } 2 разы

# СОНЦА ЗАЙШЛО ЗА ЦЕМНЫ ЛЯСОК

АЖЫЎЛЕНА, З ПАЧУЦЦЁМ

*p*

Сон_ца зай_шло за цём_ны ля _ сок, вый_дзі, дзяў_чы_на,

хоць на ча _ сок. Ве _ чар па _ год _ ны

ва _ біць кра _ сой, хо _ чац _ ца быць мне

ра_ зам з та_бой. Ве_чар па _ год_ ны ва_біць кра_сой,

1,2,3. 4.

хо_чац _ ца быць мне ра_зам з та _ бой. // сён_ ня ска_жу.

Сонца зайшло за цёмны лясок,  
Выйдзі, дзяўчына, хоць на часок.  
Вечар пагодны вабіць красой,  
Хочацца быць мне разам з табой.

Глянь, як прыгожа, ўсюды вясна!  
Дзіўнай красой чаруе яна.  
Як жа прыемна, радасна жыць,  
Сэрца так прагне шчыра любіць.

Тонуць у белым цвеце сады,
Шэпчуць бярозы, шэпчуць дубы.
Чуеш, пяе ў гаі салавей?
Выйдзі, галубка, выйдзі хутчэй.

Сядзем, дзе ціха ліпы шумяць,
Песні аб шчасці будзем спяваць.
Выйдзі, дзяўчына, выйдзі, прашу,
Ўсё, што на сэрцы, сёння скажу.

# ШЧАБЯТУХА

РУХАВА, БАДЗЁРА












*p*

"Ох - хо - хо!" — па- чы- на - е Сы- мон,

Ой, ой!

"Эх - хэ - хэ!" — ні - бы рэ - ха, Са- прон,

Ой, ой!

*mf*

"Іх - ха - ха!" — ад - гук - нец - ца Ан -

Ой,

*f*

- тон, "Ой, я - ёй!" — аж за- стог- не Ля - вон.

ой Ой, Ля - вон.

Мае лаўкі, пэўна, мёдам
Ці смалой намазаны:
Прыйдуць хлопцы карагодам
І сядзяць, як звязаны.

Прыпеў:

«Ох-хо-хо!» — пачынае Сымон,
«Эх-хэ-хэ!» — нібы рэха, Сапрон,
«Іх-ха-ха!» — адгукнецца Антон,
«Ой, я-ёй!» — аж застогне Лявон.

Я смяюся, я жартую,
Мне іх сум не балазе,
А яны сядзяць, сумуюць
І ўздыхаюць па чарзе.

Прыпеў.

А мне смешна, мне пацешна,
Стрэлю вокам і маўчу,
Ці, як ластаўка ў паветры,
Я лячу і шчабячу.

Прыпеў:

«Ох-хо-хо!» — пачынае Сымон,
«Эх-хэ-хэ!» — нібы рэха, Сапрон,
«Іх-ха-ха!» — адгукнецца Антон,
«Ой, я-ёй!» — аж застогне Лявон.

# СПІ, САКОЛІК МОЙ МАЛЫ

СПАКОЙНА, З ПАЧУЦЦЁМ

p

Спі, са_ ко_ лік мой ма_ лы, ўсе пай_ шлі ўжо

спаць, толь_ кі ў не_ бе за ак_ ном

зо_ рач_ кі га_ раць. Каб пры_ го_ жы

сон спа_віў во_ чань_кі тва_е, бу_ду ці_ ха

1. 2.

на_ пя_ ваць пе_ сень_ ку та_ бе. // _бе.

Спі, саколік мой малы, ўсе пайшлі ўжо спаць,
Толькі ў небе за акном зорачкі гараць.
Каб прыгожы сон спавіў вочанькі твае,
Буду ціха напяваць песеньку табе. } 2 разы

Падрасцеш, пачнеш хадзіць, радасць ты мая.
Будзеш дужы — сілы дасць родная зямля.
Ўсё пазнаеш ты, сынок, выйдзеш на прастор,
А Радзіма крыллі дасць — паляціш да зор. } 2 разы

Спі, сынок, я напяваць буду аб вясне,
І ніхто не забярэ шчасця у цябе.
Чорным хмарам не бываць з матчынай слязой,
Сонца будзе нам свяціць вечна над зямлёй. } 2 разы

31*

# РАНА-РАНЕНЬКА

УМЕРАНА

Ра – на-ра – нень – ка ў са – доч – ку

я у – ба – чы – ла сля – доч – кі.

Хтось тут ве – ча – рам блу – дзіў,

ля ак – на май – го ха – дзіў. Ля ак –

1, 2, 3. – на май – го ха – дзіў.

Для заканчэння // хо – ра – ша кру – гом!

Рана-раненька ў садочку
Я убачыла слядочкі.
Хтось тут вечарам блудзіў, } 2 разы
Ля акна майго хадзіў.

Я пазнала-адгадала,
Так мне сэрца падказала:

Вечароваю парой
Тут хадзіў любімы мой. } 2 разы

Мусіць, доўга — ад змяркання
Ён чакаў са мной спаткання
І хадзіў туды-сюды,
І пакінуў тут сляды. } 2 разы

Як прыйду з калгаснай працы,
Буду імі любавацца,
Сяду кнігу пачытаць,
Буду мілага чакаць. } 2 разы

Ўчора маму я прасіла,
Каб яна мяне пусціла
Выйсці вечарам у сад —
Быў бы любы вельмі рад. } 2 разы

Мама строга прыказала,
Каб я позна не гуляла,
Не ішла каб да сяла —
Дома вечарам была. } 2 разы

Ой, няўжо ёй невядома,
Што уседзець нельга дома,
Калі любы пад акном,
Калі хораша кругом! } 2 разы

# ЯК У НАШЫМ ЦІХІМ ЛУЗЕ

УМЕРАНА

Як у на_шым ці - хім лу - зе
за - цві - ла чыр_ во_ на - я ка_ лі -
- на, за_ спя - ва_ ла пес - ню звон_ ка ў лу_ зе
вес - нім ма - ла - да дзяў -чы - на.

Як у нашым ціхім лузе
Зацвіла чырвоная каліна,
Заспявала песню
Звонка ў лузе веснім
Малада дзяўчына.

Гэй, у полі, светлым полі
Вецер, вецер жыта калыхае,
Дарогай — далінай
З прыгожай дзяўчынай
Хлопец пахаджае.

Як над той да над далінай,
Сонца, сонца раненька ўставала.
Абняла дзяўчына
Любага хлапчыну,
Ціха заспявала:

— Ой, свяці ж ты, зара ясная,
На палі, зялёныя лужочкі.
Паеду вучыцца
У Мінск у сталіцу
Я на два гадочкі.

Гэй, сказала слова шчырае
Сэрцу, сэрцу свайму дарагому:
— Я табе клянуся,
Зноў сюды вярнуся
Буду аграномам.

Гэй, цвіціце, грушы, вішанькі,
Ранняю, эх ранняю вясною.
Цвіці ж, наша доля,
На калгасным полі
Ды над ўсёй краінай.

# ЗАЦВІЛА КАЛІНА

Умерана

За га – ро – ю, над ра – ко – ю за – цві –

– ла ка – лі – на, за – спя – ва – ла

пес – ню ў ці – хім лу – зе вес – нім ды кра – са-дзяў –

– чы – на. // – цам.

1–5. Для канца

За гарою, над ракою
Зацвіла каліна,
Заспявала песню
Ў ціхім лузе веснім
Ды краса-дзяўчына. } 2 разы

Як у полі, светлым полечку
Вецер павявае.
Дарожкай, далінай
З прыгожай дзяўчынай
Хлопец пахаджае. } 2 разы

Як над той ды над дарожкай
Сонца уставала,
Абняла дзяўчына
Любага хлапчыну } 2 разы
Ды ціха сказала:

— Эй, свяці, зара ты ясная,
На палі, лужочкі,
Паеду вучыцца
У Мінск у сталіцу } 2 разы
Я на тры гадочкі.

І сказала слова шчырае
Сэрцу дарагому:
— Я табе клянуся:
Зноў сюды вярнуся, } 2 разы
Буду аграномам.

Эй, цвіціце ж, грушы-вішанькі,
Ранняю вясною,
Цвіці ж, наша доля,
На калгасным полі } 2 разы
Пад шчаслівым сонцам.

# ВЯСЕЛЬНАЯ

ВЕСЕЛА, З УЗДЫМАМ

*Запеў:*

Пі – це га – рэ – лі – цу, гос – цей – кі, пі – це,
слаў – ну – ю Ган – нач – ку на – шу лю – бі – це.

*Усе:*

Пер – шай з бры – га – дай я – на у – ста – ва – ла,
пер – шай на по – ле і – шла, пра – ца – ва – ла. // со – ней – ка, яр – ка!

Піце гарэліцу, госцейкі, піце,
Слаўную Ганначку нашу любіце.
Першай з брыгадай яна уставала,
Першай на поле ішла, працавала.

Весела, госцейкі, песню спявайце,
Песняю Ганначку нашу ўслаўляйце.
Зорка, што свеціць ў яе, залагая
Хай ёй дарогу ў жыццё азарае.

Звонка, музыкі, ў цымбалы звініце,
Коней вясельных ускач не ганіце,

Каб развітацца магла яна з намі,
З полем, знаёмымі ёй каласамі.

Весела, госцейкі, песню спявайце,
Часта ў адведзіны вы прыязджайце,
Будзем і мы, парадніўшыся з вамі,
Частымі ў вашым калгасе гасцямі.

Танец хай стужкі вясёлкамі кружыць.
Шчасце хай з нашаю Ганначкай дружыць.
За маладых уздымаем мы чаркі.
Ярка свяці, наша сонейка, ярка!



*Удзельнікі мастацкай самадзейнасці калгаса «Зара камунізма» Навагрудскага раёна на рэспубліканскім аглядзе мастацкай самадзейнасці калгасаў і саўгасаў у 1960 г.*

# ЧАМУ, ХЛОПЕЦ, НЕ ЖАНАТЫ

♩=96-108

Ча_ му хло _ пец не жа_ на _ ты? Да _ куль
бу _дзеш ха_ лас _ ты? Ці ня_ ма та _ бе дзяў _
_ ча _ таў, што не е _ дзеш у сва _
_ты? Ці ня _ ма та _ бе дзяў _
_ча _ таў, што не е_ дзеш у сва_ ты?

Чаму, хлопец, не жанаты?
Дакуль будзеш халасты?
Ці няма табе дзяўчатаў, } 2 разы
Што не едзеш у сваты?

— Пачакайце,— кажа хлопец,—
Вось пайду я з вамі жаць,
Паглядзець на вас жадаю, } 2 разы
Як вы здольны працаваць.

Едзе хлопец па палетку
І жняярку ён вядзе,
А дзяўчаты вяжуць жыта, } 2 разы
Праца дружная ідзе.

Прыглядаецца хлапчына
І дае такі адказ:
— Ўсе рухавыя дзяўчаты } 2 разы
І красунь не мала ў вас.

Як жа мне тут маладому
Прыгажунь не палюбіць?
Не пражыць мне халастому, } 2 разы
Без любімай не пражыць.

І не ведалі падружкі,
Што Ганнулю ён любіў,
І хлапец усіх дзяўчатаў } 2 разы
На вяселле запрасіў.

## ЖАРТОЎНАЯ ПЕСНЯ

Ой, хацела ж мяне маць
За Івана замуж даць.
Не хачу, не пайду,
Я Івана не люблю.
А Іван лянівы дужа.
Не хачу такога мужа.
Не хачу, не пайду,
Я Івана не люблю.

Ой, хацела мяне маць
За Якуба замуж даць,
Я сказала, не пайду,
Я Якуба не люблю.
У Якуба тоўсты губы,
Цалавацца трэба будзе,
Не хачу, не пайду,
Я Якуба не люблю.

Ой, хацела мяне маць
За Піліпа замуж даць,
Я сказала, не пайду,
Я Піліпа не люблю.
А Піліп такі сярдзіты.
Я баюсь, што буду біта.
Не хачу, не пайду,
Я Піліпа не люблю.

Ой, хацела мяне маць
За Рыгора замуж даць.
Я сказала, не пайду,
Я Рыгора не люблю.
А ў Рыгора нос угору,
Мне з Рыгорам будзе гора,

Не хачу, не пайду,
Я Рыгора не люблю.

Ой, хацела мяне маць
За Мікіту замуж даць.
Я сказала, не хачу,
Я Мікіту не люблю.
А Мікіта з носам ходзіць,
За ім дзеўкі роем ходзяць,
Не хачу, не пайду,
Я Мікіту не люблю.

А ў мяне ўжо на прымеце
Трактарыст любімы Пеця,
Вось яго я і люблю,
За яго замуж пайду.
Трактарыст ён першы ў полі,
На камбайне вельмі здольны.
Ой, хачу, ой, люблю.
Калі возьме, дык пайду.

# КАМАР

♩ = 120

Гра_ юць, ска_ чуць на два_ ры, ка_ амар жэ_ніц_

_ца ста_ ры, кі_ нуў жон _ ку і дзя_ цей,

му_ ху вы_ браў ма_ ла _ дзей. Кі_ нуў жон _ ку

і дзя_ цей, му _ ху вы _браў ма _ ла_дзей.

Граюць, скачуць на двары,
Камар жэніцца стары,
Кінуў жонку і дзяцей,
Муху выбраў маладзей. } 2 разы

Камарыку муха рада,
Хопіць ёй і паўаклада.
Паўаклада дасць камар,
Модных туфель дваццаць пар. } 2 разы

На гулянкі муха ходзіць,
Ад хлапцоў не адыходзіць,
А камарык пазлядае,
Усё сумуе ды ўздыхае. } 2 разы

32. Зак. 696

Наш камарык ажаніўся,
Не на жарты зажурыўся,
Не жыццё пайшло, а мука, } 2 разы
Цягне жылы злая муха.

Як прытопне ды прыкрыкне,
Наш камарык ані пікне.
Хоць жадай, хоць не жадай, } 2 разы
Маладуху паважай.

Ой, нажыў камар бяды
Ні туды і ні сюды.
Стара жонка не даруе, } 2 разы
Маладая запілуе.

# ЦІМОХ




Як правёў мяне Цімох,
Ох, ох!
Было цёмна на дварох,
Ох, ох!
«Ну, Цімошак, дык бывай»,
Ай, ай!
А ён кажа: «Пачакай,
Ай, ай!
Хоць часіначку пастой,
Ой, ой!
Пагаворым мы з табой.
Ой, ой!
Я ж казаў не для пацех,
Эх, эх!
Што люблю я не на смех!
Эх, эх!
Сэрца стукнула ў грудзях,
Ах, ах!»
Яшчэ пойдзе па людзях
Ах, ах!

«Не цалуй мяне, дальбог!»
Ох, ох!
Адчапіся ты, Цімох!
Ох, ох!

# ПЕСНІ НАШЫ, ПЕСНІ

Шырока

Пес – ні на – шы, пес – ні, як вас не лю –
– біць, з ва – мі лёг – ка ў пра – цы, з ва – мі доб – ра
жыць, бо здаў – на Ра – дзі – ма
сла – віц – ца ма – я: пес – ні ў нас спя –
– ва – юць лю – дзі і зям – ля. // – лі.

Песні нашы, песні, як вас не любіць,
З вамі лёгка ў працы, з вамі добра жыць,
Бо здаўна Радзіма славіцца мая:
Песні ў нас спяваюць людзі і зямля.

Шчырай песняй можна сэрца закрануць,
Ад напеваў родных слёзы набягуць.

А як песню-радасць запяе народ —
Віхрам закружыцца дружны карагод.

Срэбрам звоняць рэкі, ўторыць лес і гай —
Гэта нашы песні, гэта любы край.
Шмат дарог цярністых мы ў жыцці прайшлі,
З пераможнай песняй шчасце здабылі.

### Міжнародны гімн

### («Інтэрнацыянал»)

(Стар. 53)

М. Х. Мацісон. Спеўнік, стар. 70—72.

Пераклад Я. Купалы. Пераклад зроблен, відаць, вясною 1921 г. Газета «Звязда» 23 красавіка 1921 г. пісала: «Вядомы беларускі паэт Янка Купала пераклаў на беларускую мову «Интернационал». Пераклад не будзе надрукаван, пакуль перакладчык не зверыць яго з французскім арыгіналам».

Упершыню апублікаван у «Савецкай Беларусі» 20 ліпеня 1921 г. (Янка Купала. Збор твораў у шасці тамах, т. V. Мінск, 1962, стар. 409—410).

### Дзяржаўны гімн Беларускай ССР

(Стар. 56)

Сл. М. Клімковіча, муз. Н. Сакалоўскага. Напісан у 1944 г. Упершыню апублікаван у «Чырвонай змене» 4 лістапада 1954 г. Афіцыяльна ў якасці гімна Беларускай ССР прынят у 1955 г.

## ПЕСНІ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ І ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ

### У Маскве сяе ночы Ленін будзе...

(Стар. 61)

Ленін у бел. нар. тв-сці, стар. 39. Зап. у 1937 г. у к-се «Камунар» Буда-Кашалёўскага р.[1] ад Д. Леташкова.

Традыцыйны вобраз ворана як прадвесніка бяды ў песні пераасэнсаван. У адрозненне ад старога фальклору, тут воран нясе працоўным радасныя весткі аб прыездзе правадыра.

### Чырвонаармейская

(Стар. 62)

Чырвоная Армія, стар. 31. Зап. у 1935 г. у в. Казацкія Балсуны Свяцілавіцкага р. ад калгаснай моладзі, а таксама ў радзе іншых раёнаў

[1] Назвы раёнаў даюцца па адміністрацыйнаму дзяленню, існаваўшаму ў час запісу твораў.

БССР. На Беларусі бытуе і ў рускім вар.; зап. І. С. Тулупаў у 1960 г. у в. Капані Рэчыцкага р. ад А. Р. Маеўскага. АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, № 9.

Па паходжанню руская песня. Друк. у многіх зборніках («Творчество народов СССР». М., 1938, стр. 297—298, самы шырокі вар.; «Песни Красной Армии». М., 1937, стр. 204 і інш.).

Складзена на мелодыю старой салдацкай песні «Эх, в Таганроге, в Таганроге случилася беда», шырока вядомай і папулярнай у дарэвалюцыйныя гады. Аўтар новага тэксту — армейскі палітработнік А. В. Марынаў (гл. А. Шилов. Из истории первых советских песен. М., 1963, стр. 8—9). Аўтар беларускага вар. невядомы.

### Сястра брату каня асядлала

(Стар. 64)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 87. Зап. у 1937 г. у Бярэзінскім р. Савецкая лірычная песня, у якой выкарыстан традыцыйны матыў праводзін воіна ў армію. Звычайна ў старых песнях больш дзеючых асоб (тры сястры выпраўляюць брата), наказ воіну атрымлівае іншае ідэйнае гучанне. Тут не толькі жаданне вярнуцца дадому, а заклік бараніць родную краіну, запэўненне ў дапамозе.

### Із-за лесу свеціць копія мячэй

(Стар. 65)

Песні бел. нар., І, стар. 291—292. Зап. Ф. А. Рубцоў у 1938 г. у в. Зелянковічы Глускага р. ад М. Горбіс, З. Зінчук, М. Булкі, Е. Крук.

Вар. песні запісан таксама на фанограф З. В. Эвальд у 1932 г. у в. Букча Тураўскага р. ад мужчынскага хору. Песня шырока вядома ў рускім фальклоры (гл. Русский советский фольклор. Антология. Л., 1967). Беларускі вар. аб будзёнаўцах значна адрозніваецца ад рускай першаасновы і дапасаван да мясцовых умоў: у ім упамінаюцца канкрэтныя ворагі, гарады, напрыклад Варшава і інш. Гэта творчая перапрацоўка старой салдацкай песні перыяду імперыялістычнай вайны 1914—1917 гг., якая ў сваю чаргу створана на аснове «Салдацкай песні» А. Бястужава-Марлінскага. У працэсе бытавання ў беларускім вар. першы радок змяніўся (у рускім: «Из-за лесу, лесу копий и мечей»).

Адвольная ў некаторай ступені для маршавай песні рытміка напеву — відавочна, вынік пазафункцыянальнай інтэрпрэтацыі песні, выкарыстання традыцыйна імправізацыйных сродкаў мелодыкі.

### Гэй, байцы, вайна настала

(Стар. 67)

Песні бел. нар., І, стар. 288. Зап. на фанограф З. В. Эвальд, тэкст зап. М. Сулер у 1932 г. у в. Тонеж Тураўскага р. ад В. Венгура, М. Карася, П. Венгура (З мат. комплекснай экспедыцыі АН СССР і АН БССР 1932 г. Фанаграма — архіў АН СССР, інв. № 3569).

Папулярная ў перыяд грамадзянскай вайны і ў пазнейшыя часы чырвонаармейская песня. Перапрацоўка старой салдацкай песні. Вядомы больш поўны вар., прысвечаны, як вынікае з тэксту, руска-японскай вайне. Першыя тры страфы захоўваюцца амаль без змен. Далей ідзе апісанне адпраўкі салдат на японскі фронт (гл. АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23).

Напеў у характары страявой маршавай песні, падкрэслены размераным рытмам. Шырокі дыяпазон мелодыкі, вялікія скачкі надаюць ёй рашучасць і некаторую малайцаватасць. Моманты ўнутрыскладовага распеву ў харавым прыпеве — тыповы прыём «удалых» песень мужчынскага рэпертуару.

### Па сібірскім тайгам і далінам

(Стар. 69)

Песні бел. нар., І, стар. 289. Зап. М. Грынблат у 1935 г. ад дзяўчат на параходзе на рацэ Сож. Той жа тэкст ў 1936 г. зап. у к-се «Чырвоны маяк» Лёзненскага р. (АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23).

Больш поўны вар. зап. М. Грынблат у 1938 г. у в. Раманішча ад М. Заблоцкай, П. Дземенкавец, А. Дашкоўскай. У ім 5 строф супадаюць з ранейшымі запісамі, далей сюжэт развіваецца:

А буржуі усе да едзіна
Па Сібіры пайшлі вандраваць.
А на етых буржуйскіх палетках
СССР стаў калгас будаваць.

1 А кулацкая тоўстая морда
2 А кулацкая рожа такая
Із падвала не будзе ўлязаць.

Апошнія дзве страфы, відаць, больш позняга паходжання, узніклі ў гады калектывізацыі. У час Вялікай Айчыннай вайны песня бытавала ў новай перапрацоўцы, прыстасаванай да канкрэтных падзей (гл. АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16).

Напеў у беларускім вар. не мае разыходжанняў з першаасновай — аднайменнай рускай партызанскай песняй.

### Пра Будзённага

(Стар. 71)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 85. Зап. у 1937 г. у к-се «Ударнік-пяцігодкі» Уваравіцкага р. Друк. без апошняй страфы.

### Сямён Будзённы

(Стар. 72)

Чырвоная Армія, стар. 20—23. Зап. у 1935 г. ад былога чырвонаармейца. Склалі і спявалі байцы Чырвонай Арміі. Той жа тэкст з невялікімі зменамі — Вуснапаэт. тв-сць, стар. 229—230.

Песня эпічнага складу з разгорнутым сюжэтам. У ёй шырока выкарыстоўваюцца мастацкія прыёмы эпічнай паэзіі — паслядоўнасць разгортвання дзеяння, тыповы зачын, вобразная сістэма.

## Із-за лесу сонца ўсходзіць

(Стар. 75)

Песні бел. нар., I, стар. 284. Зап. на фанограф М. Грынблат у 1938 г. у в. Стасеўка Бабруйскага р. ад В. Прановіч, Д. Драк, А. Драк, Х. Ліцкевіч.

Перапрацоўка старой салдацкай песні. Вельмі папулярнай была ў гады грамадзянскай вайны і пазней. На Беларусі бытавала ў розных вар. (гл. Песні бел. нар., I, стар. 285—286; АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23).

У напеве найбольш ярка прадстаўлены характэрныя рысы салдацкай масавай песні: інтанацыйная і рытмічная дынамічнасць, лінеарнае двухгалоссе, адрывістае заканчэнне меладычных фраз.

## Пра Шчорса

(Стар. 76)

Научно-методические записки Белорусской государственной консерватории, стр. 73.

Зап. Л. С. Мухарынская ў 1951 г. ад удзельнікаў Азершчынскага хору пад кіраўніцтвам Т. К. Лапацінай. Збіральнік зазначае: «Магчыма, крыніцай напеву з'яўляецца мелодыя якой-небудзь гераічнай і жалобнай украінскай думы... Але напеў развіты і распрацаваны самастойна ў харавой манеры, якая напамінае тыповы склад беларускіх харавых балад».

## Уперадзі наш камандзір Чапаеў

(Стар. 78)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23. Зап. І. Сербаў (мел.— М. Чуркін) у 1936 г. у в. Драгча Буглацкая Чэрвеньскага р.

Беларускі вар. вядомай рускай песні, якая ў сваю чаргу паходзіць ад старой салдацкай. Бытуе на Беларусі і ў рускім вар.— АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, № 4. Зап. І. Хаўратовіч у 1951 г. у в. Каменны Барок Бярэзінскага р. ад Г. Грыгуц.

## На прасторы Каспі-мора

(Стар. 79)

Песні бел. нар., I, стар. 293—294. Зап. на фанограф М. Грынблат у 1938 г. у в. Осава Бабруйскага р. ад А. Мароз, В. Казакевіч, Антаніны Мароз. Па паходжанню руская песня. Упамінаемыя ў ёй Каспійскае мора і форт Аляксандраў дазваляюць меркаваць, што тут апяваецца адзін з гераічных эпізодаў барацьбы савецкіх маракоў супраць белых у гады гра-

мадзянскай вайны. Форт Аляксандраў на Каспійскім моры адыграў важную ролю ў разгроме эскадры белых.

Напеў у сваёй аснове мае ясную трохдольную метрычную структуру. Адхіленні ад гэтай структуры (5/8, 7/8) — вынік традыцыйнай манеры выканання, пры якой нават чотка «квадратныя» метрычныя пабудовы нярэдка набываюць рысы метрычнага rubato.

### Цёмнай ночкай партызанаў на расстрэл вялі

(Стар. 81)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23. Зап. у 1937 г. у в. Харавічы Пухавіцкага р.

Песня літаратурнага паходжання аб дукорскіх партызанах (сл. П. Броўкі, муз. І. Любана). Песня пашырана ў Пухавіцкім р., на радзіме дукорскіх партызан.

### На кургане

(Стар. 82)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 88—89. Зап. у 1938 г. у к-се «Пралетарый» Аршанскага р.

Песня, відаць, літаратурнага паходжання. Даецца ў скарачэнні.

### Ой ты, рэчанька глыбока

(Стар. 83)

Бел. нар. і рэв. песні, стар. 119. Зап. і апрацоўка І. Любана. Той жа тэкст: Песні бел. нар., выбр., стар. 333; АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 3. Складзена на аснове старой лірычнай песні, першыя радкі амаль супадаюць (гл. Е. Романов. Белорусский сборник, вып. 1, т. 1. Киев, 1885, стр. 106—107).

Напеў даецца па зб. Песні бел. нар., выбр., стар. 333.

У мелодыі ясна адчуваецца характэрная для беларускіх веснавых напеваў трыхордавая ладавая ячэйка, што надае песні празрысты, некалькі меланхалічны характар.

### Чырвонаармейская

(Стар. 84)

Песні бел. нар., І, стар. 297—298. Зап. М. Грынблат у 1938 г. у в. Осава Бабруйскага р. ад А. Мароз, В. Казакевіч, Антаніны Мароз.

Руская па паходжанню песня, неаднаразова друкавалася ў розных зб. (гл. Русский советский фольклор. Антология. Л., 1967).

Мелодыя спалучае рысы рабочай рэвалюцыйнай песні (асабліва характэрнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца падкрэслена харэічныя канчаткі паўстроф) і традыцыі народнай сялянскай песні. Апошнія ярчэй за ўсё выяўляюцца ў метрыцы, а таксама ў ладавым складзе (натуральны мінор, строгі дыятанізм).

### На пасту стаяў таварыш

(Стар. 86)

Песні бел. нар., I, стар. 299—300. Зап. на фанограф М. Грынблат у 1938 г. у в. Раманішча Парыцкага р. ад П. Дзем'янкевіч, А. Дашкоўскай, М. Заблоцкай.

Перапрацоўка салдацкай песні. У некаторых р. песня звязваецца з імем В. В. Вароўскага («На пасту стаяў Вароўскі»).

Напеў з'яўляецца вольнай перапрацоўкай аднайменнай рускай песні. Найбольш захавалася метрарытмічная канва.

### Нам прыслала Масква падкрапленіе

(Стар. 88)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 67. Зап. К. Кабашнікаў у в. Прыдзіркі Слуцкага р. ад Р. Я. Каўчура.

Асновай песні з'яўляецца верш Д. Беднага. Верш стаў папулярнай чырвонаармейскай песняй у час вайны з белапалякамі ў 1919—1920 гг. Другое нараджэнне песні прыпадае на 1939 год, калі яна падверглася народнай перапрацоўцы ў сувязі з вызваленнем Заходняй Беларусі. Вядомы перапрацоўкі песні, звязаныя з барацьбой супраць фашысцкіх захопнікаў у час Вялікай Айчыннай вайны. Вар. зап.: Г. Цітовіч у 1944 г. ад удзельнікаў народнага хору в. Вялікае Падлессе Ляхавіцкага р. (Песни счастья, стр. 17); М. Гваздзёў у 1960 г. у в. Азершчына Рэчыцкага р. (АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16).

## ПЕСНІ ПЕРЫЯДУ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

### Ўзышоў свецел месячык

(Стар. 91)

Песни счастья, стр. 9. Зап. Г. Цітовіч у 1946 г. у в. Юравічы Калінкавіцкага р. Гомельскай вобл. Упершыню зап. І. Сербаў у 1937 г. у саўгасе Вейна Магілёўскага р.

Папулярная ў Беларусі песня. Неаднаразова друк. у зб.: Бел. нар. і рэв. песні, стар. 121; Песні бел. нар., I, стар. 273; Вуснапаэт. тв-сць, стар. 227.

Харавая песня, у якой верхні падгалосак («надгалосак») ужо ў значнай ступені бярэ на сябе ролю асноўнага голасу (тэматычнага). Звычайная для такога тыпу шматгалосся суцэльная тэрцовая ўтора змяняецца тут больш разнастайным кантрапунктам. Агульны склад — гамафонна-гарманічны з тыповай для мноства сучасных песень танальна-гарманічнай схемай (ТДДТ—SТДТ).

### Як крыніца цячэ

(Стар. 93)

Песні бел. нар., выбр., стар. 339. Зап. у 1937 г. у в. Старое Сяло Рагачоўскага р. Папулярная ў Беларусі песня. Друк. у розных зб.:

Дарэв. і сав. Бел., стар. 111; Бел. нар. і рэв. песні, стар. 114; Вуснапаэт. тв-сць, стар. 227—228.

Мелодыя песні пабудавана на характэрных інтанацыях беларускіх прыпевак. Пераасэнсаваныя ў тэмпе Moderato гэтыя інтанацыі нікольки не супярэчаць агульнаму эмацыянальнаму строю песні — спакойна-велічнаму.

### Край родны

(Стар. 94)

Напеў па зб. Песні бел. нар., I, стар. 301. Сучасны бел. ф., стар. 132—133. Упершыню тэкст запісан у 1937 г. у Хойніцкім р.

У 1938 г. зап. на фанограф Ф. А. Рубцоў у в. Чорныя Брады Парыцкага р. ад А. Кейзаравай, Яўг. Булка і С. Булка. Песні бел. нар., I, стар. 301.

У пасляваенны час друк. у розных вар.: Сучасныя нар. песні і част., стар. 7; Вуснапаэт. тв-сць, стар. 311; Сучасны бел. ф., стар. 132—133.

Напеў з'яўляецца вольнай перапрацоўкай старой салдацкай песні. Стыль народнага шматгалосся выяўляецца ў тэматычных суадносінах галасоў: вядучы голас тут ніжні.

### Ленінскі сцяг у моцных руках

(Стар. 96)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 98. Зап. у 1937 г. у Хойніцкім р. Склаў калгаснік Д. Мятліцкі. Песня даецца ў скарачэнні.

### Свеціць ясна сонца ў небе

(Стар. 97)

Ленін у бел. нар. тв-сці, стар. 57. Зап. у 1937 г. у к-се «Ленінскі шлях» Капаткевіцкага р.

### Аб жыцці і шчасці нашага народа

(Стар. 99)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 180. Зап. у 1938 г. у Аршанскім р. Песня даецца ў скарачэнні.

### Люд наш беларускі

(Стар. 100)

Песни счастья, стар. 20. Зап. Г. Цітовіч у 1948 г. у в. Апечкі Стаўбцоўскага р. Тэкст песні склаў І. І. Гацура пасля вызвалення былой Заходняй Беларусі, муз. народная.

Мелодыя ў характары лірычнай працяжнай песні з тыповым 2—3-галосым складам. Вядучы голас верхні. Аднак генетычнай асновай тут з'яўляецца мелодыя ніжняга голасу, у якой ярка прадстаўлен тэматызм песень купальскіх.

**А раней жа мы жылі**

(Стар. 102)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 201. Зап. у 1937 г. у Шклоўскім р.

**Як на нашым на Палессі**

(Стар. 103)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 181. Зап. у 1937 г. у к-се «Шлях Ільіча» Старобінскага р. Песня даецца ў скарачэнні.

**Мы заможна зажылі ўсе**

(Стар. 104)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 199—200. Зап. у 1937 г. ва Ушацкім р. У песні выкарыстан прыём супрацьпастаўлення мінулага і сучаснага, што дапамагае падкрэсліць шчасце новага жыцця. Песня даецца ў скарачэнні.

**А у полі, полі, пры зялёным гаі**

(Стар. 105)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 302. Зап. Р. С. Пікулік у 1936 г. у г. Віцебску ад М. Тарасёнак. Песня наследуе традыцыі народнай лірыкі: лірычны зачын з малюнкамі прыроды, разгорнуты сюжэт з падрабязным апісаннем жыцця і г. д. Шырока выкарыстан прыём супрацьпастаўлення.

**Песні звонкія пяём**

(Стар. 106)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 210. Зап. у 1938 г. у к-се «Чырвоны партызан» Капыльскага р. Песня частушачнага характару.

**Не вецер бярозку гайдае**

(Стар. 107)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 72. Зап. Г. Барташэвіч у 1961 г. у в. Дуянаўка Гомельскага р. ад Т. Н. Маслюковай. Па сведчанню выканаўцы выконвалася хорам на аглядах у даваенны перыяд.

У песні, асабліва ў яе метрыцы, адчуваецца ўплыў верша Някрасава. Некаторыя радкі амаль поўнасцю супадаюць з някрасаўскімі з паэмы «Мароз — Чырвоны нос».

## Ой, спявайце

(Стар. 108)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 209. Зап. у 1937 г. у саўгасе Адамейкі Лёзненскага р. Песня частушачнага характару.

## Ніва калектыўная

(Стар. 109)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 205—206. Зап. у 1936 г. у Лепельскім р. Песня даецца ў скарачэнні.

## Адцвілі пралескі

(Стар. 110)

Песні бел. нар., выбр., стар. 382. Упершыню зап. у 1937 г. у к-се «Чырвоныя Дольцы» Ушацкага р.— Дарэв. і сав. Бел., стар. 127—128. Напеў склаў П. Касач у 1950 г.

Міксалідзійскі лад у гэтай песні арганічна спалучае тры танальныя ўзроўні: фа мажор, сі-бемоль мажор і соль мінор, што стварае характэрную для беларускай народнай мелодыкі пластычную ладавую пераменнасць.

## Бывайце здаровы

(Стар. 112)

Песні бел. нар., выбр., стар. 355— 356. Сл. А. Русака, муз. І. Любана. Складзена на аснове традыцыйнай песні. Вельмі папулярная ў Беларусі і за яе межамі застольная калгасная песня. Бытуе ў арыгінале і ў варыянтах. Часта выконваецца як развітальная ў канцы вяселля або бяседы. Змешчана ў шматлікіх зб. У перакладзе на рускую мову друк. у «Творчество народов СССР», стр. 510—512. Вядомы перапрацоўкі песні часоў Вялікай Айчыннай вайны (гл. Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 214—215).

Напеў, які належыць кампазітару І. Любану, мае шмат агульнага ў інтанацыйнай структуры з беларускай народнай песняй «Вярба», хаця тэматычная яго самастойнасць бясспрэчная. Прыклад ступеньчатага тыпу развіцця мелодыкі.

## Вечарынка

(Стар. 114)

Песня на сл. Я. Купалы, муз. С. Палонскага.

Упершыню апублікавана ў газ. «Звязда» 23 ліпеня 1935 г. Вар. зап. Г. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляўкі Аршанскага р. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1. № 99.

## Вішанька

(Стар. 116)

Песни счастья, стр. 21. Зап. Г. Цітовіч у 1949 г. у в. Палуж Краснапольскага р. Магілёўскай вобл. Упершыню песня зап. у 1937 г. у Буда-Кашалёўскім р. ад П. Кірыенкавай.— Дарэв. і сав. Бел., стар. 212.

Песня пабудавана ў форме дыялога. Шырока выкарыстан характэрны для народнай лірыкі паралелізм (спачатку зварот да вішанькі, потым размова з дзяўчынай).

Мелодыя песні ярка святочнага характару ў стылі вясельных віншавальных песень. У аснове яе распаўсюджаная ў сучаснай народнай і прафесіянальнай («у народным стылі») песнях рытмічная канва, вытокі якой можна заўважыць у старой лірычнай гарадской песні (напрыклад, «Помню, я еще молодушкой была»).

## Ці багат ты, зяцюхна

(Стар. 118)

Песни счастья, стр. 26. Зап. Г. Цітовіч у 1946 г. у в. Цімкавічы Капыльскага р. Мінскай вобл. Мае і іншыя тэкставыя вар. Зап. у 1938 г. у Буда-Кашалёўскім р. ад М. Аляксейкавай.— Дарэв. і сав. Бел., стар. 226—227. Вар. зап. М. Грынблат у 1938 г. у в. Пратасы Парыцкага р. ад М. Булава, Я. Голуб і інш. Песні бел. нар., I, стар. 334.

Сучасная падтэкстоўка традыцыйнай вясельнай так званай «сіроцкай песні». Пабудавана ў форме дыялога.

Для ўсіх меладычных варыянтаў гэтай песні, традыцыйных і сучасных, характэрна мадуляцыя ў даміназту, даволі незвычайная для беларускай песеннай мелодыкі. У адрозненне ад песень традыцыйнай тэматыкі, у якіх пануе адно ладавае накланенне — мінор, у гэтай песні, у залежнасці ад развіцця дыялога, мінор змяняецца паралельным мажорам (2, 4, 5 строфы).

## Веснавая

(Стар. 120)

Песни счастья, стр. 23. Словы і напеў П. Шыдлоўскага, напісана ў 1937 г. Зап. Г. Цітовіч у 1949 г. у в. Прысынак Уздзенскага р. Мінскай вобл.

Цікава выкарыстан у песні прыём паралелізму: ён уласцівы кожнаму куплету.

Нягледзячы на асноўны трохдольны метр, у мелодыі яўна адчуваецца маршавасць. Гэтаму садзейнічае пункцірны рытм, які перыядычна паўтараецца з затакта, а таксама паяўленне ў кульмінацыйныя моманты ўласна маршавага метра (4/4).

## Ды не выйшла цёмная туча

(Стар. 123)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 80. Зап. К. Кузняцова ў 1963 г. у в. Бабічы Глыбоцкага р. Віцебскай вобл. ад А. Пратас.

Старая жніўная песня, прыстасаваная да новых умоў. Як адзначыла выканаўца, песню пелі, віншуючы старшыню калгаса з заканчэннем жніва. Упершыню новы вар. спяваўся ў 30-х гадах.

### Да каціўся вянок з поля

(Стар. 124)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 55. Зап. Л. Ткачова ў 1960 г. у в. Агароднікі Капыльскага р. Мінскай вобл. ад С. Р. Сідорынай.

Перапрацоўка традыцыйнай песні, вядома з даваенных часоў.

### Чыё гэта поле зазвінела скора

(Стар. 125)

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, № 27. Зап. Н. Мікуліч у 1952 г. у в. Міхайлава Барысаўскага р. Мінскай вобл. ад М. І. Карповіч.

Перапрацоўка традыцыйнай жніўнай песні.

### Мы свайго старшыню ўцешым

(Стар. 126)

Песні бел. нар., І, стар. 329. Зап. на фанограф М. Грынблат у 1938 г. у в. Стасеўка Бабруйскага р. ад Д. Драк, В. Прановіч, А. Гарадзецкай, А. Драк.

Дажынкавая песня, прыстасаваная да новых, калгасных ўмоў.

Напеў з'яўляецца арыгінальнай інтэрпрэтацыяй харавога прыпеву вядомай рускай народнай песні «Дубінушка». Прынцыповае адрозненне гэтай песні ад «Дубінушкі» — метрычная неквадратнасць, якая між іншым не знімае наяўнасць меладычных элементаў, звязаных з адлюстраваннем працоўных намаганняў.

### Да ўжо вечар вечарэе

(Стар. 128)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 39. Зап. І. Цішчанка ў 1956 г. у в. Дзяляцічы Любчанскага р. ад М. І. Клімовіч, 73 г.

Перапрацоўка традыцыйнай жніўнай песні, вядома з даваеннага часу.

### Да зялён хмелю, зялён

(Стар. 129)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 9. Зап. Г. Цітовіч у 1946 г. у в. Казловічы Слуцкага р. ад А. О. Сінягуб. Вар. зап. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р. Мінскай вобл. ад Я. І. Шалухі. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 65.

Перапрацоўка традыцыйнай жніўнай песні. Новы вар. вядомы з 30-х гадоў.

У напеве захоўваюцца тыповыя для традыцыйнай жніўнай песні тэрцовы лад з «субквартай», глісандзіраваныя канчаткі фраз, свабодная імправізацыйна-метрычная структура.

### А над ракою

(Стар. 130)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23. Зап. у 1937 г. у к-се «Дабраволец» Ветрынскага р. ад Н. Сямашка. Той жа тэкст Вуснапаэт. тв-сць, стар. 245.

Свабодная інтэрпрэтацыя традыцыйнай валачобнай песні, што адчуваецца ў строфіцы, метрыцы, а таксама ў некаторых стылістычных асаблівасцях.

### Расцвіла калгасная зямля

(Стар. 131)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 365. Зап. А. Валянцоў у 1937 г. у к-се «Ленінскі прызыў» Аршанскага р. ад Г. Валянцовай.

### Як сабраў брыгадзір жнеек

(Стар. 132)

Вуснапаэт. тв-сць, стар. 244. Зап. у 1936 г. у Ветрынскім р. Перапрацоўка матываў традыцыйных жніўных песень.

### За гарою, ля крыніцы

(Стар. 133)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 369. Зап. у 1935 г. у Любанскім р. Мінскай вобл. Вельмі папулярная ў Беларусі песня, звычайна выконваюцца тры першыя куплеты.

### А у полі, полі мы спяваем

(Стар. 134)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 214—216. Зап. у 1936 г. у к-се «Чырвоны калектывіст» Бялыніцкага р.

Сучасная жніўная песня.

### Дзень стаіць пагодны

(Стар. 136)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 368. Зап. А. Курыленка ў 1937 г. у в. Варанец Хойніцкага р. ад К. Даніленкі.

### Песня трактарыста

(Стар. 137)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 207—208. Зап. у 1937 г. у к-се імя Карла Маркса Лепельскага р.

Песня частушачнага характару.

### Як стаханаўкай я стала

(Стар. 138)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 381—382. Зап. В. Т. Акулаў у 1937 г. у м. Копысь Аршанскага р.

Песня даецца ў скарачэнні.

### Весялей іграй, гармонь

(Стар. 139)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 23. Зап. у 1935 г. у Плешчаніцкім р. Мінскай вобл. Песня частушачнага характару.

### На калгасны загон мы пасеялі лён

(Стар. 140)

Песні бел. нар., выбр., стар. 345. Зап. М. Сакалоў у 1955 г. у в. Азершчына Рэчыцкага р., дзе яна выконвалася з танцам. Песня вядома з даваенных часоў.

Мелодыя яркага танцавальнага характару (полька). Вытокі яе ў песнях ігравых, тэатралізаваных.

### Эх ты, лён наш, лён кудравы

(Стар. 142)

Песні бел. нар., I, стар. 330—331. Зап. на фанограф М. Грынблат у 1937 г. у м. Юравічы Мазырскага р. ад калгаснага хору. Вельмі папулярная ў Беларусі песня. У 1938 г. у в. Осава Бабруйскага р. ад В. Ніцкай, О. Казакевіч, О. Ніцкай М. Грынблат запісаў іншы варыянт слоў (там жа, стар. 332—333):

Ты расці, расці на славу,
Лён прыгожы, даўгунец.
Дачакаліся цябе мы, } 2 разы
Сінявокі маладзец.

Мы ўсе доўга гнулі спіны,
Доўга жылі ў маяце,
Падружылася з машынай } 2 разы
Ўся жаночая арцель.

А цяпер ўжо ў нас машыны,
Не прасценькі ўжо станок,
Калісь бабкі пры лучыне } 2 разы
Пралі худ-худы лянок.

У напеве спалучаюцца элементы мелодыкі старадаўняй жніўнай песні (тыповы зачын яе ў першых двух тактах) з распевам сучаснай песні лірычнай (пяты і шосты такты). Двухгалоссе тыпу тэрцовай «уторы».

**Эй, рэж, каса, рэж!**

(Стар. 144)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 213. Упершыню зап. у 1935 г. у Лёзненскім р. У 1961 г. зап. у Рэчыцкім р.— АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 60.

**З глыбокае крынічанькі**

(Стар. 145)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 129. Зап. у 1937 г. у Буда-Кашалёўскім р.

Песня даецца ў скарачэнні.

**Наша жанчына**

(Стар. 147)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 262. Зап. у 1937 г. у к-се «Піянер» Капыльскага р.

Песня з'яўляецца непасрэдным водгукам на прыняцце Канстытуцыі СССР. Як і іншыя творы (напрыклад, вершаваная прамова «Поясам сталёвым наш Саюз акружан» — Дарэв. і сав. Бел., стар. 145—147; «Размова жанчыны з мужчынам» і інш.— Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 446), песня прысвечана адлюстраванню лёсу савецкай жанчыны, свабоднага і раўнапраўнага члена грамадства.

**Голас наш цяпер не за печкаю**

(Стар. 148)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 259—261. Зап. І. Сербаў у 1937 г. у м. Бялынічы Магілёўскай вобл.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны песня была зноў запісана і апрацавана кампазітарам В. Яфімавым (гл. Научно-методические записки Белорусской государственной консерватории. Минск, 1958, стр. 95).

Структура і вобразны строй тэксту мае шмат агульнага з традыцыямі эпічнай творчасці. Напеў жа з яго шырокімі інтэрвальнымі ходамі, абыгрываннем сексты ладу, агульнай інтанацыйнай экспрэсіяй — хутчэй адлюстраванне лірычных традыцый у песнятворчасці.

### Я старэнькая

(Стар. 150)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 60. Зап. М. Гваздзёў у 1961 г. у в. Салтаноў Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. ад З. Ракусевіч. Першапачатковы зап. быў зроблен у 1937 г. у Буда-Кашалёўскім р. ад Д. Леташкова — Дарэв. і сав. Бел., стар. 230—231.

### Край любімы наш квітнее

(Стар. 151)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 155. Зап. у 1938 г. у Слуцкім р. Мінскай вобл. Песня частушачнага характару, прысвечана Канстытуцыі СССР.

### Я дзяўчына маладая

(Стар. 152)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 483. Зап. А. Пабедзінскі ў в. Караськова Пастаўскага р. Гл. таксама газ. «Вілейская праўда» ад 21 снежня 1939 г. Песня ў стылі маладзёжных частушак.

### Вечарком за рэчкаю

(Стар. 153)

Песни счастья, стр. 31. Зап. у 1947 г. у в. Юравічы Калінкавіцкага р. Упершыню зап. М. Чуркіным у 1936 г. і апрацавана ім. Папулярная ў Беларусі песня. Друк. у многіх зб.: Бел. нар. і рэв. песні, стар. 120; Песні бел. нар., выбр., стар. 338; Песні і танцы, № 99; Спеўнік, стар. 76—77.

Напеў песні — узор сучаснай лірыкі. Пластычная ладавая пераменнасць, двухгалоссе пераважна тыпу «уторы», цесная ўзаемасувязь ладавай і гарманічнай функцыянальнасці садзейнічаюць «мяккасці» эмацыянальнага каларыту песні.

### Сонца яснае нам свеціць

(Стар. 155)

Песні бел. нар., выбр., стар. 336. Зап. Н. Сакалоўскі ў 1937 г. у Рагачоўскім р. Больш шырокі вар.— Песні бел. нар., I, стар. 304—305. Друк. таксама ў Дарэв. і сав. Бел., стар. 158; Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 472.

Напеў з тыповым для беларускіх карагодных гульняў чаргаваннем частак: павольна — хутка.

### Дзеўкі нашай вёскі

(Стар. 157)

Песні бел. нар., I, стар. 306—307. Упершыню тэкст запісан у 1937 г. у Бярэзінскім р.; у 1938 г. зап. М. Грынблат у в. Стасеўка Бабруйскага р. ад В. Пранові і А. Гарадзецкай.

Папулярная ў Беларусі песня. Друкавалася ў многіх зб.: Дарэв. і сав. Бел., стар. 169; Чырвоная Армія, стар. 29; Песні бел. нар., выбр., стар. 340—341.

Пачатак напеву песні імітуе характэрны зачын жніўных мелодый. У далейшым меладычным развіцці вырысоўваецца ўласцівая беларускай народнай музыцы квартавая пераменнасць.

### Ой, сокал, мой сокал

(Стар. 159)

Песні бел. нар., I, стар. 310. Упершыню песня запісана ў 1936 г. у Суражскім р. У тым жа годзе зап. Н. Сакалоўскі ў Слуцкім р. Песня бытуе ў розных вар. з невялікімі зменамі і перастаноўкай пачатковых строф. Друкавалася ў многіх зб.: Дарэв. і сав. Бел., стар. 186; Бел. нар. і рэв. песні, стар. 113; Чырвоная Армія, стар. 32; Песні бел. нар., выбр., стар. 335.

Напеў, сам па сабе дастаткова выразны, не зусім адпавядае характару тэкста. Адчуваецца ўплыў старой лірычнай песні з яе некалькі сумным каларытам.

### На мяжы савецкай стаіць вартавы

(Стар. 160)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 185. Зап. у 1937 г. у к-се «Піянер» Капыльскага р. Песня блізкая да масавых савецкіх песень.

### Пагранічнік Лагода

(Стар. 161)

Чырвоная Армія, стар. 37. Склаў у 1937 г. рабочы Р. Іодка з Бярэзінскага р. Муз. С. Палонскага.

### Да абароны кожны з нас гатоў

(Стар. 162)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 170. Зап. у 1937 г. у Аршанскім р.

### Навучыў нас Варашылаў

(Стар. 163)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 164. Зап. у 1937 г. у Клічаўскім р.

### Песня пра Варашылава

(Стар. 164)

Чырвоная Армія, стар. 15. Зап. у 1936 г. у к-се імя Леніна Крычаўскага р. Сл. Ю. Кустарэя.

Песня-ўспамін аб падзеях грамадзянскай вайны.

### Калыханка

(Стар. 165)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 171. Зап. у 1937 г. у в. Раскачы Бабруйскага р.

У адрозненне ад традыцыйных калыханак, тыповыя прыёмы жанру тут не вытрыманы. Песня блізкая па паэтычнай форме да літаратурных твораў.

### Ой, ў лузе, ў лузе

(Стар. 166)

Песні бел. нар., I, стар. 311. Упершыню зап. у 1937 г. у к-се «Пралетарый» Аршанскага р. У 1938 г. зап. на фанограф М. Грынблат у в. Чэрнін Парыцкага р. ад А. Дземенкавец, М. Мельнікавай, М. Шчэрбіч. Вядомы вар.: Чырвоная Армія, стар. 35; Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 474.

Напеў песні — даволі адвольны вар. вядомай беларускай традыцыйнай лірычнай песні «Ой, там пры дарозе каліна стаяла». Адрозненне паміж імі ў першую чаргу ў меладычнай лініі; рытм амаль не змяніўся.

### Аб вольным народзе мне мілы раскажа

(Стар. 168)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 487—489. Зап. у 1935 г. на Гродзеншчыне. Відаць, песня літаратурнага паходжання, якая адлюстравала чаканні і мары беларусаў заходніх абласцей аб узʼяднанні ў адзінай дзяржаве.

### Верасень месяц, семнаццаты дзень

(Стар. 170)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 491—492. Склала Ніна Крамко з в. Жукавы Барок Стаўбцоўскага р. Твор напісан як успамін аб нядаўнім мінулым і прысвечан вызваленню былой Заходняй Беларусі.

### Спявайце, старыя, спявайце, малыя!

(Стар. 171)

Жанч. у бел. нар. тв-сці, стар. 490. Упершыню друк. у газ. «Усход сонца» 20 верасня 1939 г. Даецца ў скарачэнні.

## Вясёлая старонка

(Стар. 172)

Песні бел. нар., выбр., стар. 359. Зап. Г. Цітовіч у 1940 г. у г. Вілейцы на аглядзе мастацкай самадзейнасці.

У напеве канцэнтруюцца ўсе характэрныя для беларускай народнай музыкі тыпы ладавай пераменнасці для асноўнай мажорнай танальнасці (I—II(IV)—VI—V—I).

## Падзяка

(Стар. 173)

Песні бел. нар., выбр., стар. 363—364. Зап. Г. Цітовіч у 1964 г. у в. Ганцавічы Брэсцкай вобл. Скарочаны вар. песні «Верасень месяц».

Рытмічным правобразам песні паслужыла хутчэй за ўсё песня маршападобнага характару (такая рытміка тыповая для многіх рэвалюцыйных песень). Незвычайным для нацыянальнага меласу з'яўляецца рашучае супастаўленне паралельных танальнасцей і інтэрвал малой сепцімы ў якасці карcаса дамінантсептакорду. Кадэнцыі, наадварот, з'яўляюцца яркім узорам нацыянальнай традыцыі ў харавой музыцы.

## Успаміны

(Стар. 174)

Песни счастья, стр. 19. Зап. Г. Цітовіч у 1949 г. у в. Заполле Карэліцкага р. Пачата П. Шаўко ў даваенны час, а закончана да 10-й гадавіны ўз'яднання Беларусі. Песня даецца без апошняй страфы.

Двухгалоссе тыпу «ўторы» ў тэрцыю з разыходжаннем ў кадэнцыях галасоў у актаву — прыклад прасцейшага распеву аднагалоснай мелодыітэмы. Яна тут у ніжнім голасе.

## Зоркі светлыя гараць

(Стар. 175)

Песні бел. нар., выбр., стар. 361—362. Зап. Г. Цітовіч у 1940 г. у в. Вялікае Падлессе Ляхавіцкага р. Брэсцкай вобл. Сл. С. Новіка-Пеюна, напеў удзельнікаў Падлескага хору. Песня аб вызваленні былой Заходняй Беларусі.

Частая ладавая пераменнасць у гэтым напеве (гл. таксама «Вясёлая старонка») — адзін з сродкаў узбагачэння традыцыйнай мелодыкі.

## Лявоніха

(Стар. 177)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 67. Зап. Г. Барташэвіч у в. Рабунь Вілейскага р. Мінскай вобл. ад Г. Д. Храмец. Перапрацоўка вядомай народнай

песні. Новы вар. прысвечан вызваленню былой Заходняй Беларусі. Друк. у больш шырокім вар.: Шырма. Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі. Мінск, 1947, стар. 184.

Спяваецца на матыў традыцыйнага танца «Лявоніха».

### У бога верыць перасталі

(Стар. 178)

Бел. нар. супраць папоў, стар. 130. Зап. у 1935 г. у в. Раскачы Бабруйскага р.

*Шатан* (скаж. шайтан) — сатана.

### Мы забыліся на бога

(Стар. 179)

Песні бел. нар., выбр., стар. 350. Зап. на фанограф М. Грынблат у 1938 г. у в. Чэрнін Парыцкага р. Гомельскай вобл.

Напеў у стылі салдацкай страявой песні. Верагодна ў даным выпадку падтэкстоўка.

### Спадзяваўся дзед на бога

(Стар. 181)

Бел. нар. супраць папоў, стар. 125. Зап. у 1936 г. у Бельскім сельсавеце Полацкага р.

### У калгасе густа рунь зазелянела

(Стар. 182)

Дарэв. і сав. Бел., стар. 267. Зап. у 1935 г. у к-се «Новае жыццё» Крычаўскага р. Той жа тэкст: Бел. нар. супраць папоў, стар. 126. Песня, відаць, літаратурнага паходжання.

### Не маліся богу

(Стар. 183)

Песні бел. нар., I, стар. 345—348. Зап. у 1936 г. у Халопеніцкім р. Муз. М. Аладава.

### Мінулася папам свята

(Стар. 184)

Бел. нар. супраць папоў, стар. 129. Зап. у 1937 г. у к-се «Зорка» Клічаўскага р.

## ПЕСНІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ[1]

### То не хмара навісла над краем

(Стар. 187)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 61—62. Літаратурны тэкст партызанскай песні, які быў апублікаван пад ініцыяламі М. К. у рукап. часоп. «Партызан», орг. п/а «Полымя», 18 сакавіка 1943. № 4. МВАВ, інв. № 13210. Вусны вар. зап. у г. п. Чашнікі Віцебскай вобл.

### Партызаны, партызанкі

(Стар. 188)

Зап. Л. Мухарынская ў 1950 г. у в. Сялец Брагінскага р. ад школьнікаў. Пры ўзнаўленні тэксту выкарыстаны альбом Марыі Гаўрыленка і верш Я. Купалы «Беларускім партызанам», на аснове якога песня ўзнікла.

Верш Купалы, напісаны восенню 1941 г., абляцеў усю акупіраваную Беларусь. Хутка верш стаў песняй, якую спявалі на розныя мелодыі ў розных мясцовасцях. Па сведчанню ўдзельнікаў партызанскага руху, спявалася песня і з купалаўскай пяцірадковай страфой. Бытаваў і варыянт песні на рускай мове. На тэксце, запісаным Л. С. Мухарынскай, таксама адчуваецца ўплыў рускага варыянта песні.

Напеў, нягледзячы на сямідольны метр, у характары размеранага марша. Чаргаванне паўз, іх фактурная мнагазначнасць ствараюць ўражанне напружанай рашучасці і пагрозы і ў некаторай меры пераклікаюцца з меладычным поступам песні «Священная война».

### Не шкадуйце, хлопцы, пораху!..

(Стар. 190)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 55. Зап. А. В. Сапежка ў 1945 г. у г. Нясвіжы ад І. К. Чаркас з в. Шастакоў Капыльскага р. Мінскай вобл., дзе, як паведаміла выканаўца, песня была вядома ў 1944 г.

Песня літаратурнага паходжання. Яна ўзнікла на аснове аднайменнага верша М. Танка, які ўпершыню апублікаваў яго ў 1941 г. Вусны вар. мае некаторыя адрозненні ад аўтарскага тэксту.

Музыку на тэкст М. Танка напісаў М. М. Чуркін (не публікавалася).

### Над Бярозай-ракой

(Стар. 191)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 56. Зап. у 1947 г. у в. Міхнава Сенненскага р. Віцебскай вобл. ад А. Г. Кулікавай, б. партызанкі 1-й Заслонаўскай п/брыг. Ф. РДНТ.

[1] Пры складанні каментарыяў гэтага раздзела выкарыстаны заўвагі да песень зборніка «Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны», падрыхтаваныя М. Грынблатам.

Партызанская песня, якая ўзнікла на аснове верша П. Глебкі «Песня фізкультурнікаў».

*Бяроза-рака* — рака Бярэзіна, правы прыток Дняпра. У раёнах, якія прымыкаюць да Бярэзіны, асабліва да яе вярхоўя (Барысаўска-Бягомльская зона), у гады вайны быў магутны партызанскі рух.

### Вее ў лесе вецер

(Стар. 193)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 261. Зап. ад удзельнікаў народнага хору г. п. Хойнікі Гомельскай вобл.

Упершыню апублікавана ў часоп. «Беларусь» № 4, 1945.

Песні бар., стар. 22—23.

### Прыехалі ў вёску фашысцкія каты

(Стар. 194)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 57. Апублікавана ў газ. «Народны мсцівец», орг. Слуцкага РК КП(б)Б, 3 чэрвеня 1943 г. Ф. МВАВ, інв. № 23716.

Склаў партызан Іван К. (Іван Куляшоў).

### Паварочвае сонца на поўдзень

(Стар. 195)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 58. Зап. Рогава ў в. Чарэя Чашніцкага р. Віцебскай вобл. ад С. В. Сцверына, б. партызана. Ф. УДНТ, спр. № 134.

Партызанская песня, відаць, літаратурнага паходжання.

### Праважала сына маці

(Стар. 196)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 60. Зап. М. Меяровіч у 1945 г. у в. Чудзін Ганцавіцкага р. Брэсцкай вобл. Мел. зап. Л. Мухарынская ў 1951 г. у г. Касцюковічы ад Е. Вераб'евай.

Партызанская песня, якая складзена на аснове вядомага верша Я. Купалы «Выпраўляла маці сына» (1934).

З купалаўскім вершам супадае пачатковы радок, рытмічная будова, строфіка і агульная ідэйная накіраванасць песні; увесь жа тэкст цалкам арыгінальны і адлюстроўвае барацьбу савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Аўтар песні невядомы.

Інтанацыйна пачатак напеву блізкі да некаторых традыцыйных рэкруцкіх песень. У гэтых адносінах характэрным з'яўляецца двухкратнае паўтарэнне пачатковай папеўкі. У прыпеве больш адчуваюцца ўплывы салдацкай песні.

## Каб жыць на свабодзе па-людску

(Стар. 198)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 63. Зап. Ф. С. Лукашэвіч у в. Азяркі Уздзенскага р. ад Васіля Антонавіча Харламава, б. партызана п/а «Буравеснік». Ф. РДНТ.

Песня літаратурнага паходжання, напісана А. Астрэйкам. Упершыню апублікавана (без загалоўка і подпісу) у Разд. ф. г., № 50, чэрвень, 1942 г. Публікуемы вар. амаль не адрозніваецца ад першапачатковага тэксту. Зменен толькі другі радок апошняй страфы: замест «І гіне фашысцкая гнусь» — «Скідаюць нявольніцтва груз».

## На кані вараным

(Стар. 200)

АІМЭФ, ф. 2, воп. 7, № 3. Зап. В. І. Ялатаў у 1957 г. у в. Верхняя Тошчыца Быхаўскага р. ад В. А. Сысоевай і Т. І. Ціханцовай.

Перапрацоўка рускай партызанскай песні грамадзянскай вайны. Сл. народныя, мел. У. Захарава. Папулярная па ўсёй краіне песня. Асабліва шырока бытавала сярод беларускіх партызан у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Вядома ў рускім і беларускім вар.

## У бары зялёным

(Стар. 201)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 65. Аўтар — партызанскі паэт В. Вашын.

Апублікавана ў газ. «Вольная праца», орг. Слонімскага РК КП(б)Б, 23 лістапада 1943 г. Ф. СКМ, інв. № 2802.

Партызанская песня, складзеная на рытмічнай аснове і на матыў (без прыпева) песні «В бой за Родину» (тэкст Л. Ашаніна, муз. Э. Кампанейца).

## Ночка, ночка-чараўніца

(Стар. 202)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 66. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у Вілейцы Мінскай вобл. ад складальніка гэтай песні — партызанскага паэта А. В. Яблонскага, б. рэдактара Магілёўскай абласной газеты.

А. В. Яблонскі паведаміў, што песня была пашырана сярод клічаўскіх партызан у 1943 г. У час вайны не публікавалася.

## Веяў вецер буйны

(Стар. 203)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 67—68. З адзнакай «З партызанскіх песень» апублікавана ў газ. «Калгасная праўда» 9 мая

1953 г. за подпісам калгасніка Івана Бакача з Поразаўскага р. (цяпер Ваўкавыскага) Гродзенскай вобл.

Час узнікнення песні не адзначан.

### Шуміць, гудзе завея злая

(Стар. 205)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 70. Зап. І. Крамко ў 1950 г. у в. Беражное Карэліцкага р. Гродзенскай вобл. ад Н. Камара.

Першапачатковы тэкст пад назвай «Засада» з подпісам Фёдар К. апублікаван у газ. «Голас селяніна», орг. Стаўбцоўскага РК КП(б)Б, 5 сакавіка 1944 г. Ф. МВАВ, інв. № 22891.

Аўтар песні — партызанскі паэт Фёдар Кужаль з п/а імя Камсамола Камсамольскай п/брыг.

Як высветліў збіральнік, песня была складзена пасля бою пад в. Лядкамі б. Карэліцкага р., які адбыўся зімой 1942 г.

### Быццам чорная навала

(Стар. 206)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. І. Трус у 1950 г. у Уздзенскім р. Мінскай вобл. Песня ўзнікла сярод мясцовага насельніцтва як водгук на жудасную расправу фашыстаў над мірнымі савецкімі людзьмі ў в. Астравок Уздзенскага р. вясной 1943 г. Партызаны сурова адпомсцілі ворагу за яго зверствы.

### Грозная адплата

(Стар. 208)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 71. Зап. Цярэшка ад партызан.

Апублікавана ў газ. «Чырвоная звязда», орг. Ветрынскага РК КП(б)Б і райсавета, 30 верасня 1943 г. Ф. ВАКМ, інв. № 8995/3.

### Па полі, пакрытым туманам

(Стар. 209)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 72. Аўтар — партызанскі паэт В. Вашын.

Апублікавана ў газ. «Вольная праца», орг. Слонімскага РК КП(б)Б, 10 снежня 1943 г. Ф. СКМ, інв. № 3786.

Партызанская песня падрыўнікоў.

### Ніколі не згіне ад лютых пажараў

(Стар. 210)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 106—107. Зап. на Віцебшчыне.

Песня-марш віцебскіх партызан.

## Пінская партызанская

(Стар. 212)

Песни счастья, стр. 15. Зап. Г. Цітовіч у в. Лунін Лунінецкага р. Брэсцкай вобл.

Песня пінскіх партызан.

Напеў у некалькі перайначаным выглядзе паўтарае мелодыю шырока вядомай у Беларусі традыцыйнай салдацкай песні «Вы паля, вы шырокія». На аснове гэтай мелодыі ў час Вялікай Айчыннай вайны было створана шмат песенных варыянтаў.

## Па знаёмай дарозе

(Стар. 214)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 108—109. Зап. у 1945 г. у в. Горнах Плешчаніцкага р. Мінскай вобл. ад В. А. Вільстоўскага, які чуў гэту песню ў 1943 г. ад партызан. Спявалася на напеў песні «Конармейская» (тэкст А. Суркова, муз. Дан. і Дзм. Пакрас), на рытмічнай аснове якой яна і складзена.

Як устаноўлена, аўтарам песні з'яўляецца партызан І. П. Крыскавец, які доўгі час пасля вайны працаваў рэдактарам Магілёўскай абласной газеты. Песня была ім складзена 2 студзеня 1942 г.

Аўтарскі тэкст упершыню быў апублікаван у рукап. часоп. клічаўскіх партызан «За Советскую Родину» № 1, студзень 1943 г., а затым пад ініцыяламі І. К.— у газ. «Савецкая Беларусь» 5 чэрвеня 1943 г. На рускай мове перадрук. у часоп. «Чапаевец», орг. п/а № 620, 14 сакавіка 1943, № 3—4 і ў кн. «Репертуарный сборник для художественной самодеятельности». Ростов-на-Дону, 1943, стр. 30.

Песня хутка стала папулярнай сярод партызан. Вусны вар. амаль не адрозніваецца ад аўтарскага тэксту, але ў ім апушчана пятая страфа.

Песні бар., стар. 28—29. Блізкі вар. з Бярэзінскага р.

Рускія вар. змешчаны: Гуторов, стр. 157—158; Фронт. ф., стр. 53—54, № 24; Мат., стр. 188—189, № 97.

*Заполле, Бацэвічы* — вёскі у Клічаўскім р. Магілёўскай вобл., якія былі дашчэнту знішчаны гітлераўцамі.

## Над Бабруйскам ходзяць хмары

(Стар. 215)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16.

Песня складзена на рытмічнай аснове партызанскай песні грамадзянскай вайны «Па далінах і па ўзгор'ях».

## Мы клятву давалі

(Стар. 216)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у г. Гродна ад студэнткі Ніны Сіневіч (з в. Слабады-Кучынкі Капыльскага р. Мінскай вобл.). Тэкст не закончан, адну страфу выканаўца забыла.

Як засведчыла выканаўца, песню пелі партызаны ў 1943 г. Упершыню пачула песню ад партызана П. Ліпілы і, нібыта, ад яго песня і «пайшла».
Спявалася на матыў песні «Вечар на рэйдзе» («Бывай, любімы горад»).

### Па дарожках па лясных

(Стар. 217)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у Мінску ад калгасніцы Сахвеі Іванаўны Сацкевіч з в. Лунін Лунінецкага р. Брэсцкай вобл.

Песня пінскіх партызан.

*Бастынь* — вёска ў Лунінецкім р.

### Песня пра Заслонава

(Стар. 218)

Песни счастья, стр. 12. Зап. Г. Цітовіч у 1945 г. у г. п. Бягомль Мінскай вобл.

Пластычная рытміка, яркія танальныя і інтанацыйныя кантрасты песні, пры яе агульнай эмацыянальнай стрыманасці — у характары лепшых традыцый лірыка-патрыятычнай песнятворчасці Вялікай Айчыннай вайны.

*Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч* (1909—1943) — Герой Савецкага Саюза, адзін з выдатных арганізатараў партызанскага руху на Беларусі, камандзір партызанскага атрада, а затым партызанскай брыгады. Па-геройску загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі 14 лістапада 1943 г. у в. Купаваць Сенненскага р. Віцебскай вобл.

### Не зязюлька плача і кукуе

(Стар. 220)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 149.

АІМЭФ. Месца запісу не адзначана.

Адна з найбольш пашыраных партызанскіх песень пра К. С. Заслонава.

Песня ўзнікла з верша «Устане сонца», які быў напісан паэтам Н. І. Нязлобіным і ўпершыню апублікаван у 1943 г. у. зб. «Песні беларускіх партызан» з адзнакай: «Прысвячаецца Герою Савецкага Саюза тав. Заслонаву». Передрук. у Фронт. ф., стр. 115. З другой песняй пра Заслонава надрук. у кн. Гуторов, стр. 269—270.

У вусным вар. скарыстаны 4 страфы (з 7) аўтарскага тэксту з адпаведнымі зменамі. Спявалася на матыў песні «Ой, у полі, ў полі пад ракітай».

Песні бар., стар. 23—24. Поўны аўтарскі тэкст з нязначнымі зменамі ў перакладзе на беларускую мову. Зап. у Ганцавіцкім р. Брэсцкай вобл.

### Там, дзе рэчка Случ гамоніць

(Стар. 221)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 151. Зап. у 1960 г. у г. п. Старобін Мінскай вобл. ад А. І. Таўпекі, б. партызана.

Вусны вар. песні пра героя-партызана камсамольца Івана Чуклая, які загінуў у няроўным баі з гітлераўцамі 3 верасня 1942 г.

Аўтар першапачатковага тэксту У. Яфімовіч, партызан п/а імя Чуклая.

Вар. апублікаваны у газ. «Піянер Беларусі» 18 сакавіка 1960 г., у газ. «Пинская правда» 25 сакавіка 1960 г.

Вар. зап. таксама у в. Крывічы Старобінскага р. ад настаўніцы Л. К. Тараймовіч (гл. «Ходзіць слава пра Чуклая». Газ. «Звязда», 26 чэрвеня 1960 г.).

У 1960 г. В. Шымук зап. вар. песні ад У. І. Яфімовіча (АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, № 3).

*Пагост* — вёска ў Старобінскім р. Каля гэтай вёскі пасля разгрому варожага гарнізона ў баі з фашыстамі загінуў камісар п/а Мікіта Бандаравец. Камсамолец Іван Чуклай пад агнём ворага вынес цела камандзіра з поля бою, але сам быў смяротна паранен.

### Ой, туманы

(Стар. 222)

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, № 19.

Зап. І. С. Тулупаў у в. Рэпішча Уваравіцкага р. Гомельскай вобл. ад К. Грошчкава, б. камандзіра атрада «Гастэла» Байкоўскай п/брыг.

*Ісачанка* — Герой Савецкага Саюза А. Ісачанка, загінуў у час вайны.

### Над абрывам вецер вые

(Стар. 224)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 152. Зап. Л. Г. Савікоўская ў 1945 г. у в. Горны Плешчаніцкага р. Мінскай вобл. ад Вольгі Еляневіч. Напеў зап. Л. Мухарынская ў г. Віцебску ад З. Шараковай-Матвеевіч, б. партызанкі п/брыг. Аляксея.

Партызанская песня. Як адзначыла выканаўца, песня друкавалася ў падпольнай газ. «Ленінец», орг. Плешчаніцкага РК КП(б)Б і Н-скага п/а.

Песня прысвечана памяці закатаванага немцамі партызана Яна Марціновіча.

Выкарыстанне паўз, якія перыядычна паўтараюцца ў напеве гэтай песні, з'яўляецца новай рысаю ў беларускім народным меладызме, што надае яму дэкламацыйную выразнасць.

### Там, дзе сёння шумяць смутна елі

(Стар. 226)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у г. Навагрудку ад Леаніда Давыдавіча Побаля, б. партызана п/а імя Свярдлова п/брыг. імя Дзяржынскага, якая дзейнічала ў б. Любчанскім р.

Песня пра партызана-куляметчыка камсамольца Уладзіміра Хартановіча. У няроўным баі 22-х партызан з буйным злучэннем гітлераўцаў У. Хартановіч быў смяртэльна паранен і памёр у партызанскім шпіталі.

### На апушцы лесу

(Стар. 227)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 153—154. Зап. Л. Г. Савікоўская ў 1945 г. у в. Палачанах Маладзечанскага р. ад Лены Аўчыннікавай, 15 г., якая чула гэту песню ад партызан.

Папулярная партызанская песня, якая была пашырана ў розных абласцях БССР. Шырока вядома была таксама сярод бранскіх партызан і франтавікоў.

Вар.: Песні бар., стар. 24 (з Быхаўскага р.); Мат. стр. 182—183; Афонин, стр. 40; Уральский ф., стр. 103; Ф. Чкал. обл., стр. 85.

### Партызанская

(Стар. 229)

АІМЭФ, ф. 13, воп. 3, № 27. Склала песню Т. А. Андрушкевіч па расказу свайго сына аб тым, як аплаквала загінуўшага партызана Мікалая Данілавіча Тура яго маці. Складзена на рытмічнай аснове песні «На апушцы лесу».

### У чыстым полі, ў полі пад ракітай

(Стар. 230)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 155. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у г. Навагрудку Гродзенскай вобл. ад Л. Д. Побаля, б. партызана п/а імя Свярдлова п/брыг. імя Дзяржынскага, якая дзейнічала ў Навагрудскім р.

Адна з найбольш папулярных партызанскіх песень, была пашырана ва ўсіх абласцях БССР. Шырока бытавала таксама сярод смаленскіх і бранскіх партызан. Песня была любімай і ў партызан-каўпакоўцаў. У в. Пухавічы Жыткавіцкага р. Гомельскай вобл., у якой некаторы час стаялі байцы С. А. Каўпака, у 1946 г. запісан адзін з шматлікіх варыянтаў гэтай песні. Калгаснікі сцвярджалі, што песню «А ў полі пад ракітай» яны пераняліад каўпакоўцаў.

Аўтарам першапачатковага тэксту песні з'яўляецца М. Ісакоўскі, музыку да яе напісаў У. Захараў. Адразу пасля яе стварэння песня ўвайшла ў рэпертуар Дзяржаўнага хору рускай песні імя Пятніцкага, пачала перадавацца па радыё і такім шляхам, відаць, трапіла да партызан.

Публікуемы тэкст з'яўляецца найбольш пашыраным вусным вар. песні. Аднак некаторыя вар. даюць больш разгорнуты тэкст. Так, вар., які зап. у 1946 г. у в. Такавішчы б. Грэскага р. Мінскай вобл., мае іншы канец:

Ой вы, хлопцы-партызаны,
Не забудзьце друга сваяго,

Адамсціце вы ўрагам-фашыстам
За героя, друга сваяго.
Пакляліся хлопцы-партызаны
Над магілай паўшага байца:
— Разаб'ём мы ўсіх ўрагоў-фашыстаў,
Разграмім бандзітаў да канца.

Другі вар., зап. у Мінскім р., заканчваецца так:

Партызаны верна пакляліся
На магіле друга сваяго
За Саветы, за страну радную
Перабіць фашыстаў да 'днаго.

У паасобных вар. песні наглядаецца імкненне да яе лакалізацыі, прымацавання да пэўнай мясцовасці. Так, у запісу з Мінскага р. месцам пахавання героя-партызана называецца Рудкова («А ў полі, полі пад Рудковым»), у вар. з Бранскай вобл. героя праводзілі «в дальний путь, в брянские леса» і г. д.

Апубл. тэксты: Песні бар., стар. 68; Мат., стр. 175.

Мат. экспедыцыі АН БССР 1958 г. сведчаць, што песня гэта трывала захоўваецца ў песенным рэпертуары моладзі яшчэ і зараз. (Гл. запіс Г. Барташэвіч і К. Кузняцовай у Ляхавіцкім р. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 41).

## Ля дарогі дуб кудравы

(Стар. 231)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. А. Коўчар у 1945 г. у в. Бялевічы Чырвонаслабодскага р. Мінскай вобл. ад М. Н. Каляды, б. партызана п/брыг. Ціхамірава (Ф. УДНТ, спр. № 142).

Партызанская песня, у якой традыцыйны матыў смерці воіна пад ракітай, пад дубам набывае новае ідэйнае гучанне. Воін памірае, усведамляючы выкананы ім доўг перад Радзімай.

## Там ўдалі, дзе Бяроза шырока

(Стар. 232)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 156. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у г. Навагрудку Гродзенскай вобл. ад В. М. Гіго і К. І. Корчык.

Як паведамілі выканаўцы, песня ўзнікла ў канцы 1943 г. у час «блакіроўкі» партызан у Налібоцкай пушчы, пасля таго як у баі з гітлераўцамі над Заходняй Бярэзінай (прыток Нёмана) па-геройску загінулі 4 партызаны-разведчыкі, сярод якіх быў Леанід — камандзір п/а з п/брыг. імя Суворава.

Песня выконвалася на напеў (без прыпева) «Песні трактарыстаў» («Ой вы, коні, вы коні стальныя») І. Дунаеўскага на словы В. Лебедзева-Кумача.

### Балада аб партызанцы Галіне

(Стар. 233)

Песни счастья, стр. 14. Зап. Г. Цітовіч у 1948 г. у в. Вялікая Кракотка Слонімскага р. ад дзяўчат. Вар. зап. Г. Барташэвіч і К. Кузняцова ў 1958 г. у в. Азярніцах Лунінецкага р. Брэсцкай вобл.

Песня аб дзяўчыне-партызанцы з'яўляецца народнай перапрацоўкай верша Я. Купалы «Над ракою ў спакою». Вельмі папулярная ў Беларусі песня.

Плаўная мелодыка, мяккія спадаючыя канчаткі фраз надаюць музычнаму вобразу рысы лірычнасці і разам з тым стрыманасці. У напеве выкарыстоўваюцца інтанацыі гарадской песні 20-х гадоў.

### Кружыць лісце вецер...

(Стар. 235)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 14. З альбома Т. Цыбульковай, б. зняволенай фашысцкага канцлагера ў Варшаве.

### Трава палягае

(Стар. 236)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 159.

Зап. Навіцкая ў г. Мінску ад Т. Цыбульковай, б. зняволенай канцлагера ў Варшаве. Ф. УДНТ, спр. № 134.

Песня літаратурнага паходжання — песня партызан з п'есы К. Крапівы «Партызаны». Аўтарскі тэкст мае адзінаццаць строф; з іх выконваецца звычайна толькі першых чатыры.

Мелодыя лірычнага характару. Натуральны мінор з чаргаваннем нізыходзячых папевак набліжае яе да традыцыйных напеваў-сказаў. І разам з тым тут ярка праяўляецца «ступеньчатая» структура мелодыі, уласцівая сучаснай песні.

### Прыстань, Прыстань, знаёмая вёска

(Стар. 237)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 227. Упершыню апублікавана ў газ. «В бой за Родину», орг. Рудзенскага РК КП(б)Б, 6 лістапада 1942 г.

Папулярная партызанская песня, якую склаў партызанскі паэт А. Пятровіч.

Вусны вар. гэтай песні запісан у радзе раёнаў БССР.

Вар. з некаторымі адхіленнямі ад аўтарскага тэксту ў Песні бар., стар. 33 (з Хоцімскага р. Магілёўскай вобл.)

Блізкі да першапачатковага тэксту вар., у якім замест в. Прыстань называецца Літавец (вёска ў Уздзенскім р. Мінскай вобл.), апублікаван з подпісам М. Н-в у газ. «Патриот Родины», орг. Міжраённага камітэта КП(б)Б Слуцкай зоны, 9 чэрвеня 1943 г. Ф. МВАВ, інв. №. 23489.

*Прыстань* — вёска ў Асіповіцкім р. Магілёўскай вобл.

### У бары кукавала зязюля

(Стар. 239)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 69.

Апублікавана пад ініцыяламі К. М. у рукап. часоп. «Партизан», орг. п/а «Полымя», 18 сакавіка 1943 г.

### Ой, на лузе пры дубочку

(Стар. 240)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 190. Зап. В. Жырыкава ў 1951 г. у в. Кругавец Жлобінскага р. Гомельскай вобл. ад калгасніцы Н. Ф. Чабатковай.

З лірычнай песеннай творчасці партызан. Песня ўзнікла на аснове старога фальклорнага сюжэту (гл. песню «Што ў лузе пры дубочку» у кн. Елатаў, стар. 98).

### На камінку палаюць карчы

(Стар. 242)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 192.

Аўтар — партызан А. Рудамінскі з п/а імя Багдана Хмяльніцкага п/брыг. імя Варашылава. Ф. МВАВ.

### Помню, помню тыя росы

(Стар. 243)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 1. Зап. Я. А. Васілеўская ў 1948 г. ад М. А. Калацэй, удзельніцы хору з в. Азершчына Рэчыцкага р. Гомельскай вобл.

### Прайшла вясна, настала лета

(Стар. 244)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 228. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у в. Ізбішча Плешчаніцкага р. Мінскай вобл. ад Аляксандры Суднікoвіч, якая вярнулася з фашысцкай няволі з Германіі.

Песню спявалі ў лагеры ў г. Нейдам.

Песня паланянак, якая ўзнікла на аснове старой астрожнай песні. Зафіксіравана ў радзе варыянтаў (гл. «Советская этнография» № 2, 1946, стр. 171).

*«Асты»*—нашыўка з надпісам «Ost» («Усход»). Такія ганебныя нашыўкі на адзенні фашысты ўвялі для «ўсходніх рабочых» — гвалтоўна вывезеных у гітлераўскую Германію савецкіх грамадзян.

### Раскінуліся рэльсы шырока

(Стар. 245)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у в. Ізбішча Плешчаніцкага р. Мінскай вобл. ад калгасніцы Таццяны Залуцкай, 18 г.

Адна з найбольш пашыраных песень савецкіх дзяўчат, якія былі гвалтоўна вывезены з акупіраванай тэрыторыі на фашысцкую катаргу ў Германію.

Пелася на матыў рускай песні «Кочегар» («Раскинулось море широко»).

Друк. вар.: Песні бар., стар. 75—76; Гуторов, стр. 85—86; Тонков, стр. 56, № 20; Мат. стр. 162 (скарочаны вар.). Больш шырокі вар., які прыслала ў пісьме з Германіі ад 28 лютага 1944 г. дзяўчына Надзея Р. з Слонімскага р., апублікаван ў газ. «За нашу пабеду», орг. Снядоўскага РК КП(б)Б Беластоцкай вобл., 20 мая 1944 г.

Вар. зап. П. Лізуноў у в. Рудзівічы Пружанскага р. Брэсцкай вобл. ад А. Ф. Мішкевіч.

### Ой, журaўка, журaўка

(Стар. 246)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 41. Зап. Г. Барташэвіч і К. Кузняцова ў 1958 г. у в. Свяціца Ляхавіцкага р. Брэсцкай вобл. ад М. С. Курловіч і Т. У. Курловіч.

Старая беларуская народная песня «замужніцы», якую спявалі паланянкі ў фашысцкай няволі. Змест песні адпавядаў настроям паланянак, гвалтоўна адарваных ад радзімы, і таму яна выконвалася без тэкстуальных змен. Падобная песня зап. у Ганцавіцкім р. ад дзяўчат, якія сцвярджалі, што яна складзена паланянкамі ў няволі (гл. «Советская этнография» № 2, 1946, стр. 170).

### Нас загналі, закупорылі

(Стар. 247)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 229. Зап. В. М. Кацуба (з Хойніцкага р. Гомельскай вобл.), якая была вывезена ў фашысцкую Германію. Была на прымусовай працы на цэментным заводзе ў Аўстрыі, каля Зальцбурга, а затым у канцлагеры ў Інсбруку.

Апублікавана ў газ. «Бальшавік Палесся» 9 лютага 1947 г.

### Ночка цёмная, ноч крылатая

(Стар. 248)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 230. Зап. М. Грынблат у чэрвені 1945 г. на вакзале ст. Ліда ад дзяўчат, якія вярталіся з фашысцкай няволі, Ганны Малец са Слонімскага р. Гродзенскай вобл. і Стасі

Ганчарук з г. Гайсія Вінніцкай вобл. Яны знаходзіліся ў лагеры Араненбург каля Берліна.

Песня паланянак.

Тэкст не поўны, выканаўцамі забыты чатыры страфы.

**Каліна-маліна**

(Стар. 249)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 231—232. Зап. студэнтка Галуцкая ў в. Горках б. Бабруйскай вобл. ад Вольгі Барадзіч, якая ў 1945 г. вярнулася з фашысцкай няволі. Ф. УДНТ, спр. 134.

Песня паланянак у форме пісьма да маці на Радзіму. Зближаецца са старымі рэкруцкімі песнямі (першыя 4 страфы) і з песнямі аб жаночай долі. Адзін з узораў апрацовак старых народных песень у асяроддзі паланянак.

**Ой, як цяжка у няволі**

(Стар. 252)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 235—237.

Апубл. пад ініцыяламі Л. Л. у рукап. часоп. «Партызан», орг. п/брыг. «Полымя», 1943, ліпень, № 7. Ф. МВАВ, інв. № 13261.

Песню склала партызанская паэтэса Лілія Лясная (Я. І. Крайнік).

Вусныя вар. маюць нязначныя змены аўтарскага тэксту.

У напеве адчуваюцца інтанацыйныя сувязі з песняй «Спяць курганы цёмныя».

**Гляджу я на Усход і сумую**

(Стар. 255)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 234.

З рукап. песеннага альбома А. Каміна, які вярнуўся з фашысцкай няволі (з лагера ў раёне Магдэбурга). Ф. УДНТ, спр. № 134.

А. Камін паведаміў, што аўтарам гэтай песні быў малады хлопец Мікола, партызан з б. Полацкай вобл. У час блакады ён быў схоплен гітлераўцамі і вывезен у Германію. Памёр у лагеры. Песню ён склаў незадоўга перад смерцю.

**Забрукуй, сівы галубочак**

(Стар. 256)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 238—239. Зап. З. Бандарына ў 1946 г. у в. Нёман Мастоўскага р. Гродзенскай вобл. ад Ганны Кашэвіч. Ф. УДНТ, спр. № 143.

Перапрацоўка традыцыйнай народнай лірычнай песні. Яе спявалі ў гады вайны на часова акупіраванай тэрыторыі, а таксама паланянкі.

### У суботу ранелька

(Стар. 258)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. на заводзе «Чырвоны пільшчык» у Ельскім р. Гомельскай вобл. ад Лідзіі Пятроўны Гавароўскай, якая вярнулася з фашысцкай няволі. Песню чула ва ўсходняй Прусіі ад паланянак. Ф. УДНТ, спр. № 205.

Перапрацоўка старой воінскай песні.

### Ох ты, сад, ты мой сад

(Стар. 260)

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, № 19. Зап. І. С. Тулупаў ад партызана І. Шчэрбы у в. Пярэдзелка Лоеўскага р. Сям'ю яго расстралялі немцы ў час вайны.

Старая песня, прыстасаваная да новага часу.

### І сонца закацілась за цёмныя лясы

(Стар. 261)

Песні бел. нар., выбр., стар. 370. Зап. Г. Цітовіч у 1948 г. у в. Міроўшчына Дзятлаўскага р. Гродзенскай вобл. Перапрацоўка старой салдацкай песні. Бытавала ў шматлікіх вар.

У аснове напеву ляжаць інтанацыі салдацкай страявой песні (у прыватнасці «Все пушки, пушки грохотали»).

### Шчэ сонца не заходзіць...

(Стар. 263)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 256—257. Зап. Г. Барташэвіч і К. Кузняцова ў 1958 г. у в. Свяціца Ляхавіцкага р. Брэсцкай вобл. ад М. С. Курловіч і Т. У. Курловіч. Мел. у зап. Л. С. Мухарынскай.

Песня распета ў лепшых традыцыях беларускага народнага шматгалосся. Натуральна-ладавая аснова мелодыі, мадальныя гармоніі з элементамі гетэрафанічнасці падкрэсліваюць эпічна-велічны склад напеву.

### Ой, з-пад горкі ўсё туман

(Стар. 265)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 258. Зап. Л. Шапялевіч у 1945 г. у в. Байкі Зельвенскага р. Гродзенскай вобл. ад Г. Я. Русак, 85 г. Апублікавана ў газ. «Літаратура і мастацтва» 22 жніўня 1945 г.

Вар. песні «Із-пад лесу ўсё туман». Зап. Р. В. Шматава ў 1949 г. ад Т. Жынко і В. Грынкевіч у в. Курын Акцябрскага р. Магілёўскай вобл. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 30.

### Партызанская жартоўная

(Стар. 266)

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, № 4. Зап. В. Тарас у 1951 г.

Песня складзена ў п/а «За Советскую Родину» на Барысаўшчыне. Выкарыстана рытмічная аснова беларускай народнай песні «У нашым сяле свадзьба будзе».

### Было у Сымоніхі семера дачок

(Стар. 267)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 205—206.

Упершыню апубл. пад назвай «Семера дачок» і з подпісам Тарас Паляшчук у газ. «За свабодную Беларусь» 3 чэрвеня 1942 г. Перадрук. у Разд. ф. г., 1942, ліпень, № 53; у газ. «Віцебскі рабочы» 10 сакавіка 1943 г.

Пародыя, складзеная на аснове беларускай народнай жартоўнай песні «Чачотачка», накіраваная супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Псеўданімам Тарас Паляшчук падпісваўся П. Панчанка.

### Гэй вы, фрыцы-ягамосці

(Стар. 269)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 204. Зап. А. Туміловіч ад б. партызана п/а імя Суворава, які паведаміў, што песня спявалася ў атрадзе ў 1942—1943 гг.

У песні распрацаван традыцыйны сатырычны матыў салдацкіх песень аб «гасціннасці» народа ў адносінах да чужаземных захопнікаў і падрыхтаваных для іх «пачастунках» — вострай зброі.

### Фрыц у рэчцы рыбку вудзіць

(Стар. 270)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 207.

Зап. у 1945 г. у в. Вялікае Падлессе Ляхавіцкага р. Брэсцкай вобл. ад удзельнікаў народнага хору Ф. УДНТ, спр. № 400.

У аснове песні — сатырычны верш В. Таўлая «Рыбак» («Фрыц у Нёмне рыбу вудзіць»). Упершыню апублікавана ў Разд. ф. г., 1944, снежань, № 136.

Песня выконвалася на мясцовы частушачны напеў.

### Ой, не хадзі, фрыцу

(Стар. 272)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 208.

Антыфашысцкая пародыя літаратурнага паходжання на вядомую ўкраінскую народную песню «Ой, не ходи, Грицю». Аўтар пародыі — К. Крапіва.

Песня атрымала пашырэнне сярод партызан праз падпольны друк з вельмі нязначнымі зменамі аўтарскага тэксту. Упершыню апублікавана ў Разд. ф. г., 1943, № 86—87.

### Партызаніць бацька Ніны

(Стар. 273)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 209—210. Зап. Л. Г. Савікоўская ў 1945 г. у в. Горна Плешчаніцкага р. Мінскай вобл. ад загадчыцы хаты-чытальні В. Р. Еляневіч, якая чула гэту песню ад партызан п/брыг. імя Калініна ў 1943 г.

Песня літаратурнага паходжання. Аўтар першапачатковага тэксту Міхась Машара. Упершыню апублікавана ў лістоўцы-плакаце «Партызанскае слова», 1943, жнівень, № 7.

У вусным вар. апушчаны 6-я і 8-я аўтарскія строфы і маецца рад тэкстуальных змен.

### Дайце ў рукі мне гармонь

(Стар. 275)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 211. Зап. М. Анціповіч у 1945 г. у в. Шчамысліца Мінскага р. ад групы моладзі.

Партызанская песня на матыў вядомай рускай песні М. Ісакоўскага (муз. У. Захарава).

Аўтар — партызан М. Пралеска.

Апублікавана на рускай мове пад загалоўкам «Фриц бежал с Удранки» ў газ. «Мы отомстим», орг. Заслаўскага РК КП(б)Б, 17 снежня 1943 г.

*Удранка* — невялічкая рэчка ў Мінскім і Маладзечанскім раёнах.

### Ноч і змрок заслонаю садзіцца

(Стар. 276)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 212. Зап. Э. Ратштэйн у 1946 г. у в. Старое Сяло Веткаўскага р. Гомельскай вобл. ад калгасніцы Басяковай.

Сатырычная песня, відаць, літаратурнага паходжання.

### Пазарасталі сцежкі-дарожкі

(Стар. 277)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 213.

Пародыя літаратурнага паходжання на матыў вядомай рускай народнай песні. Аўтар — Анатоль Астрэйка.

Упершыню апублікавана ў Разд. ф. г., 1943, май, № 89. Перадрук. у газ. «Чырвоная звязда», орг. Баранавіцкага абкома КП(б)Б, 5 чэрвеня 1943 г.

**Бывайце здаровы!..**

(Стар. 278)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 214—215. Зап. М. Грынблат у 1945 г. у г. Гродна ад студэнткі Г. І. Мажылоўскай (з Цілевіцкага с/с Дубровенскага р. Віцебскай вобл.).

Партызанская перапрацоўка вядомай песні А. Русака «Бывайце здаровы!» (муз. І. Любана).

У час вайны напеў і рытмічная будова песні «Бывайце здаровы!» паслужылі асновай для ўзнікнення шматлікіх партызанскіх і франтавых песень на беларускай і рускай мовах.

**Дык будзь жа пракляты!..**

(Стар. 281)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 216—217. Зап. С. Розум на Віцебшчыне ад партызан.

Складзена на рытмічнай аснове песні «Бывайце здаровы!».

**Лявоніха**

(Стар. 283)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. Г. Ксяндзова ў 1951 г. у в. Рэчкі Свяцілавіцкага р. Гомельскай вобл. ад удзельнікаў хору калгаснай моладзі, ф. Гомельскага АблДНТ.

Партызанская перапрацоўка вядомай беларускай танцавальнай песні. Вусныя вар. запісаны на беларускай і рускай мовах.

Найбольш ранняя публікацыя (на рускай мове) у газ. «Народны мсцівец», орг. Акцябрскага РК КП(б)Б, 14 жніўня 1943 г.

Друк. вар.: Песні бар., стар. 20—21 (з Быхаўскага р.); Гуторов, стр. 199—200 (пелі ў п/брыг. імя Заслонава).

Песня друк. у скарачэнні.

**Нам прыслала Масква падкрапленіе**

(Стар. 284)

Песни счастья, стр. 17. Зап. Г. Цітовіч у 1944 г. у в. Вялікае Падлессе Ляхавіцкага р. Брэсцкай вобл.

Напеў падобны да мелодыі рускай быліны «Высота ль, высота поднебесная». Валявы, рашучы характар падкрэсліваецца маршападобнай рытмікай і акцэнтуемай тэрцыяй мажорнага ладу (у быліне «Высота ль» акцэнтуецца квінта).

**Хутка сонца заззяе над намі**

(Стар. 286)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 260.

Апублікавана ў газ. «За Савецкую Беларусь», орг. Лагойскага РК КП(б)Б і Н-скага п/а, 1 студзеня 1944 г. Ф. МВАВ, інв. № 23448.

### Ой вы, серыя гусі

(Стар. 287)

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, № 5. Зап. Б. І. Варанкевіч у в. Обрава Івацэвіцкага р. Брэсцкай вобл. ад М. М. Трусевіча, былога партызана.

### Цячэ рэчка ля паляны

(Стар. 288)

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, № 19. Зап. І. С. Тулупаў у в. Белае Балота Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. ад І. Р. Палавінка, былога партызана.

### Святкуй, Радзіма мая!

(Стар. 290)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 1, № 16. Зап. Г. Цітовіч у 1945 г. у в. Азершчына Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. З рэпертуару Азершчынскага хору пад кіраўніцтвам Т. К. Лапацінай.

Песня ўзнікла ў час святкавання першай гадавіны вызвалення раёна ад фашысцкіх захопнікаў.

### Над зямелькай зара йшла

(Стар. 291)

Бел. фальклор Вял. Айч. вайны, стар. 262, напеў — Песни счастья, стр. 4. Зап. Г. Цітовіч у в. Вялікае Падлессе Ляхавіцкага р. Брэсцкай вобл. ад удзельнікаў народнага хору, калектыўнага аўтара гэтай песні. Упершыню апублікавана ў газ. «Звязда» 7 лістапада 1944 г.

Напеў з'яўляецца яркім прыкладам сучаснага нацыянальнага беларускага шматгалоснага стылю. Пераменны метр, а таксама ладавая пераменнасць, якая ў сціслай форме дана ўжо ў першай меладычнай фразе, надаюць мелодыцы шырокі распеўны характар.

## ПЕСЕННАЯ ТВОРЧАСЦЬ ПАСЛЯВАЕННАГА ПЕРЫЯДУ

### Із далёкіх із краёў

(Стар. 295)

Песни счастья, стр. 18. Зап. Г. Цітовіч у 1948 г. у в. Блізкае Ружанскага р. Брэсцкай вобл. ад дзяўчат. Распаўсюджаная ў Беларусі песня. Друк. у шматлікіх зб.: Вуснапаэт. тв-сць, стар. 304 і інш.

Мелодыя з ярка выражанымі асаблівасцямі страявой салдацкай песні.

### Лясная песня

(Стар. 297)

Песні бел. нар., выбр., стар. 273. Сл. А. Русака, муз. У. Алоўнікава. Песня — успамін аб Айчыннай вайне, вельмі папулярная ў наро-

дзе. Стала ўвайшла ў быт працоўных, часта выконваецца калектывамі мастацкай самадзейнасці.

Шырокая папулярнасць песні тлумачыцца глыбокім пранікненнем кампазітара ў меладычны строй беларускай народнай песнятворчасці.

**Вечарам пагодным**

(Стар. 299)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і муз. А. Шыдлоўскага. Песня — успамін аб Вялікай Айчыннай вайне, якіх шмат узнікла ў пасляваенны перыяд. У адрозненне ад песень ваенных год у такіх песнях больш выразны лірычны пачатак.

Напеў у тыповым для творчасці самадзейных кампазітараў гамафонна-гарманічным стылі. Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца супастаўленне мінора з паралельным мажорам. І разам з тым песня прасякнута беларускім нацыянальным меладызмам.

**Праляцелі ветры**

(Стар. 301)

«Літаратура і мастацтва», 1 лістапада 1960 г. Сл. А. Русака, напеў П. Касача. Лірычная песня — успамін загінуўшага воіна.

Тыповае для многіх песень-успамінаў пасляваеннага часу развіццё меладычнага вобраза: спачатку прыглушанае, потым з эмацыянальным «прарывам», вядучым да яркай меладычнай кульмінацыі.

**Ой, старонка вольная мая!..**

(Стар. 303)

«Літаратура і мастацтва», 3 ліпеня 1964 г. Сл. і напеў А. Шыдлоўскага.

Для напеву характэрным з'яўляецца наяўнасць самастойнага па структуры прыпеву. Гэта асаблівасць не ўласціва традыцыйнай беларускай песнятворчасці і прыйшла ў самадзейнае мастацтва з прафесіянальнай музыкі.

**Дуб магутны**

(Стар. 306)

«Літаратура і мастацтва», 27 снежня 1963 г. Сл. і напеў А. Шыдлоўскага.

Эпічна ўзнёслы напеў песні не пазбаўлен таксама рыс драматызму. Апошні падкрэсліваецца новымі для традыцыйнага меласу сродкамі: рэзкія тэматычныя паўзы, пераход дамінанты мінору ў шостую ступень і інш.

**Гэту песню мы самі складалі**

(Стар. 309)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 5, № 4. Зап. Я. А. Васілеўская ў 1950 г. у г. п. Васілевічы Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. Той жа тэкст — Сучасны бел. ф., стар. 22—23.

### Радзіма мая дарагая

(Стар. 310)

Радзіма мая дарагая, стар. 23—28. Сл. А. Бачылы, муз. У. Алоўнікава. Папулярная ў Беларусі песня. Часта выконваецца калектывамі мастацкай самадзейнасці, стала ўвайшла ў бытавы рэпертуар. Гэтаму садзейнічае мелодыя ярка нацыянальнага складу. Першая меладычная фраза шырока вядома як эмблема пазыўных беларускага радыё.

### Беларусь Савецкая

(Стар. 312)

Радзіма мая дарагая, стар. 29—30. Сл. і муз. А. Шыдлоўскага. Патрыятычная песня аб Радзіме. Стала ўвайшла ў рэпертуар харавых калектываў і ў народны быт.

Напеў, як і тэкст, гімнічнага складу. Плаўнасці яго садзейнічае спецыфічнае для народнай песнятворчасці чаргаванне харэічных і ямбічных зачынаў музыкальных фраз.

### Песня аб Беларусі

(Стар. 314)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і напеў П. Шыдлоўскага. Папулярная на Уздзеншчыне песня, выконвалася хорам в. Прысынак.

Напеў адносіцца да так званага героіка-патрыятычнага стылю сучаснай народнай музыкі, для якога характэрна спалучэнне інтанацый савецкай масавай песні і народнай лірычнай.

### Беларусь — куток мой родны

(Стар. 316)

Елатаў, стар. 102—103. Зап. А. Ладыгіна ў 1958 г. у в. Выдрэйск Лёзненскага р. Віцебскай вобл. ад складальніцы песні Р. С. Агеевай. Напеў У. Алепкіна.

Харальны склад шматгалосся садзейнічае выяўленню гімнічнага характару песні. Падгалосак-«нітка» на гуку «а» — традыцыйны прыём беларускай мелодыкі, які падкрэслівае момант прыўзнятасці пачуццяў.

### Песня аб Леніне

(Стар. 318)

Песні, стар. 3. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Напеў велічальнага характару з тыповым для такіх песень супастаўленнем аднагалоснага мінорнага запеву з харавым мажорным прыпевам.

**Нас партыя вучыць**

(Стар. 320)

П е с н і, стар. 4. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Напеў гімнічнага характару. Песні такога тыпу ў асноўным вытрыманы ў мажоры з эпізадычнымі адхіленнямі ў сярэдняй частцы ў мінор.

**Зоры залацістыя**

(Стар. 322)

П е с н и с ч а с т ь я, стр. 8. Сл. і муз. Р. Галавасцікава. Зап. Г. Цітовіч у 1948 г. у г. Баранавічы ад аўтара. Вельмі папулярная ў Беларусі песня. Бытуе як безаўтарская. Друк. у многіх зб.; той жа тэкст — АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2.

Напеў шырокага дыхання добра асацыіруецца з вобразным зместам песні: шырокімі прасторамі палёў, прыволлем свабоднага і шчаслівага калгаснага жыцця.

**Родная краіна**

(Стар. 324)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і муз. П. І. Шыдлоўскага. Першая фраза напеву — адзін з характэрных для творчасці самадзейных кампазітараў пачатковых абаротаў у мінорных танальнасцях: пад'ём ад тонікі к тэрцыі ладу з наступным зваротам.

**Мы выходзім калгаснай дружынай**

(Стар. 326)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. М. Васілька, муз. І. Маціна. Песня патрыятычнага зместу. Часта выконваецца ў скарочаным вар. Друк.: С п е ў н і к, стар. 41—42.

Натуральны мінор, квартавыя кадэнцыі, вытрыманая на ўсім працягу напеву адзіная танальнасць збліжаюць песню з познетрадыцыйнай лірыкай.

**Выйду я на прастор**

(Стар. 328)

П е с н і, стар. 11. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Характар мелодыкі песні, а таксама некаторыя гарманічныя абароты (мадуляцыя праз двайную дамінанту) падкрэсліваюць пэўную «прафесіяналізацыю» народнага стылю, уласцівую некаторай частцы беларускіх самадзейных кампазітараў, у тым ліку і А. Шыдлоўскаму.

**Нашае сяло**

(Стар. 330)

Песні Азершчынскага хору. Мінск, 1959, стар. 8. Сл. удзельніцы хору З. Пацеенка. Складзена ў 1950 г.

Напеў старадаўняй народнай песні «Учора было лецейка».

**Ой ты, поле**

(Стар. 332)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. А. Астрэйкі, напеў Г. Гапонава. Папулярная песня аб калгасным жыцці.

Велічны напеў з пераменнай метрыкай. Не зусім у стылі народнапесенных традыцый скачкі ў мелодыі на сепціму і нону.

**Ой, старонка мая ты лясная**

(Стар. 334)

Песні Віцебшчыны, стар. 5—6. Вар. папярэдняй песні, іншая першая страфа.

Музычны змест гэтай песні аналагічны зместу песні «Беларусь — куток мой родны». Той жа харальны склад з эпізадычным распевам у асобных галасах як адна з прыкмет новага акапельнага стылю народнага шматгалосся.

**Мой край**

(Стар. 336)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 37. Зап. у в. Рудзікі Карэліцкага р. Сл. Л. Чычкана, напеў П. Шэўко.

**Песня пра Нёман**

(Стар. 337)

Радзіма мая дарагая, стар. 31—33. Сл. А. Астрэйкі, муз. Н. Сакалоўскага. Адна з папулярнейшых песень, пашыраная ў быце і ў калектывах мастацкай самадзейнасці.

Напеў выкарыстоўвае такія характэрныя прыёмы народнага меладызму, як падгалосак-«нітка», унутрыскладовыя распевы ў кульмінацыйных момантах і інш.

**Ой ты, Нёман родны**

(Стар. 339)

Песні, стар. 13. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Напеў песні з'яўляецца некалькі ўскладненым варыянтам песні «Вечарам пагодным».

### Ой, Нёман наш, Нёман

(Стар. 341)

Песні, стар. 16. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Напеў эпічнага складу. Шырокі размах дыяпазону мелодыкі і сама яе дынаміка («Шырока») добра спалучаюцца з вобразным строем песні.

### Там, дзе ціха, ціха

(Стар. 343)

Песні, стар. 14. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

У напеве праследжваецца характэрны для многіх песень самадзейных кампазітараў танальны план: мінор — паралельны мажор — мінорная субдамінанта — пачатковы мінор (гл. таксама «Любы зоры залацістыя» і інш.).

### Дзе ляжалі век балоты

(Стар. 345)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і напеў П. Шыдлоўскага.

Напеў лірычнай працяжнай песні з тыповай падводкай у верхнім голасе.

### Ой ты, поле, поле...

(Стар. 347)

Праблемы, стар. 131—132. Зап. Г. Барташэвіч летам 1968 г. у в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р. Магілёўскай вобл. ад Т. Варонінай і Н. Бульковай.

Напеў інтанацыйна ардынарны. Некалькі нечаканай з'яўляецца заключная кадэнцыя (на кварце), што, аднак, у некаторай ступені адпавядае пытальнай інтанацыі ў канцы першай страфы тэксту.

### Роднае Палессе

(Стар. 349)

Спеўнік, стар. 34. Сл. З. Вагера, напеў А. Чопчыца.

Характар напеву — гл. каментарый да песні «Там, дзе ціха, ціха» (стар. 546).

### Расцвітай, Палессе

(Стар. 351)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 4. Сл. Рашчэні, муз. У. Журовіча. З матэрыялаў Рэспубліканскага агляду мастацкай самадзейнасці калгасаў і саўгасаў БССР у 1961 г. Друк у зб. Сучасны бел. ф., стар. 93—94.

**Там, дзе светлы Нёман**

(Стар. 352)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і напеў А. Шыдлоўскага. Вар. песні «Там, дзе ціха, ціха».

**Старонка родная**

(Стар. 354)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. А. Русака, напеў Л. Фрэнкель-Майзліка. Лірычная песня, у якой тэма кахання цесна пераплятаецца з тэмай Радзімы.

Напеў у рытмічнай аснове блізкі да некаторых кавалерыйскіх песень.

**Мінскі вальс**

(Стар. 356)

Радзіма мая дарагая, стар. 162. Сл. А. Дзеружынскага, муз. М. Шуміліна. Надзвычай папулярная ў рэспубліцы песня, якая выклікала шэраг мясцовых песень-наследаванняў.

Напеў з'яўляецца арганічным спалучэннем традыцый гарадской і сялянскай народнай песні. Першая прадстаўлена характарам рытмікі і часткова танальна-мадуляцыйным планам, другая — інтанацыйнай структурай (напр., трыхордавая кадэнцыя).

**Прывітальная роднаму Мінску**

(Стар. 358)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 4. Сл. і муз. А. Шыдлоўскага. Песня часта выконваецца калектывамі мастацкай самадзейнасці. Песні-прывітанні Мінску, Маскве сталі вельмі распаўсюджанымі ў апошнія гады. На Рэспубліканскія агляды самадзейнасці шмат якія харавыя калектывы прывозяць уласныя прывітальныя песні.

**Прывітальная Мінску**

(Стар. 359)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 70. Зап. Л. Ткачова ў 1961 г. у в. Яроміна Гомельскага р. ад удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Сл. і муз. удзельнікаў хору.

Песні падобнага зместу — прывітанні роднаму гораду — музычна часцей за ўсё падаюцца ў чыста лірычным плане. Меладычна гэтыя песні звязаны шмат у чым з лірычнай партызанскай песняй і асабліва з песнямі-ўспамінамі пасляваеннага перыяду. Той жа плаўны хвалепадобны меладычны малюнак, супастаўленне паралельных мінору і мажору, яркая кульмінацыя на субдамінанце. Форма гэтых песень таксама часцей за ўсё аднатыповая: перыяд з паўторным другім сказам.

### Развітанне в Мінскам

(Стар. 361)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 4. Песню склалі М. Васілёк і С. Бандарэнка на рытмічнай аснове беларускай народнай песні «Бывайце здаровы». Вядомая на Гродзеншчыне песня.

### Добрай раніцы, Віцебск любімы

(Стар. 362)

Песні над Дзвіной, стар. 33—34. Сл. Ю. Доктарава, муз. В. Смірнова.

У апошні час распаўсюджанымі сталі песні аб Радзіме, у якіх Радзіма паўстае ў вобразе роднага горада, вёскі і г. д.

Характар мелодыі — гл. каментарый да песні «Прывітальная Мінску» (стар. 547).

### Гродзенскі вальс

(Стар. 364)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 77. Зап. Г. Барташэвіч у 1962 г. у в. Кулеўшчына Ваўкавыскага р. Гродзенскай вобл. ад дзяўчат.

### Добрай раніцы, Гомель

(Стар. 365)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 4. Сл. Ф. Курасава, муз. У. Журовіча. Песня-прывітанне роднаму гораду.

### Салігорскі вальс

(Стар. 367)

«Звязда», 5 красавіка 1962. Сл. шафёра А. Кур'яна, муз. Я. Перапечка. Гл. таксама зб. Сучасны бел. ф.

### Неба ўсё у зорачках

(Стар. 368)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 5. Зап. К. Кузняцова ў 1961 г. ад Л. П. Ярэц. Тэкст складзен літгрупай агітбрыгады Рэчыцкага ГДК на мелодыю «Рэчыцкай лірычнай» Н. Коншына.

### Песня пра Несвіж

(Стар. 369)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 50. Зап. Г. Барташэвіч у в. Лань, Нясвіжскага р. ад дзяўчат. Сл. В. Барадзіна (на муз. «Мінскага вальса» М. Шуміліна). Неаднаразова выконвалася на аглядах мастацкай самадзейнасці.

## Дарагая Белая Дуброва...

(Стар. 370)

Праблемы, стар. 132—133. Зап. Г. Барташэвіч летам 1968 г. у в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р. ад К. К. Кавалёвай, В. Р. Ананенка, Т. Я. Арловай, Н. Бульковай, Т. Варонінай і інш. Сл. С. Пацёмкіна.

У развіцці мелодыі песні выкарыстоўваецца адзін з распаўсюджаных традыцыйных прыёмаў: скачок-зачын з наступным вяртаннем да пачатковага гукавога ўзроўню.

## У нас, у Яроміне, свята

(Стар. 372)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 70. Зап. А. Гурскі ў 1961 г. у в. Яроміна Гомельскага р. Песня створана харавым калектывам в. Яроміна.

## У нас, на Стаўбцоўшчыне, свята

(Стар. 373)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 51. Сл. А. Есьмана, муз. Н. Сокалава (РДК). Зап. А. Гурскі ў 1960 г. у в. Кнотаўшчына Стаўбцоўскага р.

Папулярная ў Стаўбцоўскім р. песня, якая выконваецца на святах ураджаю, святах песні.

## Песня аб возеры Нарач

(Стар. 374)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 74. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Зап. К. Кузняцова ў в. Прысынак Уздзенскага р. Мінскай вобл. ад аўтара. Песня напісана да свята песні на в. Нарач, выконвалася харавым калектывам в. Прысынак.

## Прывітальная

(Стар. 375)

Песні бел. нар., выбр., стар. 385. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Зап. М. Корсак у 1953 г. у в. Прысынак Уздзенскага р. Мінскай вобл. Вядомая ў Беларусі песня. Выконвалася на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў 1955 г., а таксама неаднаразова на святах песні.

Напеў з ярка выражаным «ступеньчатым» тыпам меладычнага развіцця. Шэсць ступенек да кульмінацыі (до$^2$) з своеасаблівым меладычным раскачваннем перад скачком на новую ступеньку надаюць мелодыі пругкі, «мускулісты» характар.

## Едзе моладзь Беларусі

(Стар. 376)

Песні самадз. камп. Гомельшчыны, стар. 34. Сл. Ваўчкова, муз. Г. Гапонава.

Для гэтай песні, як і для пераважнай большасці іншых песень самадзейных кампазітараў, характэрна «квадратнасць» музычнай структуры. Такі тып структурнасці настолькі пераважае, што нават невялікае адхіленне ад яго (змена метра, матыўныя дапаўненні) ужо асацыіруецца з традыцыйнымі ўплывамі, хоць у інтанацыйным плане гэтага можа і не быць.

## Камунізма сонца ўсходзіць

(Стар. 378)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 74. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Зап. Г. Барташэвіч і К. Кузняцова ў 1962 г. у в. Прысынак Уздзенскага р.

Напеў развіваецца ў тыповых абаротах беларускай народнай мелодыкі. Выключэннем з'яўляецца пачатковы скачок на сепціму.

## Мы людзі савецкай зямлі

(Стар. 381)

Сучасны бел. ф., стар. 29—30. З матэрыялаў конкурсу на сучасную народную песню і частушку, праведзенага Баранавіцкім ДНТ у 1951 г.

## Ну, як не пець!

(Стар. 382)

«Літаратура і мастацтва», 1 сакавіка 1963 г. Сл. і напеў А. Шыдлоўскага.

Напеў вылучаецца светлай радаснай прыўзнятасцю. Гэта сапраўды ўспышка святочнага пачуцця. Актаўныя і секставыя скачкі ў мелодыі прыпеву і паўнагучныя акорды ствараюць уражанне віншавальных клічаў.

## Святочная

(Стар. 384)

Песні над Дзвіной, стар. 11. Велічальная песня, якая расказвае аб росквіце Радзімы за сорак шчаслівых год.

У напеве прысутнічае вельмі распаўсюджаны ў самадзейнай творчасці прыём тэматычнага развіцця: пачатковы мінорны матыў секвенцыйна праводзіцца ў паралельным мажоры (гл. таксама «Зоры залацістыя», «Беларусь — куток мой родны» і інш.).

### Юбілейная застольная

(Стар. 386)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 26. Зап. В. Акулава ў 1951 г. у в. Азершчына ад Т. К. Лапацінай. Песня складзена ўдзельнікамі Азершчынскага хору і прысвечана 15-гадоваму юбілею калектыву. Скарочаны вар. зап. М. Гваздзёў у 1960 г. там жа. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 58.

### Калгасная святочная

(Стар. 387)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, № 11. Зап. А. Фядосік у 1958 г. у в. Сінкевічы Ленінскага р. Брэсцкай вобл. ад М. В. Лук'яновіча. Сучасная застольная песня, складзеная на мелодыю песні «Бывайце здаровы».

### Родны край

(Стар. 389)

Песні самадз. камп. БССР, стар. 5—7. Сл. А. Астрэйкі, муз. П. Шэўко. Папулярная ў рэспубліцы песня аб калгасным жыцці, бытуе паўсямесна. Часта выконваецца харавымі самадзейнымі калектывамі.

Напеў песні з шырокімі скачкамі, агульным рэгістравым размахам стварае малюнак прыволля. У той жа час рытмічная чоткасць, амаль маршападобнасць падкрэслівае атмасферу працы — мерных працоўных рухаў. Такое спалучэнне размашыстай мелодыкі, якая ідзе яшчэ ад позніх традыцыйных лірычных песень, і маршападобнай, маторнай рытмікі таксама з'яўляецца адной з характэрных рыс сучаснай народнай беларускай творчасці. У такіх песенных узорах можна прасачыць адзін з перспектыўных шляхоў развіцця нацыянальных музычных традыцый.

### Ідуць дзяўчаты ў поле

(Стар. 391)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. А. Русака, муз. П. Шыдлоўскага. Вядомая паўсюдна песня, асабліва любімая моладдзю. Часта выконваецца па дарозе дадому ў час палявых работ.

Напеў з'яўляецца прыкладам беларускай лірыкі. У плаўных меладычных пераходах, у свабоднай пластычнай рытміцы добра адчуваецца рэальная першааснова музычнага вобраза: шырыня палёў, прыволле, гармонія чалавечых пачуццяў і прыроды.

### Ураджайная святочная

(Стар. 393)

Песні бел. нар., выбр., стар. 383—384. Сл. і муз. Р. Галавасцікава. Зап. Г. Цітовіч у 1948 г. у г. Баранавічы ад аўтара. Папулярная песня, якая часта выконваецца на святах песні, святах ураджаю.

Мелодыя ў характары беларускай прыпеўкі. Тая ж двухчастковасць, тыя ж суадносіны частак: хутка — павольна.

### Залатыя каласы

(Стар. 395)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 3. Сл. А. Дзеружынскага, муз. М. Шуміліна. Вядомая ў рэспубліцы песня аб чароўнай красе роднага краю.

Пачатак песні адразу з двухгалосся — новы прыём беларускай народнай песні, якой больш уласцівы аднагалосны зачын. Такія двухгалосныя зачыны прадугледжваюць, як правіла, наяўнасць інструментальнага ўступу.

### Песня аб калгасным полі

(Стар. 397)

Песні Віцебшчыны, стар. 7—8. Сл. М. Чуркіна, муз. В. Смірнова. Гл. таксама АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2.

Плаўная мелодыка з пластычнай пераменнасцю паралельных танальнасцей вельмі блізкая да народнапесенных традыцый паўночных раёнаў Беларусі.

### Дзявочая калгасная

(Стар. 399)

Песні самадз. камп. БССР, стар. 12. Сл. і муз. Р. Галавасцікава. Вельмі папулярная песня. Увайшла ў рэпертуар самадзейных харавых калектываў і ў быт.

Шматгалоссе з развітым верхнім падгалоскам. Апошні звычайна даручаецца найбольш галасістай удзельніцы хору і па выканаўчай традыцыі павінен пакрыць сваім гучаннем усю харавую фактуру, у чым нельга не бачыць адгалоскі старадаўнейшай манеры спявання.

### Ой, ці чулі вы гамонку

(Стар. 401)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 74. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Зап. Г. Барташэвіч у 1962 г. у в. Прысынак Уздзенскага р. ад дзяўчат. Песня частушачнага характару.

У напеве частушачны характар адчуваецца толькі ў першай частцы, другая ж бліжэй да лірычных традыцый.

### Ой ты, вёска, вёска новая

(Стар. 403)

Чуркін, стар. 121. Зап. М. Чуркін у 1953 г. у Магілёўскім р. ад Н. Дамброўскай.

У мелодыі звяртае ўвагу працяглы ўнутрыскладовы распеў, які параўнальна рэдка сустракаецца ў сучаснай народнай песні, ясна праслухоўваюцца некаторыя папеўкі беларускіх вясельных песень.

**Мір зямлі шчаслівай**

(Стар. 405)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 58. Зап. М. Гваздзёў у 1960 г. у в Азершчына Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. ад удзельнікаў хору.

Сл. удзельніцы Азершчынскага хору З. Пацеенка, муз. удзельнікаў хору.

Той жа тэкст з невялікімі зменамі на муз. Г. Гапонава. АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2.

Напеў блізкі да некаторых традыцыйных песень «казацкай» тэматыкі. Эластычны рытм, паўторы акордаў-заклікаў — гэтыя прыёмы харавога мужчынскага спявання асабліва распаўсюджаны ў паўднёва-ўсходніх раёнах Беларусі.

**Дружна мы сям'ёй рашылі**

(Стар. 407)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 26. Зап. В. Акулава ў в. Азершчына Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. ад Т. К. Лапацінай. Зап. мелодыі — Научно-методич. зап. Бел. гос. консерватории, стар. 128.

Песня складзена ўдзельнікамі Азершчынскага хору.

Напеў частушачнага характару.

**За Азершчынай, на полі залатым**

(Стар. 408)

Песні Азершчынскага хору, стар. 5.

Песня складзена ўдзельнікамі хору З. Пацеенка і М. Сакаловым у 1955 г. Мел. М. Сакалова.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 58. Зап. М. Гваздзёў у 1960 г. у в. Азершчына Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. ад З. Пацеенка.

Музыка песні — прыклад пранікнення ў народную творчасць тэндэнцый прафесіянальнага мастацтва. Гэта адбіваецца на куплетна-варыяцыйнай форме, а таксама на ўвядзенні басовай групы галасоў. Характар жа шматгалосся песні блізкі да мясцовых народнапесенных вытокаў.

**Сабраліся хлебаробы**

(Стар. 411)

Па-над Сожам галасы, стар. 30. Сл. Я. Барскага, муз. М. Бяспалава.

Рэдкі прыклад для беларускай народнай музыкі мадуляцыі ў субдамінантавую танальнасць і замацаванне ў ёй.

**Сеем мы, сеем**

(Стар. 413)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 3. Сл. і муз. П. Касача.

Напеў характэрны для песень жартоўнага плана: дакладныя паўторы музычных фраз, чоткае скандзіраванне тэксту.

## Калгасная дзявочая

(Стар. 415)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. М. Карпенкі, муз. В. Дробы. Лірычная песня аб маладой калгасніцы.

Характар шматгалосся — гл. каментарый да песні «Залатыя каласы» (стар. 552).

## Пара жаць

(Стар. 417)

Песни счастья, стр. 24. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Зап. Г. Цітовіч у 1949 г. у в. Прысынак Уздзенскага р.

Сучасная жніўная песня, прасякнутая святлом і жыццярадаснасцю. Мелодыя мае характар прыпеўкі. Некалькі незвычайнымі з'яўляюцца пачатковыя секвенцыі, што больш характэрна для беларускай інструментальнай музыкі (цымбальныя пераборы).

## Жніўная

(Стар. 419)

Сучасн. бел. нар. песні, стар. 12. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Напеў лірычнага характару, блізкі не столькі да працоўнай, колькі да пейзажнай тэматыкі.

## Працавалі дзеванькі

(Стар. 421)

Зб. песень самадз. камп. Мінскай вобл., стар. 8. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага.

Напеў з'яўляецца прыкладам сучаснага пераасэнсавання традыцыйнай прыпеўкі, далейшага пранікнення ў яе лірычных элементаў.

## Верасы

(Стар. 423)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 50. Сл. А. Русака, муз. П. Касача. Зап. Г. Барташэвіч і А. Гурскі ў 1960 г. у в. Гусакі Нясвіжскага р. ад дзяўчат. Сярод моладзі бытуе «свая, мясцовая песня, якая пяецца тут здаўна». Тая ж песня з нотамі і строфамі ў іншай паслядоўнасці — АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2.

На прыкладзе напеву гэтай песні можна прасачыць пераасэнсаванне некаторых традыцыйных жанраў. У даным выпадку інтанацыйна-рытмічны склад вясельнай песні паслужыў асновай для сучаснай лірычнай.

### Ураджайная плясавая

(Стар. 425)

Сучасны бел. ф., стар. 31—32. Песня складзена ўдзельнікамі народнага хору в. Вялікае Падлессе. Там жа зап. яе Г. Цітовіч у 1949 г.

### Радасць жней

(Стар. 427)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. народныя, мел. М. Кажамякі. Амаль той жа тэкст з нязначнымі зменамі ў апошняй страфе — Сучасн. нар. песні і част., стар. 15; Вуснапаэт. тв-сць, стар. 309.

Мелодыя танцавальнага характару (полька). У канцы тыповая для познетрадыцыйнай беларускай музыкі ладавая пераменнасць Т-Д.

### Выйду ў поле

(Стар. 430)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. А. Русака, муз. П. Якавенка. Сучасная жніўная песня.

У напеве адчуваецца ўплыў рускай народнай песеннасці. Асобныя эпізоды блізкія таксама да беларускіх песень «вольніцы».

### Лён

(Стар. 432)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 37. Сл. Л. Чычкана, мел. П. Шэўко (мел. не зафіксіравана). Тэкст зап. Я. А. Васілеўская.

### Сінявокі маладзец

(Стар. 433)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 2. Сл. П. Пранузы, муз. В. Жураўлёва. У тэксце ўдала выкарыстаны радкі вядомай беларускай народнай песні «Ой ты, лён наш, лён кудравы».

Прыклад выкарыстання характэрнай папеўкі міксалідзійскага ладу (нізкая VII ступень) для мадуляцыі як у мажор (IV ступень), так і ў паралельны яму мінор (II ступень).

### Разаслаўся лён высокі

(Стар. 435)

Песні самадз. камп. Гродзеншчыны, стар. 18. Сл. М. Карпенкі, муз. А. Дзешавога.

Песня вылучаецца своеасаблівым запевам з экспрэсіўнай вакалізацыяй унутрыскладовага распеву.

### Зялёныя квадраты

(Стар. 436)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 2. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага.

Напеў частушачнага тыпу, з уласцівым яму чоткім скандзіраваннем тэксту.

### Чырвоная каліна

(Стар. 437)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага.

У мелодыі адчуваецца ўплыў рускіх карагодных напеваў. І разам з тым падгалосак-«нітка» ў тыповай беларускай якасці.

### Песня пра маякі

(Стар. 439)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 72. Сл. Г. М. Майзлеса, муз. кіраўніка хору І. А. Пузырова.

Песня выконвалася калектывам мастацкай самадзейнасці к-са «Чырвонаармеец» Гомельскага р.

Песня ўключана ў літаратурна-мастацкую кампазіцыю «Ярка свецяць нашы маякі». Зап. К. Кабашнікаў.

Песня з самастойным прыпевам. Першая частка (куплет) развіваецца па распаўсюджанай у самадзейнай творчасці танальнай схеме.

### Ёсць у нашым у калгасе

(Стар. 442)

Песни счастья, стр. 32—33. Сл. А. Русака, муз. удзельнікаў Азершчынскага народнага хору пад кіраўніцтвам Т. К. Лапацінай на аснове мясцовай частушачнай мелодыі. Зап. Г. Цітовіч у 1949 г.

Мелодыя танцавальна-частушачнага характару. Ладавае развіццё яе багата спалучэннем розных натуральна-ладавых абаротаў (нават лідзійскага). Стыль такіх ладавых сумяшчэнняў вельмі характэрны для песень Азершчынскага хору. Шматгалоссе «гармонікавага» тыпу, якое цалкам адпавядае танцавальнаму складу песні.

### Едуць к нам спецыялісты

(Стар. 444)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага.

Інтанацыі салдацкіх песень з іх тыповымі чаргаваннямі воклічаў і плаўных адыходаў у момант унутрыскладовых распеваў (5, 8 такты) надаюць песні пэўную «ўдаласць».

### Трактарыст

(Стар. 446)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. А. Верабей, муз. М. Шуманскага.

Мелодыя «ступеньчатай» структуры з уласцівым ёй плаўным хвалепадобным вяртаннем к пачатковаму ўзроўню.

### Песня камбайнераў

(Стар. 447)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 74. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Зап. Г. Барташэвіч у 1962 г. у в. Прысынак ад удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Гл. таксама АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2 (з нотамі).

### Прыязджайце да нас

(Стар. 449)

Песні Азершчынскага хору, стар. 20—21. Песня складзена ўдзельнікамі хору ў 1956 г. Сл. А. Астапенкі.

Першая частка напеву вытрымана ў традыцыйнай народнай манеры, другая — чатырохгалосны акордавы склад у класічнай гарманічнай схеме.

### Я на выстаўцы была

(Стар. 452)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 4. Сл. В. Лук'янчыка, муз. М. Пятрэнкі. Той жа тэкст — Песні над Дзвіной, стар. 41—43.

Мелодыя прасякнута радасцю, гарэзлівасцю. Гэтаму садзейнічае ўдалае выкарыстанне сінкапіраванага рытму.

### Пайду, пайду, Ясю мілы

(Стар. 454)

Песни счастья, стр. 29. Зап. Г. Цітовіч у 1948 г. у в. Заполле Карэліцкага р. Гродзенскай вобл. ад аўтара тэксту П. Шэўко. Мелодыя — мясцовая полька.

Як і многім танцавальным мелодыям больш позняга паходжання, напеву гэтай песні ўласціва двухчасткавая форма з танальным супастаўленнем Т-Д. У інтанацыйнай структуры песні відаць прыёмы, уласцівыя інстументальнай музыцы.

### Ой, пайду я, выйду

(Стар. 456)

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 50. Сл. А. Русака, муз. І. Любана. Зап. Г. Барташэвіч і А. Гурскі ў 1960 г. у в. Гусакі Нясвіжскага р. ад дзяўчат.

Папулярная ў асяроддзі моладзі песня.

Запісаны ў палявых умовах напеў амаль не адрозніваецца ад арыгінала, відаць, з прычыны выкарыстання ў ім спецыфічных народнапесенных абаротаў.

## Ручнікі

(Стар. 458)

Радзіма мая дарагая, стар. 148. Сл. В. Вярбы, муз. М. Пятрэнкі. Вельмі папулярная ў Беларусі песня. Неаднаразова зап. у час экспедыцый, бытуе ў народзе як безаўтарская (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 78 і інш.).

Папулярнасці песні ў значнай ступені садзейнічае мелодыя, якая ўвабрала ў сябе ўсе лепшыя дасягненні сучаснай народнай мелодыкі і разам з тым моцна абапіраецца на традыцыі нацыянальнага мастацтва. Песня — прыклад вялікай мастацкай выразнасці пры параўнальна сціплых ладатанальных сродках.

## Ой, рэчанька, рэчанька...

(Стар. 460)

Чуркін, стар. 126. Зап. М. Чуркін у 1955 г. у г. Магілёве ад А. Нікалаева. Сл. М. Танка.

Мелодыя аднайменнай старадаўняй лірычнай беларускай песні.

## Дождж ідзе

(Стар. 462)

Песні бел. нар., выбр., стар. 379. Зап. Л. Мухарынская ў 1951 г. у в. Азершчына Рэчыцкага р. Гомельскай вобл.

Складзена ўдзельнікамі Азершчынскага хору. Блізкі вар. у зб. Бел. нар. песні Гродзеншчыны, стар. 88. Зап. Э. Ледаховіч у 1959 г. ад І. А. Душчанкі ў в. Гарнастаевічы Поразаўскага р.

Незвычайна багатае для такой кароткай мелодыі спалучэнне элементаў розных ладоў (дарыйскага, фрыгійскага, эалійскага) пры секундавай і квартавай пераменнасці (гл. таксама каментарый да песні «Ёсць у нашым у калгасе», стар. 556).

## Помніш, любы

(Стар 463)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Зап. у 1954 г. ад удзельнікаў Азершчынскага хору (Рэчыцкі р. Гомельскай вобл.). Муз. Азершчынскага хору.

Песня «распета» ў тыповай для Азершчынскага хору манеры. Чатырохстопны харэй верша падаецца ў пераменнай метрыцы мелодыі, што значна дынамізуе агульнае развіццё песеннага вобраза.

**Брыгадзір мой міленькі**

(Стар. 465)

Чуркін, стар. 124—125. Зап. М. Чуркін у 1955 г. у г. п. Докшыцы ад І. П. Ціцохі.

Словы, відаць, літаратурнага паходжання.

Мелодыя выкарыстоўвае інтанацыю традыцыйных напеваў вяснянак, для якіх вельмі характэрна заключная кадэнцыя ў міноры на тэрцыі.

**Ой, дзеванькі, паслухайце**

(Стар. 467)

Чуркін, стар. 122—123. Зап. М. Чуркін у 1955 г. у г. п. Докшыцы ад І. П. Ціцохі.

Выкарыстанне моўных абаротаў, спалучэнне напеўных эпізодаў з рэчытатыўна-скарагаворнымі зблізкае мелодыку гэтай песні з традыцыйнымі напевамі жартоўнага характару.

**Мой жаданы сінявокі**

(Стар. 469)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 4. Час і месца зап. не адзначаны.

**Чорныя вочкі, пара ўжо спаць!**

(Стар. 471)

Спеўнік, стар. 67. Сл. і муз. А. Шыдлоўскага.

Пачатак песні супадае з пачаткам старой рэкруцкай (гл. Ширма. Двести белорусских народных песен. 1958, стр. 217). Выконваецца многімі самадзейнымі калектывамі.

Напеў з'яўляецца прыкладам гібкага спалучэння «ступеньчатай» і «хвалепадобнай» структур у развіцці мелодыкі.

**Ходзіць дзеўчына па воду**

(Стар. 473)

Песні самадз. камп. БССР, стар. 14—15. Сл. А. Русака, муз. Р. Галавасцікава. Надзвычай папулярная песня. Гл. таксама — АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2.

Адна з лепшых самадзейных песень, у якой арганічна спалучаюцца жартоўнасць і лірыка. У мелодыі таксама падкрэслены дэкламацыйныя моманты.

**Там пад таем**

(Стар. 475)

Песні, стар. 23. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Напеў па інтанацыйнай структуры блізкі да традыцыйных песень казацкай тэматыкі.

### Сонца зайшло за цёмны лясок

(Стар. 477)

Песні, стар. 25. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Характар напеву — гл. каментарый да песні «Там, дзе ціха, ціха», (стар. 546).

### Шчабятуха

(Стар 479)

Песні Азершчынскага хору, стар. 24—25. Муз. М. Сакалова. Сл. (некалькі змененыя, у прыватнасці ў прыпеве) М. Клімковіча.

У песні выкарыстан прыём дыялагізацыі хору, уласцівы традыцыйным жартоўным песням.

### Спі, саколік мой малы

(Стар. 482)

Песні, стар. 20. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

Напеў пабудаван у меладычным міноры, які даволі рэдка сустракаецца ў традыцыйнай песнятворчасці.

### Рана-раненька

(Стар. 484)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. А. Ставера, мел. А. Шыдлоўскага.

У мелодыі песні адчуваецца ўплыў гарадскога бытавога фальклору.

### Як у нашым ціхім лузе

(Стар. 486)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага.

Напеў у стылі беларускай лірычнай познетрадыцыйнай песні.

### Зацвіла каліна

(Стар. 488)

Песні Віцебшчыны, стар. 12. Вар. папярэдняй песні.

Мелодыя лірычна-працяжная, тыповая для многіх самадзейных твораў такога зместу.

### Вясельная

(Стар. 490)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. М. Танка, муз. Маціна.

Сучасная вясельная песня. У напеве выкарыстаны інтанацыі традыцыйных вясельных, а таксама талочных песень.

## Чаму, хлопец, не жанаты

(Стар. 493)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. і муз. П. Шыдлоўскага. Зап. у в. Прысынак.

Напеў песні блізкі да некаторых песень так званай «мужчынскай лірыкі». Разам з тым тут дастаткова адчуваюцца элементы сучаснай музыкальнай мовы. Трактоўка жартоўнага зместу ў міноры — адзін з спецыфічных сродкаў беларускага фальклору, мэта якога падкрэсліць іранічныя адносіны да сітуацый, што адлюстроўваюцца ў творы.

## Жартоўная песня

(Стар. 495)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 7. Зап. Г. Барташэвіч і К. Кузняцова на аглядзе мастацкай самадзейнасці ў Бабруйску ў 1962 г. Выконвалі спевакі з Асіповіцкага р.

## Камар

(Стар. 497)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 4, № 2. Зап. К. Кабашнікаў у снежні 1959 г. на абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці Гомельшчыны ад Марыі Цішарэнкі з к-са «Чырвоны шлях» Уваравіцкага р.

Мелодыка песні інструментальна-танцавальнага характару. Асабліва гэта адчуваецца ў пачатку напеву. Шмат агульнага таксама з напевамі традыцыйных жартоўных песень.

## Цімох

(Стар. 499)

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, № 2. Сл. А. Русака, муз. П. Касача. Жартоўная, вельмі папулярная песня, часта выконваецца ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці.

Своеасаблівая музычная сцэнка, пабудаваная на кантрасце тэксту жартоўнага характару і музыкі наўмысна сумнаватай.

## Песні нашы, песні

(Стар. 501)

Песні, стар. 18. Сл. і мел. А. Шыдлоўскага.

У напеве выкарыстан адзін з распаўсюджаных тыпаў танальных суадносін, які бярэ свой пачатак у савецкай масавай песні: рэзкі пераход з мінору ў паралельны мажор, што стварае ўражанне пераходу ад цемры да святла.

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


1. Афонін — Зб. «Шумел сурово Брянский лес». Сост. П. Афонин. Брянск, 1946.

2. Бел. нар. і рэв. песні — Беларускія народныя і рэвалюцыйныя песні. Склаў І. Любан. Мінск, 1938.

3. Бел. нар. песні Гродзеншчыны — Беларускія народныя песні Гродзеншчыны. Запіс Э. Ледаховіча. Мінск, 1962.

4. Бел. нар. супраць папоў — Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі. Мінск, 1939.

5. Бел. фальклор Вял. Айч. вайны — Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны. Мінск, 1961.

6. Вуснапаэт. тв-сць — Вуснапаэтычная творчасць беларускага народа. Хрэстаматыя для вышэйшых навучальных устаноў. Мінск, 1959.

7. Гуторов — И. Гуторов. Борьба и творчество народных мстителей. Минск, 1949.

8. Дарэв. і сав. Бел. — Дарэвалюцыйная і савецкая Беларусь у народнай творчасці. Мінск, 1938.

9. Елатаў — В. І. Елатаў. Ад песні да песні. Мінск, 1961.

10. Жанч. у бел. нар. тв-сці — Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1940.

11. Зб. песень самадз. камп. Мінскай вобл. — Зборнік песень самадзейных кампазітараў Мінскай вобласці. Мінск, 1958.

12. Ленін у бел. нар. тв-сці — У. І. Ленін у беларускай народнай творчасці. Мінск, 1967.

13. Мат. — В. Ю. Крупянская и С. И. Минц. Материалы по истории песни Великой Отечественной войны. Труды института этнографии АН СССР. Новая серия, т. XIX, М., 1953.

14. М. Х. Мацісон — Спеўнік дзеля двух і трохгалосных дзіцячых хораў беларускае школы. М., 1925.

15. Па-над Сожам галасы — Па-над Сожам галасы. Песні самадзейных кампазітараў Гомельшчыны. Гомель, 1959.

16. Партыз. бар. — Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мінск, 1959.

17. Песні — А. Шыдлоўскі. Песні. Мінск, 1964.

18. Песні бар. — Песні барацьбы. Зборнік песень, казак і частушак беларускіх партызан. Мінск, 1946.

19. Песні бел. нар., I — Песні беларускага народа, т. I. Мінск, 1940.

20. Песні бел. нар., выбр. — Песні беларускага народа. Выбранае. Укладанне і каментарыі Г. І. Цітовіча. Мінск, 1959.

